


ВЫПУСК 66

# Васіль Жуковіч

# Арабінавая НОЧ

Апавяданні
Абразкі
Аповесць

МІНСК, «КНІГАЗБОР», 2015

# АПАВЯДАННІ

## ДАМІНІСЯ

### 1

Лета выдалася такое сонечна-цёплае: яшчэ жалі ў Каплях жыта, а ўжо й даспеў лён. Свёкрава поле ўрадзіла, і Дамініся пакідала свайго першынца Сцешку на дзвюх заловак-малалетак, а сама, звычайна разам з свякроўкаю, трухала ў поле, каб хутчэй дарваць і паставіць у кучкі лён. Часам з сабою ў поле браць ёй даводзілася і дзіцё. Дамініся ў свёкраву хату прыйшла з працавітае сям'і Паўла Шпака і ці не больш за ўсё баялася дармаедства...

Ад Сёмухі пайшоў чацвёрты год, як жыла маладзіца замужам. Лёс не пакрыўдзіў яе, бо выйшла не за нялюбага, а за такога жаданага — за Хведара, прыгожага і стройнага, як і яна сама, — за хлопца з суседняе вёскі, якога добра ведала і пра якога марыла. Ці не таму лёгка звыклася з новым сваім прозвішчам — Назарэвіч. З таго свята, як яны пабраліся, Дамінісі хацелася дыхаць адным паветрам з Хведарам. Шкадавала: ён ніяк не пакіне піўзавода, едзе туды аж за дзесяць вёрстаў у панядзелак і вяртаецца толькі ў суботу. Дамінісіны дні, усе ў клопатах, ляцелі, аднак, не так і хутка, бо ўсё цяжэй і цяжэй давалася чаканне маладога мужа-прыгажуна, асабліва пасля той невыказнае хвіліны, калі ўпершыню варухнулася новае, яшчэ невядомае, як сама таямні-

ца, жыццё ў яе пад сэрцам і перапоўніла ўсю істоту новаю вялікаю любасцю, непараўнальнай адказнасцю і надзеяй.

Прыехаў ён, як звычайна, пад вечар. Толькі не такі, як заўсёды, а больш маўклівы. Расхрыстаны, распластаўся на мяжы, закінуў рукі пад галаву.

— Не ляжы, Хведарка, на голай зямлі, гэта небяспечна, — ласкава сказала Дамініся, — ідзі да мяне, палюбуйся на лянок са мною разам.

— Мне не да лёну.

— Чаму так? — здзівілася маладзіца. — Няўжо табе новае рубашкі не трэба ды нагавіцаў?

— Усё казённае абяцаюць.

— Што ты гаворыш, Хведар?! — Дамініся кінула перавясельца, падбегла да яго, упала на калені. — Хведар, мілы, скажы, што жартуеш, ну, скажы... І пабажыся!

— Не да жартаў, Дамініська, забіраюць мяне...

**2**

У царскай арміі Хведар Назарэвіч трапіў у артылерыю. Пра гэта яго абраная даведалася з першага — хуткага і кароткага — ліста. Наступныя лісты сталі прыходзіць рэдка. Хведар, калі ўбачыў чужыя смерці, падумаў, што побач недзе ходзіць і ягоная, і загінуць на вайне можна зусім нечакана і недарэчна. Ён нават быў разгубіўся і не ведаў, што пісаць дадому. Казаць усю праўду сваім — значыць наганяць на іх смутак і паніку. Ды маўчаць пра ваеннае жыццё таксама не выпадала. Пра што ж тады распавядаць? І ён стараўся пасылаць дадому такія лісты, каб не заганяць у скруху родных. Паведамляў, што капае акопы і робіць бліндажы, перамяшчае і накіроўвае на ворага гармату, трапна страляе ў цэль, але ўтойваў пра тое, як горача бывае ад варожых артабстрэлаў. Апавядаў часта пра сяброў па зброі і ніколі пра тое, як задыхаюцца салдаты ў агні і ў дыме, як па-сабачы курчацца, смяротна параненыя, просяць, каб прыстрэлілі, і пра тое, як батарэйцаў, што зусім яшчэ нядаўна марылі пра георгіеўскія

крыжы, закопвалі, забітых, у зямлю дзе і як папала, не паставіўшы нават каравага крыжа на магіле. Хваліў некаторых камандзіраў, а не паскардзіўся ні разу, якімі дзікімі і бруднымі словамі яны лаюцца, як прыніжаюць радавых. А яшчэ салдат Хведар Назарэвіч і не намякаў ні разу, як пагана ён харчуецца (палудзень нават не пахне хлебам), і як суткамі бывае на ім мокрае ад дажджу і бруднае абмундзіраванне, і як нясцерпна хочацца памыцца ды выспацца.

Дамініся сама чытаць не ўмела, як і не ўмела пісаць. Лісты ёй чытаў і адпісваў святароў сынок. Спачатку мужавы лісты яе супакойвалі, а пасля яна пачала кеміць: Хведар шмат што ўтойвае. У вёску прыходзілі весткі ад двух ягоных саслужыўцаў, якія шчыра скардзіліся на салдацкі лёс. Ды і як было не скардзіцца, калі царскія войскі ўжо неслі вялікія страты і адступалі пад націскам немцаў.

Услед за весткамі з вайны ў Палессе надыходзіла і сама вайна. Каплі, як і ўсе навакольныя вёскі, узрушала новая, нечуваная дагэтуль бяда, якая называлася гэткім чужым для сялянскага слыху словам — эвакуацыя. Аднекуль прыязджалі на конях казакі, збіралі сходы, страху наганялі на палешукоў, казалі, што калі яны не выедуць, то немец будзе жорстка здзекавацца, вочы выколваць будзе, іголкі пад пазногці заганяцьме, грудзі жанчынам выразацьме, усё ўгаворвалі, каб не заставаліся пад заваёўнікамі.

«Оя-ёй, людцы добрыя, што ж то будзе!» — жахаліся старыя, заражаючы трывогаю маладых. Невымоўна цяжка было людзям пры адной толькі думцы, што трэба пакідаць свае цёплыя, наседжаныя, спрадвечныя гнёзды. Адно прыцяняла пакуты: думалася, ненадоўга, і сем'і паціху збіраліся ў дарогу. Рыхтавалі самае неабходнае — столькі, як пацягнуць каню. А ўсё «багаццё» — хто дзе знаў і хто дзе ўмеў — закопвалі. І Павел Шпак, бацька Дамінісі, і Нічыпар Назарэвіч, ейны свёкар, кожны ў сваім каменным склепе, выкапалі ямы, дзе схавалі куфры з адзежаю і палатном, нават кублы з салам. У дарогу вырашылі зарэзаць па баранчыку, а ўсю астатнюю жывёлу — кароў, свіней, авечак — выпусціць на волю.

Людзі хадзілі змрочныя, нібыта ў іх забралі сонца. Ды ніхто пакуль не выязджаў ні з Каплёў, ні з Варанілавічаў, дзе Дамініся вырасла, ні з Бярэзніцы, дзе яна вянчалася; сяляне быццам верылі, што нейкі цуд выратуе ад бежанства. Але аднаго дня, пакуль яны маліліся ў Бярэзніцкай царкве, у Варанілавічах і Каплях ужо размясціліся часці царскае арміі. На гародах стаялі коні, вазы, гарматы, у хатах і ў дварах гаспадарылі ваенныя. Занялі і Назарэвічаву хату, пакінулі толькі маленькі пакойчык, які займала Дамініся з дзіцем. Гаспадара і гаспадыні дома не было, яшчэ не прытэпалі з Бярэзніцы. Дамініся пакарміла дзіцё і пачала закалыхваць, але толькі рыпнула калыскаю, як выскачыў са спальні афіцэр ды як гаркнуў на яе, то мусіла выйсці з хаты на двор з маляўкаю на руках. Прытуліла да грудзей сваю Сцешку, ахінула шаліноўкаю, пачала на руках гушкаць, аж бачыць: едуць з Варанілавічаў фурманкі, нагружаныя дабром, — значыць, рушылі землякі ў невядомае — у сваё бежанства. Уся вёска, няйнакш: фурманкам і канца няма. А чаму ж гэта спяць Каплі? І што яны сабе думаюць? Ехалі б во разам з людзьмі... Хоць бы хутчэй вярнуўся свёкар ды свякроўка! Думае гэтак Дамініся, думае і вачэй не зводзіць з дарогі, з доўгага ланцуга фурманак. І вось у тым ланцугу пазнае сваіх бацьку, маці, малых братоў: Васіля, Мікалая і Восіпа. Пад'ехалі, спыніліся. У матулі ў вачах слёзы стаяць. І апанаваў Дамінісю жаль. Трымае дзіцё на руках, глядзіць на няўцямную істотачку, а вейкі, ужо вільготныя, залыпалі...

— Ну, годзе ўжо, — сказаў бацька, і яго бровы на пераноссі збегліся. — Мы цябе не пакінем; з намі едуць абознікі, упросім іх узяць да Слоніма. А ў Слоніме сядзем з табой разам на цягнік...

## 3

Начны прыпынак зрабілі ў лесе, не так і далёка ад Варанілавічаў і Каплёў. Знайшоўся адзін сентыментальны варанілавіцкі чалавек, якому дужа закарцела вярнуц-

ца ў сяло, каб паглядзець яшчэ раз на яго, асірацелае ўжо. Вярнуўся ўначы, а ранкам распавядаў, як царскія салдаты ад няма чаго рабіць пазнаходзілі і павыцягвалі куфры, старанна схаваныя гаспадарамі, паставілі іх пасярод двароў, падаставалі адтуль валкі палатна ды парассцілалі па зямлі, праклалі сцежкі палатняныя ад хаты да хаты...

Жанкі плакалі, мужыкі мацюкаліся на такія парадкі ў войску. А час няўмольна рабіў сваю справу — хоць і паціху, але ўсё далей і далей адносіў усхваляваны люд ад роднага кута, на ўсход.

Калі заставалася недалёка да Слоніма, абознікаў на шашы сустрэлі кавалерысты, пачалі запыняць.

— Бежанцаў вязеш? — сурова пыталіся, заглядваючы ў кожны фургон.

— Вязу.

— Выгружай! — загадвалі коннікі.

Тым часам вечарэла. Згушчаліся прыцемкі.

— Куды ж нам цяпер? — непакоіліся жанчыны.

— Бачыш лес? Там такіх — цьма.

І праўда, у лесе, за шашой, людзей з'ехалася мноства. Скрозь гарэлі зыркія вогнішчы, угору ішлі сіня-шэрыя дымы. Там Дамініся сустрэла і сваіх родных, і сям'ю бацькавага суседа Касцюка.

Доўга дабіраліся да Менска. А там і прыйшоў цягнік. Даміністі запомнілася яго цяжкае дыханне і пранізліва-жаласлівы гудок. Ля станцыі заставаліся вазы і коні, не было каму іх купляць хоць бы за бясцэнак. Толькі некаторым гаспадарам крыху пашанцавала — яны збылі сваіх любімых коней за бохан хлеба. У суцэльнай сумятні разгубленыя людзі ўсю сваю энергію скіроўвалі на тое, каб як убіцца ў вагон, не застацца на станцыі з клункамі, пакункамі і чамаданамі. Людзі нагадвалі мурашнік, узрушаны напаўзаючай навальніцаю.

Цягнік ішоў, як чарапаха, прастойваў на запасных пуцях, ізноўку поўз і зноў стаяў, нібыта стомлены нялёгкаю ношаю: вагоны былі біткам набітыя пасажырамі і багажом.

Беларусы-заходнікі працьму праехалі станцыяў, паўстанкаў, шмат гарадоў, пакуль заззялі вечаровыя агні Кузнецка. Калі цягнік спыніўся, у вагон бежанцаў увайшлі два мужчыны.

— Хто жадае застацца? — пыталіся яны і абяцалі: — Кватэры вам дадуць, на работу будзеце хадзіць.

Палешукі радзіліся нядоўга. Умовы задавальнялі іх: ім паабяцалі працу і жыллё — тое, што яны страцілі, уцякаючы ад вайны.

Вялікія сем'і пасялялі ў асобных кватэрах. Сям'я Паўла Шпака разам з Дамінісяю і Сцешкаю падпадала якраз пад такі разрад.

**4**

Жыла Дамініся, як большасць бежанцаў. Працы не баялася. Разам з бацькамі хадзіла да малатарні. Гаспадар, камлюкаваты барадач, любіў парадак: калі заставала ноч перш чым канчаліся снапы, малацілі пры ліхтарах. Не раз Дамініся разам з бацькам пілавала лес. Давалася гэта вельмі цяжка. Балела ўсё — спіна, бокі, ногі, а найболей — рукі. Але жанчына непрыкметна ўцягнулася ў мужчынскую працу. Сумаваць неставала часу. Адно бясконца перад сном і ў бяссонніцу ў памяць прыходзіла радзіма ў вобразах грыбнога і ягаднага лесу, крыніцы і азерца, палеткаў жыта і лёну... Успаміналіся пчаліныя вуллі ў садзе, буслянка на ліпе, жаўрук па-над полем. Як сказаў паэт:

Тады ўспамінаецца ўсё да драбніц,
Што звязана з родным краем, —
Як жыта шуміць, як агонь зарніц
На дне азёр дагарае...

Быў бы Хведар поруч — смутак па радзіме не так працінаў бы сэрца Дамінісі. І калі ёй рабілася не па сабе, яна брала на рукі дачушку і пыталася ў яе, яго і сваёй крывіначкі: «Ну, скажы мне, мая шчабятушка, ці хутка прыедзе твой татка?» Маленькай Сцешцы, якая не памятала свайго таты, было

ўсё-ткі добра знаёмае гэтае слова і зразумелае тое, пра што пытаецца матуля. Але часта замест адказу на пытанне дзіцё казала: «Мамачка, дай цябе пашкадаваю» і моцна-моцненька тулілася да матулі ў цёпленькіх абдымках.

Хведар ведаў новы адрас сваіх бежанцаў, але пакуль не адгукаўся. Затое ягоны бацька ўведаў ад сына адрас Дамінісі ды ўсяе радні і адазваўся з сібірскага сяла Аўчыннікава, куды яго з жонкаю і з дочкамі закінуў лёс. Дабіраліся яны вельмі доўга, у дарозе іх засталі сур'ёзныя халады. «Сібірскі холад ледзь не забраў душу ў Ярыны» — пісаў пра жонку Нічыпар Назарэвіч. Яшчэ ён скардзіўся на рэдкія весткі ад сына. Другі ягоны ліст быў нашмат весялейшы. «Мы тут жывыя і здаровыя, чаго і вам жадаем» — так пачыналася пасланне з суровае стараны. Усё ў іх пайшло як па масле: працуюць на чыгунцы, маюць заробак і нават кватэру, дзеці ходзяць у школу. Настойліва раілі пераязджаць да іх, запэўнівалі, што ўсім і занятак будзе, і кватэру чыгунка дасць.

У сямействе Паўла Шпака ўсур'ёз паставіліся да прапановы Назарэвічаў. Узважылі ўсё, як кажуць, за і супраць і сышліся на тым, што трэба збірацца ў дарогу. Ды літаральна назаўтра пошта прынесла лісток, які змяніў для Дамінісі напрамак. Азваўся Хведар з горада Харкава, з ваеннага шпіталя, куды ён трапіў пасля ранення і кантузіі. Дамініся таго ж дня выехала да мужа.

Нядоўга яна шукала ў Харкаве шпіталь. Толькі не адразу пазнала там свайго Хведара: ці то задужа быў ён змардаваны, ці то занадта затуманіліся яе вочы журбою. Затое ён пазнаў жонку, як толькі з'явілася ў палаце. Узрадаваўся: з такой далечыні дабралася! Дамініся пацалавала схуднелы Хведараў твар і заплакала, сеўшы поруч.

— Не плач, Дамініська, і не палохайся, — лежачы ў пасцелі, казаў Хведар, — жывы, як бачыш, і амаль здаровы. Ён хацеў правесці рукою па сваёй галаве, але ўспомніў, што на галаве замест валасоў — бінтавая павязка. Пасля нязбыўнага жэсту ён сам, відаць, здзівіўся, што ў яго атрымалася ўсмешка, хоць даўно развучыўся ўсміхацца. Сваёй павольнаю рукою пагладзіў жончыны рукі, як тады, перад вайною, у льняным полі, калі прынёс ёй невясёлую вестку. Толькі

тады яго вочы глядзелі ў чыстую нябёсную высь, а цяпер — у высокую, даўно не пабеленую столь.

Дамініся адчула не толькі так знаёмую пяшчоту рук, але і неабсяжную красу душы, і яна з сустрэчнаю хваляю пяшчоты цалавала яго вусны, рукі і ў слязах апусціла галаву яму на грудзі, калі з самога сэрца ў яе выгукнуліся ўсяго два словы:

— Родненькі мой!..

— Не плач, любімая! — казаў ён цвёрдым голасам. — У шпіталі не горш чым на вайне. Відаць, я шчаслівы яшчэ. Толькі Бог такім чынам мог ўратаваць мяне ад царскае бойні.

Два тыдні прабыла Дамініся ў Харкаве. Яна забылася на сябе, штодня наведвала мужа, прыносіла перадачы, цярпліва чакала, калі акрыяе Хведарка. І калі загаілася на галаве рана, ён пакінуў шпіталь. Далі тры месяцы да камісіі — і шчаслівая пара паехала да Кузнецка.

Радасць сустрэчы Хведара з Дамінісяй, з мірным жыццём, здавалася, будзе бясконцая, але яна, бы тонкая нітка, парвалася раптоўна: памерла Сцешка. Засталі яшчэ жывую, ды не змаглі ўратаваць — на іх руках дагарэла ад воспы. Дамініся ірвала на сабе валасы, праклінала, галосячы, сваю долю.

— Жывая ў магілу не палезеш, жыць трэба, ты яшчэ такая маладая! — суцяшала маці.

— Не ў аднае цябе такое, — казаў бацька. — Ты не ведаеш, колькі людзей выкасіў тыф ды іншыя хваробы.

— Плачом сабе не паможаш, — супакойваў жонку Хведар, а сам чарнеў і сох ад маўклівае пакуты.

## 5

Сяло Аўчыннікава патанала ў снезе, а неба ўсё шчодра раздорвала, здавалася, невычэрпныя снегавыя запасы. Надвор'е хіліла да адпачынку. Але нават з дарогі ні аднаго дня не адпачывалі Хведар і Дамініся — адразу пайшлі ўладкоўвацца на працу, без якое сталі б невыноснымі кароткія зімовыя дні і доўгія-доўгія ночы.

З чыгункі на кватэру вярталіся позна. Стомленыя, хутка засыналі.

Час прытупляў востры боль, бо рану не пераставала гаіць каханне, чыстае і глыбокае. Як нікуды не ўцякае крыніца, яно не знікла; як не замярзае жыватока, яно не застыла; як не астывае агонь, пакуль не пагасне, яно не астыла.

Прайшло тры месяцы, і медкамісія дала Хведару адтэрміноўку — да першага запатрабавання.

А неўзабаве грымнулі ўзрушальныя падзеі. Там, на сібірскай зямлі, бежанцы пачулі вестку, пра якую пакуль баяліся нават гаварыць уголас. «Цара скінулі!» — шэптам перадавалі адно аднаму. Да маштабнай рэвалюцыі і крывавай грамадзянскай вайны было рукой падаць. Хведар, сялянскі сын, якому было наканавана араць зямлю, сеяць і жаць жыта, на вайну глядзеў усё жыццё няйнакш як з агідаю. А тут ён не выключаў, што яго вопыт артылерыста можа прыдацца каштоўным у Чырвонай Арміі, шчыра цаніў тое, што бальшавікі дарагой цаною спынілі сусветную вайну. Аднак у войска яго не ўзялі: з чыгункі, дзе Хведар Назарэвіч быў ужо брыгадзірам, служыць у армію не бралі. Мірнае жыццё яго сям'і працягвалася.

А вясна прынесла вялікую радасць: Дамініся нарадзіла дачку. Назвалі Волечкай. Лёс падараваў магчымасць разам гадаваць народжанае ў пакутах новае шчасце, хоць на абшарах Расійскае імперыі працягвалася братазабойчая вайна. Не абышла яна і сяло Аўчыннікава, якое шмат разоў пераходзіла з рук у рукі: то белыя, то чырвоныя бралі верх. Доўгі час там гаспадарылі калчакоўцы. Каб пракарміцца, ваякі забіралі ў сялянаў муку, жыта, пшаніцу. І як прыйшла вясна, сяляне, апроч проса, не мелі чым сеяць. Доўгачаканым стаў прасяны хлеб. У той год Дамініся нарадзіла хлопчыка, яго назвалі Аляксеем.

Грамадзянская вайна адкацілася і распаўсюдзілася на захад і на поўдзень. Хведар ужо амаль не ўспамінаў вайну сусветную, у якую быў уцягнуты, яе кроў і гразь, гарматы і снарады, ён жыў сям'ёй і працаю, меў той надзённы клопат, без якога чалавек непазбежна губляе штосьці людскае. Ён любіў чыгунку з яе строгім рытмам ды бойкім перастукам колаў час ад часу прабягаючых цягнікоў.

Сібіракі падабаліся не ўсе, да іх прывыкаў цяжка. Яго абуралі іх дужа брудныя словы — моцна мацюкаліся. Пазней Хведар прыгледзеўся і ўбачыў, якія дружныя яны, як памагаюць, калі бяда. Убачыў, як весела яны святкуюць.

Надышоў дваццаць трэці год. Для бежанцаў адкрылася магчымасць вярнуцца на радзіму. Ад такой весткі беларусы пасвятлелі душою. Дамініся затрызніла вяртаннем дамоў.

— Ведаеш, Хведарка, мне тут, за тысячы вёрстаў, запахла нашаю чаромхай і бэзам, — казала яна, гатуючы на кухні вячэру. — Памятаеш, як чаромха і бэз затапляюць увесну і Варанілавічы, і Каплі?

Хведар моўчкі чытаў бальшавіцкую газету.

— Уяўляеш, мяне так цягне ў нашы ягадныя і грыбныя лясы, на возера, дзе некалі з матуляю паласкала бялізну, а бацька вудзіў рыбу, а мае браты любілі купацца. На сэрца так павеяла дзяцінствам, роднаю старонкай! Чаго ты маўчыш, Хведар, га?

— А таго, што родная старонка цяпер чужая нам.

— Як то гэдык: хіба родная можа стаць чужою?

— Ты ж ведаеш, там цяпер улада польская, яна захапіла землі нашыя, і лясы, і азёры.

— Бацькі твае і мае не баяцца той улады, хочуць вярнуцца.

— Пажылых людзей і павінны прыцягваць свае котлішчы нягледзячы ні на што. Дый прасцей ім: у іх няма дзяцей малых. А ў нас тут нарадзіліся дзеці. І хто ведае, як там будзе ставіць іх на ногі... Як не ўсе з’язджалі ў бежанства, так не ўсе хочуць адсюль ехаць. Вунь Крысюк, я ўжо ведаю, назусім застаецца. Ты падумай, мо і нам нявартa зрывацца: як-ніяк, дзеці...

Хведару ягоны аргумент здаваўся пераканаўчым. Але якраз факт прысутнасці дзяцей у сям’і надаў Дамінісі рашучасці, а то ў вачах былі ўжо замігцелі слёзы крыўды.

— Оя-ёй, людцы добрыя, вы падзівіцеся на яго, паслухайце, што ён чаўпе! — заўшчувала яна мужа. — Ды як ты можаш гэдык, Хведарка? Сам чужэеш і дзяцей хочаш чужынцамі зрабіць! Кулік і той ляціць на сваё балота, а ты?!..

— Ды што ты раскудахталася, бы тая курыца; калі ўжо так не церпіцца — паедзем, адно, глядзі, пасля каб не каялася!

* * *

Некалькі тydняў цягнік матляўся па рэйках і прастойваў на запасных пуцях. Звычайна, калі і дзеці, і муж, і радня засыналі, Дамініся любіла паразважаць пра тое, як доўга, аж восем гадоў, прабылі яны на чужыне і як усе за гэты час змяніліся, асабліва падлеткі і дзеці: амаль кавалерамі сталі ейныя браты, расцвілі, папышнелі залоўкі, пасталеў Хведар, як і яна сама; падраслі Волечка і Алёшка. Зноў і зноў, як вясновыя пчолкі і матылькі, пачыналі крыліцца думкі пра родны кут: што там?.. Не падабалася ёй у такой даўжэзнай дарозе мужава маўклівасць, асабліва пасля станцыі Краснае, дзе пуцейны майстар, пакуль цягнік стаяў, угаворваў застацца, абяцаў кватэру. Такі маўклівы Хведар быў хіба што тады, як трэ было збірацца на вайну. Тады можна было зразумець чалавека, а зараз... Што гняце яго? Едзе на радзіму. З сям'ёй. Дзеткі абое здаровенькія. Жыві ды радуйся, а ён...

— Ну што табе муляе? — не магла больш трываць Дамініся.

— Было б тае бяды, каб муляла. Не муляе мне, а баліць. А ўсё праз тое, што не можам далей савецкага Менска ехаць мы з табою.

Толькі цяпер даведалася Дамініся, што яе Хведар там, у Сібіры, уступіў у партыйную арганізацыю. Бальшавік ён, што азначае: ісці ў лапы да палякаў небяспечна, бо, калі данюхаюцца, будзе капец «чырвонаму шпіёну». Ва ўсякім разе, так думае ён, так засцерагалі яго і сябры-партыйцы.

Як ні балюча было разлучацца з роднымі, як ні крыўдна не даехаць да запаветнага кутка, калі да яго заставалася ўжо так блізка, рызыкаваць не адважыліся: занадта высокая была мяжа, якая падзяляла адну зямлю на дзве часткі.

Тры дні шукалі работу, ды не знайшлі. Стаміліся і расстроіліся. Давялося вярнуцца на станцыю Краснае да таго самага майстра, што агітаваў іх застацца.

— Вярнуліся, вось і добра, — сказаў ён сям'і Назарэвічаў і прыязна зірнуў на Хведара. — Едзь, пакуль не позна, у Смаленск, ва ўпраўленне чыгункі, і афармляйся.

* * *

Як адзін працягла-падрабязны сон, у Хведара і Дамінісі прайшлі яшчэ васямнаццаць гадоў жыцця ў чужых краях. Зрэшты, на Смаленшчыне, такой блізкай да Беларусі, яны пачуваліся як дома, добра абжыліся. Тут павялічылася сям'я: нарадзілася яшчэ пяцёра дзяцей. Старэйшыя трое выраслі і сталі самастойнымі, працавалі, астатнія — чацвёра — падрасталі, вучыліся. Хведар-чыгуначнік зарабляў на хлеб і да хлеба, за Дамінісяю замацавалася роля хатняе гаспадыні.

## 6

У чэрвені 1941 года яны даведаліся, што, калі ў былой Заходняй Беларусі ёсць родзічы, то можна паехаць туды па іх запрашэнні. Калі атрымалі запрашэнне, Дамініся адна, як вырашыла большасцю галасоў сямейнае веча, рушыла ў дарогу на радзіму, каб праведаць сваю і мужаву радню. Суботнім днём, ціхім і цёплым, яна, саракапяцігадовая маці-гераіня, пераступіла парог бацькавае хаты. Бацька, маці, браты з сем'ямі, Хведаравы родныя — усе, з доўгачаканаю госцяю разам, былі запрошаны ў найбольш прасторную хату яе малодшага брата Восіпа.

Да позняга вечара ўсе выказвалі радасць ад сустрэчы, весяліліся, жартавалі, падымалі кілішкі за Дамінісю, за яе вялікую сям'ю, за ўз'яднанне Беларусі, за мір. А назаўтра, у нядзелю, прыбеглі дзеці з двара і сказалі, што самалёты з чорнымі крыжамі ляцяць. Дарослыя не хацелі верыць малым. Але калі тыя самалёты ўбачыў Восіп, ён вызначыў сітуацыю дакладна:

— Значыць, немец напаў.

Дамініся — у плач.

— Ціха ты! — нахмурыў бровы бацька. — Заўтра запрагу каня і адпраўлю ў Івацэвічы.

Але назаўтра ў Івацэвічах былі ўжо немцы і, значыць, новыя парадкі. І насталі для Дамінісі дні пакутлівай трывогі за сям'ю. Перад вачыма праходзілі дзеці. «А мае ж вы дзеткі, а мае ж вы родныя, як вы там адны? (Дамініся не сумнявалася, што Хведара прызвалі ў армію)» — у заімглёных вачах яе расплываліся постаці меншых — Колі, Васіля, Каці і Веры. За Вольку і Алёшу было спакайней: яны паканчалі чыгуначны тэхнікум і зараблялі ўжо, як і Маня, свой кавалак хлеба: Волька — на станцыі Вузлавая, за Масквой, Алёша — у Карагандзе; здавалася, што гэта далёка ад вайны. З галавы не выходзіла гняздзечка, дзе сям'я засталася. Ёй параілі пайсці ў суседнюю вёску да варажбіткі. Тая раскінула карты і пачала хітаць галавою ды цмакаць языком. І нібы нажом паласнула па сэрцы.

— Гаварыце, што паказвае карта, — сказала Дамініся, ледзь стрымліваючы ўзрушэнне.

Варажбітка зноў захітала галавою і зацмакала языком:

— Сям'і вашае няма. Двое дзяцей у аддалёнасці, іх вы сустрэнеце. А тых няма.

Сэрца Дамінісі зайшлося болем. Яна не ўзяла б у галаву словы варажбіткі, калі б тая не ўгадала, што «двое дзяцей у аддалёнасці». Вяртаючыся да бацькі, па дарозе зайшла да брата Васіля. Ён з сям'ёю снедаў, збіраючыся ў поле.

— Дамініська, ідзі да нас, паеж свежанькага, — устаючы з-за стала, манатонна, нараспеў сказаў брат.

Яна падзякавала і хутчэй выйшла з хаты, пайшла, ледзь не пабегла да бацькі, каб не на вачах людзей уволю наплакацца.

Праз колькі дзён пачула яна, што немцы даюць пропуск да Менска, і кінулася да жандармерыі. Чарга да яе не дайшла. Сітуацыя паўтарылася і назаўтра і напаслязаўтра. Нехта падказаў ёй, што ў мястэчку пражывае цыганка, якая добра варожыць. Дамініся лёгка знайшла ейную хату, што стаяла не ў радок з іншымі, а глыбока ў гародзе. Дзверы адчыніў здаравенны цыган, зарослы па самыя вочы, у чырвонай,

расхрыстанай да пояса кашулі. Ля печы гойдалася дзіцячая калыска, а на печы спала жанчына. Цыган пабудзіў яе. З-за перагародкі выйшаў яшчэ адзін цыган, і яны абодва пайшлі з хаты. Дамінісі стала страшна, аж халадком пацягнула па спіне. Тым часам цыганка ссунулася з печы, са смакам пазяхнула, узяла карты і за сталом пачала варажыць.

— Вы хлапочаце пра дакументы. Атрымаеце. Потым будуць большыя клопаты і — дарога...

Дамініся падзякавала і разлічылася з варажбіткаю.

— Вы, мусіць, не тутэйшая? — запыталася тая.

— Так, не тутэйшая, але адкуль вы ведаеце?

— Давайце я вам на сям'ю паваражу.

— У мяне больш няма грошай.

— Нічога, не хвалюйцеся.

— Уся вашая сям'я жывая, усе на месцы, апроч старэйшых сына і дачкі.

У словах цыганкі, у яе чорных вачах было столькі моцы, што ў Дамінісі як рукой зняло з сэрца балючы цяжар, які наваліўся разам з ваеннаю навалай. Праз тыдзень яна дастукалася да нямецкіх уладаў, каб дастаць пропуск. З ранку начальніка не было, быў пісар, мясцовы чалавек.

— Грамадзянка, што ў вас? — прakартавіў ён.

Яна сказала пра сябе.

Аказалася, ён ведаў Дамінісінага бацьку.

— Пропуск выдаецца толькі да Менска, — сказаў ён дабрадушна, — але я вам выпішу да Краснага. Толькі слухайце мяне ўважліва. Як прыйдзе начальнік, то не падавайце паперу на подпіс адразу. Ён падпісвае з дванаццаці да гадзіны. Як будзе канчацца гадзіна, тады падасце. Вы мяне разумееце?

— Дай Божа вам здароўечка! — падзякавала чалавеку, на якога ў першы дзень глядзела з агідаю: прыгрэўся, маўляў, ля немчуры.

З'явіўся немец, белабрысы, з мутнаватымі, амаль бясколернымі вачыма і рыжымі брывамі. Ён спярша ўсе паперкі праглядаў уважліва, пячаткі ставіў марудна. Тут яго кудысь паклікалі. І калі ён вярнуўся, то пачаў ставіць пячаткі на ўсіх паперах, не чытаючы іх, — праўду казаў пісар.

Пропуск Дамініся атрымала. Ён даваў права на выезд, але дарога ляжала амаль праз усю Беларусь, захопленую чужынцамі. Марудзіць не выпадала: у шляху дазволена было знаходзіцца толькі да шасці вечара. Як на зло, бацькава кабыла кульгала: у рове ўзяў параненую, а ягонага каня, як і ўсіх лепшых коней у сяле, забралі немцы.

— Бярэце майго каня, — выручыў старэйшы Дамінісін брат Васіль, — і не шкадуйце — паганяйце.

Так і зрабіў Павел — запрог сынавага каня, фурманка ўжо напагатове стаяла на вуліцы ля веснічак. З куфра дастаў новы андарак, а на плечы дачцэ накінуў кажушок. Адваліў нажом добры кавалак сала, каб завезла дадому, даў слоічак мёду, што купіў у святара, — мо дзе прыйдзецца падмазаць немцу лапу, — і што ёсць моцы пагнаў каня. Да Слоніма, бліжэйшай чыгуначнай станцыі, было сорак пяць вёрстаў.

А нешта ў той час цягнікі ад Слоніма не хадзілі. На пераездзе бязлюднае станцыі стаяў немец. Дамініся, калі з бацькам падышла да яго, дастала акуратна загорнуты ў насовачку пропуск, падала яму ў рукі. Чужак амаль не зірнуў на такі важны для вандроўніцы дакумент і, вяртаючы яго, сказаў чамусьці па-польску.

— В хуткім часе бэндзе самохуд до Барановіч.

— Бардзо дзенькуе! — падзякаваў яму Павел Шпак.

— То вы ўжо, тату, едзьце дадому, — хвалявалася дачка.

— Не, не паеду, пакуль не дачакаемся машыны, — спакойна адказаў бацька.

Машына і папраўдзе прыйшла «ў хуткім часе». Дамініся пацалавала бацьку і ўжо з машыны бачыла, як ён заплакаў, размазваючы слёзы па твары, зморшчаным і нежывым, нібы падсушаны ліст.

У Баранавічах Дамініся заначавала ў стрыечнае сястры. Ёй пашанцавала: трапілася машына, якая ішла на Віцебск. За слоічак мёду яна даехала да Оршы. Начавала на станцыі ў знаёмых людзей. Паспаць амаль не давялося: часта наляталі самалёты, якія бамбілі горад. Усяго сорак вёрстаў аддзялялі Дамінісю ад станцыі Краснае, і, каб толькі дазва-

лялася ўначы хадзіць, яна б дадому пашыбавала пехатою. На золку яна была ўжо на станцыі. Там на пераездзе стаяў мясцовы чалавек.

— Скажы мне, родненькі, — ласкавае слова само вырвалася з грудзей, — калі будзе цягнік на Смаленск?

— Толькі што пайшоў, — абыякава вымавіў той.

— Ах, мой Божа! — Дамініся роспачна ўзмахнула рукамі.

— Во там, глядзі, стаяць тры саставы, — спакойна працягваў чыгуначнік, паказваючы рукою ўперад. — Адзін з іх пойдзе на Смаленск.

Дамініся ішла няспешна ўздоўж першага таварняка, пакуль не ўбачыла ў прачыненым вагоне кабету з двума дзеткамі. Зайшла ў вагон, узрадавалася, што з той кабетаю ехаць ёй у адзін бок. Сядзелі поруч. Спадарожніца раз-пораз церла кулакамі вочы, адно вока было зусім чырвонае і слязілася.

— На вуголі ехала, задзьмухоло, забіло пылом, — расказвала яна, моцна, ажно ненатуральна окаючы. — Немцы зоўважылі, прыбеглі, одзін з іх махае пальцам: «Злазь!» А я злазіць боюся, думою, зоб'юць ужо. Тоды оны зобралі дзяцей, і мне ўжо нічого не зосталося... Але, дзяковаць Богу, посодзілі ў вагон, як бачыш. Нават хлеба дзецям долі, — яна паказала на вузельчык, з якога вытыркаў хлеб.

Выпадковыя спадарожніцы пачалі знаёміцца, ды пачулі: хтосьці ўвайшоў у вагон і набліжаецца да іх.

— Куды вам ехаць?! — злосна выгукнуў невысокі, але тоўсты тып.

— Осіноўка, — ціха назвала сваю станцыю незнаёмка, калі Таўстун стаў над душой.

— Вылазь! Я тут хадзяін, — ён націснуў на слове «я».

Напалоханыя дзеці, хлопчык і дзяўчынка, прыціснуліся да матулі, трымаючыся за яе спадніцу, меншы з іх, хлопчык, заплакаў. Жанчына дастала з клуначка некалькі марак, падала дрыготкімі рукамі.

Таўстун узяў, моўчкі ўсунуў у кішэню, а тады і кажа:

— Што ты мне даеш бумажкі? Паесці дай!

— Выбочай, дзядзечко, у мяне толькі ўсяго, што вось гэты хлеб.

Таўстун выхапіў хлеб з дрыготкіх жаночых рук.

— Дзядзечко, одрэж мне скібку для дзяцей,— папрасіла жанчына.

Таўстун нездаволена палез у кішэню, дастаў складанчык, адрэзаў лусту хлеба, кінуў жанчыне на прыпол і — да Дамінісі:

— А ты што сядзіш?

Ён насупіўся і яго рыжыя бровы збегліся на пераноссі.

— У мяне сала няма чым адрэзаць, — сказала Дамініся.

Таўстун падаў нож, і яна адваліла палову свайго кавалка. «Такую дарогу правезла, а тут на табе!.. — падумала яна, адразаючы сала. — Лічы, ужо дома адабраў у маіх дзяцей, гад!»

Ішоў немец, убачыў, што Таўстун кладзе нешта ў сумку, зазірнуў у вагон.

— Вас іст дас? — строга спытаў.

— А то мая матка дала мне, — не разгубіўся той.

— Мутэр? Гут, гут, — паляпаў той Таўстуна па плячы, і яны разам выйшлі з вагона.

Чакаць, пакуль цягнік кранецца з месца, Дамінісі давялося не больш як з гадзіну, але ёй гэты час падаўся страшэнна доўгім: хацелася хутчэй прыйсці да роднага кута, да сям'і. А чым жаданей сустрэча, тым марудней ідзе час. Калі ўбаку засталася Орша, Дамініся раз-пораз прынікала да шчылінкі ў сцяне вагона, глядзела ледзь не са слязьмі радасці на высокія вогнішчы арабінаў, на першую пазалоту ў кронах клёнаў і бяроз. Яркія фарбы верасня абуджалі думкі, асвятлялі іх сваёй чысцінёй. Было ціха. Не чулася ні гарматаў, ні самалётаў, цяпер усё засланяў толькі выразны лёскат паравозных колаў. Дамініся слухала бойкі, імклівы рытм, і чулася ёй у гэтым рытме настойлівае: «Хут-чэй дамоў, хут-чэй да-моў!»...

Калі Дамініся падышла да свёй хаты і ўбачыла ў акне Маню, ёй стала цёпла-цёпла ў грудзях...

А калі пераступіла парог, сэрца яе ўсхадзілася на ўсе грудзі.

— Дзеткі мае! — толькі і вымавіла, трымаючыся адной рукою за сэрца, а другою — за вушак.

Яе абкружылі і абцалавалі дзеці. Як і да вайны, з імі не было Волькі і Аляксея. Стала вядома, што Аляксей пайшоў добраахвотнікам на фронт. Яшчэ Дамініся даведалася: Хведар, паранены на чыгунцы асколкамі ў ногі, ляжыць у больніцы ў Оршы, Каці пагражае гангрэна; Колю і Васіля немцы збіраюцца забраць у Германію. А Савецкае інфармбюро паведамляе: гітлераўскія войскі набліжаюцца да Масквы і Ленінграда. Сумныя навіны сведчылі: няма канца выпрабаванням.

# АРАБІНАВАЯ НОЧ, альбо ПРАВІНЦЫЙНЫ СЮЖЭТ З ЭПІЛОГАМ

*Уладзіміру Васілевічу —*
*з прыязнай усмешкаю*

## 1

Ці ведаеце вы, якую ноч называюць арабінавай? Калі чулі ці чыталі пра гэта альбо нават назіралі з вокнаў свайго жытла за тым, што дзеецца ў такую ноч у прыродзе, усё адно не кажыце і не думайце, быццам добра ведаеце гэтую фантастычна-яскравую з'яву, такую неверагодна наступальную і неўгамонную стыхію. Ах, ці стаў бы я вас інтрыгаваць, калі б не ўспамін пра тое, як зусім нечакана разам з маім новым сябрам якраз у такую ноч добраахвотна і надоўга апынуўся пад адкрытым небам! Зрэшты, пра ўсё па-парадку.

Ліпеньскім нядзельным днём 1968 года я, дваццацідвухгадовы хлопец, ехаў за дзвесце вёрст — з абласнога цэнтра ў мястэчка, запрошаны Інай Мілаш, студэнткаю сталічнага педінстытута, каб вузкім сяброўскім колам адзначыць здадзеныя ёю іспыты за першы курс і завяршэнне трэцяга курса ўніверсітэта яе сястрою Нэляй.

Сонечны і гарачы выдаўся той дзень. У аўтобусе, перапоўненым пасажырамі, было цесна і душна. Мне дастаўся квіток без месца, і я стаяў, спачатку на адной назе, пакуль не знайшлося сантыметраў трыццаць для маёй другой нагі, але ніколечкі не быў падобны да пакутніка. Я нават радаваўся, што не сяджу: гэтак лепш захоўваліся канты на добра адпрасаваных нагавіцах — я ж ехаў на спатканне з дзяўчынаю! Яе лісток разам з канвертам ляжаў у кішэні майго паласатага пінжака. Глытком азону ў душным салоне аўто-

буса здаваліся яе словы запрашэння ў госці. За кароткі час тут я ўжо двойчы іх перачытваў. Зычлівы змест ліста гэтак гарманічна спалучаўся з каліграфічным почыркам, якім яна асабліва прыгожа вывела маё імя і прозвішча: Яну Лебедзю. Штосьці незвычайнае і ў адначассе блізкае знаходзіў я ў адрасе Іны — завулак называўся: Лясны. Найменне такое натуральна-беларускае і такое мілагучнае! У памяці маёй раз-пораз паўставаў прывабны дзявочы вобраз: залацістазялёныя вочы, смуглявыя і як бы чымсьці здзіўленыя бровы, якія даставала жывая грыўка каштанавых валасоў, цудоўным чынам адцяняючы бліск вачэй. Вусны — усмешлівыя і зусім некранутыя памадаю...

Успаміналася нашае знаёмства, што адбылося тры тыдні таму, у гасцініцы, дзе я, карэспандэнт абласной газеты, камандзіраваны ў раён, пасяляўся, а яна з'явілася ў ролі прыбіральшчыцы, падмяніўшы на працы матулю. Я ніяк не чакаў убачыць страйнюткую, як таполька, дзяўчыну з вядром, з анучаю і швабраю ў руках! На маё недарэчна-гуллівае пытанне, каго тут фея чаруе, яна загадкава ўсміхнулася, больш вачыма, чым вуснамі, і аджартавалася: «А каго тут шукае прынц?»

Калі Іна навяла парадак на абодвух паверхах, я выпадкова, ідучы з нумара ў буфет, ізноў спаткаўся з ёю і змог крыху пагаманіць. Даведаўся, што яна, студэнтка, летнія канікулы мяркуе правесці дома. Я, натуральна, коратка распавёў пра сябе. Радаваўся, што і я — студэнт, толькі шкадаваў: з мінулага года, калі памерла маці, стаў завочнікам. Спатрэбілася праца, і я прыдбаў яе ў рэдакцыі.

З Інай хацелася пасябраваць, і мы абмяняліся адрасамі. Мяне ўразіла незвычайнае прозвішча дзяўчыны — Мілаш (такое ў нашых краях мне сустрэлася ўпершыню), але найбольш — яна сама, яе краса і дабрыня.

Зваротнаю дарогай і ўжо дома стараўся разабрацца ў сваіх пачуццях, адказаць самому сабе, чаму я неабыякавы да яе і як называецца мая неабыякавасць: проста прыхільнасць ці закаханасць? «Магчыма, так нараджаецца яго вялікасць Каханне?» — думалася мне. Прайшло некалькі дзён, як

развітаўся з дзяўчынаю, а ўжо мне так чагосьці бракавала, так нeставала! Толькі наважыўся чыркануць ёй ліст, а яна ўзяла і сама адазвалася, апярэдзіла мяне, прытым не проста так напісала, а запрасіла да сябе на вечар. І калі там, у гасцініцы, мы адно да аднаго звярталіся на «вы», то ў сваім лісце яна смела скараціла адлегласць між намі — перайшла на «ты». Успомніўся Пушкін: «Пустое вы сердечным ты // Она, обмолвясь, заменила...» Я загарэўся новым спатканнем настолькі, што адбіў тэлеграму, у якой паведаміў час прыезду ў мястэчка. Вырашыў ехаць нягледзячы на тое, што галоўны рэдактар, стары занудлівы чалавек, не падараваў мне ніводнага рабочага дня, ні паўдня, матывуючы адмову так проста: «Ты ж нядаўна там быў!» Словам, мусова было ў панядзелак раніцай з'явіцца ў рэдакцыі. «Нічога, — разважаў я, — зваротны аўтобус а шостай раніцы, наперадзе — цэлы вечар і цэлая ноч!..»

У маёй сумцы побач з пляшкаю мускатнага віна і натуральнага шакаладу, купленых на Інін святочны стол, ляжалі часопіс «Маладосць» з «Альпійскаю баладаю» Васіля Быкава і паэтычная кніга «Чалавечы знак» Анатоля Вярцінскага. Вёз тое, што мяне апошнім часам прыемна здзіўляла ў нашай літаратуры, каб прачытаць самыя хвалюючыя старонкі разам з Інаю і абмяняцца ўражаннямі ад прачытанага. Я не сумняваўся, што мы з ёю пабудзем сам-насам.

У раённым цэнтры аўтобус прыкметна разгрузіўся, і я даў нагам адпачынак, але сеў так, каб не выпучыліся на каленях мае старанна адпрасаваныя нагавіцы. Нарэшце паказалася высокая труба мясцовае электрастанцыі, і неўзабаве шафёр збавіў хуткасць, зрабіў плаўны паварот. Я глянуў убок ад асфальту — і ўбачыў патрэбную мне аўтастанцыю. Лічаныя секунды — і аўтобус прыбыў да месца прызначэння. З-за невысокага будынка выйшла з нейкім худзенькім кучаравенькім юнаком Іна, апранутая ў блакітную сукенку. Вузкі паясок падкрэсліваў яе тонкую талію і статную паставу. Маё сэрца амыла хваля зачараванасці дзяўчынаю. У гэтую хвіліну юнак штосьці ёй сказаў, і яны абое ўсміхнуліся.

## 2

«Мабыць, сваяк», — падумаў я. Але думку-галубку прагнала думка-ястраб: «А што, калі гэта — «Рамэа»? Якая ж тады роля адводзіцца мне?» Я сам сябе не пазнаваў... Яны абое зыркалі вачыма то на пярэднія, то на заднія дзверы аўтобуса, а калі я «прызямліўся», яны хуценька рушылі да мяне.

— Салют! — з паднятаю злёгку рукою вымавіў я моднае тады слоўка, прыхаваўшы нечаканае, хоць і не зусім акрэсленае пачуццё рэўнасці.

Іна падала руку. Рука была халаднаватая, затое вочы — поўныя цеплыні, яны так свяціліся-ззялі пад дужкамі броваў і грыўкаю-хмаркай свежавымытых валасоў.

— Знаёмцеся, — сказала яна прыязна.

Я назваў сябе, паціскаючы цёплую юначую руку.

— Артур, — прадставіўся хлопец.

— Гэта — сын знанага прафесара, — сказала Іна, — сябра маёй сястры Нэлі і мой добры знаёмы, прыехаў з Мінска. А пра цябе я распавяла яму.

Я не стаў пытацца, дзе тая Нэля і чаму яна не з Артурам, проста з палёгкай уздыхнуў, супакоіўся, дзівак, што Іну ніхто не перахапіў, нібыта яна павінна была належаць мне.

Вечарэла. Па тратуары, што акаймоўваў брукаванку, мы ішлі паўз рынак, рэстаран, гасцініцу, парк з помнікам ахвярам вайны і Вечным агнём. Далей, між кронамі дрэў, паказаліся купалы царквы. Потым тратуар і брукаванка скончыліся, пайшла дарога палявая, з выбоінамі і лужынкамі.

— Не так даўно межы мястэчка пашырыліся за кошт вёсачкі Нівы, — казала, звяртаючыся да мяне дзяўчына, — і цяпер былая вёсачка сталася яго акраінай. Якраз там і мой хутар, Артур ведае.

Артур аказаўся інтэлігентным, у меру гаваркім юнаком, які скончыў дзевяць класаў. Начытаны, захапляўся паэзіяй, фальклорам, музыкай, цікавіўся архітэктурай. А быў ён тонкі і худы настолькі, што паласатая тэніска вісела на ім, як на калочку. Пры гэтым хлопец быў у «дудачках», якія тады ўвайшлі ў моду і спрыялі з'яўленню першага пакалення

стылягаў. Ён да Мілашаў заехаў, пагасцяваўшы ў сваякоў у Янаве-Палескім.

Пятнаццаць хвілінаў няспешнае хады — і мы ў раскошнай сядзібе Мілашаў. Прасторная, з пушчанскага лесу хата, разам з усімі сялянскімі пабудовамі і пчольнікам, патанала ў добра дагледжаным садзе. Ля хаты, уздоўж веранды, буялі кветкі, на якіх ці то ад нектару, ці то ад шчыравання хмялелі чмялі і пчолы. Побач з хатаю раскашавалі шырокія і доўгія грады гуркоў і памідораў, абгароджаныя ад хатняе птушкі металёваю сеткаю, раслі бульба, капуста, буракі, сланечнікі.

У хаце нас чакалі руплівыя і дужыя, сялянскай загартоўкі гасцінныя гаспадары — чубаты, з вялікімі і вузлаватымі рукамі бацька, ласкавая каравокая маці, здаровыя, кроў з малаком, Іціны старэйшыя сёстры Зіна і Воля, каржакаваты брат Коля з пышнаю жонкаю. Не паспеў я павітацца з усімі, як у хату Нэля прывяла яшчэ аднаго госця — Толю Ковеля, свайго аднакурсніка, які прыехаў да яе яшчэ раніцай, паспеў аблюбаваць сенавал, добра адпачыць з дарогі і, як пасля высветлілася, спланаваць начлег.

Стол у святліцы быў застаўлены далікатэсамі — азёрнаю рыбаю, смачна пасмажанай у смятане, салатамі, грыбамі ў алеі, пірагом, мёдам. А калі гаспадар паклікаў усіх за стол, гаспадыня дастала з печы яшчэ і дранікі з маладой бульбы са смажанінай. Вядома, пад такую закусь знайшлася і мясцовая «партызанская», як тут жартам ахрысцілі «нязжытую самагонку з жыта». Каб не Артур, які яшчэ ўвогуле не ўжываў моцнага алкаголю, маё мускатнае віно прастаяла б неадкаркаванае. Шчодрай вячэры адпавядала шчырая бяседа — з тостамі, жартамі, песнямі. А песні пераважалі народныя, апроч беларускіх, украінскія, якія добра ведаў Артур і якія даволі дасканала выспеўвалі Іна з матуляю, падгалосак забяспечвалі тры Іціны сястры з Артурам. Бацька, Коля і ягоная жонка, як і мы з Толем Ковелем, часцей за ўсё стваралі фон уважлівых слухачоў.

У прасторнай і ўтульнай хаце Мілашаў думалася пра тое, што сярод мноства агульнанацыянальных, дзяржаўных, рэлігійных святаў ці не самае светлае тое свята, якое збірае

духоўна блізкіх даўніх і новых сяброў, і самае цёплае тое застолле, дзе прасторна песням і добрай людской гамане.

Недзе а палове дзясятае гаспадар і гаспадыня пажадалі ўсім «дабранач», пайшлі ў свой пакой за печкаю спаць. Крыху пазней з намі развіталіся Зіна і Воля, яны зачыніліся ў сваім пакоі. Затым і Коля з жонкаю адправіліся дамоў. Наша юная кампанія ў поўным складзе заставалася нядоўга, бо Нэля з Толем, як толькі выйшлі ў двор падыхаць свежым паветрам, надоўга адасобіліся. Я парадаваўся, бо Толя гучна размаўляў нягледзячы на позні час. Мы ўтрох у цішыні смакавалі эпізоды «Альпійскай балады» Васіля Быкава, «Каласоў пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, паэмы «Дажынкі» Анатоля Вярцінскага.

Вечар спатканняў атрымаўся цікавы. Заставалася апоўначы сустрэць аўтобус з Гомеля, у якім абяцала прыехаць Ініна сяброўка Ніна Шкляр. Мы з Артурам выказалі такую гатоўнасць і ўгаварылі Іну перадыхнуць. Неўзабаве пакінулі гасцінную хату Мілашаў і рушылі да аўтастанцыі.

**3**

Пакуль выходзілі з сядзібы і потым ішлі ўздоўж канавы да шырокае вуліцы, чулі, як наўкола неўгамонна цвыркалі-свіргаталі конікі. Было парна. Нейкім цудам недасушанае бяздарнаю меліярацыяй балота, што раскінулася непадалёк, раптам дыхнула прахалодаю. Свежы ветрык лашчыў нам вочы. Ідучы, мы больш і больш знаёміліся. Я даведаўся, што Артурава мара — стаць фальклорыстам-этнографам. Сваю будучую прафесію ён не без гонару называў справай мужчынскаю, з захапленнем гаварыў і пра Аляксандра Сержпутоўскага, і пра Міхала Федароўскага, і пра ўнікальнага казачніка-апавядальніка Рэдкага. Я ведаў пра іх не так багата, як ён, таму новае знаёмства акрыляла.

У мяне Артур цікавіўся, як я стаў журналістам. У гамонцы мы і не заўважылі, як прыйшлі на аўтастанцыю і як сюды прычаліў з Гомеля аўтобус.

Ніна Шкляр не прыехала. А мы, чакаючы яе, так прагна ўглядаліся ў пасажыраў, якія выходзілі на бетанаваную пляцоўку, спадзяваліся спаткаць яе, аж пакуль не выйшла апошняя пасажырка — маладзенькая дзяўчына ў белай сукенцы з двума вялізнымі чамаданамі і сумкаю на плячы. Яе ніхто не сустракаў, і мы спыталі дазволу паднесці ёй чамаданы.

Калі дзяўчо ўсміхнулася, давяраючы нам свае чамаданы, мы запыталіся, натуральна, куды трэба ісці.

— Тут недалёка, — яна махнула рукою ў бок чыгункі.

Дзяўчына перавяла нас праз чыгунку, і мы апынуліся на нейкім неабсяжным куп'істым лузе. У гэты час нечакана здрыганулася неба, падсвечанае маланкамі, пасыпаліся дробныя дажджынкі, і ў прыродзе пачалося штосьці неверагоднае. Над зямлёю запанавалі ўспышкі, якія ахoплівалі амаль усё неба, і суцэльны ціхі звон, які парушаўся толькі працяжнымі раскатамі грому. Бліскавіцы штоміг асвятлялі ўвесь абшар, яны ззялі адначасна з усіх бакоў, заліваючы прастору асляпляльным святлом. Іх вогненныя зігзагі, асабліва тыя, што мелі не вертыкальны, а гарызантальны накірунак, і ў вышыні, і ўдалечыні працінал неба, утвараючы фантастычныя формы. Часам такія бліскавіцы нагадвалі хвалепадобныя дугі, сям-там перарваныя, яны сваімі канцамі ўтваралі завостраныя пікі. І на гэтым д'ябальскім маляўнічым фоне пачалося шквалістае нашэсце ліўня. Наша спадзяванне, што навальніца як наляцела, так і праляціць, развеялася хутка, як, дарэчы, і мая трывога за канты на штанах, і мы, даўно згубіўшы сцежку, перасталі пераскокваць з купіны на купіну: ратаваць ногі ад вады не было аніякага сэнсу. Што і казаць, выглядалі мы недарэчнымі мурашкамі, якія з вялікімі ношамі пайшлі насуперак непагодзе.

Каб дзяўчыне было лягчэй адолець цяжкі шлях, мы пачалі знаёміцца.

Звалі яе Аленай. Прозвішча насіла чыста беларускае — Кажух. Студэнтка, затрымалася пасля сесіі ў горадзе і дабіраецца ў сваю вёску Пяскі, за сем вёрстаў ад мястэчка. Мы пажартавалі, спыталіся, ці не цэглу вязе яна ў чамаданах. Аказалася, асноўным грузам былі кнігі. Нягледзячы

на праліўны дождж пра што мы толькі не размаўлялі. Напрыканцы пакутлівай вандроўкі ў Пяскі ўспомнілі пра сумнае: не стала бліскучага расійскага майстра прозы, сардэчнага пісьменніка Паўстоўскага.

Аленіна вёска ўразіла брамаю ў самым яе пачатку. «Помнік архітэктуры 19 стагоддзя. Неагатычны стыль», — з ходу прыйшоў да такой высновы Артур.

Што да нашага з Артурам рыцарства, то за яго Алена арыгінальна ўзнагародзіла нас: у мокрым кветніку зламала жоўтую вяргіню і ўручыла зорку кветкі — адну на дваіх.

Зваротная дарога ўсё яшчэ пад шалёнаю залевай была нашмат лягчэйшая: рукі, як-ніяк, вызваліліся ад чамаданаў.

Да Мілашаў вярнуліся мы а чацвёртай гадзіне раніцы. Іна дужа хвалявалася за нас: дзе прапалі? Мусіла спароць з сенавала Толю Ковеля, узброіць яго бацькаваю плашч-палаткаю і выправіць на пошукі прапаўшых. Пошукі скончыліся нічым, дакладней — яшчэ большаю трывогай.

А шостай раніцы я ўжо быў на аўтастанцыі, каб у мокрым касцюме і раскіслых басаножках вяртацца дамоў. Дома пераапрануўся, перакусіў і роўна а дзявятай, поўны стваральнай энергіі, паўстаў у рэдакцыі перад занудлівым галоўным...

## Эпілог

Як там у Янкі Купалы ў «Кургане»? «Пацяклі, паплылі за гадамі гады...» Божа мой, якое непрадказальнае жыццё! Хто мог падумаць, што Іначка, якая мяне з Артурам здружыла навек, загіне ў аўтакатастрофе! Загінула маладзенькаю настаўніцай у галалёд. Сястра яе Нэля выйшла замуж і пераехала на Украіну. Толя Ковель прыжыўся ў Піцеры. Мы з Артурам займелі кожны па адной жонцы і па двое дзяцей, дажылі і да ўнукаў. Сустракаючыся, не раз успаміналі былое і, вядома ж, тую арабінавую ноч. Нам карцела завітаць у Пяскі, праведаць нечаканую гераіню той ночы — Алену. Аказалася, што яна, рана аўдавелая, выйшла замуж за італійца пад час савецкае перабудовы і пераехала ў Італію!

Аднак у Пяскі, усклаўшы кветкі на Ініну магілу ў пасёлку, мы аднаго разу ўсё-ткі завіталі.

Пасівелая Аленіна маці нас, нечаканых гасцей, сустрэла прыязна, частавала садавіной. Расказвала, паказваючы сямейныя фатаграфіі. Шкадавала, што рана адышоў яе гаспадар і што ёй наканавана цяпер векаваць адной. Дачку яны гадавалі ў строгасці. Старая паказала рэмень, што ўсё яшчэ вісеў на цвіку, той самы, якім Аленку выхоўвалі змалку.

Самае цікавае тое, як у тую арабінавую ноч маці рэагавала на паводзіны дачкі. Спачатку ёй сказала: «Як жа, доню, ты магла з двума незнаёмымі ноччу пайсці?!» А калі доня нас тады надта пачала хваліць, яна папракнула яе: «Ну дык як жа ты магла іх не запрасіць у хату?!» «Лічыце, запрасіла, калі мы прыйшлі» — так падумалася.

# ЦАЛІНА

## 1

— Ну, чакай, Чыта, свайго Тарзана, — з'яхіднічаў Зэк і прыгразіў згвалтаванай: — А пра *гэта* — нікому не пікні, задушу! Цяміш? Ён у азерца кінуў яе споднюю вопратку з плямамі крыві, падцягнуў і зашпіліў свае прыкметна зашмальцаваныя чорныя нагавіцы. Нягледзячы на даволі мажную сваю камплекцыю хутка ўзнімаўся на круты азёрны бераг: як шматвопытны злодзей, спяшаўся змыцца з месца злачынства.

Алеся, перасільваючы галаўны боль, паднялася з цёплага пяску і, плачучы, паспяшалася вылавіць у вадзе яшчэ непатанулую бялізну, памыла яе, выкруціла, апранулася і пайшла, не ведаючы куды, у які бок ісці. Выйшла на дарогу, глянула — непадалёк стаіць той самы грузавік, у кабіне якога яна ехала, і за рулём сядзіць той самы вылюдак... Машына была заведзеная, яна знячэўку тарганулася з месца ды пайшла на яе, шафяруга быў бязлітасны: газануўшы, ледзь не дастаў радыятарам сваю жывую ахвяру, але, калі яна звярнула з дарогі ў стэп, ён адстаў, развярнуўся і пайшоў сваім курсам. Нейкі час няшчасная па інерцыі працягвала рухацца, як п'яная, не цямячы, куды ідзе, і не адразу ўгледзела, як ззяў на сонцы срабрыста-шэры кавыль. Алеся апусцілася на зямлю, міжволі тулячы да вуснаў некалькі пушыстых мяцёлачак. Залюбавалася да самазабыцця простаю стэпаваю раслінаю. І ўпершыню ў жыцці ў яе абудзілася жаданне выказаць тое, праз што пакутавала.

Ой, кавыль-кавылёк, у вачах маіх слёзы,
Прыняла я ўдар майго жорсткага лёсу.

Яна здзівілася, што словы ў думках загучалі суладна, знайшлася рыфма. Яе зацікавіла спроба творчасці, словы, бы прыручаныя птушкі, прыляталі з таямнічае прасторы:

Кавылёк, кавылёчак пяшчотны,
Я паранена, сэрца баліць,
Памажы, памажы мне, гаротнай,
Рану сэрца хутчэй загаіць!

Занатаваць прыдуманае не было як, бо сумачка з неабходнымі рэчамі засталася ў кабіне машыны. Але хвіліны творчага роздуму сталіся такім гаючым сродкам-паратункам ад стрэсу.

Калі Алеся паднялася і азірнулася наўкол, то непадалёк убачыла дымок дзякуючы якому неўзабаве апынулася ля вогнішча, дзе казахі з бліжняга аула гатавалі ежу. На шчасце, яны зразумелі незнаёмку, калі спытала, як дабрацца да Кустаная, куды яна спяшаецца на ўступны экзамен у інстытут. Хударлявы мужчына адышоўся ад вогнішча, наблізіўся да незнаёмкі, акінуў яе позіркам ды, гладзячы сваю сівую бараду, сказаў, што машын туды ідзе многа, паабяцаў ёй затрымаць першую сустрэчную.

Казах вывеў разгубленую чужачку на дарогу. Падобна, адчуў, што незнаёмка перажывае цяжкую часіну. І грузавік спыніў не як чужы чалавек, а як родзіч: прасіў шафёра, зазірнуўшы ў вочы, каб завёз яго ўнучку ў Кустанай.

**2**

Седзячы ў кабіне спадарожнай машыны поруч ізноў з незнаёмым шафёрам, Алеся неахвотна адказвала на яго пытанні, ды не таму што адчувала: ён пытаецца абы не маўчаць, гледзячы на аднастайнасць дарогі і бязлюдных абшараў цаліны, а таму што перажывала надта свежае пачуццё агіды да грубай жывёльнай сілы ў чалавеку, да вераломства, а таксама пачуццё роспачы ад таго жахлівага, што здарылася: цяпер яна, як гаворыцца ў адной паляшуцкай песні, «не дзеўка, не

баба» і папросту можа раптам прыраўняцца да розных там шлюхаў, бо, калі спатрэбіцца, як дакажаш, што ўсё здарылася насамрэч гвалтам, а не па яе добрай волі.

Канешне, ёй страшна не пашанцавала з гэтым нелюдзем. Але ж і сама яна — даўбешка несусветная! Спяшалася, спытала ў транспартнай канторы, тупіца, калі адправіцца з трэста ў Кустанай бліжэйшая машына, а не пацікавілася, хто там за рулём. Ведала, што Хрушчоў перад цаліннай кампаніяй абвясціў амністыю злачынцам, у выніку чаго на волю выйшлі тысячы і тысячы зэкаў, а не ўцяміла: учарашнія зняволеныя патрапілі ва ўсе шчыліны агульнага жылля. Чаму яна падумала, што яе гэта ніяк не датычыцца, быццам яны рассяліліся недзе далёка, а не прыкінула рэальна: цаліна для іх асабліва прывабная, бо з'яўляецца сінонімам вольніцы. Пакутуючы за сваю неабачлівасць, Алеся ўжо называла сябе ў думках прышыбленай авечкай, таму што анічога благога не западозрыла нават тады, як Зэк прыпыніў машыну і сказаў: «Душна! Выйдзем перадыхнуць». У галаве Алесі цяпер пракручваліся кадры гэтай прыкрае дарожнае гісторыі. Вось ён вылазіць з кабіны і памагае ёй спусціцца з прыступак — падае руку. Джэнтльмен, дый годзе!.. Нават крывая ўсмешка нічога ёй, дурніцы, не сказала. А далей усё пайшло, нібы ў фільме жахаў. Ён хапае яе на рукі, прэ ў бок азерца і кідае з крутога берага. Яна, як бервяно, коціцца аж да самай вады. Следам за ёю да вады збягае і ён.

— Тут нікуды не ўцячэш! — папярэдзіў, калі яна падхапілася і спрабавала бегчы. — Давай па-харошаму...

Паваліў на зямлю, пачаў распранаць. Яна з усіх сілаў супраціўлялася. Пачаў біць па твары. На просьбу-мальбу адказаў кулаком. Удар па галаве спыніў адчайны дзявочы супраціў.

Зноў і зноў Алеся ўзгадвала яго звярыны выраз твару, калі дамагаўся яе і пасля, калі гнаўся за ёю на машыне. «Няўжо хацеў забіць?! — думала цяпер яна. — Падобна на тое, што хацеў. Чаму ж не ўтапіў? Мог жа ўтапіць! Тады не сумняваўся, што буду маўчаць? А йдучы да машыны, выходзіць, засумняваўся».

Бязлюдны стэп дадаваў юнай асобе думак пра безабароннасць чалавека ў вялікім свеце, а доўгая дарога то трывожыла, то супакойвала яе развярэджаную душу. У тунэлі маральных пакутаў, з якога не магла выбрацца дзявочая душа, раз-пораз бліскала амаль асляпляльнае святло. Такім святлом з'яўлялася жаданне і надзея здаць паспяхова ўступныя іспыты ў інстытуце, куды яна так імкнулася.

Заставацца з ведамі, набытымі ў статыстычным тэхнікуме пасля сямігодкі ў Мінску, Алеся не магла. Карцела атрымаць вышэйшую адукацыю. Да гэтага абавязвала праца ў планавым аддзеле будаўнічае арганізацыі цаліннага пасёлка. Там даводзілася апрацоўваць процьму паказчыкаў, якія датычыліся і планавых заданняў арганізацыі, і зарплаты яе работнікаў.

Інстытут заставаўся для яе адзіным маяком у бурлівым жыццёвым моры. Аднак запаветная Алесіна мара не збылася. Першы іспыт — адразу і завал. Сканцэнтраваць увагу на пастаўленыя ў білеце пытанні, падабраць патрэбныя словы ёй заміналі неадчэпныя думкі пра непрыстойны выгляд, памятую святочную вопратку, пра скамечаны лёс...

## 3

Пасля Кустаная Алеся перажывала змрочныя дні і амаль бяссонныя ночы.

У Мінску жыла маці, якая адмалку прыніжала, часам і кляла сваю адзіную дачку, называла чамусьці то дзікім, то воўчым мясам. Прычыну такой матчынай раздражнёнасці Алеся, безумоўна, разумела. Пасля таго, як бацька сышоўся з іншаю жанчынаю, маладой пакіданцы прымаць дома ласых да спакусы мужыкоў замінала якраз яна, адзіная дачка, якая, падрастаючы, усё больш кеміла, што адбываецца з яе маці. Алеся і на цаліну паехала не таму, што заклікалі туды ехаць тагачасныя ўлады, і не таму, што такі смелы крок лічыўся рамантыкай і фактам вернасці ды адданасці Радзіме — паехала, абы з'ехаць з дому, бо не магла больш трываць здзекі найраднейшага чалавека.

Яна і лістамі не дакучала сваёй найраднейшай. Так было з першага дня жыцця і працы на чужой зямлі. Нічым не хвалілася, ні на што не скардзілася. Цяпер Алесі, вядома, як ніколі дагэтуль, неставала матчынай спагады і ласкі, ды не стала яна выпрошваць тое, чаго ніколі не мела жанчына, якая нарадзіла і неяк гадавала яе. Сорам камусьці сказаць, што нават перад ад'ездам у далёкі Казахстан не пачула ад маці ні ласкавага слова, ні наказу, ні хоць якой перасцярогі.

Алеся вырасла адзінотнаю. Між тым ёй неабходна было хоць адной душы адкрыцца, распавесці, што з ёю здарылася. Такой душой аказалася медсястра, латышка Лайма. «Будзь уважлівая да сябе. Калі што якое — не зацягвай, прыходзь, я памагу...»

Больш, думала Алеся, ніхто не ведае і не ўведае пра яе бяду, медсястра, прынамсі, абяцала маўчаць. А неўзабаве знаёмы аптэкар, выпадкова спаткаўшы пад вечар яе на вуліцы, сказаў, аглядваючыся па баках, ці нікога няма побач:

— Да мяне заходзіў адзін «герой», хваліўся, што, маўляў, узламаў цаліну, прасіў даць яму атруты, каб супакоіць адну юную канторскую асобу... Прабачце, я вылічыў: гэта — пра вас.

Аптэкар, мужчына бальзакаўскага ўзросту, жанаты, глядзеў на патэнцыяльную ахвяру як кот на сала; яго маленькія вочкі блішчэлі, абяцаў нікому не даць прыгажуню ў крыўду, калі толькі яна «хоць трошкі дазволіць яе пакахаць». Пры гэтым спрабаваў прытуліцца-прылашчыцца.

Словы і паводзіны лавеласа давялі Алесю да стрэсу.

— Прэч, прэч! — ускрыкнула яна і рэзка адпіхнула кулакамі кастлявае тулава.

Ніяк не чакаў такога адпору сэрцаед, бо ледзь утрымаўся на нагах. Пакідаючы яго на дарожцы пад таполяю, Алеся заўважыла, як ён прамакаў насовачкай лоб і лысіну.

Пасля той нечаканай вечаровай сустрэчы з аптэкарам Алеся пачынала ўпадаць у новую дэпрэсію ад пачутага: Зэк шукае для яе атруту. Хоць яна і не ўяўляла, як ён збіраецца яе атруціць, але трывога і абурэнне не пакідалі ні на хвіліну. У той час як яна павінна адпомсціць злачынцу, ён

не замольвае свой цяжкі грэх, а падумвае звесці яе са свету! Так сябе можа паводзіць хіба хворы псіхічна... З такімі думкамі пакутніца звязалася па тэлефоне з адной мінскай сяброўкаю, папрасіла падшукаць ёй сціплае жыллё і паведаміць пра яго кошт. На працы падала заяву. Звальняецца ў сувязі з тым, што дома ў яе цяжка захварэла маці і няма каму яе даглядаць.

На цаліну Алеся ехала, калі з радыёпрыёмнікаў і рэпрадуктараў часта гучалі дужа аптымістычныя песні-заклічкі. У адной з іх былі словы: «Здравствуй, дорога длинная! Здравствуй, земля целинная!»

«Будзь здарова, зямля цалінная!» — думала Алеся, атрымаўшы разлік у канторы будаўнічага трэста летнім сонечным днём. Прайшоў месяц пасля той праклятай дарогі ў Кустанай. Упершыню за гэты час было сонечна ў яе на душы: яна не зацяжарала! На развітанне яе шчыра абняла медсястра Лайма.

У родным Мінску Алесі пачало шанцаваць. Лёгка знайшла працу і пакой у інтэрнаце, а на наступны год паступіла ў наргас. І творчасць сваю працягвала. У моладзевай газеце дэбютавала цыклам «цалінных» вершаў, на якія рэдакцыя атрымала многа водгукаў. Адзін юнак быў прыемна здзіўлены тым, што, як пісала газета, «...эканамістка па адукацыі ўзняла цаліну свайго шматабяцальнага таленту, пра што сведчыць ніўка ўзгадаваных ёю вершаў».

Закаханы ў фатаграфію дзяўчыны, хлопец захацеў убачыць «арыгінал»...

А неўзабаве Алеся атрымала нечаканае паведамленне ад Лаймы: загінуў Зэк. Не, не атруціўся, яго забілі. Хто? Невядома. Мабыць, сіла наскочыла на большую сілу.

# «ЖЫВЫ!»

Мне ўсяго толькі — сорак. Я дужы ды не такі ўжо й лянівы. Сем'янін як сем'янін. Прынамсі дагэтуль на мяне не скардзіліся ні жонка, ні сын, ні дачка, ні нявестка.

Сям'я ў мяне цікавая, у кожнага сямейніка — сваё дзівацтва, свая прыхамаць. Жонка, настаўніца вышэйшае катэгорыі, яшчэ нядаўна шчыра асуджала і сваіх, і чужых за тое, што, як яна казала, вісяць у кампутары, а раптам і сама захварэла на тую ж хваробу, адным словам, «завісае» штодня і надоўга. Сюд-туд на пліце штосьці спаліць, бо гэты ідал як прыцягне, то і не адпускае, аж пакуль гарэлым не пацягне з кухні. Гэта ж трэба набыць бяду на сваю галаву! Зімой аж тры месяцы пахадзіў у дворніках да і пасля сваёй асноўнае працы настаўніка, падзарабіў грошай, і знаёмы ў «Пятым элеменце» памог выбраць самы круты кампутар. На табе, любая жоначка, дарагую цацку да жаночага свята. І закарцела кабеце як мага хутчэй прыручыць такую мудрагелістую і модную тэхніку. А тая крутая возьме дый занатурыцца — зробіць недаступным сеціва і гэтым самым так ушчэміць самалюбства настаўніцы! Ёй адна халера — што неслух вучань, што наравісты кампутар: не ўзяць верх яна не можа. Сказаць дакладна, жыць яна ўжо не можа без сеціва, праз якое пад рукою цэлы свет, таму і даходзіць, як яна кажа, тыкам да разнастайных кампутарных праграмаў.

Сын у мяне — студэнт-выдатнік. Ён такі цудоўны, задушэўны! Толькі мае звычку празмерна забаўляцца з малечаю, напрыклад, любіць гуляць з малымі ў настольны хакей. Цешу сябе думкаю, што будзе добры бацька. Такое ганаровае званне ў яго не за гарамі, бо жонка, яго аднакурсніца, ужо зацяжарала.

Нявестка мая вясёлая, шчырая і дужа гаварлівая, асабліва калі возьме ў рукі тэлефон...

Самая безабаронная ў сям'і дачушка-школьніца. Яе душа такая ранімая і мітуслівая. Перайшла дзяўчынка ў восьмы

клас. Марыць скончыць школу з медалём, хоць і ведае, як я скептычна гляджу на медалі. На яе моцна дзейнічае братаў поспех. Перажывае, што не вельмі ўдаюцца ў яе сачыненні. Не раз познім вечарам называе мне тэму сачынення, якое павінна раніцай здаць. На якія ахвяры не пойдзеш, каб толькі лішні раз не рваліся неакрэплыя нервы дзіцяці! Звычайна ўгаворваю хутчэй класціся спаць, а на золку ласкава падымаю і ціха кажу: «Бяры перапісвай сваім почыркам...», хай жонка й скажа: такі ўчынак — антыпедагагічны.

Ды гэта што! Змалку дачка займаецца ў дзіцячым танцавальным гурце. І здарылася аказія: летась харэограф, даволі гладкая дама, прабірала адну пухленькую дзяўчынку, ушчувала, што тая нібыта шмат умінае булак і каларыйнай ежы. Пасля яна папярэдзіла ўсіх: «Слухайце сюды: танцоры павінны быць худыя! Гэта — адназначна». З тае пары мая дачушка-прыгажуня фанатычна занялася пахудзеннем. Ні мяса, ні масла, ні сыру, ні малака, ні нават хлеба, гаротніца, не есць. Спажывае гародніну і садавіну, алей, арэшкі ды сокі. І што ў выніку? Нават манашкі такой не знойдзеш. Ужо страшна глядзець на яе: адно косці тырчаць пад скураю, вочы запалі глыбока, а пад вачыма — фіялетавыя сінякі. Ды слухаць не хоча, што нельга быць такою худэзнаю, падобнаю да шкілета, нават сорам.

— Што вы разумееце! — адбіваецца яна. — Цяпер мяне хваліць харэограф.

Скажаш ёй: «Каго ты слухаеш!» — пачынае плакаць наўзрыд. Даводзіцца дагаджаць: каб хоць удосталь яна той гародніны ды садавіны спажывала, ды арэшкаў, ды грыбоў... Спадзяюся, паразумнее наша донька, выйдзе з бяды.

Пакуль яшчэ вольны ад школы, еду на радзіму, у пушчанскі край. Праведваю радню: адну сястру ў Берасці, другую ў Кобрыне, трэцюю ў маленькай вёсачцы Падграбы, брата — на радзіме, на Камянеччыне. На дварэ — жнівень, занадта цёплы, але камфортны: амаль тыдзень ішлі дажджы. Трава паўсюль зялёная, паветра свежае, у садах прыемна пахне грушамі і яблыкамі, у лясах — грыбамі. А мне, куды б ні паехаў, душа баліць за дачушку, хочацца ёй дагадзіць, памаг-

чы. І ўсе сваякі ведаюць маю праблему — дораць мне: хто — яблыкі ды грушы, хто — слівы і абрыкосы, хто — моркву, буракі, кабачкі, кукурузу. Я ні ад чога не адмаўляюся, больш за тое — выязджаю ў добра знаёмы змалку лес па грыбы, набіраю два вядры баравікоў, падасінавікаў, рыжыкаў, бабак, вязу баравыя дары ў Берасце. Там яшчэ заскокваю на рынак, дзе ўсё нашмат таннейшае, чым у Менску. За ноч да ад'езду прыкідваю, як я ўсё дацягну ў свой вагон. Сястра кажа:

— Я памагу данесці да цягніка, галоўнае, каб сустрэлі там.

У мяне ў кішэні мабільнічак, цудоўны сродак сувязі. Набіраю нумар жончынага сотавіка.

— Я перагружаны, — кажу, — асёл столькі б не пацягнуў, як я. Ці сустрэнеш на пероне?

— Вядома, сустрэнем, — адказвае, — не сумнявайся, смела цягні ўсё. Толькі ж назаві цягнік.

Называю нумар цягніка і вагона, у якім буду ехаць.

— Занатавала? — пытаюся.

— А як жа, усё ў парадку. Прыязджай хутчэй. Сустрэнем.

— Чуеш? — кажу я сваёй старэйшай сястры. Яна лагодна ўсміхаецца.

— Ну, што, родненькая, запрагаймася...

Валачэм. У мяне за плячыма паўнюткі рэчмяшок, у руках амаль непад'ёмныя сумкі. У сястры рукі занятыя вялікімі цяжэннымі сеткамі-авоськамі. Умакрэлыя ад перагрузак, увальваемся ў вагон цягніка «Брэст—Санкт-Пецярбург».

— Паспелі, — кажа сястра і з палёгкаю пераводзіць дыханне.

...Хуткі цягнік нясе мяне і маю шматлікую прадукцыю. У плацкартным вагоне ў мяне бакавое месца, дзе праз ваконнае шкло лашчаць промні прыветнага сонца. Мне хочацца спяваць ад радасці, што пабываў на радзіме, дзе ў мяне добрая, спагадлівая радня, і што не спазніўся на вакзал, прытым дамовіўся з жонкаю, каб сустрэла мяне. Узнікае натуральнае жаданне яшчэ раз пачуць яе мілагучны голас, сказаць, што ўжо вяртаюся дадому. Рукі мае, то адна, то другая, даюць нырца ў шматлікія кішэні нагавіцаў і пінжака, а пасля і ў сумкі, але дарэмна: мабільніка не знаходжу. Нарэшце

ўспамінаю: ён застаўся ў Берасці, у кватэры сястры, дзе на хвіліну я паклаў яго на тумбачку, калі пераапранаўся, збіраючыся ў дарогу.

Пад бойкі перастук цягніковых колаў стараюся супакоіцца, ды зноў і зноў залятаю ў мыслях дамоў: «Як яны там? Чым занятыя?» Уяўляю радасную сустрэчу на вакзале і дома: я ж за некалькі дзён паспеў без іх засумаваць. Ці не таму дарога, асабліва да Баранавічаў, падалася такою доўгаю?!

Хвілінаў за трыццаць да Менска пакідаю сваё месца ў вагоне і перамяшчаюся ў тамбур. Рэчы пераношу ў тры заходы. Мне ж і не снілася, што гэтак жа — выключна сваімі сіламі, ізноў у тры заходы, буду іх і выносіць на перон, бо ніхто мяне не сустрэў.

Цягнік рушыў у горад на Няве, а я міжволі ў думках перанёсся ў горад над Бугам, дзе так недарэчна забыў мабільнічак. Даводзіцца маўкліва чакаць, спадзеючыся на цуд: з трамвая ці з тралейбуса вось-вось да мяне рынецца хтосьці родны. Нервова хаджу туды-сюды, пазіраючы на цыферблат гадзінніка. Прамінае больш як паўгадзіны. Тым часам на суседні пуць падаюць электрычку «Мінск—Маладзечна», і да мяне імгненна, відаць, ад крыўды, прыходзіць нечаканае рашэнне — дунуць на лецішча. Здаю ўсё сваё багажнае багацце ў камеры, убіваюся ў перапоўнены і душны тамбур электрычкі. Сем прыпынкаў — і мяне ўжо ахінае лёгкая передвечаровая прахалода. На ляснай сцяжыне чамусьці ўспамінаецца мой родны бор ля пушчы Белавежскай і маё грыбное паляванне, паўстаюць у памяці баравікі. Як жа прыгожа выглядвалі яны, светлыя і чорнагаловыя, з верасоў, з белых і зялёных імхоў, з-пад ігліцы і лісточкаў! А цяпер, замкнёныя, ці не парацца? А слівы, што так набрынялі сокамі ў сестрыным садзе ў Падграбах, ці не ператвараюцца ў той самай жалезнай камеры ў кампот? З такімі думкамі выходзіў я з ляснога масіву. Яшчэ перад сваім сумленнем апраўдваўся: у сітуацыі, якая склалася, маю права на мужчынскі капрыз. «Паленаваліся прыехаць на вакзал, — казаў сабе моўчкі я, — то прыедзеце сюды».

Лецішча сустрэла мяне цішынёю. Вечарэла. Здарожаны, я прысеў на ложку. Бліжэйшы тэлефон быў на хутары, дзе я часта купляў малако. «Трохі адпачну, — падумалася, — і схаджу патэлефаную дадому, скажу, дзе я знаходжуся». Але сон мяне, грэшнага, узяў моцны, як назло.

Затое ў маёй гарадской кватэры ўсім было не да сну. Спачатку мае сямейнікі былі занадта спакойныя. Дачушка пасля школы танцавала ў сваім гурце. Нявестачка пасля заняткаў шмат разоў перад люстрам прымярала новую сукенку, прывычна доўга размаўляла па тэлефоне. Сын, якому маці даручыла сустрэць мяне, з універсітэта свайго, што знаходзіўся побач з вакзалам, не пайшоў на перон, а, забыўшыся на матчына даручэнне, паехаў дадому. Мая жоначка спакойна шчыравала на кухні ля пліты, сумяшчаючы гэты клопат з чытаннем свежае электроннае пошты і праглядам у сеціве патрэбных ёй парталаў. Але яе спакой панаваў, пакуль не з'явіўся сын. Калі ж ён з'явіўся, дамашняя пагода рэзка змянілася на непагадзь.

— Дзе ж бацька, сынок? Чаму ты прыехаў адзін?

— Мамачка, я забыўся. Я паеду, я знайду яго, — захваляваўся ён.

Сын паехаў, а ёй было ўжо не да кампутара і не да пліты. Яе ахапіла трывога. Спачатку набрала яна нумар майго мабільнага тэлефона, пасля дазванілася ў Берасце да залоўкі. Божкаючы і ледзь не плачучы, пыталася, ці не спазніўся я на цягнік. Даведалася, што не спазніўся і паехаў у прызначаны час. А сын тэлефануе:«Бацькі на вакзале нідзе няма». Тут пачалася паніка. Ручаямі паліліся слёзы з вачэй жонкі і дачкі, якая акурат вярнулася з танцаў. У ход пайшлі валідол, валяр'янка, карвалол... Несупынным «бамбёжкам» падвергліся нумары тэлефонаў прыёмных пакояў сталічных больніцаў. Маім засмучаным родзічам давялося праверыць і моргі... А ў выніку, вядома, ні жывога, ні мёртвага мяне не знайшлі. У адчаі жонка звярнуліся да сябра нашае сям'і даішніка Васіля Кавальчука. Той кінуў усе свае справы і павёз яе ў транспартную міліцыю. Ягонае званне маёра там

нешта значыла: пачалі абзвоньваць усе станцыі, на якіх супыняўся цягнік, каб даведацца, ці не сышоў з яго захварэлы пасажыр. Але ні на адной станцыі ніхто з пасажыраў не звяртаўся па медыцынскую дапамогу. Заставалася пытанне, ці не было па ходу следавання цягніка трагічнага здарэння. Ішлі пакутлівыя вечаровыя гадзіны. Раптам высветлілася, што пад Баранавічамі знайшлі мёртвага мужчыну. Як пачула пра гэта мая жонка, так і абмерла. Яна звалілася б на падлогу, калі б не падставіў рукі той самы сябра Кавальчук. Ратавалі нашатыром.

— Што вы, — стараўся супакоіць яе маёр Кавальчук, хіба ж гэта ён? Гэта не факт.

Тэлефанавалі да маёй сястры, высвялялі, як я быў апрануты перад дарогаю. Яна сказала, што я быў у светлых нагавіцах, у белай кашулі і ў шэрым пінжаку. Стала вядома: знойдзены нябожчык на чыгуначным палатне ля Баранавічаў — у чорным касцюме.

Тады Кавальчук у сеціве размясціў тэкст пра тое, што прапаў без вестак чалавек... Указваліся ўсе мае прыкметы, і ўзрост, і рост, і вопратка. Назаўтра павінны былі распачацца грунтоўныя пошукі.

Набліжалася поўнач.

— Божанька літасцівы, што рабіць?! — ціха заенчыла жонка.

— Дзе ваша лецішча? — раптам пытаецца сябра, шматвопытны маёр міліцыі.

— Пад Заслаўем, — дрыготкім голасам адказвае яна.

— Паехалі.

Даішнік супыняе машыну каля нашае фазэнды. Груканне ў дзверы нічога не дае. Жонка мая тут заенчыла і завыла ў поўным адчаі. Так галосяць хіба толькі над нябожчыкам. Аднак і гэты надрыўны плач не падняў мяне. Тады Кавальчук пытаецца, дзе акно спальні.

Стук у шыбіну і святло ліхтарыка перарываюць мой сон. Я, нібы спуджаны заяц, усхопліваюся, шыбую да акна і чую да болю знаёмы шчымліва-шчаслівы голас: «Жывы!»

*P. S.*

Кажуць, быццам частае карыстанне мабільнікам шкоднае. Магчыма. Але без яго шкода можа стацца непараўнальна большая. Таму я з ім не разлучаюся. І кланяюся таленту светлага, усмешлівага доктара Купера, вынаходніка першай мадэлі такога тэлефона. А мілай спадарожніцы жыцця абяцаю ў розныя вандроўкі адпраўляцца разам. Там немагчыма забыць сваю жонку, тым болей — мабільную.

# СЫНЫ

## 1

У Івана і Ганны Ваньковічаў нарадзіўся другі сын, калі першаму, Віктару, споўнілася дванаццаць гадоў. Бацьку падабаліся старадаўнія імёны, таму ён угаварыў жонку назваць хлопчыка Алегам. Дзеці раслі здаровыя, чым дужа радавалі бацькоў.

Надышоў час аддаваць старэйшага ў войска, а меншага пасылаць у школу. Падрыхтоўка малога да школы ні ў Ганны, ні ў Івана не выклікала ні хвалявання, ні вялікага клопату: купілі кнігі, сшыткі, ранец ды касцюмчык — і пайшоў Алежка вучыцца. Затое позвы з ваенкамата, якія ўручаліся Віктару, прыносілі ў сям'ю неспакой. І не таму што ў тыя гады ў войску працвітала «дзедаўшчына» — прычынай былі чуткі, што многа беларускіх хлопцаў трапляе ў Афганістан, адкуль ужо не раз у нашыя гарады і вёскі прывозілі цынкавыя труны...

Віктар, маючы моцнае здароўе, разумеў: яго як піць даць могуць кінуць у гарачую кропку, таму аднаго разу, калі вячэру сям'і перабіла чарговая позва, якую прынёс такі ж, як і ён, прызыўнік, Віктар, хоць і быў ён ціхі, паслухмяны, адважыўся, перасільваючы хваляванне, сказаць бацькам:

— А што, калі не пайсці?..

Але Віцеў бацька, заводскі рабочы, партрэт якога шмат гадоў запар упрыгожваў Дошку гонару ў гарадскім парку культуры і адпачынку, адказаў коратка і катэгарычна-сурова:

— Ты што?! За гэта будуць судзіць!

Не кажучы пра турму, сам судовы працэс, самое абвінавачанне з боку дзяржавы ўяўлялася Івану Ваньковічу страшэннай ганьбаю.

Але здарылася найгоршае з усяго, што магло здарыцца на вайне. Раненне, палон, а тым больш адмова ісці на тую

незразумелую вайну давалі шанс на працяг жыцця. Пра гэта думаў Ванькові, калі атрымаў чорную вестку. Думаў у роспачы, з пачуццём раскаяння, шкадавання, што быў глухі да трывогі-прадчування сына, аддаў на згубу. Ганьбы, якой так баяўся, не было б, таму што пра афганскую вайну ўжо адкрыта пагаворвалі як пра бессэнсоўную бойню. Ганьбай для нашых быў якраз удзел у ёй. Напаткаўшае знянацку гора і думкі пра непапраўнае атрутай разліваліся па жылах і, калі да пад'езда бетоннага гмаху, дзе жыла сям'я, прывезлі цынкавую труну з сынавай фуражкаю на ёй, галава пайшла кругам і ногі падкасіліся. Адно што рукі мужчын-суседзяў, якія стаялі поруч, не далі яму ўпасці на асфальт. Ён не плакаў. А Ганна галасіла дзень і ноч над труною, якую вайскоўцы не дазвалялі адкрыць, бясконца паўтарала, што сыночак абяцаў у апошнім лісточку скора вярнуцца, а прывезлі яго на адну толькі ночку...

Іван пасля пахавання сына запіў, Ганна моцна схуднела.

## 2

Адзіным суцяшэннем для заўчасна пастарэлых бацькоў заставаўся Алежка. Яны яго моцна любілі, песцілі, стараліся ва ўсім дагадзіць, помнячы, як не дадалі любові першаму сыну.

Алежка імгненна адчуў сляпую любоў і пачаў карыстацца ёю спаўна. Дома яго шкадавалі: не падрыхтаваўся да занятках — хай школа разбіраецца; не захацеў у школу — хай адпачне, яшчэ находзіцца; выбіў кату вока, пакалечыў голубу крыло — падумаеш, такая дробязь; пакрыўдзіў меншага — абы сябе ў крыўду не даў.

Ледзь дабраўся да сёмага класа — вучобу кінуў. Спадабаліся яму карты, віно. Грошы выпрошваў у бацькоў, вымагаў у дзяцей, якім давалі дома на марожанае. Каля яго пачалі роем віцца такія ж, як ён сам, недаросткі, днём і ноччу тусаваліся каля пад'езда, пасля з ім разам надоўга знікалі. «Няхай, няхай пасваволіць, ён жа маладзенькі, дурненькі, — гаварылі Іван і Ганна, — прыйдзе час — паразумнее».

Час ішоў, ды Алежка не разумнеў. Івану і Ганне знаёмыя людзі неяк казалі, што іх сын быў у адной кампаніі, якая збіла і парэзала хлопца з суседняга дома і што ўсю банду судзілі б, але яны папярэдзілі няшчаснага: калі паскардзіцца, назаве хоць адно імя, яго прыкончаць. Іван і Ганна не паверылі добрым знаёмым, бо сын пабажыўся, што невінаваты. Потым заявіліся ў хату да Ваньковічаў бацькі Анжэлы, дзяўчыны з іхняга мікрараёна, з пытаннем: «Што рабіць?», бо іх дачка зацяжарала ад Алежкі. Ваньковічам гэта быў сюрпрыз. Яны паабяцалі нечаканым гасцям пагаварыць з ім. Позна вечарам бацькі прычакалі сына, ён не адпіраўся, прызнаўся ў тым што паўгода любіцца з Анжэлай, паабяцаў ажаніцца з ёю. Тут у яго быў свой разлік — пацягнуць паболей з яе бацькоў.

А па зямлі ішла вясна. Ганна набіла прадуктамі халадзільнік і выклікала з раёна свайго бацьку, каб у іх пажыў, бо яна з мужам наважылася папрацаваць на лецішчы, заадно там абдумаць, як рыхтавацца да вяселля.

Як толькі Алежка застаўся дома з дзедам, ён у той жа вечар папрасіў у яго грошай, а калі не атрымаў, з усяго размаху ўляпіў яму, дзевяностагадоваму дзеду, кулаком у твар. Стары аж не ўтрымаўся на нагах, упаў на падлогу.

— Уставай, не прыдурняйся, — ён спачатку пасадзіў старога, потым падняў на ногі, кінуў на канапу, што стаяла побач, і, убачыўшы, як у яго вакол вока праяўляецца цёмны крывавы сіняк, строга папярэдзіў: — Глядзі мне, каб не княваў. Нікому ні гуку! Паняў?.. Скажаш, падаў сам галавой на табурэтку.

Дзед, які прайшоў тры вайны, не ведаючы страху, роднага ўнука спалохаўся.

А ўнук асмялеў. Назаўтра ён падагнаў машыну з грузчыкамі, і пайшоў за бясцэнак набор дарагой мэблі, фактычна адзіная каштоўнасць Ваньковічаў, нажытая за шмат гадоў працы.

У той жа дзень Алежка занёс заяву ў ЗАГС і перавёз да сябе сваю цяжарную нявесту Анжэлу.

Ганна, калі патэлефанавала ўвечары да бацькі ў горад і даведалася пра ўчынены гвалтоўны продаж мэблі, загаласіла як па нябожчыку. Пасля бяссоннае ночы вярнулася дадому разам з Іванам. Думалася, выправяць сынаву памылку, выкупяць сваю мэблю, вернуць яе ў сваю кватэру. Верылася, сынок раскаецца, у ім прачнецца штосьці чалавечае, не павінен жа ён за іхняе дабро плаціць злом.

Алег не каяўся. На пытанне, дзе мэбля, маўчаў, зыркаючы з-пад лоба, а калі яно паўтарылася, толькі ляснуў дзвярыма. Пайшоў з хаты і не вярнуўся нават начаваць. Давялося заявіць на сына ў міліцыю, бо і нявестка не ведала, куды сплавіў муж раскошную мэблю, дзе ён туляецца сам і які лёс выручаных грошай.

Іван патапляў свае пакуты ў гарэлцы, пацямнеў з твару, пад вачыма з'явіліся мяшкі. Ганна штодзень хадзіла ў царкву, ставіла свечкі, малілася. Яны спадзяваліся, што сын спалохаецца міліцыі, суда, чакалі, што папросіць прабачэння за дурныя ўчынкі. Тады яны даравалі б яму за ўсё. Ды ў яго паводзінах нічога не мянялася. Тым часам следства выявіла: Алег Ванькові ч ужо чатыры гады залежны ад наркаманаў, купляў і пазычаў наркотыкі. Мэблю загнаў, каб пагасіць даўгі і збавіцца ад расправы.

Алег трапіў у турму. Жыццё Івана і Ганны неяк увайшло ў больш-менш роўную каляіну. За шмат гадоў пакутаў і трывог прыйшла радасць: нявестка нарадзіла хлопчыка. Іван і Ганна далі ўнуку імя свайго першага сына. І стаў нованароджаны для іх адзінаю ўцехай, любоўю.

# ПАШТОЎКА

## 1

Аднапаверхавы двухкватэрны дамок, дзе жыла адзіная Алесева ўжо замужняя сястра, туліўся пры больш масіўных будынках у старым квартале, амаль побач з інстытутам, куды Алесь паступіў вучыцца, і непадалёк інтэрната, у якім пасяліўся. І штодня ў вольны ад працы сястры і швагра час ён наведваў іх. Толькі калі трапіў у магічны палон прозы Эрнэста Хемінгуэя (а юны кніжнік наважыўся за верасень прачытаць усіх нобелеўскіх лаўрэатаў), ён, як сп’янелы, не мог пасля чытання запоем адразу далічыцца, тры ці чатыры дні запар абмінаў сціплую будыніну, у якой жыла сястра. Затое калі ізноў завітаў да яе, тая ўзрадавалася, як ніколі дагэтуль.

— О як добра, браціку, што ўспомніў нас! — сакатала яна; да размовы адразу падключыўся швагер: — Мы ўжо намерыліся цябе шукаць у тваім вобшчам жыцці (гэтак па-свойму ён называў інтэрнат).

Сястра з мужам збіралася да ягоных бацькоў у сяло на два тыдні капаць бульбу і, каб менш хвалявацца за кватэру, папрасіла брата, каб у ёй пажыў, дала запасны ключ.

Па-свойму ўнікальная кватэра з пячным абагрэвам, з агульнымі гэтак званым санвузлом, тытанам і ваннаю, страшна далёкая ад камфорту, спадабалася Алесю. Не таму, што пасля вясковай хаты, дзе ён вырас, яна была ў чымсьці больш зручнаю, а таму, што ў гэтай кватэры з высокаю столлю лёгка, як і ў бацькоўскай хаце, дыхалася, і яна абяцала цішыню, як абяцаў яе і ўвесь гэты з тоўстымі цаглянымі сценамі дамок наводшыбе глухаватага двара дый спакойны рытм жыцця ў старым квартале горада. А даражыў юнак цішынёй па адной прычыне: самазабыўна захапляўся кнігамі. Яны даўно сталіся яго рэлігіяй, з імі ў руках ён шукаў цішыню ўсюды,

дзе б ні апынуўся — і ў чыталках, і ў інстытуцкіх аўдыторыях, і ў гарадскім парку. Вось і цяпер ён не сумняваўся, што, заняўшы на пару тыдняў кватэру сястры, разам з асобным жыллём завалодае неацэнным скарбам цішыні, уяўляў, як вольнымі вечарамі, умасціўшыся на ложку, будзе пры утульным святле таршэра дапазна ўпівацца ўсё новымі раманамі.

## 2

Пасля інстытута, сталоўкі і гастранома Алесь першы раз вярнуўся не ў свой шумны інтэрнат, не ў кампанію аднакурснікаў — ён шыбаваў, як да прыстані параход, да аднапаверхавага дамка, да кватэры, ключ ад якой ляжаў у кішэні пінжака. Стаяў цёплы верасень, і хлопец фарсіў у новым касцюме. У руках ён нёс тоўсты, набіты кнігамі партфель і сумачку з хлебам, ліվернай каўбасою, камсой і кефірам — чым не апетытная вячэра дый сняданак?

Алесь ведаў: па суседстве з яго сястрою жыве развядзёнка Галя, пухлая чорнавалосая жанчына гадоў сарака пяці. Цяпер, калі ён адмыкаў знаёмыя дзверы, у суседнюю кватэру прашмыгнулі дзве бландзінкі, здалося, абедзве перафарбаваныя, адна даволі цыбатая, з амаль мужчынскім тварам, другая — прыгожая. «Значыць, цётка Галя дома», — падумаў хлопец, ужо зачыняючы за сабою дзверы.

З парога, як і ў бацькоўскім доме, пачыналася кухня. Тут ён уладкаваў прадукты, пераапрануўся ў спартовы касцюм. Паліць грубку, паліваць вазоны яшчэ не было патрэбы, і ён з партфелем прайшоў у пакой, усеўся ў крэсле пры акне, пачаў чытаць. За любімым заняткам правёў гадзіны дзве. Раптам з двара данёсся дзявочы смех. Алесь зірнуў у акно і ўбачыў, як тыя самыя бландзінкі, якіх, адмыкаючы дзверы, заўважыў у агульным калідорчыку, цяпер вялі ў дамок двух афіцэраў; прыгожая ішла ўзяўшыся з кавалерам за руку, цыбатая — абняўшы свайго рукой за талію...

Праз некалькі хвілінаў да слыху юнака пачалі далятаць гукі музыкі, пасля — звонкія дзявочыя ды басавітыя мужчынскія галасы; затым раз-пораз рыпелі дзверы суседняй

кватэры, шчоўкаў, нібы страляў, іх замок, ляпалі дзверы агульнай прыбіральні. Суцэльная какафонія музыкі, стукаў, рыпу, галасоў парушала душэўны камфорт студэнта, не давала яму засяродзіцца.

Увечары, пры святле ліхтароў, вясёлая кампанія высыпала на вуліцу. Сп’янелыя, яны развязна гушкаліся ў двары на арэлях, гучна гаманілі, смяяліся. Пасля кудысьці сышлі, зноў з’явіліся, гулялі да позняе ночы.

Праз дзень карціна паўтарылася: бландзінкі вялі да Галі новых кавалераў. «Прытон» — падумаў Алесь. Назаўтра ён даведаўся, што ў Галі жыве кватарантка, бялявая Люся, з якой сяброе другая бландзінка. Цыбатая — такой мянушкаю ахрысціў яе Алесь. Яму адкрылася схема, па якой дзейнічалі жывыя лялькі. Модна апранутыя, аздобленыя памадаю, пудраю, яны хадзілі на чыгуначны вакзал у «разведку» і там бралі «языкоў», вядома, з ліку савецкіх афіцэраў, што вярталіся з-за мяжы ў Саюз на адпачынак. Далей спрацоўвала Галіна кухня. Схема, здавалася б, простая, нават прымітыўная, але яна міжволі ўразіла студэнта-кніжніка не менш чым якая-небудзь аповесць. Ён, праўда, не задумваўся над рухавіком і вынікамі дзеяння маленькай дамскай групоўкі; пра жаночы разлік, пра ўзаемныя інтарэсы бакоў...

Алесь яшчэ не сустракаў слова сэкс. Толькі сніліся яму па начах дзяўчаты. Яшчэ й калі ў школе вучыўся, сніліся. Для яго найвялікшай таямніцаю было тое, што адбываецца ў шлюбную ноч паміж жаніхом і нявестаю. У сястры запытацца, вядома ж, не мог, у каго чужога — тым больш: сорамна! Ведаў хлопец і пра пазашлюбныя сувязі. Калі вучыўся ў дзявятым класе, пачуў, што дзесяцікласніцу Галю Кананчук зубрападобны дырэктар школы зрабіў сваёй наложніцай, менавіта гэтак пра іх і казалі. Галя выглядала як пышная і здобная булачка. Праўда, яму здавалася губатаю, апроч таго, крыху картавіла. Але будзь яна й сапраўднай прыгажуняю, Алесь яе не мог бы пакахаць ужо таму, што стала дырэктаравай, — ён жа хацеў кахання сапраўднага, чыстага, а без пачуцця святога палюбіцца, як казалі на сяле, не мог.

Алесю і цяпер, калі стаў студэнтам, нават не прыходзіла ў галаву, што ён можа запрасіць у госці нават самую прыгожую аднакурсніцу Марылю, дзяўчыну з тоўстай і доўгай касою. Хоць бы пацікавіўся, што скажа на запрашэнне, ды і на тое не ставала смеласці. Між тым прага дзявочага цела і пазнання таямніцы дасягала ў ім апагею.

Тое, што ён убачыў тут, у старым квартале горада і што ў яго свядомасці атаясамлівалася з прытонам, было для яго стыхіяй дзікаю і няўцямнаю.

**3**

Аднойчы сякі-такі афіцэрык перапаў і гаспадыні суседняй кватэры. Алесь пра тое не ведаў, але здагадаўся ўвечары, калі яна, цётка Галя, ззяючы, як вышараваная каструля, папрасіла яго, каб пусціў да сябе нанач чатырох чалавек, гасцей, як яна сказала. Алесь не хацеў адмовіць суседцы ў адзінай просьбе амаль за два тыдні суседства. Тым болей што і пакой і кухня сестрыной кватэры былі ўдвая большыя, чым у яе, прытым на кухні стаяла як бы лішняя — для прыезджых — канапа.

Начнымі гасцямі аказаліся Люся з капітанам і Цыбатая з маёрам. Паслалі сабе на падлозе, побач з Алесевым ложкам. Алесь перайшоў спаць на канапу, а ім аддаў увесь пакой. Перад сном госці доўга выпівалі і закусвалі. Запрасілі і яго. Ён выпіў адзін кілішак і пажадаў начной кампаніі добрай ночы. А ўначы да Алеся прыходзіла Цыбатая, і ці то з сімпатыі да яго, ці то з удзячнасці за начлег, а мо і з галадухі (мусіць, маёр перабраў спіртнога дый адразу «адключыўся») яна залезла пад халасцяцкую коўдрачку, прыціснулася пышнымі грудзьмі да хлопца, спрактыкавана-азартна рассунула каленам яго санлівыя ногі і паклала між імі сваё ўзбуджальнае сцягно, не паспеў ён і ўцяміць: гэта сон ці ява? Спакуса аказалася нечаканая, ап’яняльна моцная. Да радасці было так блізка, ды Алесь неверагодным намаганнем волі пабароў моцнае жаданне разрадкі, — боязь магчымай заразы, а яшчэ памяць уражлівага і гідлівага юнака аб тым, што ў Цыбатай на твары прыкметныя сляды ад фурунку-

лаў (ён гэта ўвечары заўважыў пры святле), стрымалі яго: хоць і было цёмна, цалавацца з ёю не мог, а між тым меркаваў, што без пацалункаў — вусны ў вусны — немагчыма дасягнуць асалоды. Распусніца адчула яго антыпатыю, але не пакрыўдзілася. «Спі, лапушок», — нейк нават ласкава сказала яна, пакідаючы канапу.

Праз дзень вярнулася з мужам Алесева сястра.

**4**

У вольны час па дарозе з інстытута Алесь працягваў наведваць сястру, і амаль кожны раз ён аказваўся сведкам вясёлых гулянак у суседняй кватэры. Тут яго здзівіла раз цікавая навіна: адзін афіцэр, затрымаўшыся ў Люсі не на адну ноч, як безліч папярэдніх залётных носьбітаў афіцэрскіх зорак, неўзабаве ўпісаў яе імя ў свай пашпарт, хутка і павёз нявесту з сабою ў Данецк.

Міні-прытон распаўся ўраз, бо і да гаспадыні прыбіўся адзін дзівак, праўда, не вайсковы, а цывільны. Тут ён, як кажуць матросы, кінуў якар. Нарэшце, у дамку, куды Алесь усё часцей заглядваў, запанавала цішыня.

Былую Галіну кватарантку Люсю і яе сяброўку Алесь не ўспамінаў — не было нагоды. Але аднойчы, калі пасля лекцый завітаў да сястры, на маснічыне ў калідорчыку ўбачыў паштоўку. Ён падняў, думаючы, што яна адрасаваная сястры ці швагру. Аказалася, Люся скардзілася Галі на свайго мужа: «Ён, Галічка, не такі, пра якіх марылі мы». Алесь цэлы дзень быў пад моцным уражаннем: аказваецца, і блудніцы здольныя марыць пра ідэальных мужоў. Нічога падобнага юны кніжнік не вычытаў яшчэ ні ў адным рамане.

# ПАКУТЫ ШЧЫРАЙ ДУШЫ

## 1

Тою ж раніцай, калі паклалі жонку ў радзільны дом, Антон даведаўся па тэлефоне нумар яе палаты, прыехаў да гэтага вядомага ў горадзе гмаху, лёгка вылічыў патрэбнае акно, злаўчыўся, быццам кот, ускочыць на жалезную бочку, відаць, будаўнікамі тут пакінутую і кімсьці перавернутую ўверх дном якраз там, дзе яму трэба, і, стоячы на дыбачках, убачыць праз незафарбаваную верхнюю частку шыбы высокага акна сваю любую, такую родную пакутніцу!..

Ён у кагосьці з класікаў Усходу чытаў, што закаханага цяжка бывае адрозніць ад вар'ята. Але каб хто сказаў, што нейкая доля вар'яцтва выявіцца і ў яго паводзінах, нізашто не паверыў бы. Затое які ён закаханы, і казаць не трэба — ведаюць усе: і сваякі, і сябры, і суседзі. Тое ні ад кога ён ніколі не ўтойваў. І не мог утойваць. У шчырага чалавека, якім Антон Прышчэпа вырас, святое пачуццё жыве і ў слове, і ў позірку, і ў кожным учынку, грунтуючыся на самой філасофіі ўспрымання жыцця. Здавалася б, ну што за такі вялікі неспакой: трапіла ў раддом жонка... Ды справа ў тым, што яна яму не жонка, а жоначка, з чым і сама даўно звыклася, бо не ўяўляе без яго ласкі і пяшчоты сябе. Зноў-такі здавалася б: трэба мець мужчынскую вытрымку, захоўваць супакой, каб не замінаць тваёй «палавінцы» мужна прайсці Богам наканаванае выпрабаванне болем, пакутамі, перш чым нарадзіць новае жыццё. Так то яно так, але не кажыце гэта Антону, бо яго Яніначка — сама яшчэ дзіцё: аж цэлы месяц бракуе да сямнаццаці! То ж не жартачкі — апынулася перад такім выпрабаваннем першы раз! І не падумайце сказаць яму, што малады здаровы арганізм лёгка перажыве ўсе мукі: дапамогуць дактары, якія заўсёды поруч. Яніна для Антона ніякі не арганізм, а жывая вясна, падораная яму не

толькі лёсам — а і самой матухнай прыродай: у яе вялікія і ясныя, чыста вясновыя вочы, звонкі, як вясновы ручай, голас, пяшчотныя, мяккія, як лянок, і залацістыя, нібы сонца, пасмы валасоў, вусны спакусныя, як даспелыя суніцы; нават само імя гучыць як мелодыя, гукі якой растаюць водарам у самым сэрцы. Яна для яго — любая, чароўная, адзіная і непаўторная! І трэба ж было той непаўторнай, калі ўбачыла праз ваконнае шкло яго кучарава-чубатую галаву, скласці крыжыкам указальныя пальцы рук, без слоў гаворачы, як ёй — не вытрымаць! — цяжка.

Ні жывы ні мёртвы вярнуўся муж дадому. Дома не знаходзіў сабе месца. Яшчэ позна ўвечары і ноччу тэлефанаваў у раддом — выніку пакуль не было. «Калі яна не выжыве, — думаў Антон, — я памру таксама, хай нас пахаваюць разам». Падобна, у ім жыў шэкспіраўскі Рамэа. Доўга не мог заснуць, успамінаў дзень першага спаткання з ёю на пераднавагоднЯй вечарыне, калі ён, аператар тэлестудыі, завітаў дзеля святочнай перадачы ў школу, дзе вучыўся з першага класа па адзінаццаты. Няйнакш гэта сам лёс яго прывёў сюды. Тут і знайшоў Янінку, васьмікласніцу-чараўніцу, стройную, хударлявую, золатавалосую, з вялікімі бліскучымі вачыма. Дагэтуль Антон ніколі не ўяўляў, што так могуць блішчэць ясныя вочы, ён дапускаў падобны бліск хіба што чорных ці карых вачэй. Ды вось трапіў пад гіпноз зеленаватых. У іх патанула імгненна яго хлапечая воля-незалежнасць, ён стаў жывым ценем каханай. На ростані, калі паслалі ў сталіцу на курсы, толькі і думаў пра яе. Лісты, паштоўкі, фатаграфіі ад яго сыпаліся ёй на рукі, на душу, як сыплюцца з неба цёплыя кроплі летняга дажджу на засмяглую раллю. І яна не прымушала яго доўга чакаць узаемнай увагі, ласкі, пяшчоты.

На яе летніх канікулах былі яны разам, гасцявалі адно ў аднаго — то ў кватэры Антонавых бацькоў, то ў доме Янінай бабулі, чыю адзінокую старасць яна даглядала, часта выязджалі ці выходзілі на прыроду, дыхалі свежым паветрам, збіралі ў лесе грыбы ды ягады і ўсюды абдымаліся, цалаваліся. А ў жніўні пабраліся — паспелі да бабулінага адыходу. У верасні пакінула старэнькая белы свет, калі пачынала

заміраць прырода. А ўвесну, калі ўсё наўкола абуджалася ў прыродзе, Яніна гатовая была падараваць сям'і і свету новае жыццё, ды вось яе пакуты доўжыліся. Антон пасылаў ёй у думках свае лепшыя пачуцці, перачытваў яе дзявочыя лісты, адрасаваныя яму, цалаваў яе фатаграфію, тую, што найбольш поўна адлюстроўвала яе красу: спакусныя, як бы прыпухлыя вусны, вялікія вясновыя вочы, пышныя пасмы сонечных валасоў. Як ні доўга не мог Антон заснуць, ён заснуць быў павінен хоць бы дзеля таго, каб не перадаваліся любай празмерныя ягоныя хваляванні і каб убачыць дзівосна-светлы і такі яскравы сон! ...Вясна; як вокам кінуць — маладая пышная пад небам блакітным рунь, па гэтым роўным полі збажыны бяжыць яго каханая, спрытна нахіляецца і з лона зямлі падхоплівае рукамі прыгожае зайчанятка і крочыць па густой руні, тулячы яго аберуч да сэрца...

І якая ж вялікая радасць завалодала Антонам раніцай, калі пачуў па тэлефоне жаданую навіну! На рынку ён быў першы пакупнік ружаў і ўсялякіх марцыпанаў. З палымянапраніклівым пасланнем у кішэні ёй, маладзенькай жонцымаме, і сыночку, з поўнай сумкаю прысмакаў і з ружамі ён нёсся, бы на крылах ляцеў, да вядомага гмаху... Потым чытаў і перачытваў накіданыя на шматку паперы яе простыя і такія цёпла-пранікнёныя словы: «Віншую цябе з сынам! У нас усё добра. Беражы сябе. Да сустрэчы. Цалую». Яшчэ і яшчэ Антон углядаўся ў такі родны почырк. Ён так любіў касы дожджык яе пісьма, яму дадавалі аптымізму жыццярадасныя, поўныя любові яе словы, грэлі душу і акрылялі. Вяртаючыся дадому, ён двойчы даставаў паперынку з тымі шчырымі словамі, перачытваў і туліў да вуснаў.

**2**

— О, Прышчэпа! Антон! Бацечка! Віншуем! — гэтак наперабой, неспадзявана сустрэўшы, віталі свайго супрацоўніка сябры ў ціхай і ўтульнай кавярні, куды ён зайшоў павячэраць, усе трое падняліся з-за століка. — Ідзі ж, бацечка, да нас.

Хоць Антон Прышчэпа быў у адпачынку, на працы ўсе ўжо ведалі, што ён стаў бацькам, а першыя ўведалі якраз гэтыя паплечнікі — рэдактар Млынец, рэжысёр Чэхін і асістэнт рэжысёра Вяроўка. Пасля цёплых поціскаў сяброўскіх рук Антон сам прыставіў чацвёрты стул да іхняга стала, сеў, паклаўшы рукі на стол. Тут яму падалі ў рукі шклянку «сухача» — Чэхін усім наліваў з адкаркаванае пляшкі.

— За сына! За жонку! За цябе! — дружна выгуквалі тосты.

Выпілі. Антон паклікаў афіцыянтку, заказаў з лёгкай закуссю чатыры пляшкі віна — па адной на кожнага. Калегі былі нашмат старэйшыя за яго. Ён дужа любіў іх, бо гэта быў сапраўдны ансамбль прафесіяналаў, і яны яго любілі; такое ў хлопца было ўражанне, нібы ведае іх змалку, хоць папрацаваў з імі толькі год. Дзякуючы майстэрству кожнага працавалася ім лёгка, часам, па сутнасці, з нічога рабілі цікавыя перадачы — так умелі падаваць падзеі і факты.

Выпівалі за нованароджанага, за яго вагу і рост, за яго маці, за бацьку, за сям’ю, за каханне... Шчаслівы галава сям’і заказаў яшчэ віна, ізноў па пляшцы «на брата». Антон крыху захмялеў: ён амаль не закусваў, усё гаманіў, адказваў на пытанні сяброў.

З кавярні выйшлі на галоўную вуліцу горада, павольна пайшлі па ёй, не прамінаючы ніводнага віннага аўтамата. Гэтую навінку у абласным цэнтры толькі ўвялі, і было цікава глядзець, апускаючы ў шчыліну па 20 капеек, як у шклянкі наліваецца віно — там чырвонае, там ружовае, там белае...

Калі пазачыняліся ўсе крамы і кавярні, да Антона і яго сяброў прыйшла «ідэя» — паехаць на чыгуначны вакзал: там яшчэ працаваў буфет...

## 3

...Нейкае сіва-касматае страшыдла, з рыхлым, як воблака, тварам, біла па галаве, душыла за горла. «Я тут хачу ўладарыць! — крычала яно, аж ляцела рэха: арыць, арыць, арыць. — А ты павінен знікнуць!» Чалавек меў моцныя рукі, імі ён заўсёды лёгенька падымаў сваю любую, мог пасадзіць

яе на сваю далоню і гэтак несці. А тут яго дужыя рукі не маглі абараніцца, ён толькі спрабаваў іх падняць, а яны, як свінцом налітыя, ападалі...

Нешта ўсё дзерла і дзерла ў горле, сціскала яго якраз тады, як дзве неверагодна моцныя сілы завалодалі целам і душою: адна, натуральная і жыццядайная, поўная здаровага сэнсу, — бацюхна сон, другая, штучная, недарэчная і бессэнсоўная, — высокай ступені ап'яненне; як бы абсалютна паралізаванымі аказаліся ўся фізічная моц і свядомасць чалавека. Звычайна ў жыцці ён хутка знаходзіў выйсце з нялростых і цяжкіх абставінаў. А тут аказаўся бяссільны: сон быў глыбокі, стома — вялікая, ап'яненне — поўнае, прачнуцца ўсё яшчэ не мог, хоць у горле пякло вастрэй і вастрэй, бы мноства джалаў у яго ўпівалася. Чалавек няўцямна варочаўся на ложку, прыціскаўся тварам да падушкі, шукаў ува сне, ужо мала падобным на сон, край коўдры — хацеў акрыцца з галавою, але коўдра была пад ім і таму толькі яе ражок дацягваў да твару, — нішто не ратавала.

У такім стане апынуўся, вядома, Антон Прышчэпа, дваццацітрохгадовы малады чалавек, дома, у сваёй кватэры, што дасталася ў спадчыну ад Янінай бабулі, і ў гэтым крытычным стане яму пагражала штосьці страшнае. Ён круціўся, як на гарачай патэльні ўюн, то на бок, то на жывот, хаваючы твар у гарачую падушку, — заяўляла пра сябе самаахоўная функцыя арганізма. І ўражлівы зрокавы нерв маляваў сіва-касматае страшыдла, — сонны мозг не быў здатны на большае, толькі так выспявала яго каманда: трэба ратавацца, трэба прачынацца! Нарэшце штосьці гадкае, агіднае пачало перакрываць дыханне, чалавеку стала млосна, і вочы расплюшчыліся. Маланкай мільганула ў галаве пытанне: «Дзе я?», следам — другое: «Што са мной?» Праз незачыненыя дзверы з кухні ў пакой ледзьве прабівалася святло электрычнай лямпачкі, усе хатнія прадметы патаналі, бы ў густым тумане, у сінявата-шэрым дыме; смярдзела паленым. «Плітка!» — гарачая хваля памяці абудзілася і з пачуццём трывогі і сораму ўдарыла ў галаву. Ён падняўся і, хістаючыся, шыбануў на кухню, выцягнуў з разеткі шнур, зняў з электраплліткі па-

тэльню, на якой ляжалі бялява-шэрыя вугельчыкі. Плітка ўсё яшчэ была чырвоная, распаленая.

Ён паадчыняў дзверы і вокны, а сам выбег у двор.

Тое, што здарылася, хутка ацверазіла яго. «Божа мой, што я нарабіў!.. Я ж мог задыхнуцца ў атрутным дыме!.. Як там Яня з маленькім?» — падумалася пра сябе, пра жонку і сына...

Прайшоўся па кішэнях рукамі і не знайшоў у іх ні капейкі, а браў жа амаль усе адпускныя з сабою...

На небе свяціла поўня. Ён зірнуў на цыферблат наручнага гадзінніка, стрэлкі паказвалі 3 гадзіны і 33 хвіліны ночы.

Як ні моташна было, зрабіў лёгкую фізічную зарадку, так ён супрацьстаяў начному халадку, — на зямлі яшчэ сям-там ляжаў снег.

Калі з кватэры выйшаў дым і яна напоўнілася свежым чыстым паветрам, Антон, пазачыняўшы дзверы і вокны, вярнуўся да свайго ложка і толькі цяпер скінуў з сябе касцюм, кашулю, з ног пасцягваў шкарпэткі і забраўся пад коўдру.

**4**

Кружылася галава. Гулі рукі і ногі. Страшна хацелася спаць. Але ён, нібы кінастужку, пракручваў у памяці кадры-моманты ўчорашняга вечара і гэтай ночы. Адны з іх памяць зусім прапускала, да іншых зноў і зноў вярталася. Кавярня і вінныя аўтаматы помніліся даволі яскрава. Там, здаецца, усё было прыстойна. Цяпер яго найбольш хвалявала, як ён з кампаніяй паводзіў сябе на вакзале. Ці не вытварыў чаго? І як вярнуўся дадому? Яго здзівіла, што і пасля такога моцнага ап'янення ён валодае амаль усёй «хронікай» не толькі вячэрніх, а і начных прыгодаў — хоць бяры ды пішы сцэнар фільма, а не тое што здымай кадры па волі рэжысёра. Тут якраз узгадаўся рэжысёр Чэхін; прынцыповы і пільны, ён, відаць, з усёй сяброўскай кампаніі аказаўся найменш п'яны, бо даказваў буфетчыцы, што яна іх аблічыла, а тая даводзіла сваё, не прымала яго прэтэнзій, маўляў, яна чэсная і мае заслугі перад гандлем. Чым скончылася спрэчка, Антон не ведаў. Што ж там, на вакзале, пілі? Спачатку віно.

Але скончылі півам. Пэўна, ужо ні на што іншае не ставала грошай. Як выходзілі з буфета, Антон не памятаў. Чэхін будзіў яго ў машыне. Цікава, як ён разлічваўся з таксістам: няўжо ў яго яшчэ заставаліся грошы?.. Малайчына ж гэты Чэхін: правёў аж да дзвярэй. Дзверы Антон адмыкаў сам. Ён цяпер узгадваў да драбніцаў, што ж было дома. У яго ўначы абудзілася вострае пачуццё голаду, бо нідзе толкам не закусваў, тут і ўключыў электраплітку, паставіў патэльню, укінуў лыжку масла і выгарнуў з каструлі недаедзеную раніцай вараную бульбу. Плітка награвалася павольна. А ён адчуў ва ўсім целе стому, пайшоў з кухні ў пакой — да ложка, сеў, міжволі прылёг, імгненна і заснуў...

Набліжаўся світанак новага дня. У Антона ў галаве не было сумбуру. Перш чым заснуць і выспацца, ён абдумваў, як пабудуе дзень. У цэнтры дзённых клопатаў былі жонка і немаўля. Ён прыкідваў, у каго зможа пазычыць крыху грошай. Доўг верне хутка, бо заробіць ганарары, для чаго давядзецца паварушыцца. З тыдзень, пакуль выпішуць Яню з сынам, ён можа і павыходзіць на працу. Сёе-тое з тэлеперадач прапануе сталічнай студыі.

Непараўнальна больш Антона Прышчэпу хвалявала тое, як ён выбудуе сямейнае жыццё. Давядзецца навучыцца надточваць ганарарамі асноўныя свае заробкі хоць бы на той час, пакуль Яня будзе ў дэкрэтным адпачынку. Ну, піць ён не будзе — гэта факт! Адно што яшчэ добра адзначыць сваё сямейнае свята. Багата насклікае гасцей, запросіць і сваю ўчорашнюю кампанію. Як там яны ўсе?..

Антон думаў яшчэ пра тое, што яго ўратавала. Выпадак? Тое, што ў кватэры высокая столь і што бульба смажылася і згарала далёка ад ложка, дзе ён заснуў? А можа ноччу не спалася Яні, можа яна думала пра яго?.. Дзякуй Богу, усё абышлося... Яму захацелася абняць сваіх сямейнікаў. І ён абнімаў іх сваёй шчыраю душою.

# ДАЛІКАТНАЕ ПЫТАННЕ

«Божа мой!..» — прашаптаў Янковіч, уражаны і ўзрушаны зусім іншай — такой нечаканай — знаходкаю, калі, седзячы на падлозе, шукаў, перапоўнены творчым імпэтам, незавершаную сюіту сярод зваленых у сховах секцыі нотных сшыткаў, рукапісных артыкулаў, лістоў ад сяброў і лістоў-водгукаў ад прыхільнікаў яго таленту, а яшчэ між неабходнымі калісьці, ды надоўга занядбана-забытымі часопісамі, газетамі і выразкамі з розных выданняў (ён адно збіраўся ўпарадкаваць свой «каштоўны хлам», але рукі да гэтага так і не даходзілі), прашаптаў і ўздыхнуў, калі ўбачыў, што канверт з почыркам, да болю знаёмым, выпаў на падлогу з выпадкова разгорнутай газеты, не будучы ў свой час знойдзены і прачытаны. «Тры гады як Максіма не стала, — падумалася яму, — значыць, пісьмо праляжала яшчэ даўжэй». Ён падхапіўся, рукі пацягнуліся да нажніцаў, што ляжалі на самым краі стала. Ліхаманкава зрэзаў беражок канверта, дастаў тры жоўта-шэрыя аркушыкі і сеў на канапу.

«Дружа мой, дружа! — да яго, Янковіча, звяртаўся Максім Дзядкоўскі. — Цяпер, калі жыццё маё пайшло пад адхон, я спяшаюся сказаць табе дзякуй. За ўсё, за ўсё...»

«Пад наплывам пачуццяў, відаць, перабольшвае, — як пра жывога, падумаў Янковіч пра земляка. — Што я такое для яго зрабіў?..»

Але зямляк не перабольшваў, гэта Янковіч недаацэньваў свае якасці — рабіць дабро з такою лёгкасцю, з якою майстра-піяніст націскае на клавішы і адорвае людзей эстэтычнаю асалодаю.

Яны абодва былі прафесійныя кампазітары. Навучаліся ў кансерватарыі з інтэрвалам у чатыры курсы — адпаведна ўзросту: Дзядкоўскі быў на чатыры гады старэйшы; абодва пасля вучобы вярнуліся ў свой горад. Абодва адметныя, пра іх шмат пісалі ў друку, але кожны і сам ведаў, чаго варты.

Пісьмо ад Максіма Дзядкоўскага, калісьці ўкладзенае паштальёнкаю ў складзеную газету, а потым жонкаю Янковіча ўзятае з паштовае скрынкі і гэтак жа бесклапотна не заўважанае, кінутае разам з газетаю на стос яго папер, зараз раптоўна выклікала ва ўражлівай душы мноства ўспамінаў, звязаных з асобаю, у чыім лёсе так неверагодна кантрастна спалучаліся, так цесна перапляталіся творчыя ўзлёты, дасягненні і чалавечыя падзенні, няўдачы і жыццёвая драма. З аднаго боку — яркі дэбют і ранняя слава (яшчэ студэнтам Дзядкоўскі стаў вядомы ў кампазітарскіх колах), хуткі росквіт шчодрага таленту (ягоныя «Гімны каханню», «Снегавая рапсодыя», «Зорная саната», трыпціх «Краіна замкаў», араторыя «Нескароная цытадэль» увайшлі ў залаты фонд нацыянальнага музычнага мастацтва), любоў публікі, а з другога боку — фіяска сямейнае, ранні развод, у выніку якога без бацькі гадаваліся дзве дачкі, працяглая неўладкаванасць, запоі, хваробы...

Многія старонкі яго жыццёвай аповесці Янковіч мог пераказаць даволі дакладна. Хоць бы ўзяць гісторыю з апендыцытам. ...Неяк пад вечар завітаў да яго, хацеў паказаць яму свой новы вальс дый проста пагаманіць. А Максіму — не да гамонкі: хапіў востры боль унізе жывата. Грэлка не памагала. Палез у ванну з гарачай вадой, а там яму стала зусім блага, сам і вылезці не змог — Янковіч дапамагаў, ён жа выклікаў хуткую дапамогу. У хірургіі зрабілі неадкладную аперацыю, яна аказалася дужа складаная: лопнуў загноены апендыкс — пагражаў перытаніт. Цудам выратавалі. Але пасля гэтага Максім застаўся худзюшчы, як з крыжа зняты. Янковіч усё яшчэ хваляваўся за яго здароўе, часта праведваў.

І пазней клапаціўся пра яго, нават калі, запрошаны на працу ў адзін з мінскіх аркестраў, дзе яго ведалі як скрыпача-віртуоза, пераехаў з сям'ёй у сталіцу.

Максіма Дзядкоўскага ён часта вітаў у сваёй мінскай кватэры, хоць і асуджаў, што зашмат курыць, часта і без усялякай меры выпівае, выслухоўваў ягоныя шматлікія скаргі, меланхалічныя развагі пра жыццё-быццё, пазычаў яму грошы. Займеўшы аўтарытэт у Саюзе кампазітараў і

знаёмства ў выдавецтве, Янковіч паспрыяў выданню зборніка выбраных твораў земляка. На тытульнай старонцы Дзядкоўскі пакінуў аўтограф: «Майму добраму другу, які падтрымаў аўтара гэтае кнігі ў цяжкую для яго часіну, — з удзячнасцю...» А цяжкая часіна прыйшла, калі — пасля разводу з жонкаю і чарговага запою — ён страціў працу... Таму атрыманы ім ганарар аказаўся адзіным паратункам перад даўгавой прорваю. І, уручаючы тады сваю кнігу Янковічу, яе аўтар хацеў пацалаваць яму руку, але імгненна сам трапіў у моцныя мужчынскія абдымкі.

Цяпер, чытаючы і перачытваючы пісьмо-споведзь земляка, Янковіч уяўляў яго худы твар і вялікія светла-карыя журботныя вочы. Падзяка выказвалася насамрэч «за ўсё, за ўсё».

Апошнія гадоў сем Дзядкоўскі атрымліваў сякую-такую пенсію з прычыны страты працаздольнасці, жыў у аднапакаёвай кватэры. Па-ранейшаму страшна піў, амаль не закусваючы, бязбожна смаліў цыгарэты. Слабы, хадзіў абапіраючыся на кульбаку, і калі наязджаў у Мінск, то мусова было яго сустракаць на вакзале, а ў дзень ад'езду праводзіць да цягніка. Ён і гэта не забыўся. Асабліва ж дзякаваў за тое, што Янковіч наведваў яго ў інстытуце туберкулёзу ў Навінках, дзе яму выразалі частку лёгкіх: драма жыцця захварэлага на рак Дзядкоўскага ўвайшла ў апошнюю стадыю...

Вечарэла. Думкі Янковіча павярнуліся да сямейнікаў. Павінны былі неўзабаве з'явіцца з гімназіі — жонка-настаўніца, з універсітэта — сын-студэнт, з дзіцячага садка — нявестка з малым, з ліцэя — дачка-ліцэістка. Ён зноў схіліўся над лістом, узяў у рукі канверт, паглядзеў на паштовыя штэмпелі. Выходзіла, Дзядкоўскі пісаў гэты ліст за месяц да смерці, якраз тады як ён, Янковіч, адпачываў на поўдні з жонкаю і малым хваравітым унукам. Хоць і ведаў, што земляку блага, але думаў, яшчэ пажыве. Нават калі сасніў, быццам з ротаываліўся зуб (звычайна яму такі сон прадказваў смерць кагосьці з блізкіх), не падумаў, што, пэўна, дні Дзядкоўскага палічаныя.

Вярнуўся Янковіч з мора пасвяжэлы, загарэлы; аж сорамна стала, калі, яшчэ й соладка дома паспаўшы пасля

доўгай дарогі, пачуў ( пазваніў Кастусь Князько, сакратар абласнога аддзялення кампазітарскай суполкі краіны), што Дзядкоўскі памёр.

Сумную вестку Янковіч атрымаў раніцай, а ўвечары ўжо быў у сваім родным горадзе. Разам з Кастусём ды іншымі сябрамі суполкі кампазітараў выказваў спачуванне гарадскім родзічам памерлага сябра, потым разам з імі паехаў на яго радзіму: цела нябожчыка павезлі на зямлю яго продкаў, у палескую вёску, што раскінулася ўздоўж Ясельды. Відаць было па ссохлым твары, што зямляк моцна пакутаваў ад хваробы. Князько, якому даводзілася часцей за ўсіх творцаў сядзець ля яго ложка, расказваў, як Дзядкоўскі, адчуваючы свой блізкі скон, мужна трымаўся.

У развітальным лісце-пасланні да Янковіча зямляк шмат пра што гаварыў з уласцівай яму годнасцю і пачуццём меры; нават рэзка крытыкуючы эстраднае мастацтва, шэраг кампазітараў і паэтаў, ён захоўваў гэтыя свае якасці. І ўсё ж у адным выпадку страціў пачуццё меры — напісаў раптам прозвішча Князько ў зневажальнай форме множнага ліку: « У нас тут, як ты ведаеш, княжаць Князькі. На мяне даўно яны паглядаюць звысоку. Арлы!..»

Янковіч дужа паважаў Кастуся Князька і за яго прыстойную творчасць, і за чалавечнасць, і за арганізатарскі талент. Успомнілася, якія праніклівыя словы казаў Кастусь над труною земляка, як цёпла гаварыў пра яго, гаварыў пра таленавітага, мужнага і гордага чалавека, добрага старэйшага сябра. Успомнілася яшчэ і пра тое, як за адзін год дамогся ў вярхах вобласці, каб устанавілі бронзавы бюст на магіле Дзядкоўскага.

«Што ж ты чаўпеш, Максім?! — як да жывога, звярнуўся да яго Янковіч. — За што зневажаеш? І што рабіць, скажы, з тваім лістом?»

Яго належала перадаць у архіў мастацкага музея, бо ён датычыўся асобы творцы і змяшчаў у сабе думкі, пачуцці, перадсмяротныя выказванні дзеяча, які належаў краіне, гэта была часцінка яго эпісталярнай і ў пэўным сэнсе духоўнай спадчыны. Але беспадстаўная абраза на адрас Кастуся

Князька прымушала шукаць нейкі іншы варыянт. Знішчыць пісьмо? Хоць бы таму што яно і пры дастаўцы з пошты магло прапасці, як прападала тры гады на папяровай звалцы ў секцыі. Прападала, але ж не прапала... Магло быць здадзена разам з газетамі як макулатура, аднак жа ацалела... Расказаць камусьці талковаму, параіцца? Не, сведкаў тут не павінна быць! Іншая справа — паказаць Кастусю: мо ён ведае паходжанне абразлівых слоў Дзядкоўскага? Але ці прынясе гэта палёгку і ці вырашыць пытанне? Проста перакіне цяжар на сэрца Князька, параніць яму душу. «А што, калі тыя словы затушаваць або сцерці лязом брытвачкі?» — прыйшла, здавалася, свежая думка, ды ёй насуперак імгненна ўзнікла другая: «Хто мне даў права быць цэнзарам Дзядкоўскага?» «Але пры чым тут цэнзар, калі мой сябра змарозіў несусветнае глупства — пакрыўдзіў нашага агульнага сябра, хутчэй за ўсё ўзяўшы з гора лішні глыток ?..» — разважаў ён далей.

Дадому вярталіся Янковічавы сямейнікі, кожны з праблемамі сваімі і клопатамі. Вячэралі, гаманілі, рыхтаваліся да заўтрашніх заняткаў, глядзелі тэлепраграмы, клаліся спаць.

Янковіч не мог заснуць. Яго мучыла далікатнае пытанне: што рабіць з лістом Дзядкоўскага? Але цяпер чамусьці ён пачынаў перабіраць у памяці выпадкі непрыняцця адным творцам другога. Звычайна ад бяссоння Янковіча ратавалі кнігі, чытанне лежачы. У той жа секцыі ён узяў адзін з вялікіх і яскравых альбомаў, толькі адгарнуў вокладку — убачыў: тут заляжалася яго незавершаная сюіта. Але Янковіч адчуў, што яна яму ў бліжэйшы час не спатрэбіцца: у ягонай душы браў пачатак новы твор — паэма пра Дзядкоўскага, твор, у якім хацелася паказаць не толькі духоўную постаць і цяжкі лёс кампазітара, а і складаны, супярэчлівы характар. Рукі Янковіча памкнуліся да стала па нотны сшытак. Неўзабаве тут, як ластаўкі на правадах, размясціліся першыя ноты паэмы.

# ПАДЛА

— Ну, дзядзька Павел, кампанію табе вядуць — такога ж дзеда, як ты сам, — сказалі Паўлу Мікалаевічу Навіку Коля і Толя, маладыя хлопцы, калі ўвайшлі з калідора ў палату. — Абмываць падзею будзем сёння ці заўтра?

— І сёння і заўтра абмыем, — на жарт адказаў жартам гаваркі Павел Навік. — Сёння чаем, заўтра кампотам альбо кісялём.

— А што ж кефір мы забылі? — прадоўжыў нясумную гамонку Толя.

— Дарэчы, у кефіры некалькі сотых ці то нават дзясятых працэнта алкаголю, — падтрымала размову Надзея, дачка Паўла Мікалаевіча, што прыехала ажно з Каўказа, каб праведаць свайго бацьку, і сядзела зараз на табурэтцы пры ягоным ложку.

— Гэта і я меў на ўвазе, — усміхнуўся хлопец.

А тут ужо і новенькага прывяла медсястра з прыёмнага пакоя. Новы дзед аказаўся надта слабы. Ён, цяжка дыхаючы, прашкандыбаў да незанятага ложка ля шырокага і высокага бальнічнага акна і моўчкі ўлёгся на ім, побач з ложкам Паўла Навіка. Маўчанне доўжылася некалькі хвілінаў, яго парушыў дзядзька Павел.

— Адкуль прыбыў? — ён гучна запытаўся ў старога.

— З Ружанаў.

— Я ў Ружанах усіх пажылых ведаю, а цябе нешта не пазнаю.

— Тут я ў прымаках, сам са Шчытнага.

— І хто ж ты будзеш? — дапытваўся Павел Навік, які пры ўсёй прыроднай цікаўнасці ўжо слабавата бачыў.

— Я — Шут. Ці знаў такога?

Як толькі пачула гэтае прозвішча Надзя, яна ўзгадала ваенную часіну, калі ў іх двары марадзёрствавала купка партызанаў, якіх жыхары сяла баяліся больш чым чужынцаў. Не толькі ў хаце, а й у сене, і ў саломе, і па ўсім двары яны

арудавалі, шукалі нажытае сям'ёю дабро, нават шампаламі прапорвалі зямлю і такім чынам знайшлі закапаную скрыню з адзеннем. Пагрузілі знаходку на фурманку. Дзесяцігадовая Надзечка прасіла-енчыла:

— Дзядзечкі, аддайце хоць маю зялёную спаднічку і сінюю сукенку!

— Прэч, смаркатае шчанё! — выкрыкнуў тады Шут-старэйшы, які памагаў марадзёрам, бо сярод іх быў і ягоны сын.

Надзін бацька непараўнальна больш, чым дачка, сербануў гора ад дзеяў гэтага ліхога чалавека. Ды на яго пытанне адказаў надзіва стрымана.

— Як жа не знаць! У Вараўнілаўцах пасля вайны ты быў начальнік.

— Дзела прошлае, — сказаў ён, крэкчучы.

— Пэўна, што не цяперашняе, але людзі ўсё памятаюць...

Шут нечакана, усім надзіва, імгненна заснуў. Ува сне ён стагнаў.

— Няўжо той самы гэта Шут? — спытала Надзя ў бацькі.

— Ты ж лепей за мяне бачыш. Хіба не пазнала?

— Я ж думала, ён даўно памёр, бо і ў вайну ўжо быў не малады.

— Як бачыш, жывы. Ну, за паўсотні гадоў змяніўся. Так што можаш наноў пазнаёміцца.

Цяпер у Надзі ў вачах імгненна з'явіўся новы эпізод, ужо з мірнага жыцця. З кампаніяй раённых агентаў, якія не давалі спакою сялянам за нявыплачаныя падаткі ды бралі людзей за горла, каб куплялі аблігацыі, заявіўся да Навікоў і ён, тадышні старшыня сельсавета, прытым з гарэлкаю.

— Ну, Павел, шукай закусь, мы да цябе заскочылі во з літрухаю, — як гаспадар сяла літаральна з парога ўпэўнена пачаў ён.

— То праходзьце ў пакой, сядайце, толькі, як кажуць, чым хата багата... Бо гаспадыня панесла пеўня прадаваць, дачка масла біла, а я абганяў бульбу, толькі вярнуўся з поля. Па кухні вецер гуляў...

Бацька дастаў з печы капусту і прынёс з чыгунком на стол, папрасіў дачку падаць хлеб, талеркі, лыжкі, шкляначкі.

— Выбачайце, госці, за такую нішчымную закусь, — сказаў ён, сядаючы з краю, — накладвайце кожны сабе.

Шут кінуў вокам на Надзейку, што тулілася да бацькавага пляча, і, адкаркоўваючы пляшку, прамовіў:

— А можа, маслічка свежага малая падасць?

Дзяўчынцы крыўдна было, бо і самой хацелася хлеба з маслам, аж выла ў жываце, ды яна чакала матулю. І ведала, што масла чакаюць і тры меншыя сястры, і, тым больш, хворы на сухоты старэйшы брат.

— Яно ж яшчэ не дастатае з біянкі і не памытае, — адказала Надзейка.

— Пойдзе і непамытае, — падміргнуў агентам старшыня, напаўняючы шкляначкі.

— О то ж бо, — падтрымалі Шута раённыя агенты. — Пойдзе, пойдзе!

— Дастань, дачушка, масла, — сказаў бацька.

Надзейка адвіхнулася ізноў на кухню, накроіла там тоўстых лустаў хлеба, намазала іх маслам і паставіла ў цэнтры стала.

— Вось гэта па-нашаму, — пахваліў яе сельскі начальнік.

З рынку вярнулася маці. Прыйшла і не павіталася.

— Што ты такая пячальная, Пічэўская, ці, можа, злосная? — яхідна заўсміхаўся мясцовы начальнік.

— А хіба загадаеш быць вясёлаю? Ці ж даўно ты з хеўраю абабраў нас?.. Нават дзіцяці ніц не пакінуў.

— Я не ўзяў ніводнай шмоткі.

— Браў ці не браў, мы не ведаем, але назаўшы ўквэцаўся ў брудную справу.

— Раю табе прыкусіць язык, Антаніна, а то пашкадуеш, — прыгразіў Шут, пры гэтым падняў шкляначку, спрабуючы ўсміхнуцца, і сказаў: — Вып’ем за нас.

Ён першы прычасціўся горкаю «Маскоўскаю». Начальнікі дружна пілі і закусвалі. Гаспадар, чалавек памяркоўны, моўчкі іх падтрымліваў: уважылі, прыйшлі з гарэлкаю. А што

ніхто з іх не запрасіў ягоную жонку, то ён гэта апраўдваў чыста мужчынскаю кампаніяй.

Пакуль Надзя ўспамінала, Шут працягваў зрэдку стагнаць праз сон. Потым у палату ўвайшла медсястра і, раздаючы лекі, пабудзіла яго.

— А хто такі ты? — запытаўся ён у дзядзькі Паўла.

— Я з Варанілаўцаў. Навік Павел.

— Не згадаю. А дзе твая хата, з якога канца?

— Хата мая якраз насупраць Гармановае. Гармана ўсе ведаюць, ён у царскую вайну не выязджаў у бежанства, у сваім сяле з бацькамі застаўся.

— А што за маладзіца каля цябе? — спытаў Шут, абы не маўчаць.

— Гэта мая дачка Надзя, аж з Каўказа прыехала, там яе сям'я.

Надзя хацела сказаць, што ў час вялікай вайны яна была малая і горка плакала, калі забіралі скрыню вопраткі з іх двара, прасіла пакінуць хоць бы спаднічку і сукенку, але ён, Шут, не пашкадаваў малую, нават вызверыўся. Сказаць то хацела, ды прыклад брала з бацькі, які ні ў чым Шута не дакараў. Тады яна адно асмелілася нагадаць, як частавала маслам яго і дзядзькоў, што з ім разам пілі гарэлку.

— Памятаеце? — запыталася Надзя.

— Не, не помню. Мо табе гэта прыснілася.

Надзін бацька не забыўся, як гэты самы Шут аддаў ніза-што яго пад суд, напісаўшы данос, быццам ён, Навік Павел Мікалаевіч, сарваў заданне па вывазе лесу. Гэта ў той час як задання ніякага не было, бо конь у Паўла быў кульгавы. Калі Антаніна ў Шута пыталася, за што мужа ўпёк у турму, той адказаў: «За твой востры язык». Ён і пазней помсціў сумленнай жанчыне: калі мусіў уручыць ёй медаль за пецярых выгадаваных дзяцей, то грашовую прэмію ўсё ж не даў, таму што, маўляў, адну дачку нарадзіла ў вайну. Антаніна не сказала яму, што, калі б у ваенны час не нараджаліся дзеці, то пасля вайны адкуль узяліся б у школах вучні, пасля — у інстытутах студэнты, а ў войску прызыўнікі. Яна ўвогуле нічога не сказала ад крыўды. Адно заплакала, палічыла

сябе вінаватаю: мусіць, начальства лепш разбіраецца за яе, грэшную?..

Цяпер Паўлу Навіку цяжка было зразумець, ці то насамрэч Шут не можа пазнаць яго ды ўспомніць мінулае, быццам у яго памяці замыканне стрэслася, суцэльныя там правалы, дый годзе, ці ён гэтак толькі лоўка прыкідваецца.

— А што ты ўвогуле памятаеш? — амаль з абурэннем звярнуўся да яго Павел. — Як забілі Урбановіча, хоць гэта ведаеш? Маўчыш. Дык слухай.

Ён распавядаў пра тое, як камандзір партызанскай брыгады Іосіф Урбановіч 20 ліпеня 1944 года прыпыніўся з партызанамі на лужку паміж Каплямі і Варанілаўцамі, дзе рэзка папярэдзіў марадзёраў: «Адкажаце ўсе па законе!» У гэты час адзін з віноўных стрэліў яму ў спіну... Слаўны быў камандзір. Пра яго мне чытала найменшая дачка. Павел не паспеў сказаць: «у нараджэнні каторай ты абвінаваціў маю Антаніну». Не, не памёр Шут, а проста ізноў заснуў. Ізноў ува сне стары стагнаў.

— Ну, татачка, папраўляйся, я пайду ўжо, — Надзя развіталася з бацькам. — Адно скажы мне, чаму ты прамаўчаў, што Шут у нас у сядзібе быў з марадзёрамі заадно, а пасля паклёпнічаў на цябе і загнаў у няволю.

— Я пашкадаваў яго: слабы, такі хворы, усё стогне...

Калі дома Надзя расказала пра ўсё маці і брату, маці здзівілася, што муж яе такі міласэрны, а брат папракнуў сястру, чаму яна сама не сказала гаду ў вочы ўсё, што пра яго думае. Нейкае імгненне ён памаўчаў і дадаў:

— Разумееш, кожнае падла, незалежна ад узросту і стану здароўя, павінна напоўніцу ўсведамляць, што яно і ёсць падла.

# СМЕРЦЬ ЭКСТРАСЭНСА

*Светлай памяці В.А. Аўсюковай*

**1**

Не сонца паўднёвае, нястомна-ласкавае і вясёлае, і не мора Чорнае, што зачароўвае душу сваім прасторам, багатым пералівам колераў у напружаных пад ветрам хвалях, бесклапотна-гарэзлівымі дэльфінамі і заклапочанымі ў палёце чайкамі, і што так супакойвае шумам прыбою, не жаданне адпачыць ад працоўных і сямейных будняў паклікалі Вераніку Навіцкую на самым пачатку вясны ў райскі куток матухны Зямлі. Цяпер было неадольнае жаданне — і для гэтага з'явілася магчымасць — сустрэцца з родзічамі. У Сімферопалі, апрача іншых, больш далёкіх сваякоў, жылі дзве родныя сястры, старэйшыя за яе, ужо аўдавелыя. Дужа хацелася пабачыцца з імі, як след абмяняцца навінамі, нагаманіцца. Карцела завітаць і ў Севастопаль — да Веры Андрэеўны, экстрасэнса, вядомага ў Крыме і за яго межамі. Некалі Вераніка Навіцкая і яе менская радня штолета наведвалі сваіх крымчакоў, ездзячы на мора адпачываць, цешыцца паўднёвым сонцам, гаючымі паветрам і вадой, а яны, крымскія беларусы, прыязджалі ў свой лясны і азёрны край, часта якраз з тою самаю Верай Андрэеўнай, якая тут, як і там, на цудоўным паўвостраве, памагала многім людзям выбавіцца ад розных хваробаў ці проста падтрымаць здароўе. Але цягам трох апошніх гадоў іх сустрэчы перарваліся.

Рушыць у няблізкую і нятанную дарогу, на якую Вераніка паціху настройвалася і да якой спакваля рыхтавалася, ёй дазволіў ранні, паводле графіка, чарговы адпачынак; пазней, у разгары вясны, а тым больш улетку, не адпусціла б лецішча, бо з красавіка па кастрычнік там яна штогод усоўвала галаву ў хамут бясконцых і такіх учэпістых клопатаў, умуд-

раючыся іх чаргаваць з асноўным заняткам — выхаваннем дзяцей у садку.

## 2

У плацкартным вагоне ёй не пашэнціла, бо насупраць сядзела мажная кабета, абцяжараная рэчамі: апроч дробных клункаў, якія сяк-так уладкавала яна пад сядзеннем, стаялі, займаючы праход і замінаючы нагам, буйнагабарытны чамадан на калёсіках і каляска з прымацаваным да яе палатняным мяшком, чымсьці напакаваным. На просьбу адвязаць мех ад каляскі кабета не пайшла, сказала, што пасля не зможа гэтак жа прывязаць; была паставіла на незанятую бакавую полку, ды правадніца прымусіла зняць.

Незадоўга да адпраўлення цягніка ў вагон ускочыў лысы мужычок з невялікім пакункам у руках, прасіў, каб напраміла Бог хтосьці з пасажыраў узяў з сабою яго перадачу, па якую ў Запарожжы прыйдзе ягоная дачка.

— Тут радыётэлефон і дзесяць даляраў, — казаў ён, паказваючы правай рукою на пакунак, што ляжаў у левай руцэ. — Калі ласка... Хто выручыць?

Запанавала маўчанне. Мужчыны з суседніх месцаў раскатвалі скручаныя матрацы на верхніх полках — рыхтаваліся да сну.

— Я ноччу буду спаць, — сказала мажная кабета.

Толькі добрая душа Веранікі адгукнулася, узяла на сябе лішні клопат.

Быў позні вечар. Цягнік, згодна з графікам руху, у Запарожжа абяцаў прыбыць а другой гадзіне ночы. Баючыся праспаць не такую ўжо далёкую станцыю, Вераніка наважылася не спаць, пакуль не вызваліцца ад чужога пакунка. На сон яе пакуль і не хіліла, бо ўсё лапатала тая самая кабета, што абставілася такімі няззручнымі рэчамі, — распавядала пра сябе ўжо лежачы:

— Вязу трыкатаж, танна закупіла ў Мінску. Сяго-таго нашыю сабе, дачцэ, унучцы, астатняе прадам: у нас усё нашмат даражэй.

Вераніцы лапатуха не давала і слова ўставіць. Яна як бы адчула незададзенае пытанне спадарожніцы, таму працягвала:

— Жыву ў Гурзуфе. Летам бяру кватарантаў, размяшчаю і ў доме, і ў прыбудоўцы, сама начую ля прыбудоўкі. З мужам развялася. Дачка — у іншым горадзе. З зяцем не дружу. Зяць любіць толькі ўзяць...

Вераніка міжволі падумала пра свайго зяцька. Дзеля дачкі ўжо тры гады яго трывае — і падае, і прыбірае, а ён будзе ляжаць калодай з адным матывам: «Я стаміўся...» Дурная, аддала маладым спальню, сама з гаспадаром туліцца ў маленькім пакойчыку. А трэ' было мо выправіць іх на прыватную кватэру, як робяць мудрэйшыя людзі, — на адлегласці была б мілейшая. Ды ёй стала няёмка ад такой думкі.

Тым часам гаварлівая спадарожніца працягвала распавядаць пра сябе:

— Вы мо падумалі, чаго я так стараюся здабываць грошы? Пенсія ў мяне слабая: на прадукты й то бракуе, а ўжо й здароўе кульгае, а лякарствы сталі дарагушчыя...

— Нашто вам лекі? У вас жа ў Крыме ёсць Вера Андрэеўна, экстрасэнс! Няўжо не ведаеце?

— Ведаю, але чула, што яна пераехала з пасёлка ў Севастопаль, я ж адраса не маю.

Вераніка дала ёй патрэбны адрас і доўга распавядала пра цуды, якія экстрасэнс дэманструе дзякуючы свайму моцнаму біяполю.

Мажная цётухна, пэўна, супакоілася, калі займела патрэбны адрас, бо павярнулася на бок і праз хвіліну-другую пачала выводзіць смешныя мелодыі пана храпавіцкага. Яшчэ раней паснулі мужчыны на верхніх полках. А Вераніка працягвала перабіраць у памяці найбольш яркія эпізоды, звязаныя з наездамі экстрасэнса ў Менск. Калі Вера Андрэеўна завітала да Навіцкіх першы раз, на сустрэчу і знаёмства з ёю Вераніка паклікала ў сваю кватэру сваякоў, сяброў і суседзяў. Уражанні былі ва ўсіх ашаламляльныя: лёгкім пакалыхваннем рук над ляжачымі пацыентамі цудоўная госця здымала і павышаную тэмпературу, і галаўны боль, і

рэгулявала артэрыяльны ціск. За тры сеансы загаіла язву страўніка маладому хлопцу, якому нечаканая хвароба была тармазнула вандроўку на Кубу. Пасля візіту да экстрасэнса юнак прайшоў рэнтген: нават следу ад язвы не засталося. Яшчэ Вераніка ўспомніла, як Вера Андрэеўна прадухіліла ад аперацыі на пячонцы чалавека, у якога ўжо і твар быў учарнелы, зямлісты. Праўда, з яго хваробаю яна змагалася тры дні запар. Не раз ёй удавалася спраўляцца з анкалагічнымі захворваннямі. Нездарма аб ёй хутка па ўсёй сталіцы пайшла добрая слава. У дзень яе прыезду чарга да кватэры Навіцкіх на восьмым паверсе ішла ад самага першага паверха. Аднаго разу атрымалася анекдатычнае здарэнне: стомленыя доўгаю чаргою людзі не хацелі пусціць у кватэру яе гаспадара, які вяртаўся дадому з працы, пакуль не ўпэўніліся, што ён тут насамрэч пражывае. Да экстрасэнса ішлі і старыя, і малыя, і проста дарослыя, людзі ці не ўсіх прафесіяў. Чамусьці многа прыходзіла медыкаў. Словам, ішоў народ.

Аднойчы пабываў у Веры Андрэеўны народны пісьменнік Янка Брыль. Іван Антонавіч назваў яе Зорай, пад такім найменнем і апублікаваў свой невялікі твор у галоўным літаратурным часопісе краіны.

Вагон, у якім ехала Вераніка, аказаўся занадта цёплы, і яна прайшла ў тамбур, каб трохі падыхаць халаднейшым паветрам. Там, у тамбуры, лёгка дыхалася. Праз халоднае шкло дзвярэй яна паглядзела на неба, убачыла непадалёк ад маладзічка даволі яркую зорку. Цяпер ёй думалася пра тое, якое ўдалае найменне Брыль знайшоў для незвычайнае жанчыны! Вера-Зора экстрасэнсам была незвычайным: ніякага рэгламенту не прызнавала, магла за дзень прыняць каля ста чалавек без аніякага перапынку, забываючы і пра поўдзень, і пра вячэру; адно не адмаўлялася ад пітва. Вячэрала, як правіла, познім вечарам, калі ўсе хворыя разыходзіліся. Ежу ўжывала простую, часам нічога не ела, апрача селядца з хлебам ці з бульбаю; любіла бульбу ў мундзірах. Грошай за свае сеансы не патрабавала, нічога ні з кога не вымагала; ад людское шчырае падзякі не адмаўлялася.

Вераніку Навіцкую не мог не ўражваць яшчэ адзін дар Веры-Зоры — дар яснабачання. Праўда, яна прадказвала падзеі вельмі рэдка, але, як кажуць, метка. Гэта ж трэба прадказаць так дакладненька сямейную падзею: яна назвала не толькі год і месяц, а нават і дзень вяселля іхняе, Навіцкіх, дачкі!..

Пра самую сябе аднаго разу сказала, што пражыве 79 гадоў.

У роздумах-успамінах Вераніка не заўважыла, як цягнік прыйшоў на станцыю Запарожжа. Выйшла з клуначкам спачатку ў тамбур, пасля — на перон. Але ніхто ніадкуль не ішоў да вагона. Аж толькі за пару хвілінак да адпраўлення цягніка прыбегла маладзіца з дзіцем на руках па той самы клуначак, які не даваў спакою Вераніцы.

Нарэшце, і яна, Вераніка, уляглася і пад магутную мелодыю бойкіх колаў заснула. Чуйны дарожны сон зусім нечакана абарваўся імкліваю прабежкай брыдкага прусака па высунутай з-пад коўдры руцэ. Яна падхапілася, пайшла скардзіцца правадніцы, а тая пачала даводзіць, што ў вагоне прусакоў няма, што, маўляў, гэта пасажыры з дому прыносяць на сваім адзенні.

### 3

Зрэшты, пылок дробных дарожных трывог яна стрэсла з сябе адразу, як толькі на пероне ўбачыла старэйшую сястру Надзю, яе дачку Люду і Людзінага мужа Барыса. Яны так цёпла ёй усміхаліся і кінуліся ў абдымкі!

Пакуль ішлі да Барысавай «Таёты», сястра сказала:

— Цяжка Веры Андрэеўне: хварэе і амаль сляпая ўжо. Давай адразу яе праведаем, мо чымсьці й дапаможам.

Вераніцы спадабалася сестрына прапанова. Барыс, вопытны кіроўца, упэўнена вёў машыну горнаю дарогаю. Наведалі два манастыры ў скалах. У прыгожых мясцінах спыняліся, выходзілі на паляны, нарвалі цэлы букецік пралесак, а калі натрапілі на дрэва ў ружавата-бэзава-белым цвеце, адламалі

маленькую галінку, на якой не было яшчэ ніводнага лісціка, гадалі, ідучы да легкавіка, ці гэта магнолія, ці персік.

Дом, дзе жыла і шчыравала экстрасэнс Вера-Зора, Барыс добра ведаў, бо не раз падвозіў туды цешчу і жонку, таму хутка пад'ехаў да высокага і шчытнага плота, аздобленага зялёнаю фарбаю.

На званок у дзверы выйшаў у калідорчык гаспадар, Міхаіл Восіпавіч, даволі раздабрэлы чалавек сталага веку.

Калі расчыніліся дзверы, Вераніка першая азвалася:

— Прывітанне з Менска!

Надзя дадала:

— Гасцей прымаеце?

— Будь ласка, будь ласка! Доброго дня! — прывітаў гасцей гаспадар, абняў Надзю і дадаў, паказваючы на дзверы пакоя, размешчанага за кухняю: — Вера — там.

Яны ціха зайшлі ў прасторны пакой, павіталіся і селі на канапе. Вера Андрэеўна, седзячы на табурэтцы, лекавала жанчыну, што ляжала на ложку. Па галасах пазнала ўсіх, пацікавілася, калі прыехала Вераніка.

Вераніка падышла да яе, пацалавала, павіншавала з вясною, тулячы да яе цудадзейных рук пралескі, потым аднесла краскі Міхаілу Восіпавічу, каб паставіў у вазачку.

«Божа мой, што з ёю? — думала, несучы букецік. — Так схуднела, зморшчылася! І такая сагнёная!»

Вера Андрэеўна, калі адправіла дамоў пацыентку, падсела на канапу да прыезджых гасцей. Вераніку не здзівіла тое, што, у адрозненне ад папярэдніх сустрэч, яна больш распавядала пра сябе: якая хворая была, з гарачкай — сорак градусаў... Здзівіла іншае — тое, што і ў такім цяжкім стане працягвае прымаць хворых.

Перапынак у яе атрымаўся зусім кароткі, бо неўзабаве гаспадар паведаміў, што зноў людзі чакаюць. І тут жа ўсе пачулі яе звычнае «заходите».

Сваіх пацыентаў яна цяпер лекавала ў асноўным моўчкі. І следу не заставалася ад колішняй натхнёнасці, з якой ратавала людзей, распавядаючы ім увесь час гісторыі з жыцця, пераважна вясёлыя і смешныя, а часам драматычныя, і

адорваючы кожнага шчодраю дозаю аптымізму. Цяпер, калі людская чарга да яе на прыём канчалася, яна бралася за галаву рукамі і, відаць, глыбока задумвалася. Пэўна, балюча пераэжывала стан, у якім апынулася, бо перад ёю паўставалі пытанні, на якія не знаходзіла адказаў. Яна вагалася, дзе ёй рабіць аперацыю на вачах — у Крыме ці ў Адэсе, радзілася з блізкімі. Хутчэй за ўсё і сумнявалася, ці рэальна гэта — вярнуць сабе зрок, калі няма канца чэргам да яе на прыём. Не выключана, што і ўпадала ў дэпрэсію, прадчуваючы крах.

Пакуль Вера-Зора прымала яшчэ некалькі новенькіх хворых, Вераніка звярнула ўвагу на запыленыя ў пакоі рэчы, на павуцінне, якое аплятала куткі пакоя зверху данізу, на дыван, сям-там пасечаны моллю, і на карніз, заляпаны ад даўняе пабелкі, і шапнула Надзі на вушка: «Давай папросімся нанач, каб раніцай прыбраць у кватэры».

— Колькі хочаце жывіце, — адказала гаспадыня на іх пытанне пра начоўку. Тады Барыс і Люда развіталіся і адчалілі дадому.

За вячэраю Вера Андрэеўна жалілася на нявестку, бо тая спыталася ўжо, дзе яе пахаваць — у Севастопалі ці на радзіме, на пасялковых могілках, — заўчасным пытаннем параніўшы сэрца. «Мы ўсё жыццё з ёю ладзілі. І раптам — такое!» — недаўмявала кроўна пакрыўджаная свякроўка.

**4**

Яшчэ адну ноч Вераніка недаспала: не давала супакоіцца ўбачанае. «Божа мой! — думала яна. — Што сталася з жыццярадаснай і ўнікальнаю асобаю! Няўжо гэта — канец?..»

Раніцай яна з сястрою прыбірала ў кватэры. Сёстры шчыравалі, як маладыя. Выцiралі пыл, мылі сервант, секцыю, падлогу, выбівалі і замывалі ў двары вялізныя дываны.

Прыязджаў на «Джыпе» з Чырвонага Маку сын Веры Андрэеўны з жонкай, старэйшаю дачкою і ўнукам. Наводзіць парадак ніхто з іх не памог. І ніхто не чырванеў ад сораму, што родны ім чалавек не адзін месяц жыве ў запушчанай кватэры. Пасядзелі, пагаманілі з гадзінку, загрузілі сумкі

тушонкаю, салам, каўбасамі — тым, што напрывозілі людзі, удзячныя за лячэнне, — і дунулі ў свой Чырвоны Мак.

З цяжкім сэрцам вярталася Вераніка ў Сімферопаль, а пасля і ў Менск. Яна думала пра тое, колькі людзей экстрасэнс аберагла, уратавала, вярнула да жыцця. Не злічыць! Ніхто нават прыблізна не можа назваць колькасць. Так шчыра адгукалася на людскія беды: хуценька збіралася ў дарогу, ляцела часта самалётамі, каб як хутчэй дабрацца туды, дзе яе чакалі, на яе адну спадзяваліся, а вярнуўшыся, прымала дома людзей, што прыязджалі зблізку і здаля да яе белавата-блакітнага дамка напрыканцы пасялковае вуліцы.

А як нястомна адорвала родных, блізкіх! Сыну купіла дзве машыны, адной унучцы пабудавала двухпаверхавы катэдж, другой купіла кватэру ў Севастопалі, яшчэ іх мужанькам — па мікрааўтобусу. Была ўсемагутная, а цяпер — бездапаможная... Цяжка любому чалавеку змірыцца з уласнаю катастрофай. Не выключана, што яе найбольш гняце пачуццё самоты-адзіноты. Раней, як была здаровая, сама сюд-туд праведвала сына з нявесткаю, а таксама сем'і абедзвюх унучак. Цяпер, калі хварэе, дапамогі, пэўна, чакае, але не просіць...

Вераніка ведала дзень і год нараджэння Веры Андрэеўны. Яна прыкінула, колькі ёй неўзабаве, у сакавіку, споўніцца. Атрымалася 79. «Няўжо гэта ўсё?»— з трывогай думала яна. Роўна праз тры месяцы, напачатку лета, Навіцкія атрымалі тэлеграму, што яе не стала.

Яшчэ праз некалькі месяцаў паўміралі адзін за адным яе адзіны сын і праўнук, якіх яна ўвесь час падтрымлівала-падсілкоўвала сваім магутным біяполем.

# ШЫПШЫНА

«Забяры мяне, Генка, адсюль, пакуль я цябе не забраў», — зноў ён чуў бацькавы словы, хрыплаваты голас, бачыў яго бледны твар. Трэці раз на працягу лета паўтараўся незвычайны сон. Генадзь Жак даўно стаў дзядулем, але ўва сне бацька назваў яго так ласкава, як усё сваё жыццё называў, і якраз да яго, старэйшага сына, зноўку звяртаўся з таго свету з адзінаю просьбай... Сон і гэтым разам быў эпізадычны. Ізноў не паспеў нічога адказаць бацьку сын, як прачнуўся: яго абудзіў неадпаведны начному супакою-адпачынку паскораны рытм сэрца.

Адкладваць складаную і адказную паездку чалавек больш не мог. З Цюмені, дзе ён, нафтавік, кінуў жыццёвы якар, патэлефанаваў на радзіму — у Ружаны, прасіў брата зрабіць неадкладна тэлефонную разведку ў Крым, знайсці там надзейных землякоў, увесці ім у вушы сваю праблему. Браты павінны былі разам паехаць на поўдзень, там знайсці машыну, заявіцца ў вёску, дзе пахаваны бацька, выйсці на мясцовае начальства, пакланіцца яму з гарэлкаю і каўбасою, называючы мэту свайго прыезду. Так на вясковых могілках яны змогуць знайсці куточак, дзе пахаваны іх бацька, дастаць і перавезці на радзіму парэшткі.

Дабраславенне на перазахаванне Генадзь Жак узяў у архімандрыта ў манастыры. У Сімферопалі знайшлася і ласкава ім адазвалася дачка ягоных землякоў Ліля Пракапеня, па мужу Прахарэнка. Муж і жонка Прахарэнкі забяспечылі прыезджых не толькі начлегам і машынаю, але і пабралі на працы адпачынкі, каб усюды іх суправаджаць. Генадзь Жак распавёў ім пра цяжкую бацькаву долю. У трыццатыя гады аказаўся без віны вінаватым і без суда засуджаным. Пасля дваццацігадовай сталінскай сібірскай катаргі паехаў у заробкі ў Крым, заадно, як ён казаў, і пагрэцца. Працаваў ён за рулём грузавіка ў калгасе. Але рэзкая змена клімату нашкодзіла здароўю і прывяла да нечаканай смерці.

Прайшло 52 гады. Цяпер, у канцы жніўня, стаяла спёка, амаль такая, як і тады, у тым журботным ліпені, у дзень пахавання бацькі.

Ва ўсёй гісторыі з перазахаваннем яго праху непрадбачаным аказалася адно — поўнае запусценне старых могілак, дзе на ўтравелых грудочках зямлі струхлелі драўляныя крыжы. Браты разам з Прахарэнкамі ішлі павольна, пільна ўглядаючыся ў кожны грудок. Даймала гарачыня. Генадзь ішоў у спартовых штанах і тэнісцы, без майкі. Недалёка ад мяжы, дзе канчаліся старыя могілкі і пачыналіся новыя, на яго руцэ пакінулі след калючкі шыпшыны, за галінку якой ён быў зачапіўся. Такі аказаўся вынік доўгіх і няўдалых пошукаў. Стомленыя, браты мусілі паўтарыць пошукі. Гэтым разам Генадзь Жак зачапіўся за той самы куст шыпшыны тэніскай. Галіна сваімі калючкамі моцна трымалася за яго лёгкую кашульку, цяпер пакінуўшы свой след на грудзях. «Гэта — знак! — сказаў малодшы брат. Яны пачалі ўпарта расхінаць сплеценую траву і раптам убачылі на зямлі металёвую зорачку. Калі паднялі, прачыталі на другім яе баку гравіроўку: ЖАК А. І. — прозвішча з ініцыяламі іхняга бацькі.

Браты абняліся і заплакалі, як дзеці.

# АДНО ІМГНЕННЕ

## 1

Яе чалавек яшчэ з ранку паехаў з Мінска на сваіх зялёных «Жыгулях» на лецішча. Яна была пэўная ў тым, што ён там яе заменіць і за цэлы дзень паціху ўсё паробіць: паліе ўсё, што перасыхае, і збярэ каларадскіх жукоў, што, як мухі да мёду, падкія да бульбы, а нават і праполе грады, калі іх запаланілі жывучыя дзьмухаўцы, паўзучыя і ўчэпістыя макрыца і бярозка.

Вярнуцца абяцаў ён увечары, каля дзевяці, каб заспець вячэрнія тэленавіны. Таму згатаваць вячэру наважылася яна пазней, а зараз, пасля працы, дазволіла сабе расслабіцца. Папіла з мёдам гарбаты і прылегла на канапе. Амаль увесь яе выходны суботні дзень стаўся рабочым, іншага выйсця не было, як толькі надтачыць суботай учорашнюю тлумную пятніцу: у яе, бухгалтаркі, набралася мора неадкладных спраў, бо якраз скончыўся квартал. І цяпер ад стомы мітусіліся ў вачах лічбы, нагадваючы заклапочана мітуслівых мурашак.

Ён ледзь паспеў паліць грады, як дачныя суседзі — дзве жынчыны з мужыкамі пачалі ўгаворваць, каб звазіў у бліжэйшае мястэчка, дзе былі свежыя і таннейшыя, чым у сталіцы, прадукты, каб накупляць там мяса, масла, тварагу... Муляўся ён нядоўга, бо характар меў пакладзісты, мяккі — яго ўгаварылі. І яны паехалі...

## 2

Яна, лежачы, убачыла на століі, насупраць яе канапы, рыжага брыдкага прусака. Падняцца б ды ляснуць чымнебудзь па ім. Але быў ён нейкі вялы, запаволены, быццам недзе схапіў атруты, а ёй так хацелася хоць падрамаць, аж

вейкі зліпаліся. «Хай сабе поўзае», — падумалася ёй, і хутка змарыў яе сон.

Прахапілася яна імгненна, не цямячы, што здарылася: шумела і трашчала ў галаве. « О, мой Божа! — здагадалася яна. — У вуха залез той самы прусак! Як жа я не ўчула?!» Пабегла ў блізкую краму, да сябровак. Тыя паспрабавалі дастаць насякомае пінцэтам — не атрымалася. Выклікалі хуткую... Ёй зрабілі ўкол. Яна страціла прытомнасць.

**3**

Ён спяшаўся, як ніколі дагэтуль, быццам на невядомай хвалі яго мозг-прыёмнік прыняў сігналы трывогі, якія пайшлі ў космас ад яе, гнаў машыну як на пажар.

Ён набліжаўся да транспартнай развязкі, ад якой да лецішчаў заставалася ўсяго тры вярсты. Збавіў хуткасць. Заставалася толькі вытрымаць правілы дарожнага руху. Але калі ён строга трымаўся тых правілаў! Усё жыццё іх парушаў, неяк шанцавала. І ў свае шэсць дзясяткаў гадоў чалавек заставаўся падобны на дзіця-неслуха. Ездзіў па правілах у адным выпадку: калі ў машыне побач сядзела яна, бо тады не трэ было спяшацца да яе.

**4**

Яна цяпер была дастаўлена ў шпіталь. Там яе цудам уратавалі. Хірургі ёй сказалі, што нарадзілася ў кашулі. Яны дасталі прусака, які ўжо дабіраўся да мозгу. Адно імгненне — і было б позна.

**5**

Ён не адчуў, што яна выйшла з небяспекі і наважыўся перасекчы паласу сустрэчнага руху. «Хут-чэй! Хут-чэй! — грукала ў грудзях сэрца.

Нехта з пасажыраў, што сядзелі ззаду, папярэдзіў:

— Глядзі — іншамарка!..

Ён зірнуў на дарогу, убачыў чырвоны «Мерседэс» і мармытнуў:

— Яшчэ далёка.

А іншамарка ляцела па роўным асфальце як самалёт. Гэта была яго смерць, якую толькі што бачыў на нейкай адлегласці. «Мерседэс» урэзаўся ў пярэднія дзверцы яго зялёнай машыны. «Жыгулі» не перакуліліся, і ён як сядзеў за рулём, так сядзець і застаўся, толькі мёртвая галава схілілася набок.

Адно б імгненне — і ён праскочыў бы небяспеку.

# ПАДЗЕННЕ

На міжгародні напорысты званок, што забарабаніў у зале, паэт з куханькі рынуў як на пажар, ледзь не перакуліў, зачапіўшы нагой, табурэтку.

— Іванавіч, добры дзень! — пачуўся знаёмы жаночы голас.

Тэлефанавала Зоя. З дому, з утульнага свайго мястэчка, што размясцілася каля маляўнічага возера.

Паэт не любіў, калі галяком ужываюць імя па бацьку, і не толькі таму, што такі зваротак не ўласцівы беларусам, а й таму што ў ім чуецца нейкая рабалепнасць, тым не менш ласкава адказаў на вітанне.

— Іванавіч, — сваім запаволеным голасам не гаварыла, а ўмаляла жанчына, — ну, прыедзьце! Такія грыбочкі пайшлі! І ягады саспелі! І вада ў возеры цёпленькая.

— Дзякуй, вялікі дзякуй! Я падумаю, — ён, чалавек тактоўны, не стаў катэгарычна адмаўляцца.

— Іванавіч, — павесялела Зоя і нават паскорыла тэмп гаворкі,— прыедзьце ў гэтую суботу.

— Пастараюся, калі змагу. Тады затэлефаную, — няпэўна адказаў паэт. — А тэлефон не змяніўся?

— Той самы. Званіце і прыязджайце.

У яго было нямала довадаў, каб не ехаць.

Стаяла спёка — трыццаць тры градусы, і прагноз на бліжэйшыя дні не абяцаў паслаблення прыпару. Гарачае надвор'е стамляла сталага чалавека, асабліва ў дарозе. А дарога з Менска, дзе ён жыў, да мястэчка, дзе жыла Зоя, не такая ўжо блізкая — сто пяцьдзясят вёрстаў. Гэта раз. Што ж да грыбоў (а ён дужа любіў ціхае грыбное паляванне), то яны пракінуліся і каля самай сталіцы, у дваццаці-трыццаці хвілінах спакойнае хады ад самага ягонага жытла. А яшчэ (і гэта галоўнае!) ён шкадаваў часу.

Але Зоя запрашала ў госці не першы год. І не бачыў паэт яе цэлых дваццаць гадоў пасля таго як сустрэў на вечарыне

ў Доме літаратара. Тады яна, сімпатычная дзяўчына, пісала вершы, паступала ва ўніверсітэт і збіралася замуж.

Паэт сяды-тады натрапляў на Зоіны вершы ў газетах — радаваўся; віншаваў, калі нарадзіла яна дачку, засмучаўся, калі развялася з мужам і калі памёр бацька.

Пасля доўгі час нідзе ў друку ён не сустракаў знаёмае імя. Апраўданні ў яе былі несур'ёзныя: маўляў, адна гадуе дзіця. Пазней ганарылася яна тым, што дачка занялася творчасцю.

Паэт вырашыў дзень-два пагасцяваць у Зоі. Сабраўся ў дарогу і суботнім ранкам рушыў на аўтавакзал. Калі падыходзіў да касы, свае паслугі прапанаваў кіроўца маршрутнага таксі, і, каб хутчэй даехаць да мястэчка, паэт сеў у маршрутку.

У машыне, максімальна запоўненай, было вельмі душна, нягледзячы на цалкам апушчанае ў кабіне шкло бліжніх ад кіроўцы дзверцаў. Толькі праз дзве гадзіны язды ў цеснай прасторы падарожны ўжо ўдыхнуў гаючага паветра азёрнага краю.

У кватэры, куды госць быў запрошаны, нікога, на яго здзіўленне, не аказалася: на званок і стук у дзверы ніхто не адказаў. Ён хвілінаў дваццаць пахадзіў туды-сюды, памаячыў, пасля вярнуўся да прыпынку, дзе Зоя павінна сустракаць аўтобус, як дамовіліся па тэлефоне перад ягоным ад'ездам.

На аўтобусным прыпынку стаялі каля клумбы дзве юныя дзяўчыны з кошыкамі, а на лаўцы сядзела жанчына, якая — відаць было здаля — дыміла цыгарэтай ды на ўсякае машыннае гудзенне паварочвала галаву ў бок дарогі. Калі паэт наблізіўся, то заўважыў у яе пышных цёмна-русых валасах лёгкую сівізну, але больш за ўсё яго ўразіў цёмны твар і брудная сукенка. «Чаму такі смуглы твар? Яна ж — не азіятка, — падумаў прыезджы. — А можа, гэта і не *яна*?» Ён смутна пазнаваў, а больш здагадваўся, што гэта і ёсць Зоя, хоць у гэткім вобразе яму ніяк не хацелася пазнаваць колішнюю Зою. «Чаму ж яна так апусцілася? — пранеслася думка. — Няўжо не знайшлося хоць бы чыстае сукенкі?» Падышоў да дзяўчат, загаварыў з імі і цяпер ужо ўбачыў яе не ў профіль — анфас. І зразумеў тут, што ў яе не смуглы, а

зямлісты твар. Яна па-ранейшаму пыхкала дымам, пазірала на дарогу і не звяртала ўвагі на яго. Падумалася, можа, не падысці, не аказацца да яе, а ціхенька павярнуць аглоблі ды змыцца адсюль хутчэй. Але пасля імгненнага вагання прыйшло акрэсленае рашэнне: «Не, гэтак было б нейк дзіка, не па-мужчынску дый не па-людску!»

Калі ён знячэўку зачапіў гаротніцу словам, яна паднялася з лаўкі, мігам ажывілася:

— Іванавіч, калі ж вы прыехалі?.. Што ж мы стаім — хадземце.

Трохі размаўлялі ідучы, але размова, як кажуць, не клеілася. Зоя апраўдвалася:

— Гэта ж я начавала ў сяброўкі; яна хварэе на рак, дык я даглядаю.

Пра сябе, пра жыццё сваё гаварыла неахвотна. Сказала, што ўвесну прайшла аперацыю: быў пералом нагі, калі падала. Прычына падзення — галавакружэнне ад нізкага ціску. Яна прыкметна цягнула правую нагу, і госць ёй паспачуваў, хоць і адчуў: нешта яна не дагаворвае, утойвае. Ішоў ён поруч з ёю з пачуццём сораму, таму хацелася хутчэй зайсці ў дом, сысці з чужых вачэй.

Дома, у вітальні двухпакаёвай кватэры, іх сустрэла Зоіна пятнаццацігадовая дачка, на галаву вышэйшая за маці. Яна толькі што прыйшла з крамы, дзе купіла хлеба і таннай каўбасы. Было відаць: абедзве яны, і маці, і дачка, узрадаваліся, калі сталічны госць выставіў і выклаў з дыпламата правізію на кухонны стол. На кухні яго і запрасілі за стол.

Тым часам завітала з вёскі Зоіна матуля, шчырая, зычлівая і клапатлівая жанчына. Галава амаль белая, твар ружовы, вочы блакітныя. Сама даволі мажная, а гэта яе варыкозным венам, выпучаным на нагах,— залішняя нагрузка. На кухню прыйшла задыханая, ды адразу пачала разгружаць напакаваную прадуктамі сумку.

Неўзабаве яны ўчацвярых ужо адзначалі сустрэчу. Паэт шчыра парадаваўся, што Зоіна дачка не ўзяла ні кроплі спіртнога, і, калі ў яе маці пачаў заплятацца язык ад трох ма-

ленькіх кілішкаў гарэлкі, спрытненька закруціла пляшку і схавала ад прагавітых мамчыных вачэй.

Зоя прасіла выпіць яшчэ, а калі супраць выпіўкі паўсталі ўсе, то пакрыўдзілася і ўрэшце непрыкметна кудысьці сышла.

Калі прыбралі са стала, Зоіна дачка паказвала паэту фотаальбом, чытала свае вершы. Пасля яна сказала бабулі, што яе чакае сяброўка.

З госцем засталася старая. Яна хваліла ўнучку і з болем распавядала пра дачку. Зоіна падзенне пачалося шаснаццаць год таму. Як толькі выйшла замуж, кінула і працу, і вучобу. Муж аддаваў ёй усю зарплату, а яна заводзіла сабе сумніўных сяброў і ўсё часцей заглядвала ў пляшку. Пайшла па руках... Пасля разводу ўсё мацней дно жыцця яе цягнула і засмоктвала, утрымаць ад бяды не ўдалося ні просьбамі, ні грозьбамі. Бацька быў жывы яшчэ, дык лупіў як сідараву казу. Зацятая такая, сказала: «Хоць забіце...»

— Во такое гора. — Як пра безумоўна непапраўнае, працягвала старая гаворку. — Сышлася з бамжом, з ім і жыве... Прынясу ўнучачцы малака, дык возьме й прадасць, купіць якой гары... Не прасыхае. І нагу зламала п’яная.

Маці адзінай дачкі не плакала. Пэўна, усе свае слёзы выплакала.

Яна і праводзіла госця, якога не ўгаварыла ў іх пажыць, пахадзіць у лес ды на возера. Нічога яго тут не радавала.

Засмуціла чужая драма.

# КЕМЛІВЫ СЕЛЯНІН

Мацвей, беларус-заходнік, у Першую сусветную вайну юным бежанцам апынуўся пад Масквою. Там ён стаў сведкам самай крывавай бальшавіцкай рэвалюцыі і ўдзельнікам бязлітаснай братазабойчай грамадзянскай вайны: яго прымусілі служыць у кавалерыі Будзённага. Амаль год над ягонаю галавою пасвіствалі кулі. Так званы будзёнавец ганяў па Украіне кулямётную тачанку, паганяў пару коней, якіх між баямі і даглядаў. А ў баях здаралася ўсялякае: даводзілася не толькі даганяць белых, але і драпаць ад іх.

Надышоў 1920 год. Заходнюю частку Беларусі бальшавікі аддалі палякам. Тут і прачуў Мацвей, што расейцы не могуць прымусіць замежнікаў ваяваць. І скеміў напісаць вайсковаму начальніку па-польску (ён, апроч свайго заходнебеларускага дыялекту, валодаў польскаю мовай): «Jestem polakem. Czekam powrótu do kraju, do domu. Bardzo się pana o to proszę». Праз два месяцы яго адпусцілі.

Белапольская ўлада сустрэла варожа: «комуністычна морда!..» Але была ў хлопца свая прасторная бацькаўская хата, былі поле, луг і нават пару гектараў лесу; ён гаспадарку вёў спраўна. Гэта быў чалавек цягавіты, як вол, дужы, сапраўдны асілак: спілаваўшы тоўстую сасну ў лесе, мог сам яе пагрузіць на сані з прычэпам; і пабароць ніхто ў сяле яго не мог.

Мацвей ажаніўся. У сям'і нарадзілася ажно васьмёра дзяцей.

Яшчэ тройчы на яго радзіме мяняліся ўлады: саветы, немцы, зноў саветы, якіх тут называлі зневажальна — галадранцы. А тыя галадранцы аказаліся самымі вераломнымі і жорсткімі. Гітлераўцы былі вераломныя — гэта Мацвей мог зразумець: яны ваявалі з чужымі народамі. А гэтыя мардавалі і гнаілі сваіх жа.

Пасля вайны Мацвея сілком, як і яго аднавяскоўцаў, загналі ў калгас. Прымусілі быць конюхам у раённым цэнтры.

Вядома ж, за так. Працадні лічылі, ды нічога не налічвалі, ніяк не разлічваліся.

— Мне зямлю араць трэба, сям'ю карміць, — жаліўся чалавек.

— Маўчы! — яму сказалі. — Цяпер твая сям'я на канюшні, яе мусова даглядаць.

Гэты гвалт ён трываў нядоўга, бо душа бунтавала ў бязмежным смутку па волі. Але не паспеў ён кінуць прыкрую прымусовую працу, як апынуўся ў страшэннай няволі: уначы яго схапіў «чорны воран» і закінуў у турму, што ўзвышалася над Мухаўцом у Берасці.

Камера, куды яго штурханулі, была біткам набітая асуджанымі без суда. Удзень людзі стаялі, а ўначы спалі, змучаныя, адзін на адным; калі ніжняму рабілася млосна, ён выбіраўся наверх. Слабыя паміралі. Мацвей дажыў да так званага судовага працэсу.

...За сталом, накрытым кумачом, сядзелі тры адкормленыя, гладкія асобы, а перад імі ляжаў стос папер. Жывыя ахвяры, што былі падобныя на цені, у зале стаялі. Гладкія іх выклікалі па спісе. Глядзелі ў паперы, называлі абвінавачанне і тут жа выносілі прысуд. Чалавек не выплаціў падаткі — значыць, сабатажнік, шкоднік савецкай улады. Яму давалі 25 гадоў няволі, яго цягнулі пад канвой у адзін бок залы. Нехта нейкім чынам замешаны ў палітыцы, яму прысуджалі расстрэл і цягнулі ў другі бок залы.

Калі выклікалі Мацвея, ён ішоў ватнымі нагамі, бо яму пагражала Сібір.

— Ну а ты что натворил?! — спытаў у яго вузкалобы, з прылізанымі валасамі начальнік.

Мацвей перавёў з яго позірк на стол, заўважыў, што перад панам няма аніякай паперыны, і скеміў: абвінавачання на яго адрас няма.

— Ой, паночку, сусед нажаліўся. Яго куры лезлі ў мой гарод.

— Говори по существу! — прыгразілі яму.

—То ж я й кажу, мой сабачка саседску курыцу пашкумутаў. Я ж прабачаўся, ужо й сабачку збыў...

— Вон отсюда! — зароў самы мардаты начальнік.

Не паспеў чалавек і крок ступіць, як усхапіўся той самы мардаты і з усяе сілы ўрэзаў яму ботам пад хрыбетніцу. Знясілены селянін паляцеў на пару метраў уперад і ўпаў ніцма на падлогу. Яго вывалаклі з турмы. Побач стаяла царква. Мацвей дапоўз да царквы. Пабыў поруч з жабракамі. Потым цэлы тыдзень асільваў 60 вёрстаў дарогі дадому. Прыйшоў у сям'ю жывы труп. Русы чуб цалкам пасівеў, карыя вочы запалі, у іх прапаў бліск, шчокі ўваліліся, дужыя рукі высахлі, як галіны памерлага дрэва.

Цяжкая крыўда запала ў Мацвеева збалелае сэрца, крыўда за вераломства, знявагу і здзекі гаспадароў улады ў дачыненні да людзей працы. Яму выпадкова пашанцавала вярнуцца. А колькі люду згнаілі!

Дажыўшы да першага пакалення беларускіх тэлевізараў, Мацвей кожны раз, калі экран паказваў якое-небудзь бальшавіцкае свята, прасіў дзяцей выключыць тэлевізар.

# АЛЕСЯ

Дачнік, калі прыехаў пагодлівым травеньскім днём на лецішча, не паверыў сваім вачам: яблынька, якая гадоў сем не абсыпалася цветам і не прыносіла ўраджаю, за што і празвалася пустышкай, цяпер, гэтай вясною, нагадвала нявесту ў пышным святочна-белым убранні, — так хораша, так весела яна цвіла, цвіла яна гэтак буяна, што не відзён быў ніводзін ліст, галіны таксама ўсе чыста хаваліся ў снежна-белым першацвеце. Адно што ствол добра віднеўся, ён быў -— як стройная дзявочая ножка, загарэлая пад промнямі мясцовага сонца.

Пазней, улетку, яблынька нагадвала цяжарную маладзіцу, ёй станавілася ўсё цяжэй, але яна свяцілася ўся ад завязі шматадзінага плоду, на рост якога не шкадавала сваіх нерастрачаных сілаў.

Яна ўрадзіла — як нарадзіла. Ураджай яе прыгожы, здаровы, як дзіця, якое прыходзіць, каб радаваць.

Душа гаспадара цешылася кожны раз, калі набліжаўся ён да сваёй шчодрай папяровачкі. Дачнік прыемна ўсміхаўся, здаволены, што мінулаю вясною думкі ягоныя ўзялі верх над пачуццямі і ён не выкарчаваў, не выставіў за вароты зацятую ў сваім бясплоддзі пустышку! Стрываў. Не пашкадаваў ён пятака зямлі і даў права і надалей кідаць прыгожаю кронаю цень на парэчкі і суніцы.

І вось аднойчы, калі дачнік любаваўся ёю, прыйшло на памяць даўняе прызнанне яго роднай сястры. Хацела яна, маці дзвюх дачок, скінуць зачацце, калі ўведала, што зацяжарала: яшчэ аднаго дзіцяці яна не хацела. І муж не хацеў. Дочкі іхнія ўжо ўвабраліся ў дзявочую красу і сілу. А тут — на табе! — усё спачатку... Але пайшла яна ў царкву на споведзь, і зняў святар з яе цяжар нізкіх думак і сумненняў, растлумачыў, што і ў зародку пазбаўляць дзіцятка жыцця — вялікі грэх, роўны забойству; ён блаславіў цяжарную на новы подзвіг.

Што было далей, брат ведаў: сястра нарадзіла трэцюю дачку, якую назвалі Алесяю. І, нібы ў чарадзейнай казцы, яна, трэцяя дачушка, вырасла самая ласкавая, паслухмяная, старанная, бацькам на радасць, на ўцеху. Аніколі слова грубае ад яе не пачулі.

Старэйшыя замуж павыходзілі, у гарадах аселі. Наязджалі ў родную вёску толькі тады, калі што хацелі ўзяць. Алеся заставалася адзінай падмогаю. І колькі б ні было клопатаў, яна будзе шчабятаць ластаўкай: «Матулечка, татачка, адпачніце, я ўпраўлюся адна». І дроў, і вады наносіць, жывёлу і птушку накорміць. Пойдзе палоць буракі — ні адной зялінкі не пакіне. Ягады збірала — ніхто спрытней не ўмеў.

Дзяўчына паспявала добра вучыцца. Вывучылася на медсястру. У раённай больніцы працавала. І так умела рабіць уколы, што й не пачуеш, калі ўкалола.

Калі і замуж выйшла Алеся і нарадзіла дзіця, бацькоў праведвала. А як здарылася гора — нечакана памёр, учадзеўшы, бацька і паралiч ударыў па маці, усе клопаты пра хворую маці і яе гаспадарку ўзяла на свае кволыя рукі і плечы, папрасіўшы свякруху, каб даглядала дзіця.

На Алесіных руках, як на анёльскіх крылах, і паміpала маці ў слязах невымоўнай апошняй радасці ўсведамлення таго, што зямное жыццё застаецца ўпрыгожваць яе Алеся.

Так у дзядзькі на лецішчы нечакана знайшлося імя маладой яблыньцы, над жыццём якой ён некалі быў замахнуўся, — назваў яе чалавечым імём Алеся.

# ЖАНОЧАЯ ПОМСТА

Гэтая гісторыя родам з дваццатага стагоддзя, з яго другой паловы, калі на змену крываваму дыктатару імперыю зла ўзначаліў паяц гарохавы, а больш дакладна — кукурузны. Калі пры першым шукалі «ворагаў народа» і многіх не марудзячы расстрэльвалі — сярод іх былі і святары, — то пры новым правадыры і там і сямператваралі храмы ў склады і нават у свінарнікі, бо нельга ж было з верай у Бога крочыць у камунізьм (так новы лідар змякчаў моднае тады слова). Амаральнасць, што ішла ад уладаў тых часоў, мела ўсе прыкметы д'ябальшчыны, яна хутка шырылася, змятаючы розныя бар'еры і пераходзячы ўсякія межы.

Заходнебеларускае сяло прытулілася з аднаго боку блізка да лесу, з другога — да бальшака, які тут спрадвек называлі не па-беларуску і не па-украінску, а чыста па-тутэйшаму: гостэныць, гэта значыць — гасцінец, а за ім пачыналіся палі ды сенажаці. Селішча звычайнае, ды ў ім дзейнічала надзвычай прыгожая царква, сама сіняга колеру, а купал — залацістага. Гэтыя колеры надта цешылі вочы пяцігадовай Ніначцы, што жыла з мамай і татам у хаце, якая стаяла якраз недалёка ад царквы. Мама не раз брала дачушку з сабою ў храм, дзе абуджалася дзіцячая фантазія распяццем Ісуса Хрыста, абразамі Багародзіцы ды іншых святых.

Сёння Ніначка з матуляю стаяла ля царквы, дзе бацюшка асвяціў у іхнім кошыку ўсё тое скаромнае, што матуля спякла і зварыла да Вялікадня і ўжо заўтра, пасля посту, можна будзе ўплятаць! А зараз Ніначка сядзіць на сваім любімым месцы — на печы — і паглядае на незвычайнае відовішча: да іх у хату завітаў сам бацюшка. Ён у той самай расе стаіць і нягучна гамоніць з ейнымі татам і мамай. А неўзабаве і дае каманду: «Ну, Георгий, иди запрягай лошадку, уж время ехать по сёлам к прихожанам, они там заждались». Тата выходзіць з хаты, а бацюшка адразу абнімае яе мамачку. Ніначка думае, што так, мусіць, трэба. Але ж яна ўжо бачыць і тое, як

бацюшка сваімі вялізнымі даланямі абшчапервае маміну попу і як мама зараз жа вырываецца з яго рук, кідаецца да дзвярэй і як ён удагонку паспявае даць ёй плескача, ад якога аж нацягнулася ейная лёгкая сукенка і прыстала да цела. Мама абярнулася і сказала: «Бога пабойцеся!..» І вось абое хуценька выходзяць з хаты. Ніначка пакуль не ведае, што існуе біблійны запавет «Не пралюбадзейнічай», як, зрэшты, не ведае, што такое — распускаць рукі, яна толькі ўспамінае, як сельскі каваль Ян казаў пра бацюшку: поп. Ніначцы падумалася, што напэўна дзед Ян ведае, як бацюшку падабаецца жаночая попа, таму бацюшка яшчэ і поп. І яшчэ адна думка прыходзіць дзяўчынцы ў галаву: мусіць, бацюшка перад святам гэтак радуецца, забаўляецца; мусіць, яму ўсё-ўсё дазволена: да яго ж у царкву ўсе людзі ідуць, з ім разам моляцца... Супакоеная сваёй думкаю, яна заснула на печы, якая яшчэ з ночы трымала цёплы дух.

Ніначка не ведае, колькі часу прамінула з таго перадвялікоднага дня, але пасля яго найбольш запамятаўся ёй дзядзька Іван, мамін брат, тое, як ён, пераступіўшы парог іхняе хаты, зняў з галавы шапку і сказаў: «Палюбуйся», пры гэтым правёў даланёю па сваёй галаве. Малая здзівілася з яго белых валасоў, бо яны заўсёды былі чорныя. Яна зразумела, што і мама здзівілася і нават, здалося, спалохалася. «Ой, Божа! Што з табою, браточку?» — усклікнула Нінчына мама і паклікала яго, свайго брата, у другую палову хаты. Там яны пра нешта гаманілі пры зачыненых дзвярах. Калі дзядзька Іван развітаўся, Ніначка ў матулі запыталася, як так у дзядзькі Івана стала такая беленькая галава.

Маці патлумачыла, што часам такое здараецца і з маладымі, а дзядзька Іван не малады ўжо.

Наступнае сур'ёзнае пытанне маме Ніначка задала праз некалькі тыдняў, у дзень шлюбу бацюшкі з Любаю, яе дваюраднаю сястрою. Яна пыталася, чаму прыгожая Люба выходзіць за старога бацюшку. І маці тлумачыла малой, што Любе не трапіўся ніхто з маладых, а дзявочы век кароткі, як макаў цвет, таму ідзе замуж за таго, хто бярэ.

Неўзабаве пасля вяселля бацюшку перавялі на службу ў іншы храм — у мястэчка. З тае пары Ніначка не бачыла сямейнае пары, якую звёў такі няроўны і недарэчны шлюб: ёй — 17, а яму — 57! Ніначка вырасла і паступіла ў педінстытут.

Аднаго разу, едучы з горада ў сваё сяло аўтобусам, Ніна пачула размову дзвюх кабет, што сядзелі за яе спінаю, пра маладзіцу-пападдзю, якая на вачах старога нямоглага мужа прымае ў пасцелі каго пажадае. Дзяўчыне аж горача стала, калі зразумела, пра каго тут гамонка.

Дома, за вячэраю, гледзячы маме ў вочы, яна запыталася:

— Людзі кажуць, наша Люба скурвілася. Гэта праўда, мама?

— Праўда, доню, праўда. Але ж ты паслухай...

І маці распавяла дачцэ пра сваю пляменніцу, пра яе горкі лёс, пра тое, як той, каго звалі святарам, згвалціў яе ў царкве, у алтары. Спачатку, нейкі час вечарамі, пасля набажэнстваў, калі разыходзіліся прыхажане, затрымліваў Любу, каб дапамагала яму рыхтавацца да службы наступнага дня. Выходзіць, што злачынства спланаваў спакойна, а дамогшыся свайго, пачаў, як вопытны наезнік аб'язджае кабыліцу, затрымліваць дзяўчыну ўсё даўжэй, каб уволю нацешыцца ёю, ператвараючы святыню ў ціхі і зручны куток для распусты. Яе адразу папярэдзіў, каб нікому-нікому не сказала пра «святы грэх» (гэтак ахрысціў ён свой блуд). Але нядобрае западозрыў Любін бацька. Сон не браў яго ў тую ноч, калі доўга не вярталася дадому дачка. Калі ж дачакаўся яе, то як можна стражэй прыціснуў — і яна прызналася ва ўсім.

Бацька згвалтаванае дачкі меў ад нараджэння 54 гады, на тры меней, чым так званы айцец. Тое, што здарылася з адзінаю дачушкай, не мог ён сасніць і ў кашмарным сне. За адну тую ноч галава ў яго стала белаю як снег. Раніцаю парушыў ён супакой уцаркаўлёнага бязбожніка, даў яму зразумець, што можа ўчыніць самасуд. Той, хто не пабаяўся Бога, злякаўся звычайнага чалавека. Наспяваў вялікі скандал, і, каб хоць як згладзіць сваю віну і абяліць нечуваны ўчынак, Любін крыўдзіцель паспяшаўся ажаніцца з ёю.

Ніна цяпер успомніла і тую раніцу, калі дзядзька Іван сказаў яе маме: «Палюбуйся», паказаўшы ёй сваю пабялелую галаву, і нечаканае Любіна замужжа, і нечаканы яе з бацюшкам пераезд у мястэчка. Яшчэ ў памяць ёй прыйшло тое, што казаў нядаўна адзін прафесар пра паходжанне слова *шлюб*. Яно ўтварылася ад дзеяслова *злюбіцца*. У яго аснове — любоў. Значыць, шлюб не можа быць заснаваны на гвалце. Любін шлюб з бацюшкам заключаны не на небе, бо ён змушаны. Гвалтаўнік у царкоўнай расе калісьці жорстка параніў добрае дзявочае сэрца, і рана аказалася незагойная, таму помста жаночая не ведае тэрміну даўнасці.

Магчыма, усё было б інакш, калі б маладзіца нарадзіла хоць бы адно дзіцё. Але яна не нарадзіла дзіцяці, не стала матуляю. Адны кажуць, што гэтак угнявіў Бога вераломны бацюшка, а другія — што вінаватая яна, бо не змірылася з лёсам...

# ДАРЧЫНЫ ГАЛУБЫ

На дварэ лютаваў апошні месяц зімы. Знянацку наляталі завеі. Трымаліся маразы. Пёк востры парывісты вецер.

Была нядзеля. З цёплае кватэры, дзе мне, студэнту-завочніку, знайшоўся заплатны прытулак, я выйшаў ранкам на ганак. Ад жытла цягнуўся па снезе ланцужок чалавечых слядоў. Насустрач мне валюхалася, нязграбна перастаўляючы ногі, абутыя ў буркі, пажылая кабета, невысокая, хударлявая, з белаю міскаю ў руках. Чорная апранаха на ёй вісела як на слупку, затое хустка, лінялая, няйначай, ад летняга сонца, была цесна завязана на галаве. Побач, пасярод вялікага двара, на пятачку ўтаптанага снегу — з ганка той пятачок быў добра відаць — наперабой нешта дзюбалі галубы.

Раптам немаведама адкуль прыляцелі дзве вароны, каб паласавацца хатнім едзівам. Яны каркнулі на ўсё горла. Тады кабета рэзка павярнулася і жвава, хоць і няўклюдна, пайшла на варон.

— Акыш! — яна ўзмахвала вольнаю ад міскі рукою, каб прагнаць няпрошаных гасцей, але, калі тыя не пакінулі двара, а толькі ўзляцелі на разгалістую яблыню, кабета нагнулася і голымі пальцамі ўхапіла белага настылага снегу.

Яна прагнала чорных птушак. І як вярталася к дому, вусны яе ўсё варушыліся — пра нешта яна думала ўголас.

Стаяць мне было халаднавата, але хацелася зачапіць яе словам, і, калі яна, асцярожліва ўзыходзячы па ўледзянелых прыступках, глянула на мяне — позірк яе блукаў, — я павітаўся. На маё «Добры дзень!» яна адказала: «Здрастуйце!» Яна прыпынілася на ганку і ўсё яшчэ пазірала туды, дзе снедалі яе птушкі.

— Згаладалі, бедненькія, — сказала яна трохі ахрыплым голасам.

Я паглядзеў на яе рукі, пасінелыя ад холаду, на алюмініевую пагнутую міску, якую яна цяпер трымала чамусьці

аберуч, прыціскаючы да грудзей, паглядзеў на яе не па сезону лёгкую адзежу і не вытрымаў:

— Холадна ж вам. Ці няма цёплага паліто?

— Ёсць, — сказала кабета, паварушыла выцвілымі губамі, нібыта спрабуючы на язык тыя словы, што наважылася вымавіць, і дадала: — Гэта каб рабіў... А я не працую. У двары і ў гэтым добра...

Неўзабаве залапацелі крыламі сытыя птушкі, і яна пайшла дамоў.

У гаспадароў я запытаў пра яе.

— Гэта Дарка, яна таго...— крануўшы сваімі тоўстымі пальцамі паголеную скронь, усміхнуўся зубамі-пратэзамі дзед Кузьма.

— Гаротніца, дый годзе, — сказала баба Лена, дзедава жонка. — У вайну ў яе пастралялі ўсіх, дык нешта во стрэслася...

Ішоў час. Сяды-тады, бачачы Дарку ў двары ля чародкі галубоў, я падыходзіў да яе. Калі нёс яблыкі з магазіна, стараўся пачаставаць, але яна наадрэз адмаўлялася: «Дзякуй, я не маленькая». А на словы штораз адгукалася шчодра. Аднаго разу расказвала:

— Іду ў суботу ў царкву, а суседка кажа: «Вунь твой галубок сядзіць, лётаць не можа». Гляджу, і праўда, крылы склаў. Мо хто выцяў. Узяла яго дахаты, накрышыла хлеба пад табурэткаю. На другі дзень выпусціла — па-ляцеў... А разумны такі. Быў ступіў на хлеб. «Куды ты залез!» — кажу. Адышоўся ў куток...

Звычайна, як толькі сыходзіла Дарка з прыступак, да яе жывой мяцеліцай зляталіся галубы, мітусіліся над самай галавою, пад рукамі, асядалі да ног, і яна, шчаслівая, гаманіла:

— Дайце прайсці... дам я вам хлебачка, дам.

Бачыў я неяк Дарку і па-дзіцячы разгубленую, калі адзін толькі голуб, стомлены ад сытасці, збіраў дзюбаю крошкі хлеба на зямлі.

— Гулі-гулі-гулі-гулі, — усё яшчэ настойліва клікала яна сваю крылатую сямейку, а пасля пачынала ці то скардзіцца мне, ці то апраўдвацца: — На куросенне селі...

Дарка любіла птушак, і, калі я тое ж зімы прыладкаваў ля акна кармушку і прычакаў сінічак, яна, радая, пажадала мне:

— Дай вам божанька здароўечка!

Я ведаў, што яна набожная. Ведаў, што ў яе ёсць, акрамя птушак, яшчэ адзін занятак — хадзіць да царквы. Занятак святочны. Кармленне галубоў было будзённым клопатам, да якога, аднак, яна ставілася як да свята. Гэты клопат ёй мог замяніць нават малітву. Уранні і пад вечар паяўлялася яна ў двары з пагнутаю алюмініеваю міскаю ў руках, і да яе адусюль зляталіся галубы. Яна бавіла з імі свой час, гасіла птушыны голад, звярталася да іх як да разумных істот:

— Ешце, галубкі, ешце на здароўечка.

І святлела з твару. Святлела, калі першыя травінкі-промні прабіваліся з зямлі. І калі ад сонца і дажджу пад вокнамі буялі вяргіні. І калі ападала з дрэў лісце. І калі зямлю скоўвалі маразы, ахіналі снягі. Душой святлела.

Была яна шчодрая, на той свет нічым не запасалася. Харчам, які ела сама, дзялілася з галубамі.

Доўгі час была мне, аднак, загадка, чаму яна гэтак не церпіць чорных птушак, якія зрэдку залятаюць на наш двор. Знячэўку назіраючы, як яна зноў апантана праганяе варон, не дае ім зачапіцца хаця б за яблыню-дзічку, я ледзь не пажартаваў з яе, што, маўляў, усе птушачкі — божыя стварэнні. Але, на шчасце, да мяне дайшло: чорныя птушкі нагадваюць ёй штосьці з ваеннага ліхалецця.

Часам ёй хто-небудзь у двары даводзіў, што галубы толькі ядуць і ніякай ад іх няма карысці. Ды гэта не бянтэжыла Дарку, бо яна была бескарыслівая. Ёй хапала радасці — бачыць галубоў, шэрых, белых, стракатых, глядзець, як яны злятаюцца да яе рук, як дзюбаюць хлеб, кашу, зерне, а пасля слухаць пругкія ўзмахі крылаў.

У двары, зялёным і прасторным, звычайна гулялі дзеці. Адны памагалі Дарцы карміць птушак, другія дражніліся, зладзейкавата выглядваючы з-за кустоў або лазячы па дрэвах, абзывалі Дарку дурною, трэція з рагатак цэліліся па птушках. Першых яна любіла і ў дзень сваёй пенсіі купляла ім цукеркі, другіх ушчувала, па-свойму, наіўна: «І не

сорамна табе?», «Гэта ў школе так навучылі?», пагражала: «Я тваёй мамцы скажу!..», але ўжо недзе на паўдарозе да ганка забывалася на іхнія здзекі. І толькі на трэціх (тыя ж былі як-ніяк узброеныя) яна крыўдавала даўжэй, скардзілася на іх суседзям.

З тымі, хто яе не крыўдзіў, яна была гаваркая. Расказвала пра сваё маленства, пра маладосць, пра тое, як калісьці працавала на пошце, як хварэла на жаўтуху пасля вайны, як лячылася.

Пакуль я кватараваў у дзеда Кузьмы і бабы Лены, мне чамусьці здавалася, што ўсё будзе так, як ёсць. Заўсёды з ранку і пад вечар з ганка будзе сыходзіць Дарка з алюмініевою міскаю ў руках, і, пазнаючы яе здаля, будуць злятацца галубы. Але калі надышоў час майго перасялення, я падумаў, што аднойчы Даркі не стане на зямлі. І нават уявіў, як вынесуць людзі яе на руках і як птушкі, што яе пазнавалі па белай місцы, пазнаюць ужо і без той пагнутай алюмініевай міскі і спалохана ўзнімуцца над дваром, нікім не накормленыя, і лёгкія іх цені-крыжыкі праляцяць па труне.

Людзей за трунoю будзе ісці няшмат. Можа, нават меней, чым у двары галубоў...

# БЕРКУТ І КВОЛЫ

## І

Прайшла цэлая чарада восеньскіх дажджоў, марудлівых, сумных. Пасвятлела. Зрэдку воблакі прабівала сонца, невысокае і нязыркае. З дрэў ападала лісце. Ноччу цягнула сіверам, і вохкая зямля пачынала шэрхнуць.

Насуперак дыханню халадоў пяшчотна ўсё яшчэ зелянела рунь. Ды і паплавы пабурэлі мала. Усё жывое апынулася на нябачнай мяжы паміж нядаўнім цяплом і непазбежным блізкім марозам.

Ранкам з лесу вяртаўся Кволы, шаснаццацігадовы падлетак, даўгалыгі, худы. Для мацеры ён заставаўся Андрэйкам, хоць і добра-такі выцыбаўся. І меў ён законнае бацькава прозвішча — Каранчук. Але ж нехта даў яму трапную мянушку, І ўсе вакол яе падхапілі, ды і Андрэй сам звыкся з мянушкаю.

Ішоў ён гранічкаю — дарогаю, што падзяляла палі дзвюх суседніх вёсак, — у руках нёс кошык з зялёнкамі. Грыбоў у лесе было ўжо мала — лес выдыхаўся, ды Кволы ўсё яшчэ верыў у сваё сіроцкае шчасце. Ён лепш за каго з хутаран ведаў грыбныя мясціны. Беднасць, голад вымушалі яго, адзінага ў сям'і мужчыну, шукаць няхай сабе і познія лясныя ласункі, каб хоць як папоўніць нішчымнае хатняе едзіва.

— Кволы! — Андрэй ледзь не ўздрыгнуў ад глухаватага знаёмага голасу, спыніўся і толькі тады ўбачыў Беркута ў прыдарожных кустах ядлоўцу. Беркут выскачыў на гранічку: — Здароў буў! — ледзь прыкметна пракартавіў і падаў Кволаму руку. — Што вылупіў вочы? Не ждаў?

— Прывет, — вяла адказаў Кволы і лёгка паціснуў пухлую далонь.

— Бачу, брат, на падножным корме сядзіш. — Беркут глянуў на кошык з грыбамі і ціхенька ўсміхнуўся. — Так доўга ногі не пацягнеш!

— Ты мне зубы не загаворвай...

— Я да цябе якраз ішоў,— сказаў Беркут, і яго вочы з-пад брыля кепкі востранька бліснулі карым агнём. — Аглянуўся, бачу — тэпае не хто іншы, як ты.

— Кажы, што трэба? — Кволы напружана ўглядаўся ў Беркутаў твар, які то імгненна весялеў, то з тою ж імгненнасцю сур'ёзнеў. Доўгі прыгнуты нос быў падобны на дзюбу драпежнае птушкі, правае брыво, прыўзнятае і заломанае на сярэдзіне, нагадвала лінію птушынага крыла; палеская вёска, якая ўзрасціла Беркута, ведала, што, аздабляючы сваё жыццё мянушкамі сваіх жыхароў, яна і гэты раз не дала маху — з лёгкай рукі перакрэсліла яшчэ адну метрыку, перахрысціўшы гэтак на свой манер Кратовіча Лявона...

— Што трэба, што трэба... Строгі ты нейкі стаў, чыста вайсковец. Справа наклёўваецца, — нарэшце адказаў Беркут.

— Выкладвай.

— Каля Падлесся пасвіцца незвычайны статак кароў.

— Чаму незвычайны?

— Бо не нашанскі, чу-жы, — зыркнуў вачыма Беркут.—А пастух, ведаеш хто?

— Ну хто?

— Аніхто! — сказаў і неяк па-бабску хіхікнуў Беркут. — Цяміш?..

Кволы здагадаўся, куды Беркут хіліць гамонку, гэты ад няма чаго рабіць не шукаў бы яго, не біў бы ногі праз той кавалак дарогі, што ляжаў паміж яго Падлессем і Зялёным Гаем, хутарам, дзе жыў Кволы. Беркут даўно прыглядзеўся да Кволага. «Хуліган, адчайная галава, — цяплела ў Беркута на душы кожны раз, калі прыглядаўся да Кволага. — такі ў бядзе не пакіне, а калі падваліць удача — прыкусіць язык...» Беркут прыгадваў пісталет, які дастаўся Кволаму ад забітага немца, з радасцю думаў пра тое, што ні адна жывая душа не бачыла таго пісталета ў Кволага. Беркут, можа, і сам не ўбачыў бы, каб не простая выпадковасць. Было гэта ў грыбах. Неяк Беркуту закарцела падужацца. І калі ён абшчаперыў Кволага сваімі чэпкімі кароткімі рукамі, нечакана адчуў штосьці мулкае пад яго ватоўкаю. «Ты што, камень

за пазухай цягаеш?» — пажартаваў тады Беркут. «Не сунь носа не ў сваё проса», — адбіўся Кволы. «Пакаж, пакаж», — дамагаўся Беркут. «Усім разляпаеш», — не давяраў Кволы. «Ты што, мяне не знаеш? Магіла! Гад буду!» — абяцаў маўчаць Беркут. І тады са сподняе кішэні ватоўкі Кволы дастаў чорны бліскучы парабелум. І не толькі дастаў, а загадаў Беркуту павесіць на сучок пачак з-пад запалак. Адышоўся крокаў на дваццаць. Грымнуў стрэл — і пачак як ветрам змяло. Знайшлі, паднялі і ўбачылі: ён прабіты пасярэдзіне.

«Ну ты і гад! — па-свойму з захапленнем гаварыў Беркут.— Хто навучыў страляць?» — «Не ведаеш хто? — Кволага здзівіла дзіцячае пытанне. — Вайна навучыла!..» — «Ану дай я», — Беркуту карцела не адстаць.

Стралялі па чарзе. Усе патроны выпусцілі з абоймы. А потым што ёсць духу махнулі ад той мясціны, каб не натрапіць на людское вока. На тым і разышліся.

Беркут пасля вельмі хацеў выцыганіць у Кволага пісталет, абяцаў грошы, потым абяцаў шмат грошай. Ды ўсе яго намаганні былі марныя...

Беркут не раз клікаў Кволага пагойсаць ноччу, прыгледзецца, дзе што не так ляжыць, аднак нічым пад'юдзіць не ўдавалася.

Кволы недалюбліваў Беркута. Не падабалася яго піжонства. Раздражняла ўсё, што было на ім, — кепка, якую насіў набок, скураная куртка, новыя галіфэ, боты, наваксаваныя да глянцу. І не таму, што сам ён, Кволы, не меў нічога падобнага — на ім былі кужэльныя нагавіцы, з якіх пачыналі прасвечвацца калені, на нагах неданошаныя бацькавы чаравікі (бацька не вярнуўся з вайны), — абурала не па часе модніцтва Беркута. Але было ў ім нешта і такое, што Кволага як бы гіпнатызавала. Беркут быў на тры гады старэйшы, меў большы вопыт. У ім, каржакаватым, плячыстым, жыла і дыхала на поўныя грудзі сіла. І ён выхваляўся ёю не менш, чым сваімі ботамі і вопраткай. Цяпер, на гэтай гранічцы, глядзеў ён на Кволага так, як спекулянт глядзіць на тавар: рэч не танная, але ў абароце дасць прыбытак, а таму ён гэ-

тую рэч купіць, чаго б ні каштавала яму. І вось тут Беркут адчуў, што Кволага ў рэшце рэшт можна купіць.

Кволы стаяў з выгляду спакойны, але ў ім віравалі самыя супярэчлівыя пачуцці і думкі. Барацьба ішла паміж «нямож-на» і «трэба», жорсткая, бескампрамісная. «Гэта страшэнная ганьба!» — гаварыў адзін голас. «Але ніхто не даведаецца... З Беркутам не прападзеш», — спрачаўся голас другі. У галаву Кволаму лезла ўсякая драбяза. Згадалася, напрыклад, як аднаго разу Беркут памог яму ў горадзе па добрай цане прадаць баравікі...

— Кажаш, няма пастуха? — раптам спытаўся Кволы.

Беркут у гэтым пытанні ўлавіў нотку зацікаўленасці.

— Гад буду!..— грукнуў ён сябе кулаком у грудзі — Гайда за мною!

Кволы ў тую хвіліну чамусьці падумаў пра малых сваіх сёстраў, — іх было ў яго дзве, — убачыліся іх бледныя худзюшчыя твары, босыя на халоднай падлозе ногі.

Ён моўчкі падаўся за Беркутам.

## II

Ішлі лесам.

Беркут разумеў, што Кволы ўсё яшчэ вагаецца, што цалкам схіліць яго на свой бок можна толькі цяпер, не даўшы апомніцца.

— Тут такая штука, — загаварыў ён разважліва, правёўшы далоняю па плячы Кволага, — немцы не паспелі пусціць пад нож усіх кароў, нарабаваных недзе на акупаванай тэрыторыі. Цяпер іх здаля пераганяюць паганятыя. А тут, бач, утульны куточак... Ну, захацелі адпачыць, дый жывёле трэба даць аддыхацца...

Кволы слухаў Беркута, а сам успамінаў свайго каня Беляка, якога ўзялі ў абоз (узамен далі кульгавага, што маці назвала Нэндзаю), успомніў карову Мальву, якую немцы забралі ўжо ўцякаючы.

Кволы і Беркут выйшлі з лесу на выган. Беркут не маніў. Каровы насамрэч былі не мясцовыя.

— Во, палюбуйся! — падмаргнуў Беркут.—Якую хочаш бяры.

— А паганятыя?..— насцярожыўся Кволы.

— Я ўсё ўжо разнюхаў, будзь пэўны...

Па дарозе назад Беркут і Кволы дамовіліся прыйсці сюды вечарам.

— Ну то будзь, — сказаў Беркут.

— Ага, да вечара.

— Толькі «скараходы» не забудзь.

— Што? — недачуў Кволы.

— Лапці, кажу, вазьмі.

— Ладна.

Кволы пайшоў дадому і ў думках апраўдваў сваю — такую рызыкоўную — згоду. Ён думаў пра тое, што гэты статак вырваны з варожых рук. Значыць, не такі і вялікі грэх — узяць часцінку таго, што забрана ў ворага, які не пытаўся ў нас дазволу рабаваць людзей...

## III

Яшчэ Падлессе не схавалася ў вечаровым змроку, як Кволы быў ужо ў вызначаным месцы. У ядлаўцовых кустах, на мяккім радне зялёнага моху чакаў яго Беркут.

— З'явіўся... — здаволена выскаліўся ён.

— З'яўляецца чорт у сне, — задзірыста адказаў Кволы.

— Пачакаем, пакуль сцямнее, — ураз пасур'ёзнеў Беркут.

Яны селі, дасталі самасад, запыхкалі самакруткамі. Пакурыўшы, доўга ляжалі моўчкі. Прыслухаліся. З Падлесся не даляталі ні кукарэканне пеўняў, ні брэх сабак. Вёска супакоілася. Працяжна шумелі ў лесе вершаліны цёмных соснаў. Кволаму здавалася, што дрэвы — адно аднаму — перашэптваюць нейкую навіну. Пра што яны шэпчуцца?..

Беркут думаў пра іншае. Ён ведаў, што неўзабаве ўзыдзе месяц. Ён ўсхапіўся на ногі.

— Давай вяроўку.

— Трымай, — кінуў Кволы.

— Хадзем.

— А паганятыя?..

— Самагонку смаляць. Хадзем.

Але Кволы стаяў на месцы.

«Здрэйфіў, смаркач! Гад буду, здрэйфіў!» —- пранеслася ў думках у Беркута.

— Чаго ты дрыжыш?!

— Мне холадна... Ногі не ідуць...

— На табе ж куфайка. Хадзем, не бойся.

І яны моўчкі накіраваліся да статка. Большасць кароў палегла ўжо нанач, астатнія яшчэ жавалі жуйку стоячы.

Падкраліся да каровы, што стаяла збоку адна. Яна аказалася рахманаю, не сваступіла з месца, а толькі павярнула галаву. Беркут, не марудзячы, накінуў ёй на рогі вяроўку, заарканіў.

— Лапці, — гарачым шэптам выдыхнуў ён, азіраючыся і мацаючы позіркам змрок.

Наўкола было спакойна. Цьмянавата жаўцелі ад газовак вокны падлескіх хатаў.

Кволы прысеў ля пярэдніх ног жывёлы, паклаў на зямлю лапці. Абедзве пары нямала паслужылі яму самому. Сам жа іх зрабіў з разбітага нямецкага матацыклета. Абуць карову, думаў ён, мала цяжэй, чым спутаць на лузе каня.

Адзін толькі момант Кволы стаяў на каленях, востра чуючы каленьмі восеньскі холад зямлі. Тады ён сеў, падабраўшы пад сябе ногі, і, нагнёны, праваю рукою падсунуў адзін лапаць да самага капыта, а леваю ўзяўся за масол. Карова стаяла як укопаная. Кволы пачаў тузаць за нагу, паляпваць па ёй далоняю, аднак і гэта не памагала. Тады ён стаў гладзіць. Калі нарэшце карова паставіла нагу ў лапаць, Кволы паспешліва ўзяўся за аборы.

Кволага толькі напачатку здзівіла выдумка Беркута з гэтымі лапцямі. А тут, на выгане, ён паспеў упэўніцца, што звычайны лапаць зусім няблага сядзіць і на капыце, адно даўгаваты, свабодным застаецца заднік. Кволы не прыціскаў яго абораю наўмысна, каб след быў падобны на чалавечы. Ля капыта масол таўсцейшы, значыць, думаў Кволы, абвітая вакол абора не павінна спаўзаць.

Кволы стараўся. Гулка тахкала ў грудзях сэрца. Здавалася, вось-вось павінен хтосьці нечакана з'явіцца. «Ну, і няхай сабе!» — разважаў ён сам з сабою, — калі правал, дык лепш адразу». Але ніхто пакуль не ішоў, і Кволы спяшаўся. Тым часам над чорнаю сцяною лесу ўзышла поўня, вялізная, круглая, нібы надзьмутая, і навокал трохі пасвятлела.

Калі нарэшце ўсе чатыры нагі былі абутыя, ён праверыў рукамі, як сядзяць лапці і як трымаюцца аборы над кожным капытом жывёлы. «Парадак», — падумаў ён не без мімалётнага здавальнення і гонару за свае ўмелыя рукі, нават усміхнуўся: «Ну, Пярэстая, цяпер табе не страшныя ні пень, ні калода».

Пярэстая спачатку неахвотна, а пасля, быццам дадому, паслухмяна пайшла за Беркутам.

Паміж выганам і лесам ляжаў папар. Адным канцом ён упіраўся ледзь не ў Падлессе, а другім цягнуўся да Прылукаў, суседняга люднага сяла. Набліжацца да жытла было рызыкоўна. А прайсці полем, каб не засталося на ім слядоў жывёлы, было немагчыма: толькі пачала падсыхаць зямля пасля доўгіх дажджоў, таму так дарэчы прыйшліся лапці.

Над лесам, падымаючыся вышэй, ярчэла поўня.

— Чорт, гэты месяц!.. — буркнуў Кволы.

— Маўчы! — абрэзаў яго Беркут.

Кволы тэпаў ззаду. Калі пайшлі па раллі, ён прыгледзеўся і заўважыў, як на голай глебе цягнуцца гумовыя ромбікі — падэшвы лапцяў. Але нядоўга ён стаяў над гэтым узорам. Нечакана з адной нагі Пярэстай лапаць сарваўся: яна заднюю нагою наступіла на свабодную частку лапця пярэдняй нагі. Абора парвалася, і карова некалькі крокаў ступіла голым капытом.

— Стой! Стой! — крыкнуў Кволы, падняўшы лапаць.

Беркут прыпыніўся. Кволы дастаў з кішэні запасную абору, каб замяніць ёю парваную, прысеў пад чэравам у каровы. Пярэстая, як і першы раз, паслухала не адразу. Кволы адной рукой трымаў напагатове лапаць, а другой гладзіў масол — ён ужо меў вопыт. Калі карова стала ў лапаць капытом, Кволы

пачаў прымацоўваць лапаць абораю так, каб не адстабурчваўся і не матляўся заднік. Затым ён гэтаксама падправіў абору і на другой пярэдняй назе. Цяпер жывёліна шлэпала як мае быць. Замінка была нядоўгая. Калі кончылася поле, кволы дастаў з глыбокай кішэні нагавіцаў пацёртага ў парашок самасаду, пачаў ашчадна пасыпаць амаль непрыкметныя сляды ад ботаў Беркута, сваіх чаравікаў і даволі яшчэ выразныя ромбікі гумовай падэшвы лапцяў. «Не на тых нарваўся, не возьмеш!» — думаў Кволы, злуючыся на ўяўнага сабаку, з якім, магчыма, нават пагранічнік з заставы выйдзе на след...

Так яны дацягнуліся да лесу. Як толькі ўвайшлі ў высокія шаты, за воблакамі схаваўся месяц. У лесе стала зусім цёмна.

— Пакурым? — сказаў Кволы.

— Ага, давай, — пагадзіўся Беркут.

Скруцілі самакруткі. Кволы чыркнуў запалкай, і яны абодва зацягнуліся.

Кволы прытуліўся да шурпатага камля хвоі, прыслухаўся. Як і тады, надвячоркам, шумелі вершаліны, толькі цяпер у гэтым пошуме было болей і тугі, і трывогі. Кволы слухаў гамонку дрэваў. Ці то ад голаду, ці то ад едкага дыму кружылася галава.

— Пра што шумяць дрэвы, Беркут?

— Ды памаўчы ты! — прабурчэў той, шкадуючы, што не папярэдзіў Кволага адразу, каб маўчаў.

Беркут і Кволы патушылі аб кару сасновага камля свае недакуркі. Цудам знайшлі патрэбную сцежку, тую, па якой ніхто не ходзіць, апроч грыбнікоў. Сустрэча з якім хутаранцам або вяскоўцам цяпер магла б нарабіць бяды. Сцежка была роўная, гладкая, нідзе не вытыркала карэнне, і яны прыспешылі крок. Але Кволы не забываў пра свой тытунь — раз-пораз даставаў з кішэні і высяваў на сцежку.

## IV

Мінуўшы лес, пакіравалі напрасткі па прылясной цаліне да гранічкі. А калі дасягнулі яе, то пайшлі не сярэдзінаю дарогі, а ўзбоч, каб не пакідаць слядоў на пяску. Далёка ўнізе ляжалі хутаранскія сядзібы. Першая ад лесу — Малевіча, далей — Кандрацюка, яшчэ далей — Грыцука, пасля Грыцуковае — Груцэвічыхі, а там, перад лагчынаю, — Гарэлікавых, за лагчынаю—Тарасевічыхі. Далей — голая, як калена, горка і адразу за горкаю — хутар Каранчуковых — яго, Кволага, хутар.

Калі набліжаліся да варот, пачуўся брэх Тэклінага сабакі, здрадліва выплыў з-за падраных, нібы анучы, воблакаў месяц. Стала светла, хоць збірай іголкі. За Тарасевічыху Кволы быў спакойны: яна звечара спіць. І хаты яе не відно з-за горкі. А вось другая суседка, Тэкля Курачка, відаць па вокнах, не спала яшчэ, да таго ж брахаў яе сабака, і гэта крыху непакоіла.

Карову падвялі да пустога хлеўчыка. Кволы адчыніў дзверы і саступіў убок, каб жывёла прайшла ў хлеў. Беркут апусціў вяроўку і гэтаксама адступіўся да сцяны. Карова стаяла, панура апусціўшы галаву, потым пачала абнюхваць парог. Яна не хацела пераступаць гэты, хай сабе і нізкі, парог. Кволы пагладзіў яе па крутой шыі, пачухаў галаву паміж рог.

— Н-ну, коб ты спрахла! — сказаў Беркут і падштурхнуў яе ззаду наском бота.

Карова не слухала. Тады Кволы здагадаўся, што пераступіць ёй замінаюць лапці. Ён дастаў складанчык, пачаў рэзаць аборы — корпацца доўга ля кожнага капыта было б небяспечна: Кволы не быў упэўнены, ці заснула маці. Праўда, газоўка ў хаце не свяцілася, але гэта яшчэ нічога не азначала. Кволы, адыходзячы пад вечар з дому, не сказаў мацеры, куды ён пойдзе і калі вернецца, таму яна магла турбавацца за яго і не спаць. А ў такім разе маці не зачыняе дзверы на засоўку і час ад часу выходзіць на вуліцу. Кволы ведаў, што, пакажыся з крадзеным на вочы мацеры, яна залямантуе, за-

галосіць. Тады карову, здабытую гэтак рызыкоўна і нялёгка, давядзецца выпусціць.

Кволы з ног каровы зняў лапці, і яна ўвайшла у цёмную пашчу хлеўчыка.

У хаце, як і раней, было ціха, не гарэла газоўка. Кволы падышоў да калодзежа. Зараз ён ужо не баяўся злёгку бразнуць вядром. Нават не баяўся, што ў хлеўчыку можа рыкнуць карова: маці з вайны кепска чула, а да суседняга хутара, дзе жыла Тэкля, было не так блізка. Але не паспеў Кволы выцягнуць з калодзежа вядро вады, каб наталіць смагу, як дзверы ў сенцах зарыпелі, і на парозе паказалася маці.

— Гэта ты, сынок? — спытала.

— Я, мама, я. — Кволы падбег да парога, увайшоў у сенцы, баючыся, каб маці не адышлася ад хаты і не ўбачыла Беркута. Яна пайшла за сынам у хату.

— А мне здалося, злодзеі крадуцца па двары, хоць красці няма чаго.

— Лажыцеся, мама, спаць, а я на сене буду, на вышках.

—Змерзнеш пад хваробу.

— Ну што вы, у сене цёпла.

— Вазьмі хоць радно, лахаў набяры.

— Добра, мама, вазьму.

— А як змерзнеш, прыходзь дахаты.

Маці нарэшце ўпэўнілася, што сын дома. Яна зачыніла дзверы, падышла да ложка, дзе спалі яе блізняты Ніна і Шура. Яна іх нарадзіла ў першы год вайны. Гаспадар пайшоў у партызаны, пасля на фронт, а яна, Алена, засталася з імі на руках. Балазе, быў ужо даўжманы Андрэй, адзіны яе паратунак. Нагаравалася за вайну, ратуючы дзяцей, але не губляла надзеі —усё чакала Пятра, малілася Богу, укленчыўшы перад абразамі, каб вярнуў дзеткам бацьку. А ён не вярнуў Пятра. Не пачуў яе малітваў, нібы і самога аглушыла вайна. Не пачуў, іначай не даў бы загінуць за тыдзень да перамогі... Была вясна, было сонца, калі чорная вестка знайшла хутар Каранчукоў. І чорная ноч заслала вочы Алене; хацела налажыць на сябе рукі, але сяхнуў у той цемені агеньчык яе новай надзеі, агеньчык яе адзінае мэты — выгадаваць сіро-

так, не даць ім загінуць. Алена ведала, што яна ўжо назаўсёды згасла для свайго асабістага жыцця, толькі дзеля дзяцей трымалася на свеце.

Цяпер маці падышла да дзяцей, убачыла, што дачушкі спяць, — пра гэта казалі іх вольна раскрыленыя ручаняты, — і сама яна неўзабаве заснула моцным сном.

Кволы і Беркут напіліся сцюдзёнай вады, накіраваліся ў хлеў. На зачыненыя за сабой дзверы Кволы навесіў плашч-палатку. Толькі пасля гэтага чыркнуў запалкаю.

— На сцяне лямпа, — сказаў ён Беркуту. — Падай.

Беркут зняў з цвіка дапатопную лямпу, падняў заседжанае мухамі шкло, падкруціў вільготны ад газы кнот. Кволы паднёс запалку, і кнот аполымеўся.

— Патрымай, я зараз... — і ён выйшаў на двор, шчытна зачыніўшы за сабою дзверы. Няспешна абышоў вакол хлеўчыка, прыглядаючыся, ці няма шчылін у сценах, і прыслухоўваючыся да цішыні. Толькі калі ўпэўніўся, што святло нідзе не працэджваецца вонкі, а навакольную цішу нішто не парушае, ён вярнуўся. Тым часам Беркут павесіў лямпу на цвік.

— Поўны парадак, — сказаў Кволы. — Лепшае табе і не снілася.

— Ладна, не цягні ката за хвост! — адрэзаў Беркут. — Час прыступаць.

— Мне?

— Няўжэ ж мне!

— Ды я... Я ні разу не... — Кволага апанавала пачуццё крыўды на Беркута. Не толькі на яго — і на сябе: трэба ж было звязацца!..

Кволаму даводзілася забіваць трусоў, калоць свіней, рэзаць авечак, але карову — ніколі. Ён не дужа баяўся забіваць чужую карову, але не чакаў ад Беркута такога павароту, ды і не ўпэўнены быў, ці справіцца. Перад ім стаяла вялізная жывёліна. У малым хляве ды яшчэ пры цьмяным святле яна нагадвала зубра. Аднак у нерашучасці Кволы стаяў толькі момант — пакуль не зразумеў, што Беркут не адступіць, будзе зацята стаяць на сваім. Ён узяў малаток, падышоў да

каровы. Прылашчыў леваю рукою, каб намацаць за рагамі маленькую ямачку.

— От яна.

— Дай гляну, — падышоў Беркут. — Так, так, акурат сюды і цюкні.

Сказаўшы гэта, Беркут задам-задам адступіў на ўсякі выпадак да дзвярэй.

Кволы і пры сухотлівым святле лямпы, у якой мала заставалася газы, прыкмеціў сумныя вочы Пярэстай, якімі яна глядзела на іх, сваіх новых гаспадароў. Але толькі зараз падумаў, што карова ўсё жыццё корміць людзей малаком, і здзіраць з яе скуру дзеля мяса — грэх...

— А праўду кажуць, што жывёла прадчувае сваю пагібель,— сказаў ён.

— Слухай, ты не збіраешся цалавацца з ёю на развітанне?! — пакпіў Беркут. — Дык знай, мыза ў яе халодная, прастудзішся.

— З уласнага вопыту ведаеш?

Кволы таксама не збіраўся лезці ў кішэню па слова, але тое, што Беркут менавіта цяпер стараўся быць дасціпным, узлавала Кволага. Ён маланкава ўскінуў малаток, нібы перад ім стаяла Беркутава карова, штосілы апусціў яго вострую халодную дзюбу ў тую цёплую ямачку за рагамі жывёлы, у якой толькі што ляжалі ягоныя пальцы.

Пасля вострага і трапнага ўдару карова апусцілася на калені і рухнула на салому.

Кволы схапіў даўно падрыхтаваную касу і адным махам перарэзаў ахвяры горла. Хлынула кроў.

— Ну, вось і мая чарга, — Беркут скінуў куртку, закасаў рукавы рубашкі, з форсам дастаў з-за халявы нож.

Як ні стараліся, тушу разбіралі доўга: у хлеўчыку было нязручна і святла не хапала, даводзілася то на адну, то на другую сцяну перавешваць лямпу. Беркут вучыў Кволага, што нельга спаганіць мяса, трэба акуратна ўсё аддзяліць, а тушу даволі рассекчы на чатыры кавалкі, абы змаглі пагрузіць, а там, на рынку, ёсць спецыяльныя рубшчыкі... Недзе

апоўначы Беркут і Кволы мяса пагрузілі на воз. У скрыні якраз быў стары брызент, загарнулі ў яго, накрылі плашчпалаткаю, зверху наклалі саломы і сена.

Касу, малаток, сякеру, конаўку і абедзве пары лапцяў схавалі ў хлеўчыку пад саломаю. Патушылі лямпу. Пад калодзежам яны пяском і вадою адмылі рукі. Кволы накінуў ватоўку, вывеў з хлява і запрог каня. Заскочыў у хату — там усе спалі — знайшоў шматок ад шпалераў і аловак, схіліўся над сталом. У акно глядзеў месяц. Кволы напісаў мацеры вялікімі друкаванымі літарамі «Мама, сёння вярнуся».

Вылецеў з хаты, падбег да воза, дзе сядзеў Беркут, заскочыў у скрыню, лёгка пацягнуў лейцамі па кані, рыпнулі калёсы, і яны выехалі за вароты.

Усяго тры вярсты аддзялялі хутар Зялёны Гай ад гасцінца. Аднак Беркут і Кволы, нягледзячы на начны час, не рызыкнулі выязджаць на бальшак (ці мала каму натрапіш на вока), пакіравалі кружным шляхам.

## V

Доўгае маўчанне парушыў Кволы.

— Ты ведаеш, — сказаў ён, — пра што я зараз думаю, Беркут?

— Ну?.. — пазяхнуў той.

— Правярнуцца б нам удачна! Ведаеш, як бы я парадаваў сваю малечу? Купіў бы ім новыя сукенкі, чаравікі, пальцішкі. І мацеру парадаваў бы цёплымі валёнкамі і галошамі, — Кволы зрабіў паўзу, чакаючы, што скажа Беркут. А той маўчаў. Тады Кволы спытаў: — Чаго ты маўчыш, Беркут? Што хацеў бы купіць у хату?

— І хочацца табе мянташыць языком, — Беркут раздражнёна адмахваўся ад свайго спадарожніка.— Нічога я не куплю, калі хочаш знаць. І ні кап’я не дам. А вось пагуляю — колькі ўлезе. Паеду да брата на Волгу, утрэскаюся ў расіяначку пухленькую, э-э-эх! — ён зухавата стрэльнуў пальцамі, пацягнуўся, як кот на цёплай чарэні, і дадаў: — Паганяй, брат, весялей!

Дзьмуў вецер. Па небе плылі хмары. Былі яны такія рэдкія, бы вада, а таму ўвесь час праз іх прасвечваў месяц. Пачынала пахнуць снегам.

## VI

На гарадскім рынку ў Беркута і Кволага не адразу ўсё пайшло гладка. Даведкі ад мясцовага ветэрынара яны, вядома, не мелі і атрымаць дазвол на продаж мяса змаглі толькі пасля таго, як адвалілі добры гасцінчык гаспадару кантрольнай службы рынка. Тут жа ўладзілі і з рубшчыкамі. Беркут быў з Кволым побач, пакуль не паставілі — прама на возе — вагу. А як толькі паставілі, ён адышоўся ад воза, азірнуўся і нядбайна, з крывой усмешкаю на твары кінуў:

— Скора вярнуся. Пачынай!..

У сэрцы Кволага зноў, які тады, у хлеўчыку, калі спрачаліся, каму забіваць, варухнулася пачуццё крыўды. «Увільвае... Любіць заграбаць жар чужымі рукамі», — прыйшло яму ў думкі.

Прадаваць мяса Кволаму не хацелася. Але ён умеў узяць сябе ў рукі.

Была нядзеля, і людзей рынак сабраў нямала. Прадавалі і куплялі тут бульбу, цыбулю, капусту, яблыкі і яшчэ сёе-тое з гародніны і садавіны. Сям-там выстаўлялі апошнія дары лесу — зялёнкі. Дзе-нідзе над гандлёвымі радамі бялелі прыгожыя вяночкі сушаных баравічкоў. Стаяў нават мёд. Былі малочныя прадукты. Бракавала толькі мяса. Кволы гэта зразумеў адразу, а таму першы кавалак ён паклаў на вагу даволі спрытна і, хоць у яго быў паганы настрой, пракрычаў у натоўп немаведама дзе і калі пачутае: «Налятай, наваліся, у каго грошы завяліся!..» Каля фурманкі Кволага ўтварылася доўгая чарга.

У чарзе стаялі адны жанчыны, і гэта хвалявала яго глыбока ды балюча: міжвольна думалася пра спусташальную вайну, пра бацьку, аўдавелую маці, пра суседскіх удоў: Груцэвічыху, Тарасевічыху, Тэклю...

Жанчыны гаварылі мала, дый то — ціхімі галасамі. Бадай, гэта былі самыя рупныя гарадскія гаспадыні. Яны ўжо на полудзень маглі згатаваць страву з ялавічыны, зусім свежай і нават таннай.

Кволы дарага не браў. Важыў ён даволі бойка, хаця спрыту не меў: дагэтуль прадаваць даводзілася толькі грыбы. Лічыць ён умеў добра, бо скончыў тры класы польскае і столькі ж савецкае школы, аднак не стараўся лічыць дакладна — сумы акругляў: хацеў як найхутчэй скончыць свой гандаль. Даваліся ў знакі і бяссонная ноч, і дарога, і голад — балела галава, да болю нудзіўся страўнік, — а яшчэ яго не пакідала нервовае напружанне. Яму ўсё здавалася, што аднекуль на рынак заявіцца цэлая група ўзброеных міліцыянераў. Адразу возьме дый накіруецца да яго воза. І тады — амба, не ўцячэш, нават кінуўшы і каня з фурманкаю, і ўсе, да капейчыны, грошы. Кволы ніяк не разлічваў на тое, што там, у Падлессі, абыдзецца ўсё ціха. Можа, паганятыя ўжо ўгледзелі прапажу. А калі так, то не могуць жа яны спаслацца на тое, што карова, маўляў, адбілася ад статка і натрапіла на ваўкоў. Кволы хваляваўся: што, калі пачнуць шукаць? Тады, вядома, не абмінуць рынак... Толькі ў адным быў упэўнены Кволы: тыя сляды, як снег, расталі ў лесе...

## VII

У адным з куткоў рынка, у кругу цэлага натоўпу разяваў і сваіх сяброў, стаяў на адной назе з мыліцаю пад пахай інвалід. Узятыя з новай калоды бубновая дзясятка і парачка тузоў красаваліся на невялічкай фанерцы, якую моцна трымаў худымі жылістымі рукамі чалавек у новым паліто і каракулевай шапцы.

— Американское лото! Американское лото! Не проигрывает никто!... Американское лото! Выигрывает шубу и пальто!.. — гучна вымаўляў ён кожнае слова і бясконца паўтараў каламбуры, запрашаючы прахожых. У яго быў схуднелы твар, густа зарослы чорнаю шчэццю. Калі ён гаварыў, яго запалыя вочы ззялі халодным святлом, і тым, хто толькі

прыйшоў на рынак, здавалася, што гэтыя словы нараджаюцца ў яго галаве з ходу, экспромтам.

Натоўп вакол «лато» рос. Выслоўі шулераў, апрабаваныя на публіцы, спрыт, якім валодалі іхнія рукі, — усё прыцягвала наіўных людзей, падкіх на лёгкія грошы.

— Эту поднимешь — проиграешь, — тлумачыў чалавек у каракулевай шапцы, паднімаючы піковага туза і кладучы яго на правы край фанеркі. — А вот эту возьмёшь — денежку найдёшь, — ён паказваў бубновую дзясятку і клаў яе на левы край. — Возьмёшь эту — ничего нету,— худая жылістая рука падымала яшчэ аднаго туза і, закрываючы яго, клала пасярэдзіне.

Дзядзька ў каракулевай шапцы верыў у поспех. Усё, чым адарыла яго прырода, — і выразнае слова, і праніклівы позірк, і кожны рух — ачмуральна дзейнічала на тых, каму карцела рызыкнуць... Натоўп не меншаў. Многія стараліся прабіцца бліжэй. Хто не мог праціснуцца, станавіліся на дыбачкі. А ён, карцёжны майстар, як бы ўдасканальваў сваё майстэрства, усё стараўся гаварыць складна.

— Граждане, торопись! Не скупись, ядрёна вошь: рубль положишь — два возьмёшь.

Увесь гэты час за картамі пільна сачыў Беркут. Цяпер яго рука азартна накрыла карту з левага краю.

— На гэту карту кладзі сотку, — папярэдзіў інвалід.

Беркут, не знімаючы рукі з карты, машынальна дастаў сотню і кінуў на фанерку, як патрабавалі правілы гульні.

— Карта каштуе дзвесце, — нечакана заявіў інвалід.

Беркут дастаў яшчэ адну сторублёўку і кінуў на фанерку.

Інвалід зразумеў, што ў Беркута ёсць грошы, і рэзка павысіў стаўку.

— Пяцьсот!

— Як пяцьсот?! — абурыўся Беркут.

Але той настойліва паўтарыў лічбу і дадаў:

— Калі выдыхся, то забяры свае грашы і дуй каўбаскай па Малай Спаскай, не шкодзь каму, — ён шпурнуў Беркуту ягоныя дзве сотні.

Аднак Беркут карту не адпускаў.

— Ладна, стаўлю пяць, — сказаў ён і, не адводзячы вачэй ад картаў, пачаў рукамі ў кішэнях шукаць грошы.

Але толькі на імгненне перакінуў позірк на кішэню, з якой пагражалі выслізнуць некалькі чырванаватых трыццатак, — і гэтага было даволі, каб фанерка ў руках шулера павярнулася на сто восемдзесят градусаў. Бубновая дзясятка ляжала ўжо справа. Беркут гэтага заўважыць не паспеў. Ён выкінуў названую суму і рашуча падняў карту.

— Цьфу ты! Не тая!.. —- фанабэрыста ўсміхнуўся карцёжны камбінатар, кладучы ў кішэню лёгка здабытую суму.

— Як жа так?! — не мог уцяміць Беркут. — Тут жа была дзясятка...

— Ахха-ха-ха-ха! — здзекаваўся той. — Была, ды сплыла.

— Лопух! — кінуў хтосьці з натоўпу. — Жаўтароцік!

Тым часам шулер, што ў каракулевай шапцы, па-ранейшаму заклікаў, з эфектам вымаўляючы новы набор загадзя прадуманых словаў:

— Американское бобе: рубль мне, два — тебе!

Беркут, толькі што апёкшыся, не адразу клюнуў другі раз. Але камбінатар дзейнічаў хітра. Ён, каб падагрэць азарт, даў выйграць аднаму з сваёй кампаніі, такому ж, як і сам, махляру. І тады Беркут не ўтрымаўся. Але ж і гэты раз яму не пашанцавала: зноў ён падняў не тую карту.

Беркут махнуў рукой і плюнуў.

Як пабіты сабака, ішоў ён прэч.

## VIII

«Хаця б не трапіўся хто знаёмы!» — думаў Кволы, узважваючы і падаючы кавалкі мяса людзям — каму ў сумку, каму ў газету, каму ў сетачку-авоську. Многія дзякавалі яму за свежую ялавічыну, за танную цану.

Між тым кардонная каробка, якую Кволы знайшоў побач з возам і якую паставіў у скрыню побач з вагою, паціху напаўнялася грашыма.

Раптам, нібы зваліўшыся з неба, перад Кволым вырас Беркут.

— Ну, многа ўтаргаваў? Падзелім, ці шо?

Кволы ўсё яшчэ спадзяваўся на Беркута, што той падменіць яго, адпусціць хаця б глянуць на свет божы. Здавалася, усё аддаў бы, каб выпіць морсу, — у горле было суха і горка. А тут замік падмогі — адкрытая нахабнасць...

— Не спяшайся, — не паказваючы гневу, сказаў Кволы, — патраціць паспееш. Скончым, тады і падзелім.

— Мне трэба грошы! — настойліва патрабаваў Беркут.

— Усім яны трэба! — цвёрдым голасам сказаў Кволы.

Тады Беркут у адзін момант, нібы кот у шпакоўню, запусціў лапу ў каробку з грашыма, заціснуў хрусткія паперыны ў далоні, засунуў іх у кішэню курткі, павярнуўся і шпарка пакрочыў ад воза.

Гэта падштурхнула Кволага. Ён старанна выбраў самыя вялікія купюры, запіхнуў сабе за пазуху, рубашку і ватоўку зашпіліў на ўсе гузікі.

## IX

Калі быў прададзены апошні кавалак мяса, аб'явіўся Беркут. Падбілі бабкі. Выручку падзялілі пароўну. Атрымалася больш як па тысячы рублёў. Прэтэнзій адзін да аднаго не мелі. Беркут не сумняваўся, што ён хаўрусніка абхітрыў, а Кволы, які ніколі ў жыцці не толькі не меў, але і не бачыў гэтулькі грошай, адно пасміхнуўся, калі далучыў гэтую суму грошай да тых, непалічаных, — атрымалася поўная пазуха. Беркут палажыў свой прыбытак у спецыяльную споднюю кішэню скуранкі. Палуднаваць у горадзе не сталі, купілі сёе-тое з харчу і пакіравалі дадому.

Кволы быў за фурмана. Беркут ляжаў на саломе. За горадам пацягнула сіверам. Кволы на ватоўку накінуў плашч-палатку, якая няблага затуляла ад ветру. Шапкі на галаве не было — ён меў звычку да першага снегу хадзіць без шапкі. У дарозе, вядома, яна не пашкодзіла б. Як і на рынку,назойліва лезлі яму ў вочы валасы. Адной рукой ён раз-пораз адграбаў свае непаслухмяныя пасмы, у другой руцэ трымаў лейцы, якімі час ад часу падганяў каня.

Ехалі па бруку. Шалёна грукаталі колы. Беркуту прыемна было слухаць гэтае суцэльнае тарахценне, і ён задрамаў. Але неўзабаве скончыўся брук, і ад гасцінца пачыналася больш кружная дарога — тая прасёлачна-лясная, па якой яны ехалі ў горад. Кволы прыпыніў каня і гучна запытаўся:

— Дзе едзем?

Беркут лыпнуў вачыма, і правае брыво яго, рэзка узляцеўшы, заламалася.

— Ты нешта казаў?

— Куды, пытаюся, ехаць: прама ці направа?

— Кіруй направа.

Яны з'ехалі з гасцінца, і воз па глыбокіх каляінах паплетухаўся да лесу.

Беркут соладка пацягнуўся і выдыхнуў:

— А што ні кажы, здорава ў нас атрымалася!..

У памяці Кволага чамусьці мільгнуў хлеўчык, залыганая карова, загучалі, быццам толькі што сказаныя, рэзкія словы Беркута: «Ладна, не цягні ката за хвост!» Кволы ў думках зноў падышоў да жывое каровы, наноў прылашчыў яе і намацаў між рог маленькую цёплую ямачку, аж пацяплелі пальцы левай рукі. З прасторы наплылі тыя вочы, у якія заглянуў ён тады, перш чым ускінуў дзюбаты халодны малаток над галавой жывёліны. Ці то прадчуванне пагібелі ці проста нейкае пакутлівае пытанне застыла тады ў вялікіх і сумных каровіных вачах...

— Як ужо ні атрымалася, толькі на мяне больш не разлічвай, — рэзка азірнуўся Кволы.

— А што так? — зляпіў усмешку Беркут.

— А тое, што я не злодзей.

— О-хі-хі-хі-хі! — здаволена-кпліва затросся Беркут. — А хто ж ты, саколік?.. Зрэшты, праўда твая: ты не проста злодзей, а буйнакаліберны, хі-хі-хі-хі-хі-хі!

— Ты ж ведаеш, што мяне прымусіла...

— Ладна, Кволы, ад цябе пацягнула замагільнай скрухай, давай чарвяка заморым, — сказаў Беркут, дастаючы з кішэні галіфэ бутэльку гарэлкі, калі дарога прывяла ў лес.

Кволы рэзка пацягнуў за лейцы. Конь стаў як укопаны. Дасталі закуску.

— Трымай! — Беркут падаў Кволаму бутэльку.

Дарога дамоў стала весялейшаю, асабліва для Беркута. Як і раней, каня паганяў Кволы. Беркут ляжаў, акрыўшыся брызентам. Яго думкі вярталіся ў горад, на рынак, дзе ён больш як палову дня правёў няблага, калі не лічыць карцёжных няўдач. Сяды-тады прыходзіў там да яго і страх ад таго, што Кволага магла застукаць міліцыя, але той страх — глупства, бо калі што — Беркут мог бы змыцца...

Кволага нейкі час грэлі градусы, а яшчэ — грошы за пазухай. У вачах, нібы кадры, выхапленыя з кінафільма, запаволена праходзілі эпізоды: выган, лес, хлеўчык, дарога ў горад, рынак. Потым думкі яго ўсё часцей пачалі круціцца вакол хутара і хлеўчыка, спакваля вярталася, набіраючы новую сілу, трывога. Кволага шмат што пачало бянтэжыць. Была месячная ноч: ці ніхто не заўважыў, што з іхняга, Каранчуковага, двара выехала фурманка? Маглі, канечне, не заўважыць, і хутчэй за усё не заўважылі, бо хто мог? Тэкля? Але ж, калі выязджалі, была поўнач, і Тэкля, напэўна, спала... Сляды па раллі ў бок лесу?.. Чаму было не заблытаць іх — пайсці спачатку ў процілеглы бок? Чаму было адразу не пасыпаць махоркай? Гэта ж паказалі, дурні, напрамак! Што, калі пройдуць па дварах і зазірнуць у хлявы?! Тады — капцы. Адно хіба што без аўчаркі...

Кволы быў супакоіўся, што ў хлеўчыку не дакапаюцца. Аднак новая думка цюкнула ў скроні. Міліцыянер як піць даць ужо мог даведацца пра яго, Кволага, адсутнасць. Яго як яго, а вось яшчэ — і каня з возам. Спытаецца ў мацеры, дзе яе сын, і што яна скажа? Можа, маці нават сама, напалоханая прапажай каня і воза, падняла вэрхал. Але ж яго запіска на шматку шпалерыны... Ці не скеміла па ёй маці, што трэба схітрыць, калі зойдзе і папытаецца надта ж цікаўная суседка Тэкля. А калі ўчастковы — дык гэтаксама нешта ж можна прыдумаць... Але ці ўмее яго маці хітрыць?..

Воз валюхнуўся ў глыбокіх калдобінах. Кволага моцна шамятнула ў скрыні, ён ледзьве ўтрымаўся, каб не кульнуц-

ца на салому. Азірнуўся: Беркут спаў, нацягнуўшы на бок брызент і кепку на вочы. Сумненні не пакінулі Кволага. Ён падумаў нарэшце, што калі нават усё будзе ціха, што тады рабіць з грашыма? Купіш нешта на ногі ці на плечы — заўважаць людзі: адкуль грошы? Значыць, яшчэ жыць і жыць пад страхам!..

Ды і як хавацца з грашыма ад мацеры? Было б нашмат лягчэй, каб можна было ёй пра усё расказаць?! Але як расказаць?! Кволы цяпер баяўся не матчынага плачу, а мацярынскага суда: яна ж ніколі не вучыла яго красці. Ах, каб можна было ўраз абярнуцца ў птаха, а ці хоць у зайца, а ці нават у паўзучую яшчарку, у чарвяка! З якою радасцю ён выгарнуў бы з-за пазухі грошы і аддаў бы — усё, да рубля! — за такі цуд! Але цуду не збыцца. Як адкупіцца ад злачынства? Што рабіць з грашыма?! Купюры за пазухай Кволага, якія нейкі час грэлі, а пасля пачалі прыпякаць, зараз падступілі сваім пякучым агнём да сэрца і горла...

Сонца заходзіла за хмарамі. Цямнець пачало ўвачавідкі. І стомлены кульгавы конь, і сонны Беркут, і цяжкія думкі рабілі ношу Кволага невыноснаю. У галаве як і не было хмелю. Страшна надакучыла аднастайная, рыпучая песня колаў. Усё надакучыла, усё абрыдла. Параненая, збалелая душа адно шукала на вечаровым даляглядзе самотны агеньчык Зялёнага Гаю.

Агеньчык той нібы адазваўся — засвяціўся здаля кропкай-зоркаю,— Кволы яго адразу адрозніў ад іншых, чужых, як толькі скончыўся лес і пайшлі знаёмыя змалку мясціны.

У чыстаполіцы ўзняўся рэзкі вецер. Дзьмуў ён Кволаму ў спіну і нібыта памагаў яго каню і возу. Кволы падганяў каня, каб хутчэй дасягнуць гранічкі, што вяла ў Падлессе, і там развітацца з Беркутам. У Кволага расла непрыязь да Беркута, яна пачынала выплівацца ў агіду. У яго вачах стаяла крывая ўсмешка Беркута, у вушах — яго жаргон і хіхіканне. «Знайшоў памочніка...» — з горыччу падумаў Кволы пра тое, як яго ўсё-такі лёгка завяло ў гнілое, смярдзючае балота, з якога паспрабуй цяпер выцягнуць ногі...

Беркут усё яшчэ спаў, нягледзячы ні на холад, ні на тое, што воз валюхаўся на траскіх, расшэйганых каляінах.

Ля скрыжавання дарог стаялі тры дубы. Кволы пад шэлест амярцвелага на дрэвах лісця перасек гранічку і спыніў каня.

— Вылазь! — пырнуў ён пугаўём Беркута у плячо.

Той імгненна прахапіўся і гэтак жа імгненна ўцяміў, чаму перарваўся яго сон.

— Кажаш, прыехалі? —Беркут стаў на адно калена, абцягнуў на сабе скуранку, паправіў на галаве кепку, саскочыў з воза, яшчэ трымаючыся за край скрыні. — То бувай.

Ён працягнуў руку на развітанне.

— Трымай свае брудныя рукі пры сабе! — з гневам сказаў Кволы і тузануў лейцамі каня.

Беркут, аднак, перахапіў лейцы.

— Цю-цю-цю! — падражніўся ён. — Не спяшайся, дзетка, у рай, пабудзь у пекле. Не забудзь, як ты гэтымі бруднымі рукамі грошыкі здабыў.

— Ах вось як, мой ты карміцель, — Кволы энергічна расхінуў на сабе плашч-палатку і, падымаючы крыссё ватоўкі, пацягнуў з-пад рэменя рубашку. Ён выхапіў цэлую кучу цёплых ад жывата грошай і шпурнуў іх Беркуту ў твар. — На, жары!

Беркут ніяк не чакаў такога ўчынку. Ён запознена выпусціў лейцы з рук, затуліцца не паспеў, як не паспеў затрымаць ніводнага рубля — грошы нібы аплявухай шлёпнулі яму па твары, рассыпаліся і, падхопленыя моцным парывам ветру, зніклі ў вячэрнім змроку.

Тым часам і Кволы з канём і возам таксама нырнуў у змрок. Беркут кінуўся быў удагонку, каб зрабіць Кволага шоўкавым, але падвярнуў нагу. Ён застагнаў, сціскаючы ад злосці кулакі... Дадому Беркут вяртаўся кульгаючы.

# АБРАЗКІ

## ПАЦАЛУНАК

У шпіталі трызніў смяротна паранены воін. «Ларыса! Ларыса! Ла-ры-са»— паўтараў ён імя любай збялелымі сасмаглымі вуснамі.

Параненага першая пачула санітарка, яна і паклікала медсястру, у якой было якраз такое імя, якое пачулася з вуснаў салдата:

— Ларыса, хутчэй сюды!

Медсястра жвава падышла да няшчаснага байца.

— Што, мілы? Я з табой! — дрыготкі дзявочы голас прагучаў так ласкава, так сардэчна, што ў параненага не засталося сумнення: поруч з ім — каханая, якую ён, калі выпраўляўся на фронт, не пацалаваў: у вялікага пачуцця не знайшлося тады рашучасці.

— Пацалуй мяне, — папрасіў юнак, не ў стане падняць вейкі вачэй.

Ні ён, ні медсястра ні з кім яшчэ не цалаваліся.

Ларыса нахілілася да схуднелага бязвусага твару юнака і па-дзіцячы прытулілася вуснамі да вуснаў.

Баец паміраў лёгка, што засведчыў выраз твару як бы з невымоўна-затоенаю ўсмешкаю. Збавенне ад пякельнага болю прыйшло з радасцю першага і апошняга пацалунка.

## «...БЫЎ БЫ НЕЦІКАВЫ ДЗЯЎЧАТАМ»

Вячаслаў на фронце ваяваў у складзе 58-й матарызаванай брыгады аўтаматчыкаў на танку Т-34. У верасні 1944 года ўдзельнічаў у баях на Нараўскім плацдарме (найменне—ад рэчкі Нараў, што ўпадае ў Віслу).

Доўгі час яму шанцавала. Вось і ў часе пераправы па падводным мосце ён ацалеў, у той час як асколкамі варожых снарадаў параніла абодвух аўтаматчыкаў, што сядзелі поруч, аднаго ў плячо, другога ў нагу. Аднак пасля пераправы і яго не абышлі асколкі: дробныя ўпіліся ў нагу, а яшчэ адзін, больш буйны, — у пахвіну.

Здарылася гэта ля вёскі Цэпяліны.

Пакуль выносілі з поля бою, салдат сцёк крывёю, пальцы звяло, зубы сашчапіліся. «Ну, усё, — падумалася вайскоўцу, — гэта смерць». Але пасля таго, як улілі ў вену донарскую кроў, ён ажыў, стала горача...

Паранены пасля палявога шпіталя трапіў у эвакашпіталь. Хірург Юлія Аляксандраўна ў той дзень зрабіла сорак аперацый. Аўтаматчык быў дваццаць пяты. Папрасіў, каб зрабілі мясцовы наркоз. Хірург пагадзілася, але пасля таго, як ён дазволіў сабе ў часе аперацыі пажартаваць: «О, бачу, добрыя кавалкі выразаеце!», зазлавала і загадала анестэзіёлагу: «Зрабіце агульны наркоз!»

Пасля аперацыі, калі баец ачуняў, хірург, жанчына бальзакаўскага ўзросту, успомніла ягоны жарт і сама пажартавала:

— Ну, малады чалавек, асколак, лічы, прамазаў. Бо, калі б на адзін сантыметр ніжэй трапіў — ты быў бы нецікавы дзяўчатам.

Ветэран вайны і працы з некалькімі асколкамі ў назе дажыў да свайго 90-годдзя. Святкаваць юбілей прыйшлі сын, нявестка, дачка, зяць і ўжо дарослыя ўнукі, а яшчэ — суседзі і настаўнікі школы, дзе ён пасля вайны ажно пяць дзясяткаў гадоў выкладаў родную мову. Юбіляр, як звычайна, распавядаў цікавыя гісторыі са свайго школьнага і даўнейшага — вайсковага жыцця. Але ні тады, ні раней і ні

пазней ніхто, апрача жонкі, не пачуў ад яго пра тое, як яму, цяжка параненаму, пашанцавала на вайне...

## МАЛЫ РОСТ ВЫРУЧЫЎ

...1938 год. Інтэрнат педвучэльні. Вечарынка. Юныя хлопцы і дзяўчаты ў вялікай зале танчаць беларускія танцы; тыя, што не танчаць, стаяць бліжэй да гарманіста. Хто на яго пазірае, хто — на танцораў; у бліжнім ад уваходу куце моладзь утварыла кружочак, гамоніць. На фоне вядомых мелодыяў чуваць то смех, то рэплікі, то ажыўленая гамана. Пануе скрозь родная мова.

— Гэй, малы! На выхад! — раптам паклікалі аднакурснікі Вячаслава, светлавалосага хлопца.

Вячаслаў, які даўно змірыўся з такой мянушкаю, бо на сваім трэцім курсе ён самы малы, азірнуўся на выкрык і зразумеў: яго чагось выклікае дырэктар. Вунь жа ля дзвярэй, як скала, стаіць ён, мажны, рослы і смуглы.

— Табе як выдатніку і рэдактару насценнай газеты даручаецца важнае заданне, — сказаў дырэктар навучэнцу і тыцнуў яму ў рукі аркуш паперы з выразным доўгім спісам, які сваёй формаю нагадваў верш.

Вячаслаў адразу заўважыў прозвішчы аднакурснікаў, а пад спісам — нейкі адрас.

— Кеміш? — працягваў дырэктар. — Неадкладна збірайцеся і прыходзьце на збор. Гэта вельмі адказна... Дзейнічай!

Трыццаць юнакоў сустрэў, сыходзячы з ганка, чорны гэпэушнік у чорных галіфэ і чорнай скураной тужурцы. Ён лёгкім жэстам рукі паказаў у бок двара і сам пайшоў туды паперадзе моладзі. Праз колькі хвілінаў будучыя настаўнікі ўжо стаялі ў калоне поруч з рабочымі, якіх тут было ўдвая больш. Вячаслаў з ростам метр шэсцьдзясят замыкаў сваю калону. Ён бачыў, як гэпэушнік браў двух дарослых і аднаго навучэнца ды падводзіў іх да чарговага грузавіка, у кабіне якога ўжо сядзеў нехта ўзброены. Як толькі тройка «добраахвотнікаў» размяшчалася ў кузаве, ён падаваў шафёру знак, і машына адпраўлялася.

Набор спыніўся на юнаку, што стаяў трэці з канца калоны.

— Усе машыны адпраўлены, — гэпэушнік звярнуўся да тых, што засталіся. — Вам ехаць не давядзецца. Толькі папярэджваю: пра гэты збор — нікому ні слова!..

Як высветлілася, у вёскі, дзе людзі свету белага не бачылі за працай, пасылалі машыны, каб забіраць так званых «ворагаў народа», колькасць якіх загадзя дыктавалася мясцовым уладам зверху. Людзі хаваліся хто дзе мог — у падпеччы, на гарышчы, у сене, але ж іх усіх знаходзілі і забіралі.

«Малы» пачуў, што і ў яго родным сяле забралі сем чалавек. І калі б ён прыехаў сюды разам з гэпэушнікам, то пасля, пры сустрэчы з землякамі, даводзілася б у сабакі пазычаць вочы... На шчасце, гэта не здарылася: дапамог малы рост.

## «ЖЫЎ-БЫЎ ЦЯГНІК...»

У вагоне маленькі бялявы хлопчык ніяк не хацеў засынаць на руках у маці, сімпатычнай модніцы. «Спі, сказала! — крычала яна. — Нам далёка ехаць!» Але такое ўнушэнне не дасягала мэты, малы яшчэ больш капрызіў і плакаў.

Тут хлопчыка ўзяў на рукі ягоны бацька, кучаравы, з маленькімі тонкімі вусікамі малады чалавек, апрануты ў блакітныя джынсы і тэніску. Ён лёгкім дотыкам вуснаў пацалаваў дзіця ў галаву і пачаў расказваць яму казку. Чуваць было слаба: заміналі чужыя галасы ды грукат колаў, але пачатак казкі пачуўся. «Жыў-быў цягнік, у яго было дзесяць вагонаў і ў кожным вагоне — па дзесяць вокнаў» — так нечакана свежа і проста пачынаў малады бацька малому сыночку дарожную казку, прыдуманую, пэўна, толькі што, канца якой хутчэй за ўсё яшчэ не ведаў і сам. Зрэшты, яму дапамагаў малы: ён перастаў плакаць і раз-пораз пытаўся пра нешта. На ягоныя пытанні бацька адказваў з усмешкаю. Пасля ён даў малому булачку. Той з апетытам еў, а неўзабаве пачаў пазяхаць і засынаць. Гэтак жа, як яшчэ нядаўна дзіцяці перадавалася мацярынская нервовасць, зараз перадаўся бацькаў супакой.

**СТРАТА**

Перад Калядамі муж не атрымаў заробку, а дужа хацеў купіць жонцы дарунак. У яе сапсаваўся наручны гадзіннік. Чым плаціць за рамонт, лепш набыць новенькі — хоць бы з нагоды свята. Суботнім днём ішоў ён да свайго даўняга сябра пазычыць грошай, каб неўзабаве справіць пакупку.

Праходзячы паўз краму, зірнуў на нешырокі ганак і здзівіўся, бо на ніжняй прыступцы блішчаў на снезе жоўты гадзіннічак з жоўтым бранзалетам, такі маленькі і далікатны, чымсьці падобны на талісманчык. Было зразумела: ён зляцеў яўна з жаночае рукі. Мужчына падняў знаходку. Першая думка прыйшла: трэба гадзіннік занесці ў краму, пакласці навідавоку ля касіркі: мо забяжыць ягоная гаспадыня, будзе, хвалюючыся, казаць пра сваю страту, пытацца, ці ніхто не знайшоў пасеяную ёю рэч. Ды ён хутка прызнаў недасканалаю сваю думку, бо незнаёмая касірка магла прысвоіць яго знаходку, яшчэ й назваць яго моўчкі дурнем.

Ён паклаў гадзіннік у кішэню, панёс дамоў паказаць жонцы. Спадабаецца — то няхай носіць.

Жонка ўпадабала знаходку, асабліва бранзалет.

Увечары да іх завітала замужняя дачка. Як толькі скінула з плеч дублёнку, жвавенька пачала, ззяючы ад радасці, паказваць новенькі гадзіннік, што ўпрыгожваў яе левую руку.

— Вам падабаецца? — пыталася ў бацькоў. — Швейцарскі, каштуе пяцьсот еўра.

— Дзе ж ты яго ўзяла? — цікавілася маці.

— Падаравалі на працы.

Падарунак атрымала ў гонар дня нараджэння, што супадаў з Калядамі.

Дачка працавала ў танцавальным гурце, дзе была завядзёнка купляць у складчыну падарункі імяніннікам.

Бацька звярнуў увагу на тое, што на руцэ дачкі гадзіннік сядзіць даволі высока. «Трэба падагнаць да рукі бранзалет, — падумалася яму, — бо нядоўга і згубіць».

Пасля вячэры змарыў яго сон і, гледзячы тэлевізар, ён заснуў.

Дачка пастаралася не парушыць бацькаў адпачынак, ціха пашчабятала з матуляю і развіталася.

Назаўтра, у нядзелю пад вечар, яна спяшалася на рэпетыцыю перад канцэртам. Літаральна ля пад'езда праходзіла ярка-жоўтае таксі, і яна скарыстала момант — пад'ехала да філармоніі.

Ёй прыемна было пазіраць на свой шыкоўны гадзіннік, густоўна аздоблены, як, дарэчы, і бранзалет, каштоўнымі камянямі. Яна глядзела на яго ў машыне, калі села, а калі ўзышла на высокі філарманічны ганак, дарагога падарунка на руцэ ўжо не аказалася. Туды, дзе толькі што прыпынялася таксі, дзяўчына кінулася, думаючы, што гадзіннік з'ехаў з рукі, калі выйшла з машыны і зачыняла дзверцы. Але там яго не было, як не было і на тратуары, па якім лічаныя крокі прайшла ад таксі і які цяпер абшарыла вачыма.

Разгубленым голасам пра згубу сказала па тэлефоне бацькам, а неўзабаве і прыехала да іх. Калі яна звязалася з дыспечарскай, дакладна назвала час паездкі, месца пасадкі і высадкі і нават прозвішча таксіста, бо, едучы, выпадкова кінула позірк на яго фотку і на подпіс пад ёй. Гэтага было дастаткова пры яе фенаменальнай памяці. Дыспечар знайшла па рацыі таксіста, ды ён прыведзены факт чамусьці адмаўляў: маўляў, дзяўчыну да філармоніі ўвогуле не вёз...

Пасля даччынай страты бацька ўспомніў сваю знаходку і пашкадаваў, што пра яе нідзе не даў абвестку.

## ГЭЛЯ

Коля доўга не вяртаўся з палявання. Замужняя сястра Гэля, што завітала ў яго сям'ю ў госці, зачакалася брата. Добра, што, калі ішла з суседняе вёскі, абшарыла прыдарожныя грыбныя бярэзнікі: цяпер мела добры занятак — з братаваю, седзячы ля хаты, перабірала грыбы. Раз-пораз пазірала на гравійку, што ішла недалёка ад іхняга хутара ў той самы лес, куды Коля ходзіць на паляванне. І вось, нарэшце, сястра ўгледзела яго постаць, узрадавалася, калі ўбачыла, як ён шыбуе гравійкаю і спускаецца да сцяжынкі,

што, бялеючы ў траве, віецца да сядзібы. Гэля нахілілася да кошыка, узяла падасінавік.

— Глянь, які таўсцячок! — усміхнулася яна братавай, любуючыся яскравым дарункам лесу.

Тым часам брат ускінуў стрэльбу. «Што за праява?» — здзівілася Гэля. Калі ж узняла галаву, то ўбачыла: у небе кружыў шуляк. Выскачыла за веснічкі і пранікліва-гучна загалёкала:

— Коля, Коля!

Ён павярнуў галаву на крык сястры, не апускаючы стрэльбы.

— Не страляй! — ужо цішэй крычала Гэля, ідучы насустрач брату і падаючы знак рукою.

Ён апусціў стрэльбу.

— Ма-лай-чы-на!

Вяртаючыся з Колем у сядзібу, сястра расказала, як гаспадар аднаго хутара застрэліў шуляка і як пасля шулячыха адпомсціла — перабіла ўсіх курэй, што выходзілі з двара за вароты.

— Дзівачка! — казаў Гэлі брат. — Не дазволіла няўдачніку на паляванні праліць кроў хоць бы крылатага хіжака!

## РЭЙЗА

У Дзягілях, суседніх з Міхалавымі Мохавічамі, жыў татарын па прозвішчы Смолка. Ён лічыўся чарнакніжнікам; казалі, нават мог у каровы адабраць малако. Аднаго разу ён папрасіў у Міхала, знанага пчаляра, памагчы яму завесці пчол.

Міхал зрабіў татарыну новы вулей, пасадзіў рой. За гэта атрымаў жывы падарунак — сучку Рэйзу, якая разумела ўсё, што ёй ні загадай. Бывала, скажуць ёй: «Рэйза, не пускай кароў у шкоду» — мігам заверне жывёліну да статка. За кароткі час кароў усёй вёскі прывучыла да парадку. Спраўлялася яна і з больш «далікатнымі» заданнямі. ...Пажыла Рэйза крыху ў Міхала пасля таго як яе перадаў яму татарын. Гаспадар і кажа: «Прагані, Рэйза, чужых курэй з гарода». І што ж яна

робіць? Сваіх акуратна пааддзяляе, а чужых лапай, лапай — і пайшлі прэч...

Але самае галоўнае — тое, што была яна смелая і не давала волі ваўкам. А гэта было так дарэчы, бо вёска Мохавічы стаяла побач з вялікім лесам, адкуль нярэдка набягалі ваўкі, не даючы спакою пастухам. Цяпер спакойна стала не толькі сям'і Міхала, а й сем'ям сваякоў і суседзяў, калі тыя адбывалі калейку. Варта было толькі ўзяць Рэйзу на пашу — ніякі воўк не ўкрадзе ні цяля, ні авечку, ні ягня, бо яна ўчуе драпежніка здалёку і не падпусціць да жывёлы.

Аднак у гэтай гісторыі драматычны фінал. Аднойчы зімовай ноччу ў Мохавічах нечакана з'явіліся тры ваўкі. Суседпаляўнічы ўбачыў іх ля Міхалавай сядзібы, але пакуль апрануўся, узяў стрэльбу і выскачыў з хаты, было позна. Рэйза кінулася на ваўкоў, яны яе і задушылі ды павалаклі ў лес.

Міхал, калі ўведаў ад суседа пра тое, што здарылася, заплакаў як дзіця.

## АД КАГО ПАДЗЯКА?..

Жэня сустрэла на тралейбусным прыпынку актрысу, з якою была занятая ў адным спектаклі і з таго часу засталася з ёю ў самых прыязных — па сутнасці сяброўскіх — адносінах. Па стомленым твары старэйшае прыяцелькі і ейным у мокрых брудных плямах паліто Жэня зразумела: здарылася нешта непрыемнае.

Аказалася, што знаёмы акцёр вядомай актрысы не проста адмовіўся ад удзелу ў яе рэжысёрскім праекце, а неяк занадта ўжо катэгарычна, амаль зневажальна заявіў: «Я ў такіх праектах не ўдзельнічаю!» Яна ж разлічвала толькі на яго, таму, натуральна, расстроілася. Да таго ж, калі ішла па тратуары з тэатра да прыпынку, нейкі ліхач, што гнаў легкавушку па асфальце, не аб'ехаў лужыну, у выніку чаго шчодра абдаў бедную актрысу бруднай вадой.

Жэня, будучы пад свежым уражаннем, зараз жа, едучы дамоў, паслала старэйшай прыяцельцы эсэмэску: *«Не засму-*

*чайцеся. У вашым жыцці столькі цудоўнага*!» Але, адпраўляючы, пераблытала адну лічбу нумара ейнага тэлефона. Сваю памылку заўважыла, калі выправіць яе было позна. Адрасат, атрымаўшы нечаканае пасланне, набраў нумар, які высвеціўся на экранчыку яго мабільніка. Жэня на званок не зрэагавала, хоць ён доўга не змаўкаў, — ёй карцела хутчэй падтрымаць маральна актрысу-прыяцельку.

Тады ж яна атрымала эсэмэску ад новага адрасата: *«Дзякуй за падтрымку!»*.

Для ўражлівай Жэні засталася загадка: ад каго прыйшла падзяка? Яна радасна ўсміхнулася, бо адчула: ёсць недзе блізкая чуйная душа.

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ПРЫКМЕТА

Сцяпану Карэтнікаву, галоўнаму рэдактару газеты, ставала тлуму на працы і бракавала цішыні дома. Хоць і жыў ён у раскошнай трохпакаёвай кватэры, адчуваў сябе ў ёй усё менш утульна. Яго, стомленага бясконцымі творчымі і вытворчымі клопатамі, дома пачыналі раздражняць нават родныя дочкі, не кажучы пра цешчу. Ён стаў бурклівы. Пакутаваў ад хворага страўніка і бяссонніцы. Калі яго трыванне, здавалася, лопнула, нечакана пайшлі радасныя перамены: адна за адной павыходзілі замуж дочкі — і маладзенькая Ліля, і перастарка Сцеша; следам за дочкамі займела мужа і цешча, даўно аўдавелая, яна распісалася з адзінокім ветэранам і перайшла жыць да яго.

Сцяпан Карэтнікаў зноў, як некалі ў маладосці, спакойна зажыў з жонкай Алай. Пасля цяжкіх рабочых дзён цешыўся хатняй утульнасцю, цішынёю.

Ала была менш занятая на працы: мела палову стаўкі ў школе. Дома штодня да вяртання мужа паспявала нацешыцца фільмамі ды музыкай. Пасля звычайна наведвала кагосьці з родных. Сцяпан гэта вітаў, бо занадта любіў паваляцца на канапе, падумаць, пачытаць, калі ніхто не замінае.

Аднаго разу яму ўдалося раней, чым звычайна, падпісаць да друку чарговы нумар газеты і ён вярнуўся дадому

а шаснаццатай гадзіне з намерам напісаць дома неадкладны артыкул. Падняўся ў ліфце на пяты паверх, адчыніў усе чатыры замкі падвойных дзвярэй сваёй пяцьсот першае кватэры. Калі разуўся ў вітальні і ступіў крок да залы, яму ў вочы кінуліся адчыненыя дзверы ваннай і нявыключанае ў ёй святло.

— Прывітанне, жонка! — сказаў ён жартаўлівым голасам, націскаючы на выключальнік.

Жонкі тут не аказалася.

Тады ён прайшоў у спальню, спадзеючыся знайсці яе там. Жонкі дома не было. А на падлозе ў спальні, каля шафы, і ў зале, каля секцыі, валялася параскіданае адзенне, бялізна, ляжалі чамаданы і сумкі.

Карэтнікаў патэлефанаваў у міліцыю, напісаў заяву. Пасля набраў цешчын тэлефон. Ала была там, у маці. Ён паклікаў яе дадому, сам здзівіўся: не папракнуў, што яна не пільнуецца свайго кутка.

У іх было што красці. У куфэрку ў шафе ляжалі сем тысячаў даляраў, сабраныя на машыну, а пад бялізнаю на паліцы — яшчэ тысяча, іх тут захоўвала Аліна маці на пахаванне. У бары захоўваліся залатыя рэчы — пярсцёнкі, ланцужкі, бранзалеты, завушніцы — тое, што набылі Карэтнікавы за ўсё сваё сямейнае жыццё, а яшчэ кулоны і пярсцёнкі — падарункі Алінага айчыма, для Лілі і Сцешы.

Міліцыя завяла крымінальную справу. Злодзеі дзейнічалі сярод белага дня. Колькі іх было і якія яны, ніхто не бачыў. Адчыніць і зачыніць любыя замкі сучасным прафесійным крадзёжнікам — не праблема. Следчы рабіў выгляд вельмі заклапочанага пошукамі злачынцаў, што ўчынілі пакражу ў кватэры Карэтнікавых.

Яшчэ больш маўклівы і пануры стаў гаспадар, счарнелы з твару. Засумавалі яго дочкі, што не спяшаліся насіць залатыя рэчы. Несуцешна плакала ягоная цешча, якая толькі што пахавала другога мужа і сама ў горы наблізілася да сваёй апошняй мяжы. Плакала і Ала, але старалася суцешыць матулю.

— Не плачце, мамачка, — казала яна. — Следчы сказаў, што цяпер доўга жыць будзеце, раз пахавальныя грошы прапалі. Ёсць такая прыкмета.

## УНАЧЫ

Драматург, абраны ў падліковую камісію на пісьменніцкім з'ездзе, толькі пасля апавяшчэння вынікаў галасавання, якому папярэднічалі працяглыя гарачыя спрэчкі, нарэшце вяртаўся дадому. Пакуль выходзіў з Дома літаратара, прыкідваў, дзе ён хутчэй можа сесці на таксі, бо тралейбусы і трамваі ўжо несліся ў дэпо, аўтобусы — у аўтапаркі. Шпаркім крокам ён махануў на шырокую ды бойкую вуліцу. Таксі рухалася па ёй процьма, ды ля яго не спыняліся, занятыя, відаць, пасажырамі з начных цягнікоў, што прыбывалі на вакзал.

Мікрараён, дзе ў высокім панельным доме яго чакалі жонка і дзеці, знаходзіўся за сем вёрстаў ад цэнтра, але творца не любіў стаяць, таму рушыў у сваім накірунку. Яго лёгкай хадзе спрыяла добрае травеньскае надвор'е, пасвяжэлае звечара паветра, ціхае святло поўні. Крочыў ён не тратуарам, а краем асфальту, азіраючыся на шум кожнай чарговай машыны. Набліжаючыся да гарадскога рынка, нечакана заўважыў: ад аркі высознага дома шыбуе наперарэз яму малады каранасты мацак.

— Дай закурить! — пачуўся рашуча-патрабавальны тон пісклявага голасу, які так не адпавядаў моцнай постаці яго гаспадара, аматара начных, як хутка высветлілася, прыгодаў.

— Не куру, — сказаў драматург, развёўшы рукі.

— Как, я же видел: ты только что курил! — пісклявы голас стаў больш напорысты, як і хада незнаёмца, падобнага на раз'юшанага звера.

Драматург адпаведна паскорыў хаду. У яго, натуральна, нічога не было для самаабароны. Тым часам з-за шэрага гмаха выскачыла, галёкаючы, шайка брытагаловых, каму «разведчык» падаў знак рукой, і цяпер разам з ім за незгаворлівым прахожым рынулі хаўруснікі.

Творцу пашанцавала: у той момант, калі, здавалася, адзіным выйсцем заставаліся ўцёкі, ён толькі падбег да блізкага скрыжавання вуліц — і там адразу ўдалося спыніць таксі. Між кронаў маладых каштанаў, адчыняючы дзверцы машыны, ён заўважыў за метраў пятнаццаць тую самую групу брытагаловых, яўна расчараваных няўдалай начной вылазкай.

Седзячы ў машыне, думаў драматург пра два здарэнні, пра якія пачуў ад знаёмых людзей. Падобнай ноччу ў Мінску трапіў у шпіталь з чэрапна-мазгавой траўмай юнак, які вяртаўся ад дзяўчыны і якога сустрэлі чацвёра з пытаннем: «Куда ты этак топаешь?» А недалёка ад аўтобуснага прыпынку ў Слуцку сярод белага дня быў забіты хлопец, які прайшоў пекла афганскай вайны. Там, вядома, справу меў з варагуючымі чужымі вайскоўцамі, а тут быццам бы свае сустрэлі, здавалася б, банальна-бяскрыўднымі словамі: «Дай закурить».

Але засмучаны начны пешаход у машыне адразу павесялеў, калі ўспомніў трохгадовага ўнука, які ласкава пытаўся ў яго пра заўтрашні дзень:

— Дзядуля, прыедзеш?

Як можна было не прыехаць пасля абяцання:

— Чакай мяне, родненькі! Абавязкова прыеду.

## АЛЕНА-ЛЁНЯ

*Светлай памяці А.Д. Моніч*

Цётку Алену ў яе роднай Антонаўцы, што пад Навагрудкам, усе звалі Лёняй, бо так змалку дачку называла маці. Цяпер усе ведаюць: жыццё не песціла Алену-Лёню. У тры гады асірацела (бацька загінуў на вайне), а ў дваццаць дзевяць аўдавела: раптоўна памёр муж. На яе руках засталіся малыя — дачка і сын.

Выгадавала і вывучыла дзяцей.

Такіх матуль называюць мадоннамі. Была яна прыстойная, акуратная і не па-вясковаму стрыманая. Хараство душы знаходзілася ў суладдзі з красою вонкавай. Выхаванасць па-

магала цётцы Лёні паўсюль, служыла як бы цудадзейным пропускам і візітоўкаю. Калі Ганулька, дачка, паступіла ў сталіцу вучыцца, яна, маці, за адзін дзень знайшла ёй кватэру. Ажаніўся ў Берасці Дзіма, сын, яна, лічы, пабудавала яму катэдж. Купіла блокі і лес, а калі старшыня даў машыну, даставіла ўсё куды трэба.

Яе прыродная дабрыня і заклапочанасць найлепшым чынам спалучаліся з мудрасцю і валявым характарам. Прыехала Ганулька аднойчы ў вёску з жаніхом, маці ёй сказала, каб іншых кавалераў яна не мела. Сказала, як звязала. Так Васільукраінец стаў ейным зяцем. Неўзабаве справіла яна вяселле і сыну. Маці, цешчы і свякрусе пасавала яшчэ адно высокае званне — бабуля: у дачкі нарадзілася двойня — хлопчыкі, пасля — і дзяўчынка. І ў нявесткі — два сыны і дачушка. Як жа яна любіла ўнукаў! І як яны любілі праводзіць летнія канікулы ў яе на радзіме! Разам хадзілі ў лес па ягады і па грыбы, на рэчку — вудзіць рыбу.

Усюды паспявала. Парадак любіла ва ўсім, таму і быў ён паўсюль: і ў хаце, і ў двары, і на гародзе. Ні ў якай справе не трывала халтуры. Усе вясковыя дзеці, што хадзілі ў калгасны дзіцячы садок, дзе яна кухарыла, ведалі, якія смачныя стравы гатуе цёця Лёня. А якія смачныя пякла яна пірагі, булачкі, наліснікі, пра тое ведала ўся вёска!

Яе чалавекалюбству не было мяжы. Калі ехала ў горад, вязла гасцінцы — сала, каўбасы, яйкі, тваражок, сыр, ягады, яблыкі, грыбы — не толькі сем'ям сына і дачкі, а і суседзям іхнім ды сябрам.

Добрае сэрца Алены-Лёні адчувалі не толькі людзі — і дарослыя, і дзеці, — а й хатнія жывёлы. Адно яна магла падаіць карову Ластаўку. У іншых, хто толькі падступаўся да вымя, карова выбівала з рук даёнку. Котка ўсюды днём ішла за гаспадыняй следам, а ўначы спала побач з ёй.

Старонняму воку сялянка здавалася няўтомнаю. Між тым была яна вельмі хваравітая.

На вечны спачын ад несканчонае чорнай работы і пышнага букета хвароб Алену-Лёню праводзілі, апрача родзічаў, усе вяскоўцы. З цэркаўкі да бартавой машыны дамавіну неслі на

руках. Сялянку ўпершыню так высока паднялі моцныя мужчынскія рукі. Нябожчыцу машына ціхенька везла паўз новы спартовы комплекс, іпадром і вялікі луг. На лузе пасвіліся сорак коней-прыгажуноў. Як толькі ўбачылі пахавальную працэсію, гучна заіржалі і рынулі на край агароджы, а ля дарогі сталі як укапаныя, задралі, а потым паапускалі галовы. Людзі гэты незвычайны факт аднеслі да разраду цудаў.

Сын, дачка, зяць і нявестка нябожчыцы з пограба апусцелае, але такой роднае хаты доўга даставалі марынаваныя і салёныя грыбы, агуркі, кабачкі, квашаную капусту, з любоўю назапашаныя добрымі матчынымі рукамі. За памінальным сталом нібыта прысутнічала яна, сялянка-працаўніца, вясковая мадонна. Відаць, тут кружыла яе светлая і чыстая, далікатная душа.

## ФОРМА РЭКЕТУ

У новенькім цёмна-зялёным плашчы і з новым дыпламатам у руцэ ён выйшаў з ашчаднае касы, дзе плаціў за камунальныя паслугі. У свае пяцьдзясят быў рухавы, а гэтай раніцай — асабліва, бо спяшаўся на працу. Бойка збег па бетонных сходках на тратуар, перайшоў асфальтаваную дарогу і апынуўся ў скверы.

Асенняя раніца выдалася ветраная. Шумелі кроны дрэваў і кусты. Таму не пачуў, а толькі ўбачыў, як, абганяючы яго, прабег нехта адкормлены і рослы. У той жа час аднекуль збоку пачулася нейкае прыглушана-невыразнае гуканне. І тут жа з-за кустоў да яго наблізіўся плюгавы замухрышка ў куртачцы і з далярамі ў левай руцэ.

— Вот, нашёл, — паказаў ён правай рукою на левую і тонам Яфіма Шыфрына прытварыўся: — Так неловко как-то, поделиться бы наполам...

— Гэта не да мяне...

— Ну, не хотите, как хотите, — развёў расчараваны замухрышка рукамі.

Мужчына пасля сквера перасек перапоўненую машынамі вуліцу, супыніўся на трамвайным прыпынку.

Здзіўлены тым, што адбылося ў скверы, расказаў пра ўсё на працы. Маладыя хлопцы патлумачылі:

— Ёсць такая форма рэкету. Група рэкеціраў выбірае зручны куток для дзеяння, прываблівае кагосьці «зялёнымі» і калі той хтосьці клюне на прынаду — прыме дар, банда збягаецца адусюль і патрабуе вярнуць грошы. Спакушаны іх вяртае, а яму прад'яўляюць прэтэнзію: маўляў, не ўсе, аддавай рэшту! Без віны вінаваты апраўдваецца, тады пачынаюць яго мясіць...

Век жыві, як кажуць, — век вучыся.

А яшчэ кажуць: «Беражонага Бог беражэ».

# А П О В Е С Ц Ь

## ПАСЛАННЕ Ў ІНШАСВЕТ,
## альбо
## РАЗВАГІ МАКСІМАЛІСТА

### 1

Дзядуля Мікола! Да цябе звяртаюся я, твой унук Андрэй. Я верую, што ты пачуеш мяне а д т у л ь, хоць і не ўяўляю, наколькі чуйная і відушчая т а м душа твая. Ды што я кажу! Цяпер жа ты ўвесь — толькі душа. І, мабыць, да цябе ўжо звяртацца трэ было б так: ДУША дзядулі Міколы альбо: дзядуля Мікола-ДУША... Ды з аднаго помнага святочнага дня ты стаўся мне вельмі блізкі і дарагі, я пачаў глядзець на цябе як на самага неардынарнага родзіча, таму ты як бы поруч са мною знаходзішся ўвесь час. Мне ўсё мроіцца, што ты нейкім цудам бачыш мяне, асабліва ў тыя моманты, калі мне цяжка і я засмучаны ці, наадварот, калі мне занадта весела: празмерная весялосць, як правіла, тоіць у сабе небяспеку... Калі ж ты ніколі не бачыш мяне і нічога не распавядалі табе нашыя сваякі, што перайшлі ўжо адсюль т у д ы, то ўведай ад мяне: я ўжо дарослы, сёння споўнілася мне дваццаць. Можаш парадавацца за мяне: нават у такі адметны дзень цвяроза разважаю. Я даволі рослы: метр восемдзясят тры. Мяркую, фізічны рост мой супыніўся, разлічваю на інтэлектуальны. За плячыма — музычная школа па класе скрыпкі, ліцэй і амаль два ўніверсітэцкія курсы. Да таго ж я кандыдат

у майстры па шахматах, так што мяркую расці, развівацца. Як кажуць, база ёсць.

Мы з табою павінны былі спаткацца напрыканцы мінулага стагоддзя, ды не спаткаліся. Мае бацька і маці ўсё абяцалі з'ездзіць да цябе ў вёску разам са мною, калі мне споўнілася чатыры гады. Усё цешылі мяне: «Дзядуля чакае ў госці...» Але праляцеў яшчэ год, і цябе не стала. Рана пакінуў ты белы свет, бо жыццё не песціла цябе. Мяне і на развітанне з табою не ўзялі: баяліся траўмаваць дзіцячую псіхіку, пры тым што зачаць мяне ў п'яным стане, як аднойчы прагаварылася маці, яны ніколькі не баяліся.

Цяпер сустрэцца з табой я, мабыць, саромеўся б: не маю двух пярэдніх зубоў, іх выбіў мне амапавец-амбал на ПЛОШЧЫ ў дзень прэзідэнцкіх выбараў, выбіў толькі за тое, што я падхапіў з зямлі маленькі бел-чырвона-белы сцяжок, магчыма, выбіты з чыіхсьці рук такою ж, як ён, пачвараю. Тады я, шаснаццацігадовы юнак, мог застацца і без вока. Ад удару яно цалкам было зацягнута фіялетава-чорнаю пухлінаю. На шчасце, вока ацалела. А вось зубы новыя не вырастуць. Каб жа «замасціць» правал у зубных шэрагах, не стае пакуль грошай. Хутка зараблю: хаджу на шабашкі, ува мне, пасля таго як перастаў быць студэнтам-завочнікам юрфака (сышоў з трэцяга курса: не сцярпеў схаластыкі ў сістэме адукацыі, а яшчэ й не вытрымаў платнай формы навучання), усё больш выяўляецца талент будаўніка: бетаную, тынкую, шпаклюю, падлогу сцялю.

Калі я гартаю сямейны фотаальбом, то кожны раз позірк затрымліваю на тваім каляровым фота. І шкадую, як малое дзіцё: мне не дасталіся твае сінія вочы, як не перадаліся ні бацькавы блакітныя, ні матчыны зеленаватыя — у мяне вочы карыя, як у тваёй удавы, маёй бабулі Соні. Адкуль яна такая ўзялася? Прабач, пытанне недакладнае. Я добра ведаю, галіна якога дрэва яна. Але з якога кораня пайшло тое дрэва? Хутчэй за ўсё ў яе род умяшаўся нейкі татарын (татараў, як ты, пэўна, ведаеш, да нас наязджала з даўніны нямала — і ў ліку заваёўнікаў, і ў ліку абаронцаў — з часоў князя Вітаўта) ці, магчыма, выпадковы турак альбо азіят.

Справа, вядома, не ў колеры вачэй чалавека, а ў тым, якую душу адлюстроўваюць ягоныя вочы. Ці не вераломства там? Ці не пусташ, не мана, не здрада?

Мне, дарагі дзядуля, цікава, як ты з ёю пражыў сваё жыццё. Ці кахаў ты яе? Пытанне складанае. Бо хіба сям'я можа стварацца не на падмурку кахання? Але якое каханне можа ўзнікнуць да распусніцы? Ведаю, ты даравяў ёй усё: і тое, што зграшыла з заатэхнікам перад замужжам, а з кінамеханікам тады, як, будучы яе законным мужам, ты трапіў у шпіталь. Але вось думаю, ці ажаніўся б ты з ёю, калі б ведаў, што, калі давядзецца паехаць у Расею ў заробкі, яна знюхаецца з тваім адзіным вясковым ворагам — з суседам па мянушцы Крывалапы. Звыклася з гэтым настолькі, што і пасля таго як ты вярнуўся дамоў, яна, не баючыся, што скажуць людзі, путалася з ім сярод белага дня, праўда, усё ж хаваючыся ад лішняга вока. Як ні стараліся таемна сустракацца, пра іх любошчы ў сяле ўсе ведаюць, бо ад вясковага люду нічога не ўтаіш.

Хаваліся, хаваліся яны ад тваіх вачэй і ад вачэй сяльчан, аж ты ім волю даў: яна і дзевяць дзён не чакала, калі навек развіталася з табою, — адкрыта разбэсцілася. Кожны раз перад пасцелькаю, каб смачней было абнімацца і цалавацца, падбадзёрвала суседа-хахаля чаркаю і скваркаю. Разам яны пацiху прапілі-прагулялі ўсе тыя марачкі, якімі новае пакаленне немцаў разлічылася з табою, як і з тысячамі іншых людзей, за тое, што гітлераўцы ў вайну вывозілі на прымусовую працу. З табою разлік атрымаўся завочны. Паколькі ты атрымаць тыя грошы не паспеў, іх за цябе ўжо займела яна. Уяўляеш, кругленькаю сумаю, што, лічы, з неба звалілася, ні з сынам, ні з дачкою не падзялілася, а праматала яе з Крывалапым.

І, скажу табе яшчэ пра больш сумнае (хутчэй за ўсё ты не ведаеш): твой сын і мой тата занадта расстройваўся, што маці такая распутная, і, каб хоць на нейкі час забывацца на грубую чарнату жыцця, бязбожна піў. А гэта прывяло да заўчаснае смерці. Быў жа ён дужы, як вол. Ніхто яго не мог паваліць. А гарэліца лёгка падкасіла, біла, біла і дабіла на-

шага асілка. Спярша ўдарыла па пячонцы, а пасля ўзяла за сэрца. Памёр ён у дарозе, за рулём свайго легкавіка. Перш чым спынілася сэрца, паспеў з'ехаць на бок дарогі, супыніць машыну і нават заглушыць матор.

А твая ўдавіца жывая і, уяві сабе, знюхалася яшчэ з адным мужыком, бо Крывалапы стаў ужо нямоглы. Нездарма ж кажуць (я гэта пачуў у адным застоллі): «Мужык — датуль мужык, пакуль можа, а баба — пакуль рукі зложа». Ёй жа споўнілася ўжо восемдзясят пяць! А што, калі ў яе тое шаленства?.. Нядаўна на юрфаку я выпадкова пачуў: жонка аднаго пажылога маскоўскага пракурора, выкладчыца, часта запрашала дамоў сваіх студэнтаў, вельмі шчодра частавала іх, а пасля дзяліла з імі ложак у спальні. Аказалася, у яе шаленства маткі. То я вось і кажу: мо ў тваёй Соні такая ж бяда?

Хоць да мяне яна і ласкава звяртаецца, запрашае ў госці, я да яе стаўлюся абыякава. Нават калі я з матуляю і з тваёй дачкою, а маёй цётачкай (мы з ёю заўсёды ў прыязных стасунках) прыязджаем на Радаўніцу ў сяло, каб прыбраць пасля зімы магілы родзічаў (твая ўдавіца ніколі гэтым не займалася), я звычайна не заходжу да яе ў хату, а да зваротнага аўтобуса блукаю па палях, лугах ці па лясных мясцінах тваёй і майго таты радзімы, якую палюбіў я ўсім сэрцам. Мне і дарогі тамашнія даспадобы: палявыя і лясныя, а найперш тая, што перасякаецца з бойкім, пракладзеным да пушчы, гасцінцам, праходзячы праз сяло як вуліца і злучаючы яго з бліжнімі і больш аддаленымі вёскамі. Мне падабаецца, як яна пралягае праз палі і лугавіны, праз лясы і пералескі і вядзе да сцяжынак твайго дзяцінства і твайго сына — майго таты, да тых сцяжыначак, што (я гэта добра сабе ўяўляю) стужкамі віліся некалі вакол крыніцаў і сажалак, між купінаў і лазнякоў і раствараліся ў травах і красках палёў і лугоў, у барах і дубровах.

Можа, гэта і дзіўна, але мая душа пратэстуе супраць даволі пашыранага ў эфіры і ў друку вычварна-штучнага спалучэння: малая радзіма (маецца на ўвазе месца нараджэння чалавека). Асабліва абураюся, апынаючыся ў прыродзе, калі я паланёны яе хараством і натхнёная душа набывае неабме-

жаваную прастору — ад блізкага куточка зямлі аж да зор. Я лічу, што чалавек, які здольны мысліць, ніколі не скажа: малая радзіма, як не скажа: малая святыня, малы шэдэўр. Як бачыш, ува мне сядзіць максімаліст...

Аднак прыйшоў час, дзядуля, сказаць, з якога дня ты стаў для мяне асабліва блізкі, дарагі. Аднаго разу ў сяло завітаў я не на Радаўніцу, як заўсёды, а на Каляды, і было гэта не так даўно, ужо сёлета. Загадзя стэлефанаваўся з цётачкай (тваёй дачкою), што ў раённым цэнтры гандлярыць, а тая перадала матухне, каб чакала нас і забяспечыла начлегам. Павінен табе сказаць, тады нейкім цудам даволі лёгка перамог я свой максімалізм, нейкая незямная сіла кіравала мною.

Я падумаў, што трэба не толькі пабываць, а й паначаваць у той хаце, дзе ты жыў, прыдбаў дзяцей і ў якой яны з табою развіталіся. Словам, тут я стаўся сваім чалавекам. Таму, калі спатрэбілася распаліць у печы, за справу ўзяўся я. Якое ж было маё здзіўленне, калі побач з савецкімі і нават польскімі газетамі ды часопісамі, што раптам, у выніку чысткі гарышча, спусціліся да печы — на распал, убачыў я на падлозе твае лісты, не вядома каму адрасаваныя, а яшчэ запіс мноства шахматных партыяў, згуляных табою з нейкім Іванам (прозвішча нідзе не пазначана). На ўсё я з ходу звярнуў увагу, найперш — на тэксты лістоў. Мяне захапілі пажоўклыя за дзесяцігоддзі аркушы паперы, на якіх захаваўся твой сціслы почырк, а галоўнае — твае думкі і пачуцці, іх я адчуў з першых радкоў. Узрадаваны, шыбую да ложка, дзе ўляглася пасля вячэры мая цётачка.

— Паглядзі, — кажу, які скарб! Няўжо ты ніколі не чытала? Ці хоць бачыла?

— Я спаць хачу, — млявым голасам адказвае.

Я схапіў гэтае пасланне, а з ім і запісы шахматных партыяў і мігам перанёс у свой дыпламат. Пачынаючы з каляднага вечара і дарогі ў Менск, я чытаю і перачытваю лісты, як незвычайны мастацкі твор, атрымліваючы асалоду. Я ніколі не забуду той амаль бяссоннае каляднае начы, калі за вокнамі і над дахам хаты вылі-завывалі вятры, бушавала завіруха, а я ўсёю душою дакрануўся ўпершыню да тваёй

душы ў радках і між радкоў тваіх лістоў-успамінаў. Такое адчуванне, нібыта прачнуўся ад працяглага летаргічнага сну. Шчодры займеў душэўны падмацунак. Нават не дапускаю думкі, што яны маглі быць спаленыя ці выкінутыя разам з смеццем. Калі ў мяне будуць свае дзеці, я пастараюся данесці ім, тваім праўнукам, гэтую рэліквію. Шкада, што ўжо не было і не будзе ў каго даведацца, каму адрасавалася твая незвычайная пошта і хто з ёю знаёміўся (бабулю Соню падобныя пытанні не цікавяць і не хвалююць). У тваёй дачкі пытаўся, яна нічога не бачыла і не чула. Падобна на тое, што і сын не чытаў тваіх лістоў, пэўна, і не бачыў. Прынамсі, мне ён ніколі нічога не казаў пра тое, што быў ты забраны ў Германію і ўцякаў з няволі. Увогуле казаў, што жыццё пражыў ты складанае, цяжкае, быў паранены і кантужаны пад Берлінам. Пасля вайны, пры Сталіне, сядзеў у турме за тое, што не пагадзіўся пакінуць хворую маці і паехаць на Поўнач, на лесапавал, куды прымусова накіроўвалі ўлады. Тры гады кары адбываў ты ў суровым Хабараўскім краі. Тым зняволеннем сталіністы дабілі тваю матулю, яе ты ўжо не застаў. Казаў мне бацька і пра тое, што ўсё пасляваеннае жыццё ты цяжка працаваў фізічна. Нават у апошнія гады, нягледзячы на слабое сэрца, быў жывёлаводам на ферме (у калгаснай канторы, ва ўсіх паперах называўся няйнакш як скотнікам; што тут возьмеш з двоечнікаў!)... Яшчэ ён казаў, што некалькі гадоў ты быў у заробках у Сургуце, прысылаў адтуль грошы і жонцы, і дачцэ, а найчасцей яму, сыну, калі ён вучыўся ва ўніверсітэце.

Мне, родны мой, не зразумела, як трапілі твае лісты на гарышча. Не магу таксама зразумець, калі і адкуль ты іх пасылаў і паступова ці залпам, канверт ці канверты не захаваліся; мо гэта, зрэшты, і не лісты і ўсё занатаванае ты нікому не пасылаў. Магчыма, збіраўся паслаць, скажам, з Сургута ў Амерыку роднаму брату, пакуль ён не загінуў у аўтакатастрофе. Эміграваў пры паляках, не прыязджаў на радзіму, дык мог цябе папрасіць, каб напісаў як можна больш падрабязна пра сваё жыццё, хоць бы пра асобныя яго старонкі. Калі ж не стала каму пасылаць, прывёз дамоў ды закінуў на

гарышча. Ну як табе, дзядуля, мая версія?.. Чакай, чакай! А ці не падумваў ты пра стварэнне рамана? Што паспеў з перажытага выкласці на паперу, тое і захаваў, а каб прадоўжыць, дома ўжо не знайшлося часу... Як бы ні было, я так рад, што напісанае тваёй рукою ўрэшце трапіла не ў выпадковыя рукі і не паглынулася агнём у печы. Балюча нават падумаць, якая здарылася б несправядлівасць, калі б энергія твайго моцнага духу, а разам з тым аповесць значнай часткі твайго неспакойнага жыцця, і не толькі твайго, захаваныя на аркушах паперы, былі зніклі бясследна.

А якія цікавыя згуляныя табою шахматныя партыі! Яны нават карысныя мне, хоць я даўно ўжо не аматар, а прафесіянал, гуляю ў Беларусі і за межамі сваёй краіны ў розных турнірах, не раз перамагаю даволі вядомых майстроў, у тым ліку міжнародных, а ў цябе, магчыма, не было нават разраду. Але дзіва дзіўнае: разбіраючы твае партыі, я пераконваюся, што ты добра валодаў тэорыяй, бо прымяняў на практыцы амаль усе дэбюты (у тым ліку і вельмі рызыкоўны каралеўскі ды не надта перспектыўны дэбют Сакольскага, а за чорных — цяжкія абароны: кара-кан і скандынаўскую), хоць калі было табе займацца тэорыяй! Асабліва ж мне імпануе тое, як ты смела атакуеш саперніка, ахвяруючы і пешкі і фігуры, дэманструючы камбінацыйна багатую і таму прыгожую гульню. Дзякуй табе, дзядуля, што шахматамі «заразіў» сына, бо ён у сваю чаргу падобным чынам заразіў мяне... Я ўжо шкаляром быў перакананы: шахматы дадзены чалавеку не для лёгкае забавы, а дзеля выхавання цвёрдае волі, развіцця і загартоўкі творчага духу, дзеля паглыблення працэсу мыслення, пошуку перамогі і яе дасягнення. Твая любоў да шахматаў як да мастацтва і паэзіі, як да неўміруча-прывабнага хараства перадалася і будзе перадавацца з пакалення ў пакаленне. Захапленне прыгожым — гэтаксама, я лічу, талент.

Увогуле дзівуюся, які ты таленавіты. На шафе знайшоў я некалькі тваіх карцінаў, пакрытых не адным слоем пылу. Калі толькі знаходзіў ты час, каб маляваць?! Я ўпершыню прынізіў сябе перад бабуляю Соняй — прасіў, каб аддала карціны мне, бо яны мяне зачаравалі. Іх усяго чатыры:

«Залатая ніва», «Буслы перад выраем», «Золак», «Стары і мора». Такая натуральная паказана прыгажосць пшанічнага поля, жнівеньскіх сенажацяў з шаломамі стажкоў ды з мудрымі птахамі! А якія задумёныя бярозы на барве золаку! І, нарэшце, такі падобны да Эрнэста Хемінгуэя самавіты рыбак у неспакойным бяскрайнім моры! Прыходжу да высновы, што некалі ўзрушыў цябе ўнікальны твор «Стары і мора» неверагодна моцным духам чалавека, бывалага рыбака, які трапіў у экстрэмальныя ўмовы і, будучы ў пастаяннай смяротнай небяспецы, не панікаваў, а збіраў у кулак свае, можна сказаць, апошнія сілы і ўрэшце дасягнуў перамогі. Не выпадкова ўсе твае карціны, па-майстэрску выкананыя алейнымі фарбамі, прасякнуты не толькі пачуццём любові да прыроды, яе чыстае красы, а й пачуццём свабоды.

**2**

Дарагі дзядуля Мікола! Ты пішаш, твая няволя пачалася пасля таго, як адмовіўся пайсці на службу немцам у паліцыю. Бацька твой, чалавек, як кажуць, біты, які падлеткам бачыў і расейскіх і нямецкіх вайскоўцаў, удзельнікаў Першае сусветнае вайны, прадбачыў, чым абернецца твая нязгода служыць гітлераўцам, ён папярэдзіў: «Цяпер чакай начных гасцей...» Кажаш, няпрошаныя госці з'явіліся, не запыліліся. Ты, як і маці, прачнуўся ад несупыннага сабачага брэху, які хутка перайшоў у скавытанне. Ты адарваў ад падушкі галаву і ўбачыў: па акне, якое выходзіла ў сад, слізгануў нейкі цень. Гэта на ўсялякі выпадак там прашмыгнуў стараста: а раптам надумаеш уцякаць праз адчыненае акно! Амаль у тую ж хвіліну моцна заторгаліся ў сенцах дзверы — гэтак пра свой візіт заявіў сам начальнік паліцыі Бронек Катаеўскі. Калі бацька адчыніў дзверы, ён, доўгі, як аглобля, і нязграбны, увайшоў праз сенцы ў хату, не вітаючыся, а за ім парог пераступіў і стараста, выціраючы кепкаю лоб ды бліскаючы ранняю лысінаю.

— Ёсць загад, панімаеш, адправіць у Германію вашага сына Мікалая,— ківаючы доўгаю, як у каня, галавою ў такт

прамоўленым словам, сказаў Катаеўскі. — Даем, панімаеш, пятнаццаць хвілінаў на зборы.

Пакуль ты збіраўся, апранаў даматканыя нагавіцы, кашулю, зялёны пінжак са стаячым каўнерыкам, перашыты з бацькавага кіцеля, у якім ён вярнуўся з польскага войска, лёгкую кепачку, пакуль збіраў дробныя асабістыя рэчы, твая маці, плачучы, напаўняла торбачку хлебам, салам, часнаком, цыбуляю. Яна пакутавала, бо цябе, юнага, забіраюць невядома куды і на які тэрмін, адно вядома, што ў Нямеччыну. «А больш за ўсё, — ты пішаш, — трывожыла яе, напэўна, тое, як я, не бывалы, не цёрты між людзей, змагу перажыць расстанне з сям'ёй, чужыну, няволю і, галоўнае, ці не загіну». Ты сэрцам адчуў матчыны хваляванні і, стараючыся яе супакоіць, сказаў:

— Не плачце, мама, я хутка вярнуся.

Яна, худзенькая, абняла цябе і яшчэ больш расплакалася, пасля, выціраючы далонямі твар, выдыхнула:

— Беражы, сынок, сябе! І няхай ахоўвае цябе святы Бог і Багародзіца.

Яна адвіхнулася да покуці і за вялікім абразом дастала маленечкі, вярнулася і ўручыла яго табе, перахрысціла на дарогу і дала наказ:

— Насі яго, родненькі, заўшы з сабою.

Падышоў бацька. Гледзячы табе ў вочы, стараўся цябе супакоіць:

— Ты не вельмі бойся. Гэта не на фронт і не ў астрог; папрацуеш і вернешся. Не прападзеш.

Твае малодшыя брат і тры сястры яшчэ спалі.

Пасля твайго развітання з роднымі цябе паліцай і стараста вялі пад канвоем па сяле на світанку да будынку жандармерыі. Пакуль вялі, ты многа думак перадумаў. Тваю душу перапаўняла пачуццё ростані з родным кутом і трывога за будучыню. Тваёй вольналюбівай натуры цяжка было змірыцца з гвалтам, учыненым над табою вернымі паслугачамі акупантаў. Аднак ты разумеў: выпрабаванне тваё толькі пачалося. «У свеце ідзе вайна, — думаў ты, — такія, як я, хлопцы, толькі што ў салдацкіх мундзірах, недзе падаюць,

як трава пад касою. Са мною гэтаксама можа здарыцца ўсялякае. Маладому, здароваму і дужаму, несправядліва, нават абсурдна загінуць, тым больш загінуць недарэчна, выпадкова. У баі ўсё інакш, бо ў руках зброя і ты можаш абараніць сябе, і не толькі сябе. А ў чужых, у варожых руках цалкам залежны ад ступені чалавечай жорсткасці. Што да Божае ласкі-літасці, то яе неяк трэба заслужыць А як?..» Далей, мой дарагі, ты разважаў пра сваіх бацьку і маці: яны многа працуюць, жывуць сумленна, нікога не крыўдзяць, маці набожная, ды асабліваю аховаю Усявышняга, па ўсім відаць, яны не забяспечаны. Маці пасля смерці дзвюх маленькіх дачушак ледзь не памерла сама ў трыццаць восем гадоў ад двухбаковага запалення лёгкіх. А бацьку паклёпнікі ледзьве не давялі да магілы. Прытым двойчы: як пры саветах, у трыццаць дзявятым годзе, так і пры немцах, у сорак другім.

У 1939 годзе, калі ў былой Заходняй Беларусі ўсталявалася жорсткая, здзеклівая савецкая ўлада, да яе адразу прыклеіліся п’яніцы, злодзеі, гультаі. Недзе чытаў, мабыць, у Васіля Быкава: «Якая ідэя, такія і прыстасаванцы да яе». Яны зайздросцілі добрым гаспадарам, якім быў і твой бацька, таму шкодзілі ім. Зладзюгі Пацукі (бацька і сын) пад’юдзілі Паўла Шуляка, Івана Трутня і Георгія Тхара (нейкія надта гаваркія прозвішчы ў тваім сяле, хутчэй за ўсё гэта мянушкі) разам з імі накляпаць на твайго бацьку, выдатнага на ўсю ваколіцу бондара і цеслю, а яшчэ й пчаляра. І дружна сфабрыкавалі данос: быццам у яго ёсць нямецкая вінтоўка і наган і што да яго многа наязджае падазроных незнаёмцаў, якіх ён настройвае супраць улады бальшавікоў, праводзіць прапаганду і агітацыю за стварэнне контррэвалюцыйнай арганізацыі. Паклёпнікі прасілі ліквідаваць яўнага ворага народа. Накіравалі ліст у органы дзяржаўнае бяспекі. І жнівеньскаю ноччу твайго, дзядуля, бацьку — майго прадзеда, — з якім ты начаваў на сене ў клуні, забралі тры ўзброеныя тыпы, адвялі ў машыну і адвезлі ў Камянец. Туды падобных «ворагаў» назвозілі, можа, добрую сотню. З Камянца яго разам з імі завезлі ў Берасце, у турму. Там ажно восем месяцаў доўжылася следства. Суровыя ўлады ўсё-ткі высветлілі: паказанні

супраць яго ўсе ілжывыя. У сакавіку 1940 года пацярпелага вызвалілі. Начальнік турмы раіў напісаць заяву ў суд дзеля спагнання з кожнага паклёпніка па сем рублёў сутачных за ўвесь тэрмін следства. Ды ён, твой бацька, а мой прадзед, пашкадаваў сваіх злосных крыўдзіцеляў. Як ні дзіўна, ён, невінаваты, баяўся граху. Тыя, што награшылі, не баяліся. Не ведаю, як ты, а я паганцаў не пашкадаваў бы.

Ты, мой дзядулька, ідучы пад канвоем, не мог пазбавіцца сумных думак, узгадваў гэтаксама і падзеі нядаўняга часу, якія папярэднічалі твайму захопу. У пачатку лета 1942 года немцы, як ты кажаш, рукамі нашых паслугачоў, якія пры ўсіх уладах шчыравалі ў якасці паклёпнікаў-даносчыкаў, забралі ў вас добра дагледжанага каня і двух адкормнікаў. Трэцяга твой бацька закалоў на патрэбу сям'і, не маючы на тое дазволу акупацыйных уладаў. А таго толькі й чакалі тыя самыя злыдні, што і пры паляках і пры саветах стараліся ўтапіць твайго бацьку. Пацукі першыя перадалі пранюханую навіну Тхару, Тхор — Шуляку, а Шуляк, чыя дачка была замужам за старастам, данёс яму, уплывоваму зяцю, а той, адпеты служака, з уведанаю навіною пакланіўся амскамісару, добра ўсведамляючы, чым пахне такі данос. Суровы камісар заявіўся да вас разам з старастам і, пагражаючы пісталетам, запытаўся ў твайго бацькі па-польску, відаць, каб зразумела было:

— Забіл вепша?

Бацька адмоўна пахітаў галавою. Камісар і стараста пераглянуліся і давай шукаць свежыну. Ды, як ні шарылі паўсюль, нічога не знайшлі. Бацька іх перахітрыў — схаваў надзейна, бо ведаў, што ў вёсцы Гароднікі гэты самы амскамісар застрэліў аднаго гаспадара за падобную правіну...

Твой бацька аніяк не адпомсціў паклёпнікам. Але хіба гэта іх супакоіла? Ніколечкі! Наадварот, падбадзёрыла на новыя «подзвігі». Пасля вайны зноў асабліва запатрабаваліся паклёпы. Зноў, як заўсёды, спеліся Пацукі, Тхор, Шуляк і нядаўні стараста (хаўруснікі з яго ледзь не зрабілі героя для новае ўлады: прыдумалі, быццам ён абараняў сяльчанаў і спрыяў партызанам), яны аб'ядналіся супраць твайго

бацькі, накаталі карным уладам, нібыта ён — небяспечны контррэвалюцыянер, быў асуджаны ў 1939-м, але ўцёк з турмы. Словам, вораг народа не ліквідаваны і нават не ізаляваны!.. Гэтым разам яго схапілі і без суда прышылі віну. Так ён патрапіў у Горкаўскую вобласць, на Сухабязводную станцыю. Працаваў пяць гадоў на лесапавале, і толькі хвароба дапамагла вярнуцца на волю, але без права пасялення на радзіме... Дзякуй, што ты і пра гэта распавёў на сваіх нетаропкіх аркушах.

Па-ранейшаму ў цяжкіх роздумах ты набліжаўся да цэнтра сяла, дзе размяшчалася нямецкая жандармерыя. Праходзячы ля сядзібы Трахіма Конана, ты павярнуў галаву на маладыя бярозкі, што стаялі каля варотаў, і заглядзеўся на іх, бо надта хораша выглядалі яны на барве золаку.

— Валяй-валяй! — вызверыўся Катаеўскі. — Круцішся, як быдла, панімаеш. Куды морду адвярнуў? Мо ўцякаць хочаш? Ад нас не ўцячэш!

— Ду біст ээль! — агрызнуўся ты наўмысна па-нямецку.

— Што ён, панімаеш, вярзе? — звярнуўся паліцай да старасты.

— Точна не скажу, але штось такое абы-якое.

Катаеўскі на ўсякі выпадак даў табе ў плечы прыкладам штурхаля:

— Вумнік знайшоўся тут, панімаеш!

Хоць сам, дзядуля, ты зарабіў штурхаля, затое мне памазаў мёдам па сэрцы: як жа дарэчы ты ахрысціў яго, тупога прыслугача, аслом! Вядома ж, мне прыйшлася даспадобы твая думка пра тое, што не прадаў ты сваю душу, не пагадзіўся пайсці ў зграю Катаеўскага. Не толькі думка, вядома, а найперш сам факт. Я ганаруся, дзядуля, табою і тваім бацькам, а маім прадзедам, які ні да якіх уладаў не прымазваўся, ворагам не служыў. Шкада толькі, што і ён, і ты многа цярпелі ад савецкае ўлады. А душу маю, мушу прызнацца, гняце сорам за твайго дзеда, а майго прапрадзеда. Аказваецца, як пішаш ты, ён, Іван Іванавіч, пад Петразаводскам у 1886 годзе служыў у войску ў генерала Мураўёва ардынарцам. Божа мой, яшчэ жыве нейкая долечка спадзявання, што мо

гэта быў не той Мураўёў-вешальнік, закляты вораг нашае Бацькаўшчыны, які прысланы быў сюды падаўляць рух за свабоду і які, лічы, накінуў пятлю на шыю нашага незабыўнага народнага героя, кіраўніка паўстання — Кастуся Каліноўскага. Калі ж то быў менавіта той самы Мураўёў і мой прапрадзед хоць бы паіў ягонага каня, а больш нічым сябе не запляміў, я ўсё адно пажыццёва буду на зямлі гарэць у пекле ганьбы. А ён, непісьменны сірата, напэўна, ганарыўся тым, што кат абвясціў яму падзяку за добрую службу. Адным словам, дэталёва займуся звесткамі пра вайсковую службу прапрадзеда, а яшчэ грунтоўна — сваім генеалагічным дрэвам.

Ідучы, дзядуля, у сваіх думках скрозь за табою, бачу цябе ўжо ля будынка жандармерыі, на зборным пункце, кудыназганялі чалавек пяцьдзясят хлопцаў і дзяўчатаў. І вось па брукаванцы, у суправаджэнні фурманак з паліцаямі, усіх вас пагналі праз Каралёў Мост і праз пушчу на чыгуначную станцыю Белавежу.

Мне цікава, што ты, ідучы па брукаванцы, узгадваў, як у верасні 1939 года ў цэнтры сяла пачалася страляніна. Было табе пятнаццаць гадоў, і ты, дапытлівы і бясстрашны, пабег туды. Там даведаўся, што з Белавежскае пушчы былі прыскакалі ў сяло польскія кавалерысты, чалавек дваццаць. Іх ласкава сустрэла камендантка:

— Мае жолнежыкі, як я вас чэкалэм!

Паіла, карміла. Ды неўзабаве з-за могліцаў выскачыў, затарахцеў нямецкі танк. Спуджаныя палякі-вайскоўцы павыбягалі на двор, ускочылі на коней, каб даць драпака туды, адкуль прыскакалі. Але да лесу дабрацца ім не ўдалося, бо па іх, уцекачах, няспынна лупілі немцы з гарматы, пакуль усіх не паклалі на дарозе.

Тыя немцы-танкісты пасля расправы з польскімі кавалерыстамі знайшлі калодзеж каля школы, ля якога пілі ваду і частавалі шакаладам дзяцей і падлеткаў, якія, як і ты, упершыню ўбачылі танк і з захапленнем аглядвалі яго з усіх бакоў.

— Русішэ кіндэр — гутэ кіндэр! — усміхаўся, агаляючы шырокія зубы, светлачубы немец, з рук якога і табе досталася шакаладка.

Ты пішаш, было гэта на Прачыстую, дваццаць першага верасня, што напачатку падалося мне дзіўным, бо Беларусь адзначае дзень свайго уз'яднання, які ў маёй свядомасці атаясамліваўся з днём канчатковага вызвалення, раней — сямнаццатага верасня. Але згаданы табою эпізод тадышніх вераснёўскіх падзеяў не выглядае выпадковым, ён, па-мойму, адлюстроўвае тагачасную палітыку саюзнікаў — не толькі вядомую савецка-германскую дамову аб ненападзе, заключаную ў ноч з 23 на 24 жніўня 1939 года, якая атрымала назву «пакт Рыбентропа–Молатава», а й сакрэтны пратакол савецка-германскае змовы. Аказваецца, у дамову ўключылі строга сакрэтны дакумент — мапу падзелу Польшчы з подпісам Сталіна, які выступіў ініцыятарам такога падзелу... Дык вось, згодна з тымі жнівеньскімі дамовамі, Германія вызваляла ад палякаў Берасце. Якраз у верасні. У сеціве знайшоў я фотаздымкі сумеснага парада Вермахта і РККА ў Берасці 22 верасня 1939 года ў часе афіцыйнае перадачы горада Брэста і Брэсцкае крэпасці савецкаму боку. Толькі тады, відаць, была ўстаноўленая дэмаркацыйная лінія... Я, дзядуля Мікола, міжволі ўсё больш цікаўлюся палітыкаю, мо таму, што цяпер побач з нашаю краінаю ідзе вайна — ліецца кроў на ўсходніх землях Украіны, а Крым ад яе ўжо адрэзалі і намалявалі яго на мапе Расеі. Так што ў дваццаць першым стагоддзі свет ненашмат стаўся больш цывілізаваны. А Зямля дык яшчэ болей стогне ад назапашанае зброі.

Аднак я вяртаюся да твайго вымушанага шляху на чужыну. У той жа дзень вы, юныя нявольнікі, былі на станцыі, дзе паліцаі здалі вас нямецкім уладам. Там і пасадзілі вас, як ты пішаш, у вагон-цялятнік і адправілі ў Бельск. У тым гарадку, які нагадаў табе твой раённы цэнтр, зняволеных маладых людзей набралася ўжо з паўтысячы; хлопцаў і дзяўчатаў раздзялілі на дзве калоны, затым усіх, нібы жывёлу, размясцілі ў нейкім цьмяным памяшканні, падобным да хлява. Дзяўчаты пайшлі ў адны дзверы, а хлопцы, праз

перагародку, — у другія. Калі ты пераступіў парог, то ўбачыў людзей, прыгнаных сюды раней. Адны сядзелі, другія ляжалі на саломе, пасцеленай заміж падлогі. Пачаліся новыя знаёмствы. Ты пішаш, пазнаёміўся з цудоўным хлопцам — Сярожам Прыбылоўскім. Ён табе распавёў пра вельмі скрушную гісторыю: ягоную вёску, што знаходзілася за восем вёрстаў ад Бельска, немцы спалілі ноччу, а людзей пастралялі. Сярожа ўратаваўся, бо ў тую ноч быў у каханае, якую назваў нявестаю. Яна жыла ў гарадку, там працавала ў немцаў у камендатуры машыністкаю. У хлопца ззялі вочы, калі казаў пра яе красу (яна стройная, пухленькая, кучаравая) і ледзь не плакаў ад вымушанага расстання.

Дзяўчына, калі даведалася, дзе ён апынуўся, змагла яму перадаць нейкую мазь, і ён, усміхаючыся і раз-пораз прыгладжваючы рукою неслухмяную пасму русых сваіх валасоў, якая ўсё спадала на брыво, пахваліўся табе, што варта толькі змазацца тою маззю — і немцы адпусцяць, бо на целе з'явяцца прышчы, пачнецца і страшны сверб, гэта будзе падобна на каросту, чаго яны баяцца як агню. І вы паздымалі з сябе рубашкі і нашмаравалі кожны сабе нанач грудзі, рукі, шыю, жывот. Не паспелі пераначаваць, як і сверб пачаў даймаць, і прышчы з'явіліся на целе, і вы ад нясцерпнага свербу раздзіралі скуру.

Вядома, ад такога дзейснага сродку, ад вострай рэакцыі вашых арганізмаў на яго вы ўжо зарадаваліся: вось яна, свабода, маўляў, немцы з вамі не стануць цацкацца — выправяць зараз жа дадому... Ого, не настолькі яны дурныя, як іх часта малявалі ў нашай літаратуры! Як толькі вы паскардзіліся на заразу, вас неадкладна накіравалі ў Беласток, у нейкую лякарню. А там абстрыглі нагола і распранулі дагала, прынеслі ў вядры чарнаватае мазі і прымусілі грунтоўна змазацца. Сімульнуць не ўдалося. Вы сталі падобныя да чарцей, а пасля лазні-парылкі адчуліся анёламі. Праз суткі вас, няўдалых хітруноў, увапхнулі ў вагон да вашых старых знаёмых па Бельску, і цягнік папёр усіх вас ва Усходнюю Прусію.

Дзверы ў вагонах былі адчыненыя, а ў тамбурах стаялі ўзброеныя нямецкія салдаты і ўздоўж чыгункі паўсюль ля-

жалі запасныя шпалы і рэйкі, так што скакаць з вагона было б вельмі небяспечна.

«Цягнік прайшоў ад Беластока вёрстаў сто і раптам супыніўся, можна сказаць, сярод поля», — пішаш, дзядуля, ты. Вы з Сярожам убачылі вялікія горы камянёў, горкі шчэбеню, а далей, метраў за дзвесце ад чыгункі, шмат людзей, якія молатамі раздрабнялі камяні. Праз некалькі хвілінаў паказалася група палонных, чалавек пятнаццаць, іх да цягніка падвялі ўдвух — немец у вайсковай форме і падобны да тых жа палонных, толькі даволі гладкі і ўпэўнены, каржакаваты і мускулісты тып. Быў ён у кірзавых ботах. На ім добра сядзелі чырвонаармейскія нагавіцы. На голых грудзях (ці то загараў ён, ці, хутчэй, фарсіў) выразна віднелася татуіроўка — вялікі арол, і ты, дзядуля, падумаў, што ён — расіянін, які ў немцаў на правах памагатага. Твая здагадка хутка пацвердзілася. Неўзабаве менавіта ён загадваў усім прыведзеным да цягніка залазіць у вагон.

Калі састаў адышоў ад станцыі, ты і Сярожа Прыбылоўскі першыя адазваліся да незнаёмых. Яны ўсе былі змардаваныя і зусім панылыя, на вашыя пытанні адказвалі вельмі неахвотна. Назвалі сябе рускімі ваеннапалоннымі. Ад іх вы яшчэ даведаліся, што яны, як і сотні тых, што засталіся ў Беластоку, ля чыгункі, займаліся катаржнаю працаю — трушчылі камяні на шчэбень.

У палонных, што ехалі з вамі, не было нічога з сабою, а ў вас былі клункі з прадуктамі, і вы адчулі, што яны галодныя, таму іх пачаставалі хлебам і салам.

Дарагі дзядуля, мая маці часам кажа, што я «крошкі дзедавы пабраў», гэта значыць, вельмі падобны да цябе. Пэўна, праўду кажа. Толькі ж я, на жаль, да цябе не дарос духам сваім. Але я на тваім месцы гэтаксама падзяліўся б сваёй ежаю з галоднымі і змардаванымі людзьмі.

Я з радасцю прачытаў твае далейшыя радкі, дзе ты пішаш пра тое, што, падсілкаваўшыся, яны, вашыя часовыя спадарожнікі, крыху павесялелі, з вамі пачалі ахвотна размаўляць. І вы пачулі іхнія горкія скаргі на таго размалляванага татуіроўкамі суайчынніка, які разам з імі трапіў у па-

лон, але стаўся памагатым у фашыстаў, здрадзіў сваім. Яны называлі яго гадам, бо здзекаваўся з іх, пільна сачыў, каб ніхто ні хвіліны не пастаяў на працы, прымяняў і лаянку, і фізічную сілу.

З тваіх словаў, дзядуля, я зразумеў, што і ты разам з ваеннапалоннымі асудзіў таго падлюгу і здрадніка. Я гэтаксама найбольш не цярплю ў людзях, апрача вераломства, подласць і здраду, словам, асуджаю ўсялякую шкурную душу. Неяк мне распавёў адзін гулагавец, што былы ягоны сябра рэзка перамяніўся, калі там, у сібірскім сталінскім лагеры, займеў нейкія сабачыя правы. Ён, падымаючы на працу зняволеных, лупіў кіем тых, каторыя цяжка падымаліся. Мабыць, лічыў, што не выжывуць сведкі ягонае жорсткасці.

А вось табе эпізод з майго працоўнага вопыту. Калі адзін прараб наймаў мяне на будоўлю аб’екта, абяцаў за акрэслены фронт работ тысячу даляраў, а калі я справіўся з заданнем, ён налічыў толькі палову абяцанага, матывуючы тым, што давялося ўлічыць непрадбачаныя выдаткі... Такі прыкры выпадак наводзіць мяне на думку ўсё ж пра далейшае навучанне ў ВНУ. Не выключана, што свой лёс я звяжу з музычнаю адукацыяй, бо сяды-тады да мяне прыходзяць, нібы спускаюцца з нябёсаў, мелодыі, я нават не паспяваю іх занатоўваць. Мне часам карціць распачаць, нават не маючы кансерваторскае адукацыі, цэлую музычную паэму пра тваё, дагэтуль невядомае мне, жыццё. Не, хлушу! Непараўнальна больш узрушальную музыку я стварыў бы на матэрыяле «Альпійскае балады» Васіля Быкава. Не выпадкова ў Яўгена Глебава з’явіўся балет на аснове «Альпійскай сімфоніі-балады»... Але найперш трэба мне набыць паўнавартасную адукацыю.

А што да людскіх учынкаў, дзядуля, то міжволі ўзгадалася мне яшчэ гісторыя пра чалавечае крывадушша, што мяне гэтаксама засмуціла; я лічу, яно мяжуе са здрадаю. У адным рэгіянальным шахматным турніры браў я ўдзел з калегам, які ўвесь час называў мяне сябрам. Тады мы абодва былі першаразраднікі. Ён заўсёды гуляў слабей за мяне. Але пасля таго як мяне, нечакана перамогшы, апярэдзіў на палову бала, пастараўся тайком купіць перамогі ў двух

наступных турах, каб толькі захаваць перавагу нада мною. Няхай бы хоць маўчаў пасля такіх неспартыўных паводзінаў, ды дзе там! Думаючы, што не выкрыецца ягоная чычыкаўска-манілаўская натура і гэтая дробная амаральная здзелка, ён сачыняў мне, быццам абедзве тыя партыі правёў у атакуючым стылі і, маўляў, таму лёгка перамог. Як жа ён мог мяне называць сябрам і частаваць такою порцыяй хлусні! Мне ж прызналіся тыя самыя слабакі ў шахматах і мацакі ў запойных справах, што яны прадалі яму ачкі ў дагаворных партыях за пару пляшак, бо ён не ўтойваў ад іх, што вельмі карціць упершыню ў жыцці, па выніках усяго турніру, абагнаць «свайго сябра». Абагнаць жа мяне яму не ўдалося, бо я ва ўсіх наступных турах атрымаў перамогі, тады як ён ні ў кога больш не змог купіць халяўныя ачкі. Дзівак чалавек: не мог проста парадавацца няхай і выпадковаю перамогаю над мацнейшым за сябе шахматыстам...

Ах, дзядуля, прабач, я развёў доўгую гамонку пра чалавечка, які не варты такой гаворкі. Проста, ведаючы, што шахматы былі і тваёй стыхіяй, дазволіў сабе гэтак паразважаць.

Далей ізноў рухаюся тваім змушаным шляхам. Вось цягнік з вагонамі, напоўненымі рабочаю сілаю, часцінай якое было наканавана стацца табе, дасягнуў зямлі Усходняе Прусіі. Тут ужо напоўніцу павеяла ЗАХАДАМ; сама чыгунка выглядала не так, як у нас: шпалы не драўляныя, а металёвыя, між рэек і шпалаў не пясок, а шчэбень. Праз некалькі станцыяў на даляглядзе заззялі вечаровыя агні горада — гэта быў Аленштайн. Калі цягнік пры пероне супыніўся і вагоны апусцелі, вас, нядаўніх пасажыраў, пералічылі і загналі ў двор, абгароджаны шчытным і высокім, метры два з паловаю, плотам. У прыцемку праявіўся, бы негатыў фатаграфіі, невыразны будынак царквы, куды вас, на тваё здзіўленне, і павялі. Пакуль набліжаўся ты да тое царквы, успамінаў прасторны храм у родным сяле і тое, як матуля прыводзіла цябе, падлетка, на споведзь і на прычасце, узгадваў цудоўныя святы — Каляды і Вялікдзень, якія маці спраўляла так, як спраўлялі іх дзяды і прадзеды. Калі ж апынуўся ты ў сярэдзіне царквы, як аказалася, былой, то дужа быў здзіўлены:

там, дзе павінен быць алтар, цяпер дзейнічала прыбіральня, якая займала метраў трыццаць квадратных. Дагэтуль табе вядома было, што чынілася з многімі храмамі ў СССР пры антынародных крывавых рэжымах Леніна і Сталіна: цэрквы і касцёлы ператваралі дзе ў склады, а дзе і ў хлявы, святароў жа вывозілі ў ГУЛагі, многіх расстрэльвалі. Там, у Аленштайне, ты ўбачыў праяву гітлераўскага вераломства. І не здзівіўся: як дыктатары ўсе шмат у чым падобныя, так падобныя і іх каманды, дзеянні, парадкі...

У памяшканні былое царквы на падлозе ляжала салома, дзе-нідзе яна ператварылася амаль у пацяруху, пэўна, па той прычыне, што і да вас там пабывала нямала зняволеных.

Вы сяк-так размясціліся, хоць ніякага святла ў памяшканні не было. Час ад часу то там, то тут загараліся запалкі: хтосьці запальваў самакрутку, а нехта гэтак памагаў сабе кагосьці ў поцемках знайсці. Ты быў у сваёй хлапечай кампаніі, дзе знайшоў цябе стрыечны брат Рыгорык Баліевіч, каторы, як ты пішаш, ажаніўся пасля вайны з Анютаю Камар. Пра яе, дзядуля, я нават і не чуў. Цяпер вось падумаў: якія ў тваім сяле цікавыя не толькі мянушкі, а й прозвішчы! Я так мяркую, што паходжанне гэтага прозвішча — ад мянушкі.

У асобныя купкі групаваліся дзяўчаты, пішаш ты, там былі і зямлячкі: Ярына (якое цікавае імя!), тая, што, вярнуўшыся з Германіі, выйшла замуж за глухога Колю Гуцэвіча, і ажно тры дзяўчыны з суседняе вёскі Клепачы.

Ты ў сваёй кампаніі сядзеў мала — любіў пагутарыць не толькі з хлопцамі, а й з дзяўчатамі, таму разам з Рыгорыкам Баліевічам і Сярожам Прыбылоўскім наведвалі сяброўак і новых знаёмых, з якімі як бы зрадніла няволя, чужына. Амаль ніхто не спаў у тую ноч — яна ўспрымалася бальшынёю з вас як доўгі развітальны вечар.

— Што паробіш, — суцяшалі адно аднаго маладыя людзі. — Такая ўжо нашая доля — зведаць нямецкі палон.

Але наступнага свайго дня, як і свайго далейшага лёсу, вядома, ніхто не ведаў, не мог ведаць, што чакае ў жыцці далей. Як можна было спакойна заснуць, калі, па-першае, кожны, хто там апынуўся, перажываў ростань з Бацькаўшчынай;

на радзіме ў большыні з вас засталіся родныя маці, бацька, сёстры, браты, а ў некаторых — яшчэ і маладая жонка альбо каханая! Па-другое, даймала трывога за дзень заўтрашні: што чакае кожнага з вас і што будзе там, на радзіме, на акупаванай захопнікамі тэрыторыі? Некаторых бянтэжыла і перацёртая салома пад нагамі: як на ёй улегчыся?..

А я, дзядуля, у мірны час і ў выдатных умовах ноччу не сплю ўжо не першы год — пасля тых самых падзеяў на ПЛОШЧЫ, дзе мне нанеслі цяжкую фізічную і маральную траўму. Сон не бярэ ні ў цемнаце, ні пры электрычным святле. Каратаю ночы звычайна за шахматнай і мастацкай літаратураю, чытаю Біблію, уключаю класічную музыку: Агінскага, Моцарта, Брамса, Чайкоўскага; часта пішу лісты сябрам, іх у мяне багата, бо я такі ж камунікабельны, якім быў на зямлі ты. Часам размаўляю па тэлефоне з тымі, хто яшчэ не спіць ці ўжо не спіць. Раніцай стамляюся і пры дзённым святле засынаю. Не ведаю, як будзе навучыцца начамі спаць, калі паступлю ў ВНУ. Неяк давядзецца, інакш буду засынаць на лекцыях.

Пасля ПЛОШЧЫ, ужо мною згаданае, я стаў больш ранімы і нервовы. Бянтэжыць мяне тое, што ў людзях ва ўсе стагоддзі і ў розныя часы, у celle рознае, так бы мовіць, надвор'е жывучыя ўсялякія цемрашалы... Пакутую ад цяжкіх людскіх характараў, дурных паводзінаў чужых людзей, а тым больш — родных, і ад памылак сваіх уласных. Думаю, ніколі я не страчу вострага пачуцця сораму. Лічу гэтае пачуццё лакмусавай паперкаю сумлення.

Мне і за твой адзін прыкры ўчынак сорамна. Вось ты, блукаючы ў кампаніі хлопцаў па цёртай-перацёртай саломе ў былой царкве, заўважыў куфар, даволі аб'ёмны, як ты кажаш, «прыблізна такі, з якім у даўнія часы нявеста выходзіла замуж, загружаючы туды свой пасаг». Ты і твая кампанія пранюхалі, што куфар належыць нейкай даме з Белавежы, якая добраахвотна накіравалася ў Нямеччыну. Яшчэ вы заўважылі, што яна цалуецца з нейкім мужчынам. Ну і паколькі яна «такая-сякая», вы калектыўна вырашылі залезці ў яе куфар. Па-майстэрску сплецены з лазы, ён быў

зачынены на замочак, таму вы, як дапатопныя дзікуны, яго парэзалі нажом і там сярод жаночае вопраткі знайшлі «недурныя гасцінцы».

Пацягнуць вам было што. Кажаш, кіль дзесяць сала і масла хапанулі, хлеб хатняе выпечкі забралі ды цыгарэтаў пару дзясяткаў пачак. Каб дастаць масла, вы мыслілі на ўзроўні малпаў: разбілі збан, чарапкі выкінулі ў прыбіральню. Туды ж скінулі і скурку, зрэзаную з сала, бо яна падалася падазронаю: на ёй заўважылі нейкія бугаркі. Усю здабычу прынеслі ў сваё логава — на тое месца, што занялі звечара. Там засталі Рыгорыка, ён драмаў, узяўшы пад галаву твой клунак, каб выпадкам не ўкралі. Ты найперш пакарміў яго, свайго згаладнелага сваяка, якога паліцаі забіралі не з дому, а з вуліцы і ў якога з сабою не было нічога, нават скарынкі хлеба. Ён з такою радасцю накінуўся на ежу і з натуральным здзіўленнем: адкуль такія дары?.. Пасля вы панеслі здабычу ваеннапалонным. Тыя найперш дзякавалі за цыгарэты, многа есці яны баяліся, бо былі занадта галодныя, змардаваныя, ды патрохі падсілкоўваліся, курылі і вас хвалілі...

Эх, дзядуля, дзядулька! Як жа ты награшыў! І не пакаяўся ні тады, ні пазней. Парадаваў мужыкоў, а пакрыўдзіў жанчыну, бязлітасна абабраўшы яе: у тым куфры не засталося ні грама хоць бы хлеба. Тое, што яна мяняла радзіму на чужыну, дык, відаць, не ад салодкага жыцця; магчыма, баялася нахабных і ўсюдыісных сталінцаў ці мясцовых хрыстапрадаўцаў. А тое, што яна там з некім цалавалася, хіба гэта злачынства? Мо жанчына развітвалася з каханым ці, можа, спаткала сваё каханне, сваю доўгачаканую жаночую долю? Тое, што яна табе і тваёй кампаніі не спадабалася — толькі факт, ды ні ў якім разе не аргумент, які б мог апраўдаць твой амаральны ўчынак. Як жа моцна ты быў аслеплены нелюбоўю да бліжняга, калі з тваім удзелам рэзалі нажом той арыгінальны куфар! Ты ж — мастак. Адно гэта павінна было стрымаць замах на прыгожае. А калі ты сапраўдны хрысціянін, то як мог свядома чыніць зло?! Хоць, я разумею, юнак мог пераблытаць, не адрозніць, дзе дабро, а дзе зло. Мабыць, маладосць адрозніваецца ад сталасці найперш

большай колькасцю памылак. Бяда, калі язык абганяе думку, і гора, калі цвярозую думку апярэджвае як бы сп'янелая рука. Тваю руку, узброеную нажом, на жаль, не стрымала яго вялікасць сумленне.

Як толькі развіднела, заявіліся з аўчаркаю пяць гестапаўцаў! Яны выстраілі вас паўкругам, і адзін з іх загаварыў па-руску:

— Ноччу у вас тут здарылася пакража: скралі прадукты вось у гэтай дамы (яна стаяла праваруч ад іх, і ён паказаў на яе рукою); хто ўзяў, няхай прызнаецца, кары ніякай не будзе. Калі ж ніхто не прызнаецца, мы будзем вымушаныя зрабіць вобыск, і той, у каго знойдзем скрадзеныя прадукты, будзе расстраляны.

Ён даў каманду вінаватым ступіць тры крокі наперад.

Усе стаялі і маўчалі — і тыя, натуральна, хто нічога не ведаў, і тыя, што ведалі, і тыя, што здзейснілі пакражу. З паўгадзіны працягваліся ўгаворы і грозьбы, запалохванні аўчаркаю, маўляў, яна навучаная знаходзіць віноўных і каго знойдзе, таго разарве на кускі. І тут, дзед Мікола, ты міжволі падумаў: «А што, калі сабака нападзе на мяне?!», хоць нічога крадзенага ў цябе не засталося, сёе-тое заставалася ў іншых. Нездарма кажуць: «На злодзеі шапка гарыць»...

Табе і тваёй кампаніі пашанцавала: раптам прагучала новая і ўжо апошняя каманда — разысціся. Гестапаўцы сышлі, сабаку павялі з сабою. Ты пішаш: «Дама засталася з носам. Пэўна, немцы яе любілі гэтак жа, як і ўсіх нас». Справа не толькі ў гэтым. Я мяркую, выкрыццё вінаватага іх не надта хвалявала, бо шкоду вы нанеслі не ім.

Вас пачалі выводзіць з памяшкання ў той самы двор, абгароджаны высокім плотам. А потым чалавек па пяць-сем некуды забіралі праз кожныя паўгадзіны. Перад палуднем прыйшла і твая чарга. З табою разам выклікалі яшчэ сем чалавек, табе незнаёмых. Нейкі штацкі немец вас павёў па вуліцах горада ў лазню. Там далі вам і вашай апратцы добрага жару, каб змыць дарожны пыл і знішчыць мікробы, магчыма, схопленыя на этапах усяго шляху. У каго былі скураныя камізэлькі і рамяні, ад іх толькі сухарыкі засталіся.

Пасля лазні вы трапілі яшчэ ў адзін двор, гэтым разам ля нейкага вакзальчыка. У тым двары адбывалася штосьці падобнае на торг, там вас разбіралі ці, магчыма, куплялі, як рабоў.

Да цябе падыходзіў мажны немец, рыжы, з раздзьмутым абліччам, з лупатымі вачыма, з шырокім ротам і з доўгімі рыжымі вусамі. Ён цікавіўся, што ты ўмееш рабіць. Яго нямецкія словы ўперамешку з польскімі ты зразумеў і адказаў па-польску, што нічога не ўмееш. Ён, мабыць, не паверыў, бо палкія вочы ягоныя ніколькі не патухлі. Немец у касцюме-тройцы выглядаў элегантна нягледзячы на выпучаны жывот. У кішэні камізэлькі, відаць, быў гадзіннік, бо туды вёў прыгожы жоўты ланцужок, прымацаваны ў спецыяльнай пятлі. На галаве ў яго быў капялюш, які служыў надзейнаю страхой для яго рыжай чупрыны. Ён сказаў, што ты паедзеш з ім.

— Ду біст фабрыкант? — нечакана агучылася тваё пытанне.

— Найн, — адмоўна пакруціў галавою немец.

Ён падышоў да канторшчыкаў, якія валодалі інфармацыяй пра ўсіх дастаўленых чужакоў, штосьці ім сказаў і паказаў рукою на цябе. Яны яшчэ пра нешта перамовіліся з таўсцяком, і той палез у кашалёк ды заплаціў «зібэн унд цванцыг» марак. Так быў ты, дзядулька, падобна, прададзены і куплены. Хоць, мажліва, тую сціплую плату з рыжага ўзялі за дастаўку яму рабочае сілы. Падобны да фабрыканта немец быў насамрэч баўэр. Ён пасадзіў цябе ў брычку, дзе ўжо сядзела ягоная дачка, і пара коней панесла вас у вёску, за дваццаць пяць вёрстаў ад Аленштайна.

**3**

Праз некалькі гадзінаў вы былі ў фальварку. Як толькі гаспадар уехаў у двор, ля брычкі з'явіўся мужчына ў шортах, шэрай майцы і шэрай кепцы, ён так жыва падбег-падляцеў да коней і пачаў гэтак хуценька іх распрагаць, што табе зрабілася млосна ад маўклівага абурэння, першая ж убачаная сцэна выклікала агіду. Табе падумалася пра тое, што і

ад цябе тут будуць патрабаваць такога ж безадгаворачнага падпарадкавання, выконваць усё, што даручаць, усё, чаго пажадае і што загадае рыжы таўстун.

У памяць тваю прыходзілі бацька, маці, брат і сёстры і твае амаль бесклапотныя дні, тыдні, месяцы, гады, свяцілі-ся ў вачах успамінаў люстраныя азёры і азерцы, копанкі і канавы роднага краю, дзе ты лавіў тоўстых шчупакоў, залацістых карасікаў, юркіх і пісклятых насельнікаў ілістага дна — уюноў. Узгадваў, як чароўна шумелі бары і дубровы, якія адорвалі вашую сям'ю грыбамі і ягадамі. «Як жа так павярнулася кола жыцця, што нядаўна быў незалежны, а сёння — на мяжы з рабствам», — разважаў ты.

Калі, дзядуля, глянуць на незалежнасць па-філасофску, то лёгка заўважыць: абсалютнае незалежнасці няма. Кожны чалавек — ад слугі і ажно да караля, цара, прэзідэнта — залежны. Табе змалку, як і ўсім дзецям, даводзілася выконваць бацькаву і матчыну волю, але гэта ішло на карысць усёй сям'і. Цябе ў польскай гімназіі, якую не паспеў скончыць, прымушалі паспяхова вучыцца і прыстойна паводзіць сябе, быць акуратным (часам давалі дубчыкам па руках!), то гэта спрыяла тваёй адукацыі і выхаванню, выпрацоўвала пэўную ступень адказнасці. І як тут не ўсведамляць: ад таго, што ты будзеш ішачыць на чужынцаў, ні табе самому, ні тваёй сям'і, ні Бацькаўшчыне — аніякай карысці. З такімі думкамі, мой дзядулечка, ты вылазіў з брычкі.

Дарагі мой! Я люблю разважаць, асабліва калі атрымаю зарад ад твайго пісьма. Ты стымулюеш і сілкуеш энергію майго мыслення. Вось я, працягваючы тваю думку, скажу: чалавечая залежнасць пачынаецца нават не ад нараджэння чалавека, а раней, яшчэ ў чэраве, ва ўлонні маці, калі ён пупавінаю звязаны з ёю. Чалавек-зародак цалкам залежны ад той, каторая яго носіць пад сэрцам, корміць, люляе ў сабе. Ад таго ж, як жанчына выношвае і чым корміць, і ад таго, як песціць у думках сваіх яшчэ ненароджанае дзіцё, залежыць тое, наколькі паспяховы атрымаецца з яго дойлід свайго жыцця.

Залежны чалавек і ад таго, якія былі ягоныя дзяды і прадзеды, бабулі ды прабабулі, словам, продкі... І да нараджэння, і па нараджэнні, і далей-далей — усё сваё жыццё па дадзенай Богам дарозе ад матчынага чэрава, ад калыскі і аж да труны, да магілы ён залежны. Залежнасць падрастаючага і дарослага, сталага чалавека вынікае і з таго, у якой краіне ён з'явіўся на свет, ад таго, хто стаўся ягонымі выхавальнікам і настаўнікам, школьным бібліятэкарам, хто і як ахоўваў яго ад недарэчных і выпадковых выбараў і крокаў.

Як жа тады фармуецца чалавечая незалежнасць, свабода, моц духу? Цяжка сказаць, што тут галоўнае, але зразумела: усё важнае, тое нават, пад якою зоркаю, пад якім знакам задыяка народжаны чалавек. Аднак, думаю, вызначальным фактарам з'яўляецца самаадукацыя і самавыхаванне. Як бы ні было, ты выхаваў у сабе моцны дух, прагу справядлівасці і арганічную патрэбу ўмяшання ў свой лёс, каб змяніць яго да лепшага.

**4**

Ты, дзядуля, падрабязна пішаш пра сядзібу, куды цябе прывяла ваенная пуцявіна. Намаляваў з краю аркуша яе план, нават дарогу перад жылым домам і садовыя дрэвы наўкруг яго, і гэта мне даспадобы: хачу ведаць, дзе пабываў і што перажыў мой любімы чалавек. Бачу хлебную стадолу, размешчаную літарай г, яна цягнецца ўдаўжкі больш за сто метраў. Хлеў для ўтрымання хатняе жывёлы, гэтаксама доўгі і шырокі, ты паказаў у форме літары п. На ўсіх пабудовах дахі — з чырвонае чарапіцы.

Баўэр жыў з жонкаю і дзвюма дочкамі ў раскошным двухпаверхавым доме. Ім прыслужваў адзін немец, імя якога ніхто не называў, быццам і не было таго імя. Гаспадары і іх дочкі да яго звярталіся зневажальным словам «кнэхт», што азначае: «лёкай, батрак, халоп». У таго кнэхта ажно чатырох сыноў забралі на фронт, два з іх загінулі ў першы год вайны. Апроч немца-батрака, на баўэра і ягоную сям'ю працавалі два палякі і палячка. Надышла і твая чарга. Цябе, кажаш, пасялі-

лі ў цагляным хляве, у прыстасаваным пад жытло куце, адгароджаным ад кормараздатачнага цэха. Сцены і столь былі атынкаваныя, падлога — бетанаваная. Вакно паўкруглае, рыхтык у кельі манаха, глядзела ў двор. На драўляным ложку ляжалі пуховыя падушкі і коўдры. Першае ўражанне склалася неблагое: жыць можна. Там ужо пражывалі два палякі, якія трапілі ў палон, калі Германія акупавала Польшчу. Адзін з былых польскіх жаўнераў — той самы, што надта завіхаўся ля брычкі баўэра, у якой цябе прывезлі з Аленштайна. Ён, хоць ростам і абліччам нагадаў аднаго твайго добрага сяльчаніна Сёмку Мацкевіча, табе не мог спадабацца за ягонае бязглуздае рабалепства, гатоўнасць разбіцца ў шчэпкі пры выкананні любога загаду. Затое ў другім паляку ты адчуў сябра, і вы з ім адразу пазнаёміліся. «Кемпка Вальдак», — назваўся ён, абняўшы сваёй цёплаю далонню тваю далонь. Кажаш, быў ён старэйшы за цябе гадоў на дзесяць, даволі глыбокія залысіны прыкметна прарэдзілі некалі пышную шавялюру. Вочы цёмна-карыя ахоўвалі нейкую таямніцу. Сваім абліччам ён табе нагадваў адважнага рыцара. Потым аказалася для цябе нечаканасцю, што ён — непісьменны, і ты ад яго імя складаў лісты яго родным і зачытваў яму тыя, што прыходзілі з ягонае радзімы.

Між іншым, скажу табе, дзядуля, што і мне даводзілася па просьбе знаёмых пажылых людзей занатоўваць іхнія думкі і ад іх імя пасылаць лісты-скаргі ў розныя ўладныя інстанцыі, у тым ліку — у самую высокую. Ды яны, бабулі і дзяды, усё больш расчароўваліся ў начальніках, таму сталі зацята маўчаць. А было прыемна, калі людзі давяралі тое, што іх надта хвалюе.

Ты пішаш, да вашае хлапечае польскамоўнае кампаніі вечарамі далучалася сямнаццацігадовая Марыська, яна любіла «порозмаваць» пра жыццё-быццё з «хлопакамі». У іх, палякаў (і ў гэтае юнае асобы, і тым больш у былых жаўнераў, каму давялося панюхаць пораху нямецка-польскае вайны), скаргаў на лёс набралася цераз край... Аднак Вальдак трымаўся па-мужчынску мужна, стрымліваў залішняе ныццё земляка, стараўся зрэдку жартаваць з Марысяю.

А тады, пасля знаёмства з табою, менавіта ён павёў цябе на кухню (думаю, па даручэнні гаспадароў). На хаду бегла казаў пра гаспадарку: зямлі процьма, дваццаць коней, кароў дойных трыццаць, маладняку — дваццаць, свіней — дваццаць пяць, курэй ды гусей — сто дваццаць. А якая тэхніка! Усяго й не пералічыць: і трактар, і жняяркі, і малацілка, нават станкі, і процьма ўсялякага-featured інвентару... Ты зразумеў: тут кантавацца з кутка ў куток не атрымаецца, давядзецца запрагацца і цягнуць воз...

Прыкметнае месца ў жылым доме заняла кухня, вялізная, падлога акуратна высцелена пліткамі каляровымі, сцены — белымі глазіраванымі. У цэнтры — стол, за якім падсілкоўваліся ўсе чужыя (баўэр і сямейнікі харчаваліся ў сталоўцы на другім паверсе). У куце — вялікая пліта з масіўным выцяжным металёвым абажурам над ёю.

Цябе, здарожанага і згаладнелага без хатняй ежы, прапанаваная ў кухні вячэра ледзь не званітавала, бо побач з варанаю бульбаю, якую хацелася паспытаць і параўнаць з сваёй, з беларускаю, стаяла ў другой талерцы поліўка з гусінаю варанаю крывёю, там плавалі дзве гусіныя лапы з пазурамі.

— Свінске ядло! — з горкаю ўсмешкаю сказаў Вальдак, калі ўбачыў, як ты гідліва паглядзеў на тую страву.

Ён, хлопец-аптыміст, правёў з табою кухонную экскурсію, паказаў, так сказаць, побытавую тэхніку — цэлы набор зручных прыстасаванняў: хлебарэзку, сокавыціскалку, кававарку, машыну для мыцця посуду...

Цябе, натуральна, апанавала думка пра тое, навошта немцам вайна, калі ў іх высокі ўзровень жыцця. Ты ж не ўлічваў, што войны распачынаюць не народы, а іхнія правадырысамадуры, дыктатары, у каго недалёкі розум, ды неабмежаваная ўлада, гарачыя галовы і брудныя рукі.

Вядома, цябе абурыла, як, напэўна, абурыла б і мяне, абыякавае стаўленне баўэра і ягонае сям’і да прыніжаных і зняважаных, да бяспраўных людзей, перададзеных канкрэтна ў яго распараджэнне. Усе вы — і палякі, і ты, беларус, ды і той немец-кнэхт, перажылі маральныя траўмы, і кожнаму з вас пагражала фізічнае і нервовае знясіленне пры

нікчэмным харчаванні. Так рэзка з багаццем фальварка кантраставала ўбогая ежа для ўсіх, сілком прывезеных сюды ў якасці рабочае сілы!

У цябе ніхто не пацікавіўся, не запытаўся, ці спадабалася табе гусіная кроў і ўвогуле, вячэраў ты ці не вячэраў. А назаўтра, з першага ж працоўнага дня, ад цябе патрабавалася максімальная аддача сілаў. Ранні́м ранкам, пасля пад'ёму а шостай гадзіне, табе ўручылі касу і павялі да жытнёвае нівы: трэ было абкасіць ладны ўчастак перш чым уключыцца ў жніво жняярка. Рыжы ўласнік не пытаўся, ці даводзілася табе касіць. Мабыць, адчуў, што ты пакуль не займеў практыкі кашэння: юнак жа... У тэмпе паказаў: вось так касу трымаць, а вось гэтак цягнуць; давай дзейнічай! Ты пачаў касіць першы, а ён — за табою, літаральна ля тваіх пятаў ціснуў так, што здавалася: зараз сваёй касою жарне па тваіх нагах.

Пасля пайшоў новы працэс, нашмат больш напружаны: жняярка збажыну зжынае, а ты павінен за ёю вязаць снапы. Ёсць у баўэра і жнейка, якая сама вяжа снапы, але ад гэтага табе не лягчэй — яна прастойвае сапсаваная: праблема рамонту, бо каваль, які працаваў у кузні, добра аснашчанай інструментамі, пайшоў на вайну. І вось сонца пячэ, пот ледзь не засцілае вочы, а над вухам і над душою аднастайныя каманды: «schnell!» (хутка!) ды «schneller!» (хутчэй!) Пры гэтым рыжы паказвае рукою на хмарку, што набліжаецца да сонца. Маўляў, глядзі, дажджом пахне, давай варушыся, мусова да дажджу ўправіцца!..

Такі ж высокі працоўны тэмп патрабаваўся паўсюль, на кожнай рабоце, напрыклад, на пагрузцы снапоў у полі і загрузцы іх у стадолу. Сноп за снапом ты павенен быў кідаць як на воз, так пасля з воза машынальна, з такім спрытам, які ў цырку дэманструе жанглёр. І як бы ты ні стараўся дагадзіць таўстуну — усё адно з яго шырокіх вуснаў зрывалася і гучала быццам на мове кароткае пугі агідна-надакучлівае «шнэль!». Шанцавала больш, калі даручалася табе накарміць і напаіць жывёлу ці адвезці на станцыю намалочанае зерне, а адтуль прывезці мінеральныя ўгнаенні пад будучы ўраджай, — тады, вядома, не тырчэў над душою твой апан-

таны эксплуататар і ты не горш спраўляўся з заданнямі без яго ўдзелу і нядрэмнага кантролю. Але такая лафа здаралася вельмі рэдка.

Мне, дзядуля, цікава тое, што ён таксама шмат працаваў. Як на полі ды на сенажаці, так і на сядзібе. Быў, як гаворыцца, на «ты» з палявою тэхнікаю, часам у кузні вырабляў якую-небудзь дэтальку. Нават свіней сам калоў. І дочкі ягоныя не гультаявалі, амаль штодня даілі кароў. Фрау таксама не жыла без клопату, ейная стыхія — кухня. Яна табе нагадвала адну багатую хутаранку Міканорчу, такая ж маларослая, хударлявая і цікаўная. Як ты зразумеў, ёй карцела ведаць, чым вы, нявольнікі, дыхаеце. Была скупая. Апраналася амаль заўсёды ў доўгую чорную сукенку, быццам прадчувала паразу сваёй ваяўнічае краіны ў непрадбачана зацяжной і цяжкай кампаніі і перажывала скруху з прычыны немалых стратаў на ўсходніх франтах. Разам з мужам і з дочкамі кожную нядзелю наведвала храм. Кажуць, у салдатаў Гітлера на спражках рамянёў былі словы: «Got mit uns!» (З намі Бог). Дзіўная логіка — весці крывавую сусветную бойню і спадзявацца на Бога, блытаючы святое з сатанінскім! А ты не ўяўляў, як можна наведваць храм і ў той жа час крыўдзіць бліжняга, хоць бы свайго суайчынніка: баўэр, яго жонка і дочкі па-ранейшаму ніколі-ніколі не называлі немца-батрака ягоным імем, ён для іх існаваў толькі як *кнэхт*. Зрэшты, не чуў ты, каб і палякаў імёны хоць калі ў сям'і баўэра называліся, хоць яны, апроч Марысі, працавалі тут ужо не адзін год. Больш за тое — на іх вопратцы, на грудзях і на плячах, меліся жоўтыя нашыўкі з лацінскаю літараю P.

Выняткам з правіла чамусьці быў толькі ты. Цябе баўэр і фрау называлі — Ніколаус, а дочкі — Ніколь. Відаць, ты ім спадабаўся больш за іншых, можа, лічылі самым дужым ці спрытным працаўніком. Ды цябе гэта не цешыла, бо фізічныя нагрузкі і перагрузкі з цябе ніхто ні разу не зняў і ніхто ні разу смачна не пакарміў. Затое тваё імя гаспадыня засвоіла (вядома, па-свойму) з першага дня. Ты пішаш, зайшла да цябе ў пакой, наблізілася да цябе, наставіла свае рукі ў пальчатках і сказала: «Ніколаус, пакажы мне рукі свае». Так

яна праверыла, ці не прывёз ты з сабою каросту. Пэўна ж, ёй далажылі пра тваю бельска-беластоцкую прыгоду, пра тое, як пасля нейкае мазі цябе доўга мылі-парылі ў Беластоку.

Ты, мой дзядуля, зведаў на чужыне пік жніўнае пары, пякельна-гарачыя, напружаныя, бясконца-доўгія дні збору каласавых.

«Так ішоў час, — пішаш ты, — кожны наступны дзень быў падобны на папярэдні: праца, праца і праца — да знямогі — і бясконца жорсткае: «шнэль!» і «шнэлер!». Усё гэта назапашвалася і асядала на душы, рабілася невыносным грузам».

## 5

Жнівеньскай зорнаю ноччу ты пакінуў фальварак. Сала і хлеб сунуў за пазуху. На плечы наапашкі накінуў пінжак. На галаве не было шапкі, яе запхнуў у кішэню. Загадзя прадумаў: трэба выглядаць так, каб ніхто сустрэчны не западозрыў у табе, юнаку, уцекача. Па шырокім і сухім яры прайшоў метраў чатырыста-пяцьсот і раптам пачуў шум і тупат. Гэта цябе насцярожыла, стала страшнавата, падалося, нехта цябе даганяе, і ты прысеў на траву, прыслухаўся. Хутка ўцяміў, што гэта коні, бо ўспомніў: у немцаў каровы ўсё лета ўтрымліваюцца на пашы і коні пасвяцца па начах. Але, каб пераканацца, што там за жывёла, ты выскачыў з яра, тым самым напалохаў цэлы табун: коні, як ад ваўка, рэзка падаліся ўбок.

Твае ўцёкі толькі пачаліся, і табе падумалася, што, калі на кожным кроку палохацца, дрыжэць, ці не лепш адразу вярнуцца. Але рашэнне тваё было цвёрдае, і ты, помнячы, дзе сонца ўзыходзіць і заходзіць, рушыў на паўднёвы ўсход, бо добра ўяўляў, што менавіта ў такім накірунку знаходзіцца твая родная старонка: ты ж памятаў, твой шлях з дому пралягаў на паўночны захад. Адным словам, пашыбаваў напрасткі.

Аддаляючыся ад фальварка, ты найперш падумаў пра Вальдака, хлопца з-пад Варшавы, з якім дамаўляўся ўцякаць разам і які ў апошні момант рашуча адмовіўся ад уцёкаў.

Спачатку пашкадаваў ты, што не будзе да каго азвацца, з кім параіцца. З ім было б камфортна, бо і мову польскую ты ведаў дасканала. Пасля падумаў, што, можа, так і лепш: не будзе з боку баўэра вялікага абурэння; яму, апантанаму прускаму памешчыку, усё адно будзе яшчэ каго падганяць звыклымі камандамі: «schnell» ды «schneller». Вядома, пакольқі меней станецца рабочых рук, большая нагрузка ляжа на тых, што засталіся. Ды і гневу больш будзе вылівацца з шырокага рота і лупатых вачэй баўэра на паляка. Але ж сам Вальдак вінаваты: ці то не адважыўся, ці проста паленаваўся. Зрэшты, павінен памякчэць пан гаспадар, бо жніво завяршаецца, напруга паціху спадацьме...

Ты ішоў па чужой зямлі, а ў думках сваіх залятаў на родную: калі падымаўся на горку, узгадваў найперш горку свайго дзяцінства, тую самую, з якой узімку спускаўся на саначках, а ўлетку вучыўся з'язджаць на ровары і, пакуль навучыўся, не раз разбіваў сабе калені ды локці да крыві. А потым успамінаў тыя горкі, ля якіх размяшчаліся хаты Вераб'я і Казака. Пасля, калі апускаўся ў даліну, бачылася табе ўрочышча Дзягцярня — паміж Мышлінікавай і Жыгалавай сядзібамі. Дзіўна, але нямецкая зямля сваім рэльефам, а мо, лепш сказаць, хоць нечым нагадвала беларускую.

Прайшоў ты вёрстаў дзесяць, крыху прытаміўся, сеў на прахалодным ад начы полі і, калі прыйшло неадольнае жаданне прыкархнуць, ты падаслаў пад бок пінжак і хутка адчуў сябе анёлам на белым воблаку... Прачнуўся з узыходам на чыстым бязвоблачным небе ласкавага сонца. Падумалася табе, што яно, ідучы насустрач, вітае сваімі промнямі тваё памкненне на свабоду і перадае прывітанне з тваёй радзімы. Ты падняўся з такім адчуваннем, быццам адпачываў на пуховай пасцелі і нібыта не было працоўнага ўчорашняга дня і амаль бяссоннае прамінулае начы: паспаў жа ты ўсяго гадзінкі паўтары.

Скажу табе, дзядуля, пра адзін выпадак з майго жыцця. не так даўно я сустрэўся ўвечары з адным шахматыстам, такім жа азартным, як і я. Вольнага часу мелі мы процьму, таму распачалі спаборніцтва. Гульня ішла з пераменным поспехам,

таму стала цікава пазмагацца без аглядкі на час. Мы змагаліся дзве начы запар, толькі пару гадзінаў паспалі ўдзень. Мы былі такія бесклапотныя — у сябе ж дома і ў мірны час! Гэта не ідзе ні ў якае параўнанне з тваёй сітуацыяй. Проста я падумаў, што ў юнацтве і вялікія нагрузкі могуць давацца лёгка. Тым больш, мабыць, у экстрэмальных умовах... Мне казаў адзін ветэран, што на фронце воіны, бывала, не спалі начамі, асільвалі цяжкія маршы і вялі зацяжныя баі, часам пілі з балотаў і лужынаў ваду — і былі здаровыя, калі толькі асколкі ды кулі абміналі. А як скончылася вайна, нядаўнія салдаты перапаўнялі ўсе шпіталі, лазарэты, лякарні.

Ты, дзядуля, пасля кароткага сну смела прадоўжыў свой маршрут. Не маючы ні компаса, ні нават гадзінніка, але дзякуючы сонечнаму надвор'ю ўвесь час лёгка вызначаў арыенцір. Не шукаў ні дарог, ні сцежак — ішоў палямі, лугамі, балотамі, каб як мага далей паперадзе відаць было. Перасякаў раўніны, узгоркі, даліны, прабіраўся дзе праз пожні і пяскі, дзе праз купіны і канаўкі — на тое і даецца бездарожжа.

Кажаш, у цябе па тэрыторыі Усходняе Прусіі, калі б ісці па трасе, было б сто вёрстаў, а ты адмераў нашмат больш, бо ішоў ажно дзесяць дзён. Даводзілася абмінаць-абыходзіць то вёску, то возера, то лес. Найбольшую небяспеку ўтойвалі ў сабе якраз лясныя масівы: там магла аказацца нечаканая пастка. Напароўся на патруля, на гестапаўцаў ці нават на адпачываючых вайскоўцаў — лічы, прапаў. Ты ж аніякага не меў дакумента. Затрымаюць такога тыпа на Нямеччыне, — пішаш ты, — то яшчэ паўбяды. Добра растлумачыш, адкуль ты збег, ну ўкінуць табе дзясятак гарачых ды адправяць туды, дзе быў. Калі ж уцякач без аніякіх дакументаў трапіў у рукі гітлераўскіх малойчыкаў на тэрыторыі Польшчы ці Беларусі, тут яны не разбіраюцца, не чыкаюцца, прымуць за партызана ці проста падазронага і расходуюць як сабаку. Атрымліваецца, чым бліжэй ад дому, тым небяспечней.

Але да роднага кута было яшчэ так далёка! Чужына ёсць чужына: мясціны незнаёмыя. Вось высунуўся ты з-за горкі — наперадзе, амаль у цябе пад нагамі, дарога. А тут, як назло, — матацыкл, і падзецца няма куды. І ты ідзеш проста,

ні на крок ні ўправа, ні ўлева не адступіўся. На шчасце, міма праехаў за крокаў дваццаць ад цябе нехта са свастыкай на рукаве. «Затрымай мяне той звяруга, — пішаш ты, — і непрыемнасцяў я займеў бы па самыя вушы».

Праз некалькі хвілінаў ужо спакойна ты пераходзіў шасейку, папраўляючы на плячах скасабочаны свой усё яшчэ прыгожы пінжак, перавёў дыханне і рынуў далей.

Надвор'е стаяла цудоўнае. Перад табою расхінулася панарама нейкае гаспадаркі. Людзі жалі жыта. А цябе прывабіла ўтульная мясцінка ў лазняку, там прымасціўся, падсілкаваўся хлебам і салам, паляжаў да вечара. Увечары заўважыў, дзе зайшло сонца, каб раніцаю лягчэй вызначыць далейшы арыенцір, і сам сабе пажадаў: «Дабранач!»

**6**

Я дзіўлюся, дзядуля Мікола, як ты ўсё ж лёгка арыентаваўся на чужой, далёкай ад дому мясцовасці. Скажу табе зараз пра маю нядаўнюю прыгоду. Ты ведаеш, у мяне ёсць яшчэ адзін дзед і яшчэ адна бабуля, гэта мамін бацька Павел і маміна маці Кацярына. У іх ёсць лецішча, вакол якога грыбныя ды ягадныя лясы. Аднаго разу цёплаю ліпеньскаю раніцаю мы з бабуляй Кацярынай пайшлі па чарніцы. Натрапілі на багаты і амаль некрануты ягаднік: на кожным кусточку чарніцаў, буйных, даспелых, салодкіх, больш чым лісточкаў. Раніца ўдалася пагодная: сонца свеціць, яго промні, што прабіваюцца праз галіны соснаў і бярозаў, у росах срабрыстых купаюцца. І ўся гэтая ўцеха — побач з нашым жытлом: з лецішча ў лес мы прыйшлі хвілінаў за дваццаць. І нам не існуе пытання, у які бок спатрэбіцца ісці, каб вярнуцца дамоў. На небе яснае сонца. Блізка ад нас шырокая сцяжына, што ідзе паралельна з бойкаю асфальтаваю дарогаю, якраз па ёй мы і прытэпалі сюды. Адсюль чуваць, як праносяцца па асфальце машыны.

Але спакойнае надвор'е імкліва пачынае мяняцца. У кронах зашумеў вецер, які ўсё болей заглушаў іншыя гукі. З дарогі перастаў даносіцца шум машынаў. Тым часам густыя

свінцовыя хмары завалаклі сонца, наш нязменны касмічны компас і арыенцір. У лесе пацямнела, нібыта надышоў вечар. І мы з бабуляю ўмудрыліся заблукаць у, здавалася, бяскрайняе балота. У які бок ні кідаліся, паўсюль чвякаў пад нагамі мох ды хлюпала багна. Пачынаў даймаць моцны і назойлівы пах багуну. А за нашымі галовамі цягнуўся шлейф настырных, пякучых камароў. Нам стала не да ягад. Ад вялікага жадання знайсці хоць якую сцяжыну мы апынуліся сярод даўно паваленых ураганам ялінаў, соснаў ды бярозаў. Некаторыя камлі нагадвалі шкілеты велізарных дыназаўраў. Да таго ж чуўся пранізлівы крык нейкае птушкі.

— Як жа нам, галубок, выбрацца адсюль? — разгублена глядзела на мяне бабуля Кацярына. — Што ж гэта за насланнё такое, га, дзіцятка?

Выручыў нас мабільнік. Па тэлефоне, які ледзь-ледзь не разрадзіўся ў непрывычным для яго асяроддзі, звязаліся з дзедам Паўлам, які да пенсіі працаваў ляснічым, і ён, добра ведаючы гэты лес, сваімі трапнымі камандамі хутка памог нам выйсці на дарогу, адкуль мы і вярнуліся на лецішча.

Гэтым дробным эпізодам я хачу сказаць пра тое, як няпроста арыентавацца нават у роднай прасторы, калі няма сонца. А ў тваёй, дзядуля, адысеі, трэба думаць, не заўсёды былі сонечныя дні, а ты ж ні разу не збіўся з дарогі. Гэта — таксама талент, мой дарагі!

Магчыма, здараліся і навальніцы. Лета — іх, так бы мовіць, законная пара. Як жа ты сябе паводзіў у такой стыхіі? Пра гэта нідзе не кажаш. Мабыць, палічыў за дробязь. А я ўспамінаю сябе, чатырнаццацігадовага, у той час, як на тым жа лецішчы дзядулі Паўла і бабулі Кацярыны быў неяк забавіўся ля вогнішча, метраў за сорак ад хаты. Там знянацку наляцела навальніца, і грымнула так блізка, што здалося: роўна над маёю галавою. Я выкінуў з кішэні мабільнік, лёг на зямлю і па-пластунску поўз, бы вужака, бо памятаў з бабулінага расповяду, як загінуў ад маланкі яе аднакурснік, бегучы з вясковае лазні, каб не намокнуць пад ліўнем.

## 7

Мілы мой дзядуля Мікола! Мае прыгоды, вядома ж, не параўнаць з тваімі. Цябе на кожным кроку падпільноўвала небяспека, пагражала начная прахалода, бо лета хілілася да свайго фінішу, і мусіў ты дзеля свабоды цярпець паўгалоднае існаванне. І не гарантаваны быў ты ад любых нечаканасцяў. Вось прачнуўся ў лазняку, а раніца сустрэла цябе не сонцам ясным і ласкавым — густым сіняватым туманом, які схаваў твой намечаны ўчора накірунак на новы дзень. Куды ісці, Бог ведае. Давялося чакаць, пакуль туман рассеецца. Дарэмна траціўся ў тваім бездарожным падарожжы час, што стварала лішняе напружанне, як нервовае, так і чыста фізічнае. Узнікала дадатковая праблема з ежаю, бо той сціплы харчовы запас раставаў, як растае ў цёплых руках камяк снегу. Нарэшце на небе з'явілася жыццядайнае свяціла, якое на шматкі разарвала туман, і ледзь прыкметны вецер канчаткова разагнаў і развеяў яго.

Ды ў той дзень не абышлося без новае, куды больш сур'ёзнае перашкоды: твае ўцёкі з палону, твой далейшы паход на паўднёвы ўсход тармазнула нечаканае, бы той ранішні туман, возера. Нешырокае, метраў трыста, месцамі — чатырыста, але такое даўжэзнае, што канца не відно было ні ў адзін, ні ў другі бок. Перасекчы яго было мусова, а ты, як на гора, плысці не мог, бо ні ў дзяцінстве, ні ў маладосці не навучыўся плаваць. Пачаў правяраць глыбіню — зразумеў: возера глыбокае. Заставалася адзіная магчымасць, самая непажаданая, — абысці яго, таму давялося даваць кругаля. Але чым далей ты ішоў, тым шырэйшае рабілася яно, і ў галаву лезла думка: трэба вяртацца ды ісці ў супрацьлеглым накірунку. Амаль суткі страціліся на блуканне ўздоўж і вакол возера. Калі яно скончылася, давялося яшчэ з цяжкасцю адольваць топкае, пакрытае асакою балота. Калі выйшаў на поле, давялося зрабіць вымушаны прыпынак. Выкручваў і падсушваў мокрыя нагавіцы і шкарпэткі.

Познім вечарам табе ўдалося недалёка ад нейкага паселішча паласавацца свежым малаком: на лаўцы ля дарогі

стаялі поўныя бітоны. Паколькі каровы ў немцаў усё лета ўтрымліваюцца і ўдзень і ўначы на пашы, то іх там і дояць. Кожны гаспадар патрэбную колькасць малака вязе дадому, астатняе здае на продаж дзяржаве, пакідае яго на лаўцы, дзе побач з бітонамі ляжыць дакумент для ўліку колькасці і якасці прадукцыі. Раніцаю адпаведная служба пад'язджае на машыне і забірае малако. Ты гэтую завядзёнку ведаў, таму, пакуль ішоў па землях Усходняе Прусіі, не раз то вечарам, то раннім ранкам сам сябе частаваў каштоўным дармавым прадуктам.

Далося ў знакі табе чарговае балота. Ты спрабаваў яго перайсці, падкасаў вышэй каленяў нагавіцы, зняў і ўзяў у рукі чаравікі ды рушыў у невядомае. Метраў трыста ішоў з надзеяй на ўдачу. Босыя ногі не надта патаналі ў мяккім і вільготным імху. Але чым далей ішоў, тым больш рабілася трывожна, таму што наперадзе ўся балотная расліннасць аказалася ў вадзе. Вада займала ногі дзе па калені, а дзе і вышэй, і калі рызыкнуць, не знаючы, наколькі топкае балота там, далей, то можна было праваліцца па вушы.

Калі вярнуўся на сухое, вырашыў даць кругаля, спадзеючыся, што тое клятае балота дзе-небудзь скончыцца. Яно і насамрэч скончылася, ды не так хутка, як табе хацелася, мой дзядулечка, ты адмахаў вёрстаў пятнаццаць.

Ужо звечарэла, і на тваім шляху з'явілася новая перашкода — рэчка. Яна табе нагадала родную рачулку Лясную, тую, што выцякае з прыпушчанскіх крыніцаў і ўпадае ў Буг. Адно што Лясная больш рахманая. Натуральна, ты захваляваўся: рэчка хоць і нешырокая, ды глыбокая. Умеў бы плаваць — пераплыў бы, тады не мучыла б пакутлівае пытанне, што рабіць далей. Раку не абыдзеш, як абыходзіў балота, а яшчэ раней — возера. І раптам ты ўбачыў, як да рачнога берага набліжаюцца тры чалавекі. Яны пра нешта гаманілі, было падобна на тое, што спрачаліся. Калі падышлі блізка і спыніліся, адзін з іх, той, што быў у караткаватым пінжачку, запытаўся паказваючы на процілеглы бераг:

— Вам — туды?

Калі ты кіўнуў галавою, ён сказаў, што хутка прыйдзе лодка. Астатнія двое пачалі разважаць: маўляў лодка тут адзіны паратунак, без яе было б як без рук.

Неўзабаве, налягаючы на вёслы ды бліскаючы шырокаю загарэлаю лысінаю, лодачнік падганяў самы ціхі транспарт.

Дзякуючы добрым людзям і ўдалым абставінам ты апынуўся на тым беразе, так неабходным для новых крокаў да роднае старонкі.

## 8

Мой родны! Будучы выключна пільным і асцярожлівым у часе сваіх уцёкаў з няволі дамоў, ты змушаны быў нярэдка і рызыкаваць. Па дзвюх прычынах: усё больш даймаў голад і ўсё халаднейшаю рабілася зямля. Часцей і часцей даводзілася стукацца ў дзверы да чужых, незнаёмых людзей. Не раз ты распавядаеш, як выходзіў з небяспечных становішчаў. Як жа блізка ад бяды апынуўся ты, калі вечар заспеў цябе ля адной польскае вёсачкі і ты зайшоў у крайнюю хату папрасіць якой-небудзь ежы. Гаспадар той сядзібы сустрэў цябе як бы прыязна.

— Прошэ бардзо! — запрасіў да стала, даў крупніку з лустаю хлеба, сеў насупраць цябе. Але яго маленькія, як у пацука, вочы жыва забегалі, калі запытаўся ў цябе:

— Сконд пан бэндзе?

На твой кароткі расповед зрэагаваў па-свойму, спакойна, бы яго аніколькі не цікавіла гэта, а запытаўся так сабе, абы не маўчаць:

— Вемы, вемы.

Некалькі секундаў памаўчаў і дадаў:

— Можэ пан пшэноцуе?

Тут паспрабаваў ён усміхнуцца, і ты ўбачыў яго вялікія, як у каня, жоўтыя зубы. Уяўляю таго выкапня: маленечкія вочы і вялізазныя зубы!

На тваю згоду паспяшаўся, жвава падхапіўшыся, даць каманду:

— Пуйдземы до стодолы.

Вось ён адчыняе вялізную будыніну, вядзе да драбіны:

— Нех пан лезе на сяно.

Ты залазіш па драбіне на сена, удыхаеш яго прыемны водар ды чуеш: дзверы зачыняюцца на замок.

«Увага!» — кажу я сам сабе. Гэты момант для мяне вельмі важны. Ты, дзядуля, мог падумаць, што так і трэба. Я на тваім месцы дакладна не западозрыў бы нічога небяспечнага ў тым, што гаспадар нанач зачыніў сваю клуню. А ты малайчына, бо зразумеў, што азначаў той паварот ключа ў замку. Страха аказалася, на шчасце, саламяная, і ты, рассунуўшы рукамі кулі, між кроквай і латаў выбраўся на страху, а там пералез на адзін з высокіх кроністых вязаў, што стаялі пры самай страсе, зліваючыся густымі кронамі. Не паспеў засумнявацца, ці не залішне засцерагла інтуіцыя, як прадажнік прывёў да дзвярэй некалькі чалавек, пэўна, з паліцыі. Бойка так адамкнуў і расчыніў дзверы.

— Тутай, — сказаў ён, відаць, павярнуўшы да драбіны.

Пасля не разабраць было, што, лезучы на сена, ён мармытаў тым, каторыя следам за ім узнімаліся яму на падмогу. Было ціха, пакуль «паляўнічыя на людзей», пэўна, мясілі нагамі сена ў пошуку «здабычы», а пасля цішыню ўзарвалі рэзкія словы расчаравання і абурэння:

— Уцек, псякрэв! Уцек, курва его маць!

«Сам ты — курва прадажная!— падумаў ты. — Ну, пачакай жа!..»

Ты, дзядуля, сядзеў у кроне вяза, нібы птах. Няўжо не баяўся? Яны ж маглі і вакол клуні шукаць, ліхтарыкамі свяціць. І няўжо не было ў іх сабакі?.. Быў бы я тады на тваім месцы, мігам спусціўся б з дрэва і пабег бы куды вочы глядзяць, абы далей ад бяды, каб, крый Божа, не трапіць ізноў у няволю. Ты ж пасядзеў на вязе, пачакаў, пакуль з клуні ўсе пойдуць і зноўку запануе ціша, а тады, пару хвілінаў пазмагаўшыся з сабою, усё-такі дастаў з кішэні запалкі. Сухая салома знізу страхі занялася адразу, і агонь, які пакуль затуляўся ад чыіх-небудзь зоркіх вачэй пышнымі кронамі вязаў, поўз і ўгору, і ўшыркі. Цяпер з уласцівым юнаку спрытам ты ўжо бег безупынку вярсты дзве, калі не

больш, зрэдку азіраючыся на зыркае полымя, якое ахапіла ўвесь будынак. Перасякаючы неглыбокі роў, разуўся, узяў у рукі чаравікі, пахадзіў па вадзе і пайшоў па сенажаці басанож, каб ніякі сабака не ўзяў след: асцерагаўся пагоні. Ты не каяўся, што падняў руку помсты, бо той, каму ты адпомсціў, таго заслужыў. «Шкурнік! — думаў ты пра яго. — Хацеў выслужыцца на чужой бядзе. Атрымай жа ад мяне «падарунак» на памяць!.. Будзе табе і *стодола,* і *сяно*, гад паўзучы!»

Кажаш, дарагі дзядуля, табе на памяць прыйшла тады прыказка палякаў: «Komu wojna, komu krowa dojna...» Менавіта так атрымлівалася не толькі на гэтай акупаванай зямлі. У сваіх думках ты залятаў у Беларусь. Табе не хацелася, каб на радзіме былі здраднікі, але без іх не абышлося. Вайна паскорана выяўляла, хто ёсць хто. У той час, як адны ішлі ў партызаны, другія падаваліся ў паліцыю; хтосьці, рызыкуючы сваім жыццём і цэлай сям'і, ратаваў ад смерці параненага вайскоўца ці партызана, даваў прытулак-схоў асірацелым габрэйскім дзецям, а хтосьці вербаваўся ў даносчыкі.

І заўваж, дзядуля, прадажнікі, пасеяўшы зло, рана ці позна пажыналі кару. Вось і ты адпомсціў таму, хто хацеў прадаць цябе захопнікам. На Боскі суд ты не разлічваў, бо сведкам кары Усявышняга, калі б яна адбылася, наўрад бы стаўся. Ты пакараў злосніка неадкладна, хоць ад ягоных рук сам не пацярпеў, а толькі мог пацярпець. Але ж намер учыніць зло ёсць таксама зло, а значыць і грэх, і Бог табе, мабыць, дараваў за той рашучы самасуд. А я, дзядуля, таму амбалу, што выбіў мне два зубы, не адпомсціў, хоць, здаецца, мог. Ужо тады, у шаснаццаць гадоў, я моцны быў. Нават голымі пальцамі выкалаў бы паганцу вочы. Ведаю, што ўпяклі б сем, а то і дзесяць гадоў, бо звычайна суды на баку тых, у каго ўлада і грошы, па прынцыпе новых рускіх і многіх беларусаў: *тот прав, у кого больше прав*. На судзе абвінавацілі б не яго, а мяне, быццам я напаў на ахоўніка правапарадку. Затое падобныя «ахоўнікі», перш чым учыніць злачынства, успаміналі б сляпога былога амапаўца... Шкада, калі яго ніхто нідзе і ніколі не правучыць.

Чытаючы твае лісты-ўспаміны, дарагі дзядуля, я не магу не звярнуць увагі на тое, што табе, дзякуй Богу, шанцавала. Хутчэй за ўсё таму, што, як ты пішаш, дома за цябе штодня малілася маці. Падобна, матчына малітва, а праз яе вышэйшая сіла памагала, як у той клуні... Пазней пашчасціла табе на сваім шляху заўважыць у вяночку раскошнага саду хутар. Ягоны гаспадар, малады чалавек, сам два тыдні таму вярнуўся з няволі. Ён перад самаю вайною ў Вільні канчаў інстытут. Немцы ўсіх студэнтаў таго інстытута, дзе ён вучыўся, вывезлі на працу на завод. Там, у Нямеччыне, гэты хлопец захварэў на сухоты, і, як я зразумеў, хвароба дапамагла яму вырвацца на волю. Ты ў яго, дзядуля, заначаваў. У цябе стала цёпла на душы ад гамонкі з такім чалавекам. Раніцаю ён нечакана для цябе разгарнуў геаграфічную мапу і паказаў, што мясціна, дзе ты апынуўся, знаходзіцца паміж Беластокам і Бельскам, да таго ж даступна патлумачыў, як найлепш кіравацца табе далей, каб не збіцца з патрэбнага курсу. А на развітанне прапанаваў узяць на плячо ягоныя граблі. Натуральна, цябе ўразілі яго шчырасць і шчодрасць, жаданне па-братэрску выручыць, падказаць, як лепш дэзарыентаваць магчымых даносчыкаў: чалавек з граблямі выглядаў як мясцовы селянін і не выклікаў сур'ёзнага падазрэння.

**9**

Даражэнькі мой дзядуля! Неверагоднаю здаецца мне гісторыя тваёй сустрэчы з даволі загадкавым беларусам на тэрыторыі паміж Белавежаю і Гайнаўкаю. Не за гарамі была Камянеччына. Ад адной думкі, што блізка радзіма, маці і ўсе родныя, прыбывала сілы, а заадно і веры, што рызыкаваў нездарма і што азон волі, яе непараўнальны смак хутка зведаеш напоўніцу. Аднак апошнія дзясяткі вёрстаў дамоў таілі сур'ёзную небяспеку.

Вось ты з ранку крочыш сцішанаю польнаю дарогаю. Невысока над зямлёю на бясхмарным небе ззяе сонца. Страшнаю недарэчнасцю называеш ты моўчкі вялікую і жорсткую вайну, дзе калечацца і знішчаюцца людзі, пера-

важна маладыя, і той факт, што юныя сілы твае трацяцца марна. Уцёкі з чужыны стамілі цябе не толькі маральна, а й фізічна: амаль месяц не ведаеш нармальнага сну, свежае, згатаванае на пліце альбо ў печы ежы, не ўмываўся ля калодзежа ці ля крыніцы на лузе чыстаю вадою і не выціраўся тканым мамінымі рукамі гаючым ільняным ручніком. Але тваё памкненне да свабоды няўхільнае. Упершыню за некалькі дзён выйшаў на дарогу, хай сабе толькі на польную. То злева, то справа віднеецца свежая пожня. Раптам за бліжнім лазнячком заўважаеш светленькую ячменную ніўку, на якой з касою завіхаецца невысокенькі мужычок. Поруч — жанчына, мабыць, ягоная жонка, скручвае перавяслы і вяжа снапы. Ты набліжаешся да мужчыны, прыпыняешся крокаў за пяць ад яго, кажаш:

— Памагай Бог!

— Спасібог, — працягваючы касьбу і нават не паварочваючы галавы ў твой бок прамаўляе слова гэтак жа, як звычайна вымаўляюць яго ў тваім сяле. Ты прыемна ўсміхнуўся пры думцы пра свой дыялект: ні расейцы, ні палякі за шмат гадоў панавання не змаглі забіць тутэйшую гаворку.

На мяжы з суседняй ярыною, бачыш ты, ляжыць пад магутным ядлаўцом нейкая вопратка і стаіць чайнік. Ты падумаў, натуральна, што ў чайніку вада, папрасіў трошкі вады.

Касец адказвае непрыязна, што няма ў яго ніякай вады. Чамусьці гаворыць на такім жа дыялекце, які бытуе ў тваім сяле. Ён працягвае касіць, а ты працягваеш на захаванай адлегласці прыблізна пяці крокаў падцягвацца за ім.

— Адкуль і куды ідзеш? — пытаецца.

Табе не даспадобы, што ён вады не даў дый не прыпыняе касьбу, нават і не гляне на цябе.

Ты адчуваеш сябе ў тупіку і сумняваешся, ці выйдзеш з гэтага непрыемнага тупіка. Мозг пачынае свідраваць думка, ці не развітацца табе з ім. Ах, дзядуля! Міжволі і тут параўноўваю сябе з табою маладым. У тваёй сітуацыі я плюнуў бы на такое знаёмства, рэзка павярнуўся б і пайшоў бы сваёй дарогаю. А ў цябе хапіла цярпення, ты стрываў халодныя да цябе адносіны, якія цябе пачыналі ўжо раздражняць.

Стрываў, бо, як ты пішаш, інтуіцыя падказала табе наступны крок. Тваё складанае становішча прымусіла сказаць чужому, здавалася, непрыязнаму чалавеку праўду:

— Уцякаю з Германіі дадому.

Ён працягваў касіць, часам паплёўваючы ў кулакі.

— Адкуль жа ты родам? — нарэшце пачулася новае пытанне.

— З Камянца.

— З самога Камянца?

— Не, не з Камянца. Але ж вы тамашніх сёлаў не ведаеце, таму я назваў кропку больш вядомую, нават знакамітую.

— Ты мне скажы канкрэтна, адкуль ты.

— З Дзмітравічаў.

Ён як бы чакаў такога адказу.

— Ага, з Дзмітравічаў, кажаш. — Першы раз за ўсю гамонку ён перастаў касіць, перавёў дыханне, зняў з галавы кепку і задаў новае, ужо больш разгорнутае, зусім нечаканае пытанне:

— Тады скажы, хлопча, хто з Дзмітравічаў у 1939 годзе (пасля аб'яднання Беларусі) вучыўся ў Менску за трактарыста?

Так цікава, дзядуля, пішаш: ты на нейкі момант як аслупянеў, бо такое пытанне цябе ашаламіла; на памяць, як назло, не прыходзіў той чалавек, твой зямляк, якога, вядома, ты ведаў. У памяці здарылася, мабыць, ад хвалявання пакутлівае замыканне, а так хацелася беспамылкова адказаць касцу, бо адчулася, што ён нейкі дужа дасведчаны і можа табе памагчы. Ты з хвіліну пастаяў моўчкі, і тут, як кажуць, Бог навёў на розум.

— У трыццаць дзевятым годзе на вучобу ў Менск ад'язджаў Іван Мардас, — поўным сказам, нібы школьнік настаўніку, ты адказаў на цяжкае пытанне.

Касца раптам як бы хто падмяніў. Ён кінуў касу.

— Цяпер я табе веру, — ціха сказаў ён, — і павінен табе адкрыць жорсткую праўду: ты шчаслівы, калі знайшоў мяне, інакш цябе сцапалі б фашысты. Тут аніяк не прайсці табе на другі бок чыгункі, яна недалёка адсюль, вось у гэтым бары

(ён кіўнуў галавой у бок бліжняга лесу); дзіва, што дагэтуль не папаўся: тут, брат, адпачывае нейкае падраздзяленне жандараў ці гестапаўцаў.

Ты адказаў касцу, што бачыў грузавік з немцамі на дарозе, скрыжаванай з палявою, якая прывяла цябе да яго, і што яна цябе насцярожыла, бо надта ўкатаная машынамі. Яшчэ прызнаўся, што не маеш ніякіх дакументаў, таму калі б затрымалі немцы, то прынялі б за партызана і хутчэй за ўсё кокнулі б, як сабаку.

— Павязло табе, што я вучыўся разам з Іванам, — працягваў ён. — Ну, бліжэй да справы. Ты не піць хочаш, а есці. Ідзі за мной.

Пад ядлаўцовым кустом ён адкінуў убок адзежу, пад якой ляжаў палудзень. Амаль усё — хлеб, сала, агуркі, памідоры — аддаў табе.

— Еж, — сказаў ён, — і пайшлі, я цябе правяду, я тутэйшы і добра ведаю, дзе можна прайсці.

Ты хутка наталіў голад, падзякаваў за гасціннасць, пакінуў на памяць граблі, развітаўся з кабетаю і пайшоў за высакародным чалавекам, які адводзіў ад цябе немінучую бяду.

Вы ішлі палямі і лугамі, пазбягаючы дарог.

— Цяпер тут людзі ходзяць розныя, а законы ў немцаў суровыя, — скардзіўся селянін, — нават калі пакажаш дарогу чужаку, а тым больш калі пакорміш ці іншую акажаш дапамогу — за такія справы пагражае расстрэл.

Мясцовы чалавек, ён выдатна арыентаваўся ў навакольных мясцінах.

— Мы павінны вёрстаў на сем адхіліцца ад твайго курсу, — казаў табе твой выратоўца, — затое так будзе надзейна.

Калі вы прамінулі працяглую лясную зону (лес, які вы абышлі, застаўся з правага боку), ён сказаў:

— Вось тут мы і пяройдзем, тут немцаў няма.

Вы перасеклі чыгунку, ён яшчэ прайшоў з табою метраў семсот, а тады супыніўся, распавёў табе пра маршрут, які ты павінен быў адольваць далей. Да твайго сяла заставалася напрасткі вёрстаў трыццаць.

Чалавек, які на сваёй ячменнай ніўцы падаўся табе страшна нелюдзімым, панурым, цяпер, развітваючыся, моцна цябе абняў, пажадаў хутчэйшага вяртання дадому. Прасіў перадаць прывітанне Івану Мардасу. Імя сваё не назваў, сказаў, што пра яго распавядзе Іван.

Ты пайшоў упэўнена і смела праз палі, лугі і парослыя лазнякамі балоты і без усякіх прыгодаў увечары дасягнуў межаў мілае Камянеччыны. Праз Асіннікі трапіў у Ражкоўку, дзе сустрэў знаёмага чалавека па прозвішчы Пахлоўскі. Ад яго даведаўся, што тры дні таму тут ледзь не здарылася трагедыя. Усіх жыхароў, апроч дзяцей, выгналі за вёску і загадалі капаць адну на ўсіх магілу. Нібыта за сувязь з партызанамі збіраліся ўсіх расстраляць. Дзяцей загадзя вывезлі ў Дзмітравіцкую гміну. Карнікі прыспешвалі людзей хутчэй капаць яму, яны спяшаліся правесці прызначаную аперацыю. Ужо былі расстаўлены кулямёты, і кулямётчыкі чакалі каманды. Ды раптам над няшчаснымі людзьмі закружыў, а неўзабаве і прызямліўся побач на чыстым полі самалёт. З яго выйшаў афіцэр. Ён падышоў да камандзіра карнікаў і даў каманду нікога не расстрэльваць, а чакаць далейшага распараджэння. На сваім самалёце зноў некуды паляцеў у бок пушчы. Праз гадзіны дзве зноўку вярнуўся на самалёце, ужо з паперынай у руках. Размахваючы ёю, падышоў да камандзіра карнікаў. Той прачытаў уручаны яму дакумент — і звярнуўся да людзей: усім вам, асуджаным на кару, абвяшчаецца памілаванне, дзеці да вас вернуцца, маёмасць будзе захаваная. Кабеты кінуліся цалаваць афіцэру ногі, а ён ухіліўся і, паказваючы рукою на недабудаваную царкву, сказаў:

— Дабудуеце храм — я сюды яшчэ раз прылячу.

Дарагі дзед Мікола! Ты пішаш, гэта быў Sturmbannführer (штурмбанфюрар), што ўзначальваў гестапа ў Белавежы. Адкуль ты гэта ведаў? Пра тое, што было ў вайну ў Ражкоўцы, цяпер многа пішуць журналісты. Вядома ўжо і прозвішча таго афіцэра. Гэта быў прадстаўнік Герынга ў рэгіёне Белавежскае пушчы маёр Хэрбст. Ён, аказваецца, кіраваў атрадам люфтвафэ.

Па даносах раўнівых кар’ерыстаў пра памяркоўныя паводзіны маёра Хэрбста на акупаванай тэрыторыі яго замянілі жорсткім служакам, а вызваленага з высокае пасады афіцэра выправілі на ўсходні фронт. На вайне ён ацалеў і жыццё сваё дажываў на нямецкай зямлі.

Мне, дзядуля, цікава ў гісторыі з Ражкоўкаю тое, што, як пішуць у нашых газетах, маёр Хэрбст, калі пралятаў над Белавежскаю пушчаю, убачыў у нябёсах Божую маці, яна адною рукою трымала немаўля, а другою паказвала ўніз на Ражкоўку, дзе ўзброеныя яго суайчыннікі рыхтавалі расправу з мірнымі і безабароннымі беларускімі сялянамі. Толькі дзякуючы святому знаку ён прызямліўся і адмяніў масавы расстрэл. Пра з’яўленне выявы Багародзіцы ў небе перад самалётам ён сам распавёў, калі прылятаў сюды другі раз у дзень асвячэння новае цэркаўкі ў студзені 1943 года. Двум святарам, якія асвячалі яе, ён падараваў выразаны на дрэве вобраз святой заступніцы. «Гэта — вашая ператоўніца», — казаў ён, уручаючы тваім, дзядуля, землякам рукатворную святыню. У мяне захоўваецца перадрукаваная з нямецкага часопіса газета з фатаграфіяй, на якой у часе абеду маёр Хэрбст сядзіць поруч з двума святарамі, якія асвячалі дабудаваны храм. Так што згадка твайго знаёмага пра пагрозу свінцовае навальніцы ў Ражкоўцы ўзрушыла і маю грэшную душу.

Ад гэтае цудам ацалелае вёскі дадому заставалася табе адмераць усяго толькі восем вёрстаў з сотняў тых, што аддзялялі твае Дзмітравічы ад сядзібы баўэра. Як ты кажаш сам пра сябе, мамін сынок, які да вайны нідзе не бываў, апроч Камянца і Берасця, набраўся рашучасці і рушыў у сваё небяспечнае бездарожжа.

— Ах, мой сыночак! — узрадаваная маці плакала, абдымаючы і цалуючы цябе. — Вярнуўся, родненькі, дзякаваць Богу!

І ўжо ўглядаючыся ў твар, працягвала, выціраючы слёзы радасці:

— А так збляжэў!

— Нічога, мама, папраўлюся.

— А ў нас неспакойна, сынок, шныпарацць паліцаі, дый не толькі...

Твая воля, дзядуля, аказалася адносная, даводзілася на кожным кроку асцерагацца: хаваўся ў хляве на сенавале тыдзень. Пасля мусіў падацца да знаёмага гаспадара — апынуўся ў яго глухой вёсачцы Плянта. Амаль цэлы год пражыў там, дапамагаючы яму ў хаце, на сядзібе і на полі, зрэдку, пераважна ў святочныя дні, праведваючы матулю. Надакучыла такое жыццё — вярнуўся дадому. А праз некалькі месяцаў адбылася чарговая лоўля моладзі для вывазу ў Германію, і ты, мой родны, зноўку трапіў у няволю. На гэтым ужо сухім паведамленні твае запісы спыніліся. Праўда (відаць пазней), ты ўспомніў пра Івана Мардаса і зрабіў допіс: прывітанне ад высакароднага касца Івану, пакуль ён быў жывы, не змог перадаць. Казаў пра таго сардэчнага чалавека Іванаваму брату Сярожу, прасіў даведацца, хто ён, адкуль і як яго завуць. Брат абяцаў, ды некуды з'ехаў.

Магчыма, дзядуля, пра новыя выпрабаванні на чужыне і пра тое, як трапіў ты на фронт і як там ваявалася, распавядаць было табе занадта балюча, таму пад сваімі лістамі-ўспамінамі паставіў кропку. Не выключана, што і працяг тваіх суровых жыццёвых прыгодаў быў, ды трапіў у печку да майго прыезду ў сяло да тваёй удавіцы.

Мой дзядулька! Я ў свой час пачуў ад свайго таты, што ты, трапіўшы ў войска, быў адважным пехацінцам, пасля ранення і кантузіі, падлечаны, ізноў ваяваў, дайшоў да Берліна і атрымаў медалі «За адвагу», «За ўзяцце Берліна» і «За перамогу над Германіяй».

Не ведаю, ці, ідучы ў атаку, хоць калі крычаў ты следам за камандзірам: «За Сталіна!» Магчыма, і крычаў. Але што такое Сталін і яго тыранія, ты, спадзяюся, зразумеў, калі нізашто быў асуджаны ў 1948 годзе і адбухаў тры гады няволі ў Хабараўскім краі, а таксама калі стаўся сведкам развянчанага культу асобы «правадыра ўсіх часоў і народаў» і калі пазней уведаў праўду пра Курапаты. Я, дзядуля Мікола, цяпер жыву якраз паблізу Курапатаў, часта запавольваю там свае крокі ля мноства крыжоў і ля валуноў, на якіх унікаль-

ны мастак Анатоль Кузняцоў убачыў і выявіў лікі святых, на зямлі, дзе ў 1937–1941 гадах закатаваныя, расстраляныя мноства тысячаў так званых ворагаў народа, і дзівуюся, што ў сучаснай Беларусі, як бы незалежнай краіне, падобна, рэанімуецца імя таго, на чыім рахунку — цяжкія злачынствы. У рангу ледзь не нацыянальных святыняў фігуруе, як мне здаецца, міфічная «Лінія Сталіна». Мне, мінчаніну, сорам, што туды, міма гістарычнага Заслаўя, возяць гасцей на экскурсіі. Там устаноўлены бюст крывавага тырана. Вядомы і такі парадокс: у нашых краях выцягнутае з таго свету імя яшчэ аднаго чужога генералісімуса, які расейскаю зброяй патапляў у крыві нашых патрыётаў. Як тут не зразумець, чаму дагэтуль няма ў беларускай сталіцы помніка нацыянальнаму герою Каліноўскаму, што аддаў маладое жыццё за свабоду і незалежнасць беларускага люду. Юрыст па прафесіі, якая тады была ў асаблівай пашане, ён раскашаваў бы, качаўся б як сыр у масле. З каханаю Марыськай стварыў бы шчаслівую сям’ю. Усё меў бы для ўласнага працвітання, далейшага духоўнага росту-росквіту, калі б любіў сябе больш за Бацькаўшчыну і за жаданне бачыць яе вольнаю. Разам з непараўнальнаю стратаю Кастуся наш край так надоўга заняпаў. Тая ж пятля, што абвіла горла Каліноўскага, залегла і на шыі нашага людства, вядома ж, не без пагрозы зацягнуцца, і, падобна, яно ў абсалютнай бальшыні сваёй ніколі напоўніцу не ўсвядоміла гэтай страшнай трагедыі... Што да вайны з Гітлерам, тут у мяне, як бачыш, асобная гамонка, так баліць душа за неймаверныя страты. Але асаблівая ў мяне радасць: тая вялікая і бязлітасная вайна цябе, выпрабоўваючы на трываласць, не знішчыла, у выніку я даведаўся, які ты чалавек, бо ніхто-ніхто не змог бы гэтак жыва і цікава распавесці пра цябе, як гэта зрабіў ты сам.

* * *

У нас, мой родны, заўтра — Радаўніца. Мы з мамай збіраемся на тваю і майго таты радзіму. Будзем багамольна памінаць вашую памяць, традыцыйна заказваць паніхіду ў царкве. Я сабе не раз задаю пытанне, што т а м адчуваеш ты, калі мы тут молімся за цябе, ставім у храме свечкі, заказваем малебны. Ці дае табе гэта нейкую палёгку, радасць? Прашу цябе: падай мне нейкі знак, хутчэй за ўсё праз мае сны. Тата мне чамусьці ніколі не сніцца, а цябе часам бачу ў сваіх каляровых снах.

Яшчэ хачу запытацца-параіцца, што мне, дзядуля, рабіць з маім веравызнаннем. У звязку з такім пытаннем хачу сказаць: ты малайчына, арыгінальна мысліў: калі нарадзіўся сын, дзіцё маленькае не ахрысцілі, як гэта павальна робіцца ў беларускіх сем'ях, — ты не пабаяўся парушыць адвечную традыцыю, бо хацеў даць сыну свабоду выбару, каб ён сам, ужо дарослы, абраў сабе веравызнанне. Ён вырас, завёў сям'ю, жыў сабе, пажываў, ні разу не склаўшы трохперсце... Ды надакучыла жыць нехрысцем. А што далей? Перад выбарам стаяў нядоўга. Агляну ўся наўкола сябе, а там і маці з бацькам, і жонка, і цешча з цесцем — усе праваслаўныя. Падзяліўся з адным родзічам думкаю пра тое, што хацеў бы стацца чыста беларускім вернікам, а той кажа: «Не выпендрывайся, не будзь белаю воронаю... Будзь і ты з намі!» Словам, атрымаўся наш беларускі стандарт — выбар без выбару... Баліць душа, баліць: спакваля выношваю думку, ці не парваць з праваслаўнай рэлігіяй. Схільны здзейсніць рашучы крок таму, што іншыя канфесіі (уніяцкая, каталіцкая, грэка-каталіцкая) па-сапраўднаму хінуцца да нашае беларускае мовы, менавіта па-беларуску там вядуцца набажэнствы. І яшчэ: іхнія святары з паразуменнем і нават па-братэрску ставяцца да праваслаўных, чаго не скажаш пра саміх праваслаўных, яны, як правіла, непрыязна глядзяць на іншаверцаў. А ўсё, відаць, таму, што царква на Беларусі, як ні дзіўна, не беларуская. Што ёй скажуць, тое і здзяйсняе. А шмат каму зручна, каб тут як мага хутчэй адбылася

асіміляцыя і Беларусь, як некалі, зноўку і ўжо назаўсёды стала Паўночна-Заходнім краем. І вось нашыя праваслаўныя вернікі, як сляпыя, не бачаць сваёй найпершае нацыянальнае святыні — роднае мовы. А я сляпым быць не хачу. Мне даспадобы біблійны запавет: «Не давайце святыні псам!» Не спаўняецца ў нас святы запавет, не шануецца! Стагоддзямі тут гаспадарылі агрэсіўныя сілы. Я, дзядуля, упэўнены: усё ў нас было б інакш (і мова квітнела б, і царква была б не чужая), калі б не на словах, а на справе Беларусь сталася незалежнаю краінаю, калі б нашыя адраджэнцы будавалі новы беларускі дом на камені моцным, а не на пяску...

Вядома ж, я разумею: маё шчырае меркаванне хто-ніхто палічыць грэшным і шкодным, здрадніцкім. Што ж рабіць, калі ў мяне пераважае не розум, а сэрца? Думаю, гэта няблага. Хіба не там плодзяцца прыстасаванцы і нават здраднікі, дзе сэрца чалавека падаўляецца ягоным розумам?

Калі я закрануў, дзядуля, такую тонкую субстанцыю, як рэлігія, то скажу вось яшчэ пра што. Мяне не можа не здзіўляць тое, як руская праваслаўная царква, прапаведуючы любоў да бліжняга і нават да ворага, часам сее варажнечу сярод бліжніх. Не ў часы старадаўнія, а на пачатку дваццатага стагоддзя ў гісторыю праваслаўя ўвайшоў ганебны факт: геніяльнаму пісьменніку і мысляру, сусветна вядомаму Льву Талстому абвясцілі анафему. Крывадушна і кашчунна атрымалася ў адносінах да бліжняга — да шчырага чалавекалюба, праўдалюба і слыннага творцы. Але ці паверыш: мяне суцяшае тое, што, да гонару беларускае літаратуры, знайшоўся ў нашай сталіцы адзін знаны паэт і публіцыст, які таленавіта абурыўся тым гучным учынкам з боку тадышняга сінода. Гэта — Анатоль Вярцінскі. «Адлучэнне Талстога ад царквы (*24 лютага 1901 года*)» — так называецца яго верш, у якім вуснамі генія, якога праклiналі фарысеі, творца гаворыць:

«Ёсць Бог, я вам кажу.
І гэты Бог —
не фіміям,
не мошчы,

не іконы,
і ўжо, канечне, не праклёны
у адрас тых, хто праўду ўбачыць змог».

У адным святым пісанні я прачытаў: «Блажэнны выгнаныя за праўду. Так гналі і прарокаў». Ты, дзядуля, гэтаксама праўду любіў. Праўду і добрыя, а не варожыя стасункі з людзьмі. Ворагаў асуджаў і помсціў ім. А як жа інакш, калі яны пагражаюць дадзенаму Богам жыццю. Будзь, мой самы любімы родзіч! Прысніся, калі ласка, мне на Радаўніцу, калі пачуў мяне.

*P. S.*

Ніяк не магу развітацца з табою, дзядуля, бо не падзяліўся яшчэ адным нечаканым уражаннем. Калі я на Каляды апынуўся ў тваёй удавіцы і там за абедам зайшла гаворка пра цябе, яна сказала, што ты ў маім узросце (не, нават маладзейшы за мяне) быў хлопец зухаваты. Быццам дачка баўэра цябе ўпадабала настолькі, што сама прылашчылапрыгалубіла цябе, і ты не разгубіўся, не адмовіўся ад магчымасці атрымаць ад яе і даць ёй асалоду. Вядома ж, прыдумала, каб хоць неяк апраўдаць сваю разбэшчанасць. Яе фантазія была б хоць на ёту бліжэй да рэальнасці, калі б яна прыпісала табе інтымныя адносіны з Марыськаю. Па-першае, Марыся, можна сказаць, — твайго поля ягада, а па-другое, з ёю ты хоць сустракаўся, яна часам заходзіла «порозмавяць». А вось ад дочак баўэра ты быў далёкі, па сутнасці, ад іх быў так далёка, як Месяц ад Зямлі. Зрэшты, я нічога не ведаю пра твой паўторны палон... Як бы там ні было, але тая гамонка тваёй удавіцы мяне навяла на думку пра тое, што неяк я павінен перамагчы ў сабе комплекс і стаць паўнацэнным мужчынам. Справа ў тым, што ўжо не адзін год сняцца мне дзяўчаты, быццам я з імі цалуюся, абдымаюся. І ў снах маіх справа даходзіць да кульмінацыі адносінаў з якой-небудзь прыемнаю прыгажуняю. А ў жыцці нічога падобнага я не меў. Адчуваю, ёсць такія, што не супраць бы са мною займець блізкія стасункі, але яны не падабаюцца мне.

Затое ля дзяўчыны, якая падабаецца, я паводжу сябе, нібы манах. Разумею: быць трэба смялейшым, ды перамагчы сваю нерашучасць не магу. Думаю, ці стане прыгажуня цалавацца са мною шчарбатым? І згараю ад пакутлівай думкі, што ёю завалодае нехта рашучы. І, як назло, душу запаланяюць думкі, што той нехта акажацца не вартым яе, ды яна, маўляў, дурнічка, як сляпая, хінецца-горнецца да яго, а не да мяне. Вось які ў цябе складаны ўнук, даражэнькі дзядуля Мікола. Хвалююся, ці я не дэградую ў параўнанні з табою. Думаецца і пра тое, як выглядае цяперашняе пакаленне юнакоў і дзяўчатаў у параўнанні з папярэднімі. Перапрашаю, родны мой, што сваімі развагамі мог ужо надакучыць табе. То і развітваюся. *Твой унук Андрэй.*

# ЗМЕСТ

**Апавяданні**



**Абразкі**

**Аповесць**

**Жуковіч, В.**

Ж85 Арабінавая ноч : апавяданні, абразкі, аповесць / Васіль Жуковіч. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 192 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 66).

ISBN 978-985-7119-82-0.

Гэтая кніга — пра чалавечнае і звярынае ў людзях, а значыць — пра дабро і зло. Дзе б ні дзейнічалі станоўчыя героі твораў Васіля Жуковіча — у бязмежжы беларускае рэчаіснасці ці на чужыне, яны і ў экстрэмальных умовах захоўваюць сваю самасць, супрацьстаяць разбуральным сілам і, праяўляючы моц духу, трывала перажываюць жыццёвыя нягоды.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 66

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

**Арабінавая ноч**

Апавяданні
Абразкі
Аповесць

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Вадзім Жылко
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Лідзіі Карамазавай

Падпісана да друку 25.09.2015. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 10,08. Ул.-выд. арк. 7,94.
Наклад 200 ас. Зак. 410.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.